# ЗМЕСТ

Крыніца

# Вацлаў ГАВЭЛ

*А потым гэта сталася. Я пра гэта не марыў і нават не імкнуўся да гэтага, але рэвалюцыя паставіла мяне – амаль за дзень-два – на чале маёй краіны. Лёс, уласна кажучы, пажартаваў са мной. Быццам бы ён мне – з дапамогай усіх тых, хто мяне прымусіў прыняць мае функцыі, – сказаў. "Калі ты такі разумны, пакажы ўсім астатнім, каго крытыкуеш, як гэта робіцца"*



*Пра Яго*

**АЎДЫЕНЦЫЯ**

*П'еса ў адной дзеі*

**СІЛА БЯССІЛЬНЫХ ПРАМОВЫ**

"ПРАЎДА І ЛЮБОЎ ПЕРАМОГУЦЬ ХЛУСНЮ І НЯНАВІСЦЬ"





# АЎДЫЕНЦЫЯ

*П'еса ў адной дзеі*

**ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ**

СЛАДЭК*
ВАНЕК

МЕСЦА ДЗЕЯННЯ

*Кантора півавара. З левага боку дзверы, над імі на сцяне вісіць у рамцы дыплом, з правага шафы з дакументацыяй, зверху застаўленыя калекцыяй піўных бутэлек з рознымі этыкеткамі, на задняй сцяне вялікая, саматужная карціна, на якой намаляваны Швейк і шынкар Палівец, пад карцінай дэкаратыўны надпіс. "Дзе вараць піва, там жывуць шчасліва". Пасярэдзіне сцэны канцылярскі стол і тры крэслы, на стале вэрхал розных папер, некалькі парожніх бутэлек з-пад піва і некалькі шклянак. Ля стала на падлозе стаіць скрыня піва. Уздоўж сцен, асабліва па кутах памяшкання навалена мноства рознага цяжка азначальнага хлам'я, накшталт выведзеных з ужытку вентыляў, даўнейшага радыёпрыёмніка, паламанай вешалкі, стосу старых газет, ботаў і іншых рэчаў. Калі заслона падымаецца, мы бачым за сталом півавара ў рабочым халаце. Ён паклаў галаву на стол і моцна храпе. Чуецца стук у дзверы. Сладэк імгненна прачынаецца.*

* Сладэк — па-чэшску півавар. Супадзенне прозвішча і прафесіі, у даным выпадку пасады, абыгрываецца ў п'есе.

## *Пра Яго*

***5 кастрычніка 1936 года***

*Вацлаў Гавэл нарадзіўся ў Празе ў багатай і знакамітай сям'і Гавэлаў з Лімберга, цяперашней Паўночнай Чэхіі. Першыя згадкі аб гэтым старажытным нямецкім родзе бяруць пачатак ад 1237 года. У мінулым стагоддзі Гавэлы члены дварцовай шляхты Пражскага граду Дзед інжынер, архітэктар, які збудаваў паводле асабістага праекта палац "Люцэрна" Бацька і дзядзька будучага драматурга былі буйнымі прамыслоўцамі, уладальнікамі рэстаранаў, фірмаў, даходных дамоў, кінастудыі "Барандаў"*

*Гавэл выхоўваўся ў атмасферы масарыкаўскага гуманізму. "Маё буржуазнае паходжанне абудзіла ў мяне пачуццё сацыяльнай справядлівасці"*

***1948 год***

*Сям'я Гавэлаў была пазбаўлена ўласнасці і стала ахвярай так званай "Акцыі Б", якая прадугледжвала высяленне буржуазіі з Прагі Сям'і выдзелілі пагранічную вёсачку, дзе не было ніякай магчымасці знайсці прыдатнае жыллё ці працу Для Вацлава і яго брата Івана класавая барацьба азначала*

# "ПРАЎДА І ЛЮБОЎ ПЕРАМОГУЦЬ ХЛУСНЮ І НЯНАВІСЦЬ"

**Каторы раз будучы ў Празе, я аббегала не адну кнігарню, каб знайсці п'есы Гавэла... Няма нідзе ніводнага зборніка...**

**"Калі ласка, — прапаноўвалі мне ветлівыя прадаўцы, — на ангельскай мове, і пераклады і доследы..." На мае маўклівыя пытанні, чуўся адказ: вокамгненна раскупляюць... Чаму б не перавыдаць? Прэзідэнт жа... Здавалася б, толькі міргні, дай знаць, што табе хочацца, што ты, прынамсі, не супраць часцей бачыць сваё імя растыражаваным на паперы... Дык вось — чэшскі прэзідэнт, вядомы ва ўсім свеце пісьменнік, драматург і эсэіст, член пэн-клуба, змагар за дэмакратыю, на самай справе, гэтаму не спрыяе... Можа, таму, што паважае дэмакратыю?**

**Даводзіцца працаваць з ксераксамі яго кніг, якія дайшлі да нашых бібліятэк. Такая прастата, вядома ж, не спрыяе папулярнасці, але дазваляе Гавэлу без перашкод рабіць сваю справу як прэзідэнту і як пісьменніку. Дарэчы, выдатныя**

*перадусім тое, што яны не маглі вучыцца.*

***1951 год***

*Скончыўшы васьмігадовую сярэднюю школу, Вацлаў Гавэл пайшоў вучыцца на цеслю, паколькі з яго паходжаннем было немагчыма трапіць у гімназію. Пазней бацькі, якія палохаліся за слабае здароўе сына, знайшлі яму месца лабаранта, дзе ён працаваў пяць гадоў. Адразу пасля ўладкавання на работу Вацлаў Гавэл пачаў вучыцца ў вячэрняй гімназіі, скончыў яе і атрымаў атэстат сталасці. Пазней ён успамінаў: "Я пачаў пісаць, як толькі авалодаў граматай. Я пісаў вершы, серыялы, у 13 гадоў стварыў філасофскую кнігу Стаўшы лабарантам, напісаў папулярную брашуру аб будове атамаў"*

***1951—1953 гады***

*Стварае групу "Трыццаць шостыя", куды ўваходзілі маладыя паэты, якія нарадзіліся ў 1936 годзе. "Мы рабілі свой часопіс на друкарцы"*

***1954—1955 гады***

*Спрабуе паступіць у розныя гуманітарныя інстытуты. Імкнучыся пазбегнуць службы ў войску, Гавэл падае дакументы на эканамічны факультэт*

СЛАДЭК. Уваходзьце

*У пакой уваходзіць Ванек у ватніку і ботах.*

ВАНЕК. Добры дзень.

СЛАДЭК. А, спадар Ванек! Праходзьце! Сядайце!

*Ванек нясмела сядае.*

Піва будзеце?

ВАНЕК. Не, дзякуй.

СЛАДЭК. Чаму не? Піце.

*Сладэк выцягвае са скрыні бутэльку, адкаркоўвае яе, налівае ў дзве шклянкі, адну з іх падсоўвае Ванеку, а другую адразу выпівае.*

ВАНЕК. Дзякуй

*Сладэк зноў налівае сабе. Паўза.*

СЛАДЭК. Ну што? Як маецеся?

ВАНЕК. Дзякуй, добра.

СЛАДЭК. Павінна быць добра, чаму ж не?

ВАНЕК. Гм

*Паўза.*

СЛАДЭК. Што сёння робіце? Катаеце?

ВАНЕК. Падкатваю.

СЛАДЭК. Падкатваць лепш, чым катаць, чаму не?

ВАНЕК. Так.

*Паўза.*

СЛАДЭК. А хто сёння катае?

ВАНЕК. Шэркезі

СЛАДЭК. Ён ужо з'явіўся?

ВАНЕК. Так, толькі што.

СЛАДЭК. П'яны?

ВАНЕК. Трохі

*Паўза.*

СЛАДЭК. Піце! Чаму не п'яце?

ВАНЕК. Дзякуй, я да піва не вельмі ахвочы

СЛАДЭК. Сапраўды? Дык мы вас тут навучым! У нас да яго прывыкнеце! Тут піва п'юць усе гэта ўжо такі звычай.

ВАНЕК. Я ведаю.

*Паўза.*

СЛАДЭК. Што гэта вы такі сумны!

ВАНЕК. Я не сумны

*Паўза.*

СЛАДЭК. Ну, а як усё астатняе?

незлічоныя прамовы Гавэла, напісаныя з нагоды самых розных падзей, гэта — творы пісьменніка ў першую чаргу. Рэдактары сцвярджаюць, што яны не патрабуюць правак. У той жа час поўная індыферэнтнасць самога Гавэла да стварэння свайго іміджу часам адгукваецца ў постсавецкіх краінах, так бы мовіць, малой зацікаўленасцю да яго прэсы, а то і проста непаразуменнем. Што я маю на ўвазе? Дзіўныя словы пра харызматычнасць Гавэла... Нават тое, што крытычныя водгукі, напрыклад, на п'есы Гавэла ў рускай прэсе нярэдкасць... Кажуць, п'есы яго не сцэнічныя... і гэта ўспрымаецца як недахоп. У той жа час усе ведаюць класіка Бернарда Шоў, п'есы якога, прызначаныя "для чытання", несцэнічныя і акрамя некалькіх рэдка ставяцца ў тэатры. У гэтым праява спецыфічнасці п'ес і Шоў і Гавэла — яны паглыблены ў філасофскую праблематыку, патрабуюць разумовай працы і дорасць за гэта сапраўдную духоўную асалоду і забаву адначасова.

Канец стагоддзя... Ужо ў каторы раз зямная цывілізацыя сустракае яго ў чаканні чагосьці жахлівага, карацей кажучы, канца свету. У рэгіёнах з нестабільнай крызіснай сітуацыяй, да якіх адносіцца савецкая посттаталітарная прастора, гэтыя жахі набылі дзіўныя формы: містычнага, невядомага, таямнічага...

У гэтым кантэксце Вацлаў Гавэл, выдатны філосаф сучаснасці, які наследуе Плутарху і Мантэню, давярае розуму і верыць у чалавека, уяўляецца мне Асобай, а можа нават і феноменам, не толькі рэдкім, не асэнсаваным сучаснікамі, але, што пара-





ВАНЕК. Што астатняе?

СЛАДЭК. Так, наогул.

ВАНЕК. А, дзякуй, так сабе.

*Паўза.*

СЛАДЭК. Як вам тут падабаецца?

ВАНЕК. Падабаецца.

СЛАДЭК. Магло быць, відаць, і горш?

ВАНЕК. Так.

*Сладэк адкаркоўвае яшчэ адну бутэльку і налівае сабе.*

СЛАДЭК. Чалавек да ўсяго прывыкае, чаму не?

ВАНЕК. Так.

*Паўза.*

СЛАДЭК. Дапівайце ўжо!

*Ванек дапівае піва са шклянкі, півавар яму зноў налівае.*

ВАНЕК. Досыць, калі ласка.

СЛАДЭК. Не адмаўляйцеся, вы ж нічога яшчэ і не выпілі *(Паўза.)* А як з людзьмі? Ладзіце з імі?

ВАНЕК. Дзякуй, усё добра.

СЛАДЭК. Калі хочаце мяне паслухаць, то раю вам тут асабліва ні з кім не брацацца я тут не веру анікому! Ведаеце, людзі што тыя свінні! Яшч э якія! Тут мне можаце паверыць! Выконвайце сваю працу і лепей ні з кім лішне не гаманіце не трэба асабліва ў вашым становішчы ..

ВАНЕК. Разумею *(Паўза.)*

СЛАДЭК. А што вы такое пісалі, калі не сакрэт?

ВАНЕК. П'есы для тэатра.

СЛАДЭК. П'есы для тэатра? І іх недзе ставілі ў тэатры?

ВАНЕК. Так.

СЛАДЭК. Але ж. Вось як, вось як. Значыцца тэатральныя п'есы, кажаце Паслухайце, а чаму б вам не напісаць штосьці пра нашу піваварню! Хоць бы сабе пра таго ж Бурэша. Ведаеце яго?

ВАНЕК. Так.

СЛАДЭК. Вось гэта тып, ці не?

ВАНЕК. Так.

*Паўза.*

СЛАДЭК. Чаго вы такі сумны!

ВАНЕК. Я не сумны

*Паўза.*

СЛАДЭК. Але, скажыце, ці думалі вы калі, што...?

*Чэшскага вышэйшага тэхнічнага вучылішча, куды прымалі ўсіх і куды ён быў залічаны па спецыяльнасці "эканоміка транспарту". Праз два гады Гавэл вырашыў перайсці ў Акадэмію музычнага і тэатральнага мастацтва. Але яго туды не прынялі, а вярнуцца ў Чэшскае вышэйшае тэхнічнае вучылішча ён ужо не мог, ды і не хацеў*

***1957—1959 гады***

*Служыць у сапёрных войсках у Чэшскіх Будзеёвіцах. "У войску я ўпершыню пачаў актыўна займацца тэатрам"*

***1958 год***

*У сааўтарстве з сябрам Карэлам Бryндай напісаў і паставіў п'есу "Жыццё наперадзе" З войска Вацлаў Гавэл вяртаецца без прафесіі. Зноў дапамаглі сямейныя сувязі. бацька Гавэла быў старым сябрам Яна Верыха, мастацкага кіраўніка тэатра "АБЦ" Той і ўзяў Гавэла на пасаду рабочага сцэны.*

***1959 год***

*Праца Гавэла ў "АБЦ" зрабіла вялікі ўплыў на яго рашэнне звязаць сваё жыццё з тэатрам. Менавіта ў гэты перыяд Гавэл пачаў пісаць п'есы.*

даксальна, якога да канца наўрад ці зразумеюць сёння. Вакол яго не створаны прыцягальны для люмпена імідж загадкавасці. Папершае, Гавэл вельмі просты і адкрыты, каб прэтэндаваць на шаманства, якоесь там місіянерства, ці харызму, альбо іншае містычнае прызначэнне. Як чалавек ён зрабіў усё, каб вакол яго асобы не было флёру таннай папулярнасці. Дакладней — ён не робіць, здаецца, нічога дзеля стварэння свайго іміджу. Мо шкадуе на гэта часу?

Прыгадаем хоць бы яго прамову "Страх пераможцы", ці не адну з першых праз месяц пасля абрання на пасаду прэзідэнта, у Зальцбургу на адкрыцці традыцыйнага моцартаўскага фестывалю (27.07.1990). Гавэл успамінае, як пасля радасці перамогі, такой доўгачаканай і няпростай, з ім адбылося нечаканае: "Калі пасля майго абрання я ўпершыню прыйшоў на працу, мяне ахапіла дэпрэсія, стан глыбокай незадаволенасці, змярцвеласці і пустэчы. Здавалася, што я раптам згубіў усе ідэі і мэты, надзею, здольнасці і волю: пачуваў сябе вычарпаным, слабым, без фантазіі".

Гавэл аналізуе пачуццё страху, асаблівага страху, які ён назіраў не толькі ў Чэхаславакіі, але і іншых краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Гэта страх перад свабодай, хаця і выпакутаванай, але здабытай як бы раптоўна. Людзі адвыклі ад свабоды і таму разгубіліся. Яны нават сталі баяцца свабоды, не ведаюць, як яе рэалізаваць. З'явіліся прыкметы новага страху перад будучыняй, страху перад гісторыяй і страху перад мінулым. Гавэл падра-

**1960 год**

*Аднаактовая п'еса (пад уплывам Іанеска) "Вечар у сям'і" Пачынае пісаць тэарэтычныя артыкулы ў рэвю "Тэатр" Летам уладкаваўся ў "Тэатр на Забрадлі", які быў створаны ў 1958 годзе У "Тэатры на Забрадлі" апынуўся з наступнага вы падку часопіс "Култура 60" прапанаваў Гавэлу напісаць аб пражскіх тэатрах малых форм. Гавэл напісаў артыкул. Пасля яго публікацыі рэдакцыя арганізавала дыскусію, на якую запрасіла прадстаўнікоў гэтых тэатраў З Іванам Выскачылам, рэжысёрам "Тэатра на Забрадлі" Гавэл дамовіўся сустрэцца яшчэ і паказаць яму сваю п'есу "Вечар у сям'і" Неўзабаве Іван Выскачыл прапанаваў Гавэлу месца ў тэатры. Зразумела, туды ён паступіў таксама на пасаду рабочага сцэны, але з рэальнай перспектывай аўтарскага альбо творчага ўдзелу ў рабоце тэатра. "Восем гадоў у "Тэатры на Забрадлі" былі адзіным перыядам у маім жыцці, калі я меў магчымасць цалкам прысвяціць сябе тэатру. Гэты час сфармаваў мяне як тэатральнага аўтара" У "Тэатры на Забрадлі" Гавэл працаваў на самых розных пасадах· рабочым сцэны, асвятляльнікам, сакратаром, рэцэнзентам, загадчыкам літаратурнага аддзела.*

ВАНЕК. Пра што думаў?

СЛАДЭК. Ну, што аднойчы будзеце катаць бочкі на піваварні

ВАНЕК. Гм

СЛАДЭК. Чаго толькі ў жыцці не бывае, га?

ВАНЕК. Хм

СЛАДЭК. Вось-вось, скажу я вам! *(Паўза.)* Кажаце, што сёння падкатваеце?

ВАНЕК. Так.

СЛАДЭК. Але ўчора каталі, я вас бачыў

ВАНЕК. Бо ўчора тут не было Шэркезі

СЛАДЭК. Ну так, канешне

*Паўза.*

Пісьменнікаў тут у нас яшчэ не было, але колькі тут усялякага рознага люду перабывала! Узяць хоць бы таго ж Бурэша ведаеце, кім ён раней працаваў? Магільшчыкам! Там і прызвычаіўся да выпіўкі, таму і да нас трапіў анекдотамі сыпле, як бобам!

ВАНЕК. Я ведаю.

СЛАДЭК. Дык пра што былі гэтыя вашыя п'есы?

ВАНЕК. Пераважна пра чыноўнікаў

СЛАДЭК. Пра чыноўнікаў? Сапраўды? Няўжо?

*Паўза.*

Вы ўжо хадзілі абедаць?

ВАНЕК. Не яшчэ.

СЛАДЭК. Потым сходзіце, на прахадной скажаце, што былі ў мяне

ВАНЕК. Дзякуй

СЛАДЭК. Кіньце вы гэтыя "дзякуй"

*Паўза.*

Я вас вельмі паважаю!

ВАНЕК. Мяне? За што?

СЛАДЭК. Цяжка, гэта відаць, з непрывычкі, усё жыццё сядзець дома, у цяпле спаць зранку колькі захочацца, а раптам усё гэта! Не, сапраўды, я гэта паважаю. *(Паўза.)* Прабачце.

*Сладэк устае і выходзіць. Ванек хуценька пералівае рэшту свайго піва ў яго шклянку. Праз хвіліну півавар вяртаецца, зашпільваючы на хаду шырынку, садзіцца на сваё месца.*

Відаць, вам давялося знацца з рознымі артыстачкамі, пакольکі пісалі для тэатра?

**бязна аналізуе новую сацыяльна-экзістэнцыяльную сітуацыю, паказвае яе на канкрэтных прыкладах, спачатку на сабе, а затым спалучае канкрэтныя прыклады з высновамі аб сітуацыі ў Цэнтральнай Еўропе. Як не прыгадаць раман Маркеса "Восень патрыярха", памятаеце, пасля смерці перастарэлага патрыярха людзі працягваюць спадзявацца на нейкага выратавальніка, толькі не на сябе саміх.**

**Каб я не баялася ўзнёслай рыторыкі, то параўнала б чэшскага прэзідэнта з біблейскім Іосіфам Прыгожым, такім нечаканым сёння, як і тры тысячы гадоў таму назад. Ну возьмем хоць бы словы, вынесеныя ў назву артыкула... Дзе, хто яшчэ з палітычных дзеячаў сучаснасці пад гэтым лозунгам пойдзе ў перадвыбарную кампанію? Безумоўна, можна знайсці прыклады, але хутчэй як выключэнне, а не норму. За лозунгамі Гавэла — Асоба, аўтарытэт, здабыты напружанай дзейнасцю, у барацьбе. Усё разам — гэта прыклад адданасці гуманістычным каштоўнасцям і дэмакратыі, рэдкасны ў наш недасканалы час хлусні, авантурызму, вытанчанай дэмагогіі і дэвальвацыі слова. Шлях Гавэла — пашана культуры і асветніцтва, розуму і духоўнасці. Адзіны магчымы шлях дэмакратыі. Іншых няма. Іншыя — да людажэрства, ці то ў выглядзе некантраляванай улады цэзараў калісьці, ці то фашысцкай дыктатуры ў нашыя часы.**

**Вацлаў Гавэл, грамадскі дзеяч, драматург, філосаф, публіцыст, выдатны палеміст... Але я прапаную пагаварыць пра Асобу, пра Чалавека, выхаванага ў інтэлі-**





ВАНЕК. Вядома ж.

СЛАДЭК. Богдалавай таксама?

ВАНЕК. Так.

СЛАДЭК. Асабіста?

ВАНЕК. Так.

СЛАДЭК. А чаму б вам не запрасіць яе калі-небудзь на піва; узялі б яшчэ для кампаніі Бурэша. во магла б быць забава, што скажаце?

ВАНЕК. Гм

*Паўза.*

СЛАДЭК. Што гэта вы такі сумны?

ВАНЕК. Я не сумны

*Сладэк адкаркоўвае чарговую бутэльку і налівае сабе.*

*Паўза.*

СЛАДЭК. А таго хлопца з брадзільні ведаеце?

ВАНЕК. Млынарыка?

СЛАДЭК. З ім трымай язык за зубамі *(Паўза.)* А з Готам таксама знаёмыя?

ВАНЕК. Таксама

*Паўза.*

СЛАДЭК. Шкада, што вас тут не было гадкоў пяць таму назад! Во была гульба Што сёння, ужо зусім не тое! Такое ўсчынялі, што тады рабілася! Збіраліся ў саладзільні, Кая Маржанек, той ужо тут не працуе, Гонза Пэтэрку, дзяўчаты з разлівачнага Неаднойчы, бывала, даседжвалі аж да ранку, але ж, бач ты, на ўсё зрэшты хапала! Спытайце Гонзу Пэтэрку, пачуеце, што вам распавядзе

ВАНЕК. Ён мне ўжо пра гэта казаў

*Паўза.*

СЛАДЭК. І колькі плацілі за гэтыя вашыя п'есы?

ВАНЕК. Па-рознаму

СЛАДЭК. Тысяч пяць выходзіла, не?

ВАНЕК. Залежыць ад таго, як часта тэатр іграе п'есу, часам заробіш многа, а бывае зусім нічога.

СЛАДЭК. За цэлы месяц нічога?

ВАНЕК. Бывае і не адзін месяц.

СЛАДЭК. Так што і ў вас свае праблемы, як і ўсюды, ці не?

ВАНЕК. Так.

СЛАДЭК. Усё аднолькава! Вось вам і парадоксы жыцця, га?

**1961 год**

*Сумесна з Мацоўрыкам напісана п'еса "Лепшыя рок-н-ролы пані Германавай"*

**1962 год**

*Прэм'ера п'есы "Лепшыя рок-н-ролы пані Германавай" на сцэне "Тэатра на Забрадлі"*

**1963 год**

*"Свята ў садзе" Прэм'ера ў "Тэатры на Забрадлі" П'еса выконвалася на сцэнах тэатраў Аўстрыі, Галандыі, Бельгіі, Венгрыі, ФРГ Швецыі, Швейцарыі.*

**1965 год**

*"Паведамленне" Прэм'ера ў "Тэатры на Забрадлі" Пастаўлена на сцэнах тэатраў Аўстрыі, Англіі, Італіі, Канады, ЗША, Францыі, ФРГ, Швецыі, Швейцарыі. У гэтым жа годзе Вацлаў Гавэл стаў членам рэдкалегіі часопіса "Тварж", штомесячнага выдання для маладых літаратараў, якое пазней было закрыта пры досыць драматычных абставінах "Тварж" — першае афіцыйнае выданне, якое мела незалежную ад уладаў пазіцыю і друкавала ўсё, што лічыла вартым. Гэта быў маленькі востраў свабоды,*

**гентным асяроддзі, у кантэксце чэшскай нацыянальнай культуры і гісторыі, еўрапейца, які сёння ўвасабляе разумнае кіраванне дзяржавай, клопат пра чалавека: не толькі пра яго дабрабыт, але і пра яго маральныя каштоўнасці і гістарычную памяць. Кожны, хто сёння наведвае Пражскі Град, рэзідэнцыю чэшскіх каралёў, здзівіцца таму, як ён змяніўся ў апошнія гады. Даведаецца, што ідзе рэканструкцыя, што хутка будуць адкрытыя ўсе, раней не даступныя для наведвальнікаў, часткі комплексу і знакамітыя сады. Адзін з іх распланоўваў Францішак Скарына, наш беларускі першадрукар, і я не магу не сказаць пра вельмі значную для нас навіну, якая дайшла да Беларусі напачатку сакавіка 1996 года: пражскі магістрат даў дазвол на помнік Скарыне ў Празе. У святых для чэхаў мясцінах Пражскага Граду.**

**Дык вось, рэканструкцыя Пражскага Граду вядзецца пад патранатам фонду Вацлава Гавэла, спецыяльна створанага дзеля гэтай мэты. Сам прэзідэнт уносіць значныя фінансавыя сродкі ў рэалізацыю гіганцкай задумы. Адна з праграм клапоціцца пра тое, каб людзі фізічна нямоглыя, інваліды мелі магчымасць пазнаёміцца з унікальнай архітэктурай, зялёнымі паркамі, удзельнічаць ва ўсіх культурных мерапрыемствах.**

**Вацлаў Гавэл — нетыповы палітык, які ўсё жыццё быў у канфрантацыі з уладамі, ніколі не хацеў, паводле яго ўласнага прызнання, выконваць аніякія палітычныя функцыі, бо не любіў усё афіцыйнае і ўрачыстае. І цяпер прэзідэнт Гавэл здатны на паводзіны незалежнага чалавека, які дазваляе сабе, так бы мовіць,**

*у якім не было нічога, што “хаця і лічылася сапраўды свабодным, але на самай справе такім не было”*

***1968 год***

*“Цяжка засяродзіцца”. Прэм’ера ў “Тэатры на Забрадлі”. Пастаўлена на сцэнах Аўстрыі, Англіі, Польшчы, ЗША, Фінляндыі, Швейцарыі Радыёпрэм’ера п’есы “Анёл ахоўнік” Тэлеп’еса “Матылёк на антэне” Развітанне Гавэла з “Тэатрам на Забрадлі” У гэтым жа годзе выдадзены зборнік паэзіі “Антыкоды”*

***1968—1969 гады***

*Вацлаў Гавэл пакідае “Тварж” Да жніўня 1969 года Гавэл амаль не ўдзельнічае ў грамадскім жыцці. Тым часам ён завочна скончыў тэатральны факультэт Акадэміі музычнага і тэатральнага мастацтва Аднак акупацыйны віхор, калі савецкія танкі ўвайшлі ў Прагу, уцягвае яго ў палітыку*

***Жнівень 1969 года***

*Гавэл піша вялікі ліст Аляксандру Дубчаку Этычным імператывам Гавэла*

ВАНЕК. Гм

СЛАДЭК. Ну, вось што вам скажу! *(Паўза.)* Але вы зусім не п‘яце!

ВАНЕК. П‘ю.

*Сладэк зноў адкаркоўвае бутэльку і налівае Ванеку і сабе.*

*Паўза.*

СЛАДЭК. Паслухайце, я вам штосьці скажу, але толькі паміж намі каб на маім месцы сядзеў хтосьці іншы — вам бы тут не працаваць, дайце веры.

ВАНЕК. У вас былі са мной цяжкасці?

СЛАДЭК. А як жа!

ВАНЕК. Я вам вельмі ўдзячны

СЛАДЭК. Ведаеце, я тут не збіраюся выстаўляцца, але калі бачу, што магу камусьці дапамагчы, дык чаму б не дапамагчы? Такі ўжо ў мяне характар наогул і хопіць! На маю думку, людзі павінны дапамагаць адзін аднаму· сёння я дапамагу вам, а заўтра вы мне, ці ж не так?

ВАНЕК. Так.

*Паўза.*

СЛАДЭК. Вы ўжо хадзілі абедаць?

ВАНЕК. Яшчэ не.

СЛАДЭК. Потым сходзіце, на прахадной скажаце, што былі ў мяне.

ВАНЕК. Дзякуй

СЛАДЭК. Ат, не дзякуйце ўвесь час!

*Паўза.*

Сёння, золатка маё, як той казаў, ніхто не жадае лезці на ражон

ВАНЕК. Я ведаю.

*Паўза.*

СЛАДЭК. Важна, каб мы ўсе трымаліся, як кажуць, разам

ВАНЕК. Так.

СЛАДЭК. Ведаеце, я не ведаю, што вы пра гэта думаеце, але я заўсёды паўтараю, што добры калектыў гэта самае галоўнае.

ВАНЕК. Згодны з вамі

СЛАДЭК. Чаму не п‘яце? Вам больш падабаецца вінцо, так?

ВАНЕК. Гм

**парушыць пратакол: да прыкладу маленькае чырвонае сэрцайка суправаджае яго аўтограф, хутчэй намаляваны, чым напісаны. Ён не пазбягае ў сваіх прамовах даволі рызыкоўных выказванняў, шчырых, адкрытых. Гавэл, скажам, не збаяўся прызнацца ў сваёй не вельмі высокай адукаванасці, калі атрымоўваў дыплом ганаровага доктара Іерусалімскага універсітэта. Ён пачаў з пачуцця сораму за тое, што гэта пашана ім не заслужаная, але ўсёй вобразнасцю і дакладнасцю думак, логікі разважанняў на тэму “Франц Кафка і маё прэзідэнцтва” бліскуча, за дзесяць – пятнаццаць хвілін прамовы “адпрацаваў” узнагароду.**

**Усё гэта, так бы мовіць, нетыповае ў паводзінах прэзідэнта, магчыма ідзе ад перасцярогі ператварэння ў занадта “сур`ёзнага”, афіцыйнага і афіцыёзнага, палітыка дзеля палітыкі і дзеля ўлады. Нарэшце, палітыка моцнай рукі, які наводзіць жах на падначаленых, не раўнуючы, як той цэзар, Гавэл застаецца не толькі чалавекам перадусім, але і трохі дысідэнтам, у гавэлаўскім сэнсе. Чалавекам, які аддае перавагу жыццю ў праўдзе, адмаўляючы “жыццё ў хлусні”, прычым робіць гэта паслядоўна на працягу ўсяго свайго жыцця, якіх бы ахвяр такая пазіцыя ад яго ні патрабавала. Яго жыццё — гэта сродак абароны духу і выжывання, менавіта духоўнымі сродкамі.**

**Імя Гавэла ўваходзіла ў свядомасць XX стагоддзя паступова: спачатку як аўтар абсурдных п'ес і антыкодаў ён стаў вядомы творчай інтэлігенцыі, пасля як дысідэнт і праваабаронца быў успрыняты ў розных краінах свету, і,**





СЛАДЭК. Тут да піва прывыкнеце! У нас тут піва п‘юць усе гэта ўжо такі звычай

ВАНЕК. Я ведаю.

*Паўза.*

СЛАДЭК. А што Гот, як маецца, у парадку?

ВАНЕК. Відаць, так

*Паўза.*

СЛАДЭК. Вы жанаты?

ВАНЕК. Так.

СЛАДЭК. І дзеці ёсць?

ВАНЕК. Не.

*Паўза.*

СЛАДЭК. Усё роўна я вас паважаю.

ВАНЕК. Ну, што вы

СЛАДЭК. Вядома! Гэта ж страшэнна нязвыкла. *(Паўза.)* Прабачце.

*Сладэк устае і выходзіць. Ванек хуценька пераливае рэшту свайго піва ў яго шклянку. Півавар неўзабаве вяртаецца, зашпільваючы на хаду шырынку, і садзіцца на сваё месца.*

А колькі ж ёй гадкоў настукала?

ВАНЕК. Каму?

СЛАДЭК. Богдалцы

ВАНЕК. Мабыць, дзесьці трыццаць тры.

СЛАДЭК. Што вы кажаце? Я б ёй столькі не даў

*(Паўза.)*

Не, сапраўды, усё будзе добра, трэба толькі ісці адзін аднаму насустрач, толькі трымацца, як кажуць, адзін аднаго. Карацей кажучы, добрая кампанія самае галоўнае!

*Сладэк адкаркоўвае яшчэ бутэльку і налівае сабе.*

Шкада, што вас тут не было так гадоў з пяць таму назад! Вы б пабачылі, што такое сапраўдная кампанія! Дзе там, сёння! Сёння тут не веру анікому

*Паўза.*

Дарэчы, хто такі гэты Кагоўт*?

ВАНЕК. Які Кагоўт?

СЛАДЭК. Гавораць, што да вас заходзіў нейкі Кагоўт .

ВАНЕК. Гэта мой калега.

* Павел Кагоўт — вядомы чэшскі драматург, аўтар п‘есы “Такое каханне”, якая была пастаўлена ў 60-я гады на сцэнах многіх тэатраў свету

*становяцца словы: “Праўда і любоў пераможуць хлусню і нянавісць”*

***1970-я гады***

*Надыходзіць эра пакорнай апатыі і агульнай дэмаралізацыі ў грамадстве. “Я быў адусюль выгнаны, публічна аб’яўлены ворагам, мяне нават абвінавацілі ў здрадзе рэспубліцы, і мне не заставалася нічога, як адасобіцца. мы з жонкай жылі ў нашым дамку ў Крканошах”.*

***1971 год***

*П‘еса “Змоўшчыкі” Пастаўлена ў тэатры Бадэн-Бадэна.*

***1974 год***

*На працягу дзесяці месяцаў Вацлаў Гавэл працуе на Трутнаўскім піваварным заводзе рабочым.*

***1975 год***

*“Аўдыенцыя” П’еса пастаўлена 41 тэатрам у 11 краінах. “Вернісаж” П’еса пастаўлена 42 тэатрамі ў 12 краінах.*

*“У мяне выспеў намер не быць*

**нарэшце — прэзідэнт славянскай краіны, філосаф і мысліцель, які ў сваёй палітыцы працягвае традыцыі чэшскага лібералізму. Бацька Гавэла паходзіў з сям'і архітэктараў, што збудавалі многія знакамітыя пражскія дамы, “Люцэрну”, студэнцкія інтэрнаты і нарэшце комплекс забудоў кінастудыі “Барандаў”. Бацька Гавэла актыўна змагаўся за свабоду сваёй краіны і належаў да тых, хто абапіраўся на ініцыятыву прадпрымальніцтва. Ён стварыў з аднадумцамі і сябрамі ў 1932 годзе так званую барандаўскую суполку, першыя пасяджэнні яе, дарэчы, адбыліся ў радзіннай хаце Гавэла, пазней суполка збіралася на Тэрасах Барандава. Гэта быў час агульнага еўрапейскага эканамічнага крызісу, і чэшская інтэлектуальная эліта шукала шляхі выйсця з яго. Суполка прынцыпова адмаўляла нацызм і камунізм і паглыбляла дэмакратычныя асновы парламентарызму, абапіралася на вечныя каштоўнасці: добрая воля, сумленная праца, маральнасць, культура, шанаванне Асобы. Між іншым поспехі першай чэхаславацкай рэспублікі агульнапрызнаныя. На Тэрасах Барандава неаднойчы бываў прэзідэнт Масарык, якому належыць вялікая роля ў развіцці чэшскага лібералізму, еўрапейскай дэмакратычнай думкі.**

**Ад той славутай эпохі ў розных гарадах Чэхіі засталіся прыгожыя дамы, банкі, афіцыйныя ўстановы... Ёсць адна рэч, якая ўразіла мяне яшчэ пры першым наведванні Прагі і сталася для мяне своеасаблівым сімвалам той эпохі, адлюстраваннем клопату аб людзях наогул і канкрэтным чалавеку, у прыват-**

*далей толькі пасіўным аб'ектам гісторыі, напісанай пераможцамі, — як казаў Вацлаў Белаградскі, а паспрабаваць хаця б на імгненне зноў стаць яе суб'ектам" Гавэл піша адкрыты ліст доктару Гусаку, у якім спрабуе паказаць глыбіню духоўнага, маральнага і сацыяльнага крызісу ў дзяржаве, а таксама заклікае адрасата прызнаць усю меру сваёй адказнасці за гэты агульны занядад.*

***1976 год***

*П'еса "Гатэль у гарах"*

***1977 год***

*Узнікненне руху "Хартыя-77", які змагаецца за дэмакратычныя правы, справядлівую канстытуцыю, свабоду слова і сумлення. Адным з заснавальнікаў "Хартыі-77" быў Вацлаў Гавэл. Імпульсам да яе заснавання сталася ганенне ўладаў на рок-гурт "Пластык піпл оф юніверс" Гавэл належаў да іншага пакалення, але разумеў, што азначае для моладзі 60 х "Бітлз" і тагачасны музычны рух. Смерць Джона Ленана ён назваў "смерцю веку" "Стрэл у Ленана — гэта стрэл 80-х гадоў у адыходзячую са сцэны мару людзей 60-х аб міры і свабодзе", – пісаў Вацлаў Гавэл. Арышт рок-гурту падштурх-*

СЛАДЭК. Пісьменнік таксама?
ВАНЕК. Так. А што?
СЛАДЭК. Нічога.

*Паўза.*

Вам не здаецца, Ванку, што ў мяне таксама свае праблемы
ВАНЕК. Так?
СЛАДЭК. Чаму, вы думаеце, я тырчу ў гэтай дзюрцы? Але, вас гэта, вядома, не займае
ВАНЕК. Займае, пане піваверу
СЛАДЭК. Ведаеце, дзе я меў працаваць?
ВАНЕК. Дзе?
СЛАДЭК. У саміх Пардубіцах, піваварам!
ВАНЕК. Сапраўды?
СЛАДЭК. Але бачыце, што я тут! Вось парадокс, бач ?
ВАНЕК. А чаму вы не там?
СЛАДЭК. Ат, пакінем гэта *(Паўза.)* Вы жанаты?
ВАНЕК. Так.
СЛАДЭК. Дзеці ёсць?
ВАНЕК. Не.

*Паўза.*

СЛАДЭК. Паслухайце, гэта не мая справа, але вам не перашкодзіла б сказаць гэтаму Голубу, каб вас больш не наведваў
ВАНЕК. Вы, відаць, пра калегу Кагоўта?
СЛАДЭК. А я што сказаў?
ВАНЕК. Голуб.
СЛАДЭК. Паслухайце, гэта не мая справа, я з гэтым чалавекам не знаёмы і наогул не хачу ведаць, хто ён і што, я толькі вам кажу, што гэта ў вашых інтарэсах
ВАНЕК. Не крыўдуйце, пане піваверу, але я
СЛАДЭК. Вы, чалавеча, смокчаце піва, быццам нейкі там каньяк!
ВАНЕК. Я ж вам казаў, што да піва не вельмі ахвочы
СЛАДЭК. Яшчэ чаго!
ВАНЕК. Я сур'ёзна.
СЛАДЭК. Магчыма, я для вас не падыходжу як кампаньён?
ВАНЕК. Ну, што вы, не!
СЛАДЭК. Вядома ж, я не нейкі там Гот! Я звычайны піваварскі боўдзіла.

**насці. Гэта так званыя даводчыкі, якія бясшумна зачыняюць за вамі дзверы: у бібліятэках, музеях, студэнцкіх аўдыторыях і інтэрнатах, крамах, банках. Усюды, куды б вы ні ўвайшлі, адкуль бы ні выйшлі. Дзверы не бразгаюць, не "б'юць па галаве". Яны зачыняюцца ціха. "Знайшла, чым захапляцца", — скажуць мне апаненты, якія складалі на працягу сямідзесяці гадоў легенду аб імперыі, што выйшла ў космас і ўсіх здзівіла сваім балетам. А для мяне менавіта ў гэтых бясшумных дзвярах (зазначым, усюды, а не толькі ў адміністрацыі прэзідэнта) і ёсць праява клопату пра чалавека. Кожнага, а не толькі героя імперыі і ветэрана. Клопату і павагі да сябе як народа, як нацыі.**

**У гэтым мне бачыцца, нарэшце, праява і знакамітай масарыкаўскай палітыкі "малых спраў", якая здзяйснялася ў Чэхаславакіі за першай рэспублікай і патрабавала ад кожнага сумленнай штодзённай працы на сваім месцы. Мудрасць Масарыка ў тым, што менавіта гэта праграма стала дзяржаўнай палітыкай, аб'яднала нацыю вакол сваёй гісторыі, духоўнасці высокай культуры вытворчасці і побыту... "Залатыя чэшскія рукі" — гэта не прыгожая метафара, гэта рэчаіснасць. Заўсёды, калі я чую ад сваіх супляменнікаў аб тым, што на дробязі не трэба звяртаць увагі, што дробязямі жыцця можна ахвяраваць дзеля вялікай мэты, я ўспамінаю мудрую палітыку "малых спраў" Масарыка. Наведваючы розныя краіны свету, я даўно пераканалася, што там, дзе паважаюць чалавека, дбаюць менавіта пра дробязі, бо з дробязяў складаецца чала-**





ВАНЕК. Вы ў сваёй галіне прафесіянал, як Гот у сваёй. А чаму вы не паехалі ў Пардубіцы?
СЛАДЭК. Ат, пакінем гэта

*Сладэк адкаркоўвае яшчэ адну бутэльку і налівае сабе.*
*(Паўза.)*

Усё будзе добра, Ванку! Няма чаго вам баяцца, я вас у крыўду не дам. Вы ціхі, працавіты чалавек, кожны дзень ходзіце на працу, не балбатун, глупстваў не робіце, як іншыя рабочыя, заробак вас задавальняе. . а пры недахопе працоўных рук, чаму не?
ВАНЕК. Вельмі вам удзячны
СЛАДЭК. Балазе вы прыстойны чалавек, відавочна, у мяне на гэта нюх Калі які махляр бачу наскрозь Гэтага Млынарыка з брадзільні ведаеце, хто гэта?
ВАНЕК. Так.
СЛАДЭК. Я яго адразу разгадаў, толькі ў нас з'явіўся. З ім трэба асцярожна.

*Паўза.*

ВАНЕК. Дык чаму вы не паехалі на завод у Пардубіцы?
СЛАДЭК. Ат, пакінем гэта

*Паўза.*

Зрэшты, вы на мяне, Ванку, можаце спадзявацца! Я вас у бядзе не пакіну
ВАНЕК. Дзякуй
СЛАДЭК. Патрабую толькі ўпэўненасці, што і я на вас магу спадзявацца. што не будзеце мне блытаць карты, карацей кажучы, калі спатрэбіцца, падтрымаеце.
ВАНЕК. Я зраблю ўсё, што змагу, каб вы былі задаволены маёй работай
СЛАДЭК. Я вам пра ўсё гэта таксама не павінен быў казаць! Я нават і права не маю вам пра гэта казаць! Ніхто б на маім месцы
ВАНЕК. Прабачце, але пра што мне нельга было казаць?
СЛАДЭК. Ну пра гэтага Голуба
ВАНЕК. Кагоўта.
СЛАДЭК. Паслухайце, я не ведаю, што гэта за птушка такая, і наогул ён мяне не хвалюе, ён мне да лямпачкі, не пра яго зараз, гаворка пра вас, ці не так? Зрэшты вам тут не так ужо і блага падкатваеце сабе пустыя бочкі, ніхто вас не чапае, а раптам здарыцца так, што я вас тут не ўтрымаю

*нуў Гавэла і яго аднадумцаў да стварэння арганізацыі ў абарону правоў чалавека. Назву "Хартыя-77" прыдумаў чэшскі драматург Павел Кагоўт. Гавэл, Ян Патачка і Петр Угл былі сустаршынямі "Хартыі"*

***14 студзеня 1977 года***

*Першы арышт Вацлава Гавэла. Пасля вызвалення ён напісаў рэпартаж "Аб першых днях "Хартыі", сваім арышце і зняволенні", потым кудысьці схаваў яго і не змог знайсці.*

***Май 1977 года***

*Зноў арышт.*

***1978 год***

*П'еса "Пратэст" Эсэ "Сіла бяссільных"*

***1979 год***

*Прэм'ера "Пратэсту" ў Вене. У маі "я канчаткова ўладкаваўся ў турме", словы Гавэла з кнігі "Завочны допыт" У турме ў Гержманіцах Гавэл спачатку працаваў на кропкавай зварачнай машыне, дзе варыў металёвыя краты, потым на аўтагене, затым у пральні ў Барах. Цяжка захварэў, апынуўся ў турэмнай бальніцы.*

**вечае штодзённае існаванне, з іх фармуецца стыль паводзін і імідж краіны. Магчыма, дзякуючы чэшскаму ліберальнаму гуманізму Чэхія і сёння спакойна крочыць па новым шляху, ад таталітарызму да дэмакратыі.**

**Ген справядлівасці дастаўся Вацлаву Гавэлу ад продкаў, чэшскіх "будзіцеляў" і гусітаў, нацыянальнай гісторыі, а можа яшчэ з больш даўніх крыніц гуманітарнай культуры, ад якой сілкуецца лепшая частка чалавецтва, якая жыве дзеля даўняй мары аб справядлівасці. "У дзяцінстве, асабліва калі мы жылі ў загарадным доме і я хадзіў там у мясцовую школу, у адрозненне ад іншых дзяцей я меў розныя прывілеі: я быў "заможны сынок" з багатай уплывовай сям'і, якая мела, як тады было прынята ў гэтых колах, "штат абслугі": у мяне была выхавацелька, у доме працавалі кухарка, пакаёўка, садоўнік, шафёр. Усё гэта, натуральна, ствārала паміж мной і маім непасрэдным акружэннем (альбо значнай часткай яго — той, якую складалі мае больш бедныя аднакласнікі, наша служанка) сацыяльны бар'ер, які я, як гэта ні дзіўна, з маленства вельмі балюча адчуваў і ставіўся да ўсяго гэтага, як да вялікага няшчасця: я саромеўся сваіх прывілеяў, імкнуўся пазбавіцца ад іх і марыў быць як усе".**

**Так прааналізуе свае дзіцячыя перажыванні адчужанасці з прычыны свайго буржуазнага паходжання ўжо дарослы Гавэл, драматург, псіхолаг і дысідэнт у кнізе "Завочны допыт". Яна стваралася ў 1985—1986 гадах напярэдадні пяцідзесяцігоддзя Гавэла на аснове інтэрв'ю на адлегласці: Гавэл адказваў на пытанні чэшскага журналіс-**

**1981 год**

*Прэм'ера "Гатэля ў гарах" у Вене.*

**1983 год**

*П'еса "Праблема" Па стане .здароўя Гавэл умоўна быў датэрмінова вызвалены з турмы. З 1983 года пачынаюць выходзіць у самвыдаце "Лісты да Вольгі", напісаныя за гады "статуса зэка"*

**1984 год**

*Даклад "Палітыка і сумленне", напісаны з нагоды прысуджэння Гавэлу звання ганаровага доктара Тулузскага універсітэта. З прычыны зразумелай адсутнасці Гавэла даклад чытаў вядомы англійскі драматург Том Стопард.*

*За чатыры дні напісана п'еса "Largo desolato" У Лондане выйшаў зборнік своеасаблівай прозы пісьменніка, куды ўвайшлі філасофскія работы, інтэрв'ю, артыкулы, фельетоны, лісты, пратэсты, выдадзеныя яго сябрамі Вілем Прэчаным і Аляксандрам Томскім.*

**1985 год**

*Прэм'ера п'есы "Largo desolato" ў Вене. П'еса пастаўлена 12 тэатрамі ў 9 краінах.*

дык гэты ваш Кагоўт, халера ясная, наўрад ці вас дзе ўладкуе, ці не?

ВАНЕК. Наўрад ці.

СЛАДЭК. Ну, вось бачыце! Майце, чалавеча, розум.

*Паўза.*

ВАНЕК. Пане піувару!

СЛАДЭК. Чаго вам?

ВАНЕК. Не крыўдуйце, але я .

СЛАДЭК. Што вы?

ВАНЕК. Я ўсё ж магу.

СЛАДЭК. Што можаце?

ВАНЕК. Не крыўдуйце, але я ж магу сустракацца, з кім хачу

СЛАДЭК. А я што кажу? Сустракайцеся сабе, з кім хочаце! Гэта ваша неад'емнае права! Тут вам ніхто не можа дурыць галаву! Але ж і вы тое-сёе павінны . Вы ж мужык, а не ануча якая! Сапраўды!

ВАНЕК. Вось бачыце.

СЛАДЭК. Ён жа гэта таксама павінен разумець, гэты Кагоўт, што вы будзеце сустракацца, з кім пажадаеце! Альбо не?

*Сладэк зноў адкаркоўвае бутэльку і налівае сабе. Паўза.*

ВАНЕК. Пане піувару

СЛАДЭК. Ну што?

ВАНЕК. Мне трэба ўжо ісці

СЛАДЭК. Куды гэта вам трэба ісці?

ВАНЕК. Мяне будуць шукаць у склепе.

СЛАДЭК. Нічога, абыдуцца! Там жа Шэркезі! Сядзіце сабе і піце!

*Паўза.*

Вам не цікава, чаму я не пайшоў працаваць у Пардубіцы?

ВАНЕК. Вельмі цікава.

СЛАДЭК. Сапраўды?

ВАНЕК. Сапраўды Чаму вы туды не пайшлі?

СЛАДЭК. Ведаеце, што яны са мной зрабілі? Абвінавацілі мяне ў тым, што быццам я, з адным шынкаром, абдурыў іх на пяцьсот літраў "дванацткі"*, якія ў нас заставаліся звыш нормы! Уяўляеце сабе? На самай справе ўсё было зусім не так,

* Так называецца дванаццаціградуснае піва.

та Карэла Гвіждзялы, які жыў у той час у Заходняй Германіі. Атрымалася вельмі адкрытая і шчырая кніга, падрабязная аўтабіяграфія-роздум у форме дыялога. Невыпадкова Гавэл спыніўся на дзіцячых вытоках свайго дысідэнцтва, на псіхалагічным апірышчы сваёй жыццёвай пазіцыі і стылю паводзін: "Гэта, — прадоўжым цытату, — канешне, не па той прычыне, што з дзяцінства я ўжо быў нейкім сацыяльным бунтаром. Я проста адчуваў сябе адгароджаным, на нейкай дыстанцыі, адчуваў у адносінах да сябе нейкі недавер, якоесь адхіленне (класавай нянавісцю я б гэта, вядома, не назваў). Я разумею, што паміж мной і людзьмі знаходзіцца нейкі нябачны мур, за якім — што можа падацца парадаксальным — быў я: адзінокі, непаўнавартасны, згублены, асмеяны... Дадайце яшчэ да гэтага, што я быў даволі тоўсты, і, як гэта звычайна заведзена паміж дзецьмі, усе з мяне за гэта, канешне, кпілі, што верагодна магло быць праявай чагосьці накшталт несвядомай "сацыяльнай помсты".

Вось з такога псіхалагічнага вопыту замацоўвалася ў асобе Гавэла пачуццё сацыяльнай справядлівасці, агіда да незаслужаных прывілеяў, да любога прыніжэння чалавечай годнасці. Відаць, жаданне адолець пачуццё непрыкаяннасці, абсурднасці і рухала творчасцю пісьменніка. Чулая душа і нават сарамлівая шчырасць, простая да безабароннасці, таксама засталіся ў Гавэла з тых дзіцячых перажыванняў. Разам з тым — пачуццё адказнасці, надзвычай высокае, перадусім скіраванае на сябе самога.

Гавэл увасабляе мужнасць





але гэты слабак, гэты Млынарык з брадзільні. Ведаеце яго?

ВАНЕК. Ведаю.

СЛАДЭК. Гэта да таго, каб вы проста разумелі, што тут за людзі! Вось так, я тут не веру анікому! Ведаеце, людзі — што тыя свінні! Яшчэ якія! Можаце мне паверыць! Выконвайце сваю працу, і лепш ні з кім асабліва трымайце язык за зубамі, глупства ўсё гэта, прынамсі у вашым становішчы

ВАНЕК. Слушна.

*Паўза.*

СЛАДЭК. Вы ўжо хадзілі абедаць?

ВАНЕК. Не яшчэ.

СЛАДЭК. Пойдзеце пазней На прахадной скажаце, што былі ў мяне.

ВАНЕК. Дзякуй

СЛАДЭК. Кіньце вы ўвесь час дзякаваць! *(Паўза.)* Прабачце.

*Сладэк устае і выходзіць. Ванек хуценька пералівае рэшту свайго піва ў яго шклянку. Піувар неўзабаве вяртаецца, зашпільваючы на хаду шырынку, і сядае на сваё месца.*

Ну, дык калі яе сюды прыцягнеце?

ВАНЕК. Каго?

СЛАДЭК. Ну гэту Богдалаву

ВАНЕК. Пры нагодзе я спытаюся ў яе

СЛАДЭК. А што калі яе запрасіць у суботу?

ВАНЕК. У гэту суботу?

СЛАДЭК. Чаму не?

ВАНЕК. Не ведаю, ці будзе мець час

СЛАДЭК. Дзеля вас, мабыць, час знойдзе

ВАНЕК. Акторы такія занятыя, у іх усё расплanавана задоўга наперад, яны не могуць так раптам нешта мяняць

СЛАДЭК. Ну калі вы лічыце, што мы тут для яе не вельмі падыходзім, то ясна, што запрашаць не трэба

ВАНЕК. Я так не лічу

СЛАДЭК. Я вас прымушаць да гэтага не буду, думаў толькі, што магла б быць неблагая гулянка.

ВАНЕК. Хм

*Паўза.*

СЛАДЭК. Ну не будзьце такі сумны!

ВАНЕК. Я не сумны

*Паўза.*

*П'еса "Спакуса" напісана за дзесяць дзён. У аўтабіяграфічнай кнізе "Завочны допыт" Вацлаў Гавэл заўважаў: "Я пішу так, нібыта мае п'есы заўжды будуць ставіцца ў "Тэатры на Забрадлі" і нібыта іх там убачаць мае сучаснікі. Цікава, нядаўна я зразумеў, што мае п'есы дагэтуль захоўваюць аддана́сць памерам сцэны, на якой іх калісьці ставілі, і трупы, якая іх выконвала. Таму я мог бы сказаць, што, уласна кажучы, увесь час пішу для акцёраў і публікі гэтага тэатра"*

**1986 год**

*Прэм'ера "Спакусы" ў Вене. П'еса пастаўлена 6 тэатрамі ў 5 краінах Вацлаў Гавэл узнагароджаны прэміяй Эразма Ротэрдамскага. Выйшла ў свет аўтабіяграфічная кніга "Завочны допыт"*

**1987 год**

*П'еса "Рэканструкцыя"*

**1989 год**

*Прэм'ера "Рэканструкцыі" ў Цюрыху Вацлаву Гавэлу прысуджана прэмія Улафа Пальмэ і Міжнародная прэмія Міру заходнегерманскіх кнігагандляроў. З нагоды прысуджэння прэміі Гавэл напісаў сваё знакамітае эсэ*

духу... Супрацьстаянне склератычнай новатнаўскай бюракратыі, потым акупацыі і палітыцы моцы, гвалту, нявольніцтва і страху... Пратэст супроць гусакаўскага, прабрэжнеўскага рэжыму... Напісаны сотні старонак: маніфесты, праграмы, петыцыі, лісты... Усё гэта былі пошукі сродкаў доўгатэрміновай барацьбы, маральнага стаіцызму без надзеі на хуткі эфект. Галоўнае—выстаяць... Дваццаць гадоў... Барацьбы легальнай і ў андэрграўндзе, гады вучобы, арыштаў і зняволення, калі творы Гавэла былі забаронены. Так нарадзілася "Хартыя-77", якая здолела аб'яднаць большасць апазіцыі. Многа давялося перажыць інтэлігенту Гавэлу пад лозунгам "Праўда і любоў перамогуць хлусню і нянавісць": варыў металічныя краты, працаваў у пральні, быў грузчыкам... Заўважце, не год, не два... Дваццаць гадоў жыцця.

Адзіная тэма Гавэла — жыццё чалавека XX стагоддзя, агорнутае міраклямі і містэрыямі, — распрацоўвалася на працягу ўсяго яго творчага шляху. Лёс асобы, аплецены калючым дзяржаўным дротам. Яго п'есы нагадваюць маралітэ: па-першае, алегарычнасцю, па-другое, філасофскай насычанасцю, таямнічасцю, персанажамі-маскамі, абагульненым месцам дзеяння. Часцей за ўсё гэта "казённы дом", нейкія канторы, канцыляры, населеныя чыноўнікамі, сапраўднымі героямі ўсіх таталітарных рэжымаў. Гэтыя рэжымы абслугоўваюць самі сябе — дзеля чаго і існуюць. Адпаведна і чынавенства. Няцяжка пераканацца ў гэтым, чытаючы "Паведамленне", "Свята ў садзе", "Спакусу". Апошняя выкарыстоўвае фа-

*"Слова аб слове", якое зачытаў у саборы Св Паўла ў Франкфурце-на-Майне сусветна вядомы акцёр Максімільян Шэл (у гэты перыяд Гавэл быў "невыязны").*

***29 снежня 1989 года***

*Вацлаў Гавэл абраны Прэзідэнтам Чэха-Славацкай Федэратыўнай Рэспублікі. "Па прыродзе сваёй я не бунтар, не рэвалюцыянер, не тып "багемнага бунтара", проста развіццё падзей вядзе да таго, што, жадаю я ці не, а апынаюся там, дзе апынаюся"*

***1990 год***

*Прэм'ера "Аўдыенцыі" і "Вернісажу" ў Маскве. У гэты час выходзіць зборнік артыкулаў 83 89 гадоў "У розныя бакі"*

***Люты 1994 года***

*Вацлаў Гавэл Прэзідэнт Чэшскай Рэспублікі.*

*Сёння Вацлаў Гавэл увасабляе надзеі грамадзян Чэхіі на стварэнне дэмакратычнай, свабоднай дзяржавы.*

**Падрыхтавала Алена ВОСТРЫКАВА.**

СЛАДЭК. Паслухайце, Фердынандзе, вы Фердынанд, так?

ВАНЕК. Так.

СЛАДЭК. Паслухайце, Фердынандзе, я хацеў з вамі пагутарыць

ВАНЕК. Я ведаю, пане піваварy

*Паўза.*

СЛАДЭК. Чаму не п'яце?

ВАНЕК. Я ж вам казаў, што да піва не вельмі ахвочы

СЛАДЭК. Тут піва п'юць усе.

ВАНЕК. Ведаю.

*Паўза.*

СЛАДЭК. Паслухайце, Фердынандзе, магу так да вас звяртацца, га?

ВАНЕК. Канешне.

СЛАДЭК Што б вы сказалі, калі б вас перавялі ў кладаўшчыкі? Гэта было б няблага, сапраўды? Вы, зрэшты, інтэлігент, да таго ж сумленны, дык чаму не? Не катаць жа табе ўвесь час з цыганамі бочкі Сядзеў бы сабе ў цяпле, па абедзе мог бы і закрыцца, быццам на ўпарадкаванне, і мог бы сабе там у цішы прыдумляць розныя жарты для гэтых сваіх п'ес, а пажадаецца мог бы там і падрамаць, што на гэта скажаш?

ВАНЕК. Мяркуеце, што гэта сапраўды магчыма?

СЛАДЭК. Чаму ж не?

ВАНЕК. Я, безумоўна, не ў тым становішчы, каб мог выбіраць, але калі б такая магчымасць сапраўды надарылася, зразумела лічыў бы яе найлепшай парадак я, здаецца, падтрымліваць змагу, на друкарцы пісаць умею, ведаю трохі і замежныя мовы А то, ведаеце, у гэтым склепе даволі холадна, асабліва нязвыкламу

СЛАДЭК. Ну, вядома. Улік адолееце?

ВАНЕК. Упэўнены, што адолею, я ж чатыры семестры вучыўся на эканамічным

СЛАДЭК. Так? І ўлік ведаеце?

ВАНЕК. Канешне, разбяруся

СЛАДЭК. Сядзеў бы сабе ў цяпле, па абедзе мог бы і закрыцца, не катаць жа вам увесь час бочкі з цыганамі!

ВАНЕК Калі б толькі тут такая магчымасць з'явілася

ўстаўскія алюзіі, каб выразніць канфлікт паміж навукоўцам і ўладай, які павінен узгадняць з уладай вынікі сваіх доследаў і эксперыментаў. Усемагутная і ў сябе закаханая ўлада злоўжывае навукай як зброяй дзеля знішчэння ўсяго, што гэтай уладзе пагражае, яна знішчае незалежныя аўтарытэты, знішчае ўсё, што нясе іншую сістэму каштоўнасцяў. Дзеля гэтага выкарыстоўваецца "нячыстая сіла" даносаў, чалавечыя слабасці, парушаецца ідэнтыта асобы. Як не прыгадаць такія знаёмыя нам з дзяцінства назвы навуковых часопісаў: "Савецкая педыятрыя", "Савецкае славяназнаўства", "Савецкая стаматалогія" і гэтак далей... Як кажуць, каментар непатрэбны...

Нават у прыватным жыцці асоба ў п'есах Гавэла не мае свабоды: "казённы дом" як бы пераносіцца і сюды, рука ўлады засылае сваіх агентаў і ў спальны пакой. Леапольд Копршыва, доктар філасофіі, аўтар сур'ёзных прац, пачувае сябе дома як у турэмнай камеры, яго прымушаюць альбо адмовіцца ад ідэй, выказаных у "Фенаменалогіі адказнасці", "Анталогіі чалавечага "я", альбо... Яго чакае турма, артыкул 511 — "інтэлектуальны гвалт"... П'еса "Largo desolato" сілкуецца ад асабістага вопыту аўтара, яго дысідэнцкага жыцця, пра што аўтар сказаў у "Завочным допыце" так: "...у нейкім сэнсе маральная спустошанасць Копршывы – гэта сапраўды карыкатурная выява майго паслятурэмнага адчаю".

Уражваюць у п'есах Гавэла сціплыя моўныя сродкі — адзін з прыёмаў тэатра абсурду наогул і п'ес Гавэла таксама.





*Паўза.*

СЛАДЭК. Не, не, Ванку, я махляра здалёк распазнаю! Вы — мужык сумленны, я таксама сумленны, чаму б нам не трымацца разам! Што на гэта скажаце?

ВАНЕК. Так, канешне.

СЛАДЭК. Вы, значыцца, згодны?

ВАНЕК. Канешне.

СЛАДЭК. Калі не жадаеце, то так і скажыце Магчыма, вам мая кампанія не даспадобы, можа, што маеце супраць мяне альбо ёсць якія іншыя планы

ВАНЕК. Нічога супраць вас не маю, наадварот, вы для мяне столькі зрабілі, я вам вельмі ўдзячны, асабліва калі выйдзе з гэтым складам. Зразумела, я ўсё зраблю, каб і вы былі задаволены маёй працаю

*Сладэк адкаркоўвае новую бутэльку і налівае Ванеку і сабе*

СЛАДЭК. За гэта можна і выпіць?

ВАНЕК. Так

*Абодва п'юць.*

СЛАДЭК. Да дна, залпам!

*Ванек сілком дапівае, півавар імгненна зноў яму налівае (Паўза.)*

Што вы такі сумны!

ВАНЕК. Я не сумны.

*Паўза.*

СЛАДЭК. Гэй, Фердынандзе.

ВАНЕК. Што?

СЛАДЭК. Мы з табой сябры, так?

ВАНЕК. Так

СЛАДЭК. Гэта ты не проста так гаворыш?

ВАНЕК. Не.

СЛАДЭК. Ты мяне паважаеш?

ВАНЕК. Канешне, вас паважаю.

СЛАДЭК. Не, чакай, я сур'ёзна паважаеш мяне?

ВАНЕК. Так, паважаю

СЛАДЭК. Тады слухай сюды, нешта табе скажу, але гэта строга паміж намі, ясна?

ВАНЕК. Ясна.

СЛАДЭК. Магу табе даверыцца?

ВАНЕК. Можаце

СЛАДЭК. Дык вось *(сцішыў голас)*, тут табой цікавяцца

ВАНЕК. Хто?

СЛАДЭК. Ну, гэтыя...

ВАНЕК. Сапраўды?

СЛАДЭК. Як на духу

ВАНЕК. Вам не здалося, што гэта датычыць маёй працы тут, на піваварні, што яна пад

Мова стала адным з сродкаў паняволення чалавека варожай сістэмай, словы амаль нічога не пазначаюць. Але спрошчаная мова, як ні дзіўна, выкрывае розныя коды і хітрыкі сістэмы, якая ўцягвае чалавека ў несапраўднае быццё, прымушае яго рабіць не тое, на што ён здатны, і гаварыць не тое, у што ён верыць.

П'еса "Аўдыенцыя", якую я перакладала, уражвае менавіта такім як бы моўным мінімумам, часта паўтараюцца адны і тыя ж словы, амаль не выкарыстоўваецца сінанімічны рад. П'еса-дыялог паміж начальнікам, які вымушаны даваць звесткі і сачыць за адным са сваіх рабочых, і дысідэнтам-інтэлектуалам, якога сістэма выпхнула са сваіх структур. Чалавек сістэмы і аўтсайдэр... У п'есе выдатна распрацаваны падтэкст — паняволенне асобы пры таталітарных рэжымах. Разбурэнне ідэнтыты, тоеснасці, цэльнасці асобы... Дырэктар піваварні — не задаволены жыццём, не можа быць задаволены і яго падначалены. Але апошні мае высакародную мэту, мае жыццёвыя прынцыпы, далучаны да культуры, каб мужна пераносіць цяжкасці і не закамплексаваць, каб спадзявацца і чакаць. У той час як дырэктар — ахвяра канфармізму, прыстасаванне для яго стала нормай, якую трэба апраўдаць, спачатку ў межах сваёй асобы, так бы мовіць, для сябе, лакальна, а потым і як пазіцыю. Відаць, таму ў фінале п'есы Сладэк так рэагуе на слова "прынцыпова", яго абурэнне супроць інтэлігенцыі і яе прынцыповасці — неабходнае для яго псіхалагічнае апраўданне сваёй беспрынцыповасці. Незапатрабаванасць

пагрозай? *(Пауза.)* Патрабуюць, каб мяне звольнілі? *(Пауза.)* Альбо наракаюць на вас, што мяне ўзялі?

*Паўза.*

СЛАДЭК. Слухай, што табе скажу, але ўсё строга паміж намі, ясна?
ВАНЕК. Ясна.
СЛАДЭК. Магу табе даверыцца?
ВАНЕК. Можаце.
СЛАДЭК. Дык вось: сядзеў бы на гэтым месцы хтосьці іншы не я, вы б у нас не працавалі, я за гэта магу паручыцца! Досыць з цябе?
ВАНЕК. Так, безумоўна, я вельмі вам удзячны
СЛАДЭК. Я не дзеля падзякі пра гэта сказаў
ВАНЕК. Я ведаю, што не дзеля
СЛАДЭК. Хачу толькі, каб ведаў, якая складваецца сітуацыя.
ВАНЕК. Дзякуй вам.

*Паўза.*

СЛАДЭК. Прабач

*Сладэк цяжка ўстае, паволі выходзіць. Ванек хуценька пералівае рэшту свайго піва ў яго шклянку. Неўзабаве півавар вяртаецца, зашпільваючы шырынку на хаду, і садзіцца на сваё месца.*

У цябе з ёй што было?
ВАНЕК. З кім?
СЛАДЭК. Ну з гэтай Богдалкай
ВАНЕК. У мяне? Не.
СЛАДЭК. Сапраўды не?
ВАНЕК. Не.
СЛАДЭК. Ну ты ў такім выпадку ў мяне слабак!

*Паўза.*

ВАНЕК. Пане піваварy
СЛАДЭК. Што табе?
ВАНЕК. Мне трэба ісці
СЛАДЭК. Куды табе трэба?
ВАНЕК. У склепе мяне будуць шукаць.
СЛАДЭК. Як-небудзь абыдуцца! Там жа Шэркезі! Сядай і пі!

*Паўза.*

Слухай, Фердынандзе ты ж Фердынанд, ці не?
ВАНЕК. Так.
СЛАДЭК. Слухай, Фердынандзе, магу я так цябе называць, не?
ВАНЕК. Без праблем.
СЛАДЭК. Не, ты зразумей, лепей спытацца, каб незнарок не пакрыўдзіць, чаму не?
ВАНЕК. З чаго б гэта мне крыўдаваць?

---

**асобы ў дзяржаве спрыяе комплексу непаўнавартаснасці на розных узроўнях і ў розных варыянтах. Дык ці ж гэта абсурд драмы? Хутчэй — абсурд жыцця? П'есы Гавэла – гэта філасофскія драмы, набліжаныя да прытчы, падтэкст у іх ці не самае галоўнае.**

**Тая ж мэта — у антыкодаў Гавэла: выкрыць абсурд і яго падступства, авантурызм і хлусню, дэмагогію і эгаізм, — амаральнасць. Антыкоды — асаблівы жанр літаратурнай графікі, які спалучае паэзію і малюнак, філасофскае эсэ і лаканічную максіму. Візуальна выяўленая афарыстычнасць дапамагае звярнуць увагу на глыбінны падтэкст рэчаў, асэнсаваць складанае і цяжказразумелае як бы на графічным прыкладзе. Вось слова "свабода", надрукаванае ў форме кратаў... Вось, напрыклад, "культурнае жыццё": злева дні тыдня па парадку, справа — адпаведныя ім занятні: праца, адпачынак, кіно, сон... праца, адпачынак, тэлевізар, сон... усё паўтараецца, чаргуецца адзін і той жа набор, толькі ў суботу – танцы замест кіно і тэлевізара, а ў нядзелю — толькі сон і тэлевізар... Уражвае антыкод "культ асобы": нулі ў форме піраміды... "Дыялектычны сінтэз" пра яйка і курыцу... Антыкод "Пяць рыс чалавека будучыні" закранае важную для Гавэла тэму мовы, яе заштампаванасці і спрошчанасці, мовы, якая ў тэхнакратызаваным грамадстве ператвараецца ў "шчыгрынавую скуру".**

**Мова марнее, здранцвелая, яна працуе на код улады, становіцца амаль не зразумелай простаму чалавеку, дый наогул чалавеку жывому. Мова**





СЛАДЭК. З табой ніколі не ведаеш, што да чаго: маўчыш, бог ведае што маеш у думках, толькі ўсё паўтараеш "так, пане піваварy", "дзякуй, пане піваварy"
ВАНЕК. Так мяне выхавалі.
СЛАДЭК. А я, выходзіць, нявыхаваны піваварскі лопух! Так, ты гэта падумаў, ці не? Толькі не кажы, што не думаў?
ВАНЕК. Не думаў.
СЛАДЭК. Э, не, давай у адкрытую — каб усё ясна, што да чаго.
ВАНЕК. Нічога такога благога я пра вас не думаў, сапраўды не, – наадварот
СЛАДЭК. Тады мы — сябры, так?
ВАНЕК. Так.
СЛАДЭК. Значыць, мяне паважаеш?
ВАНЕК. Паважаю.
СЛАДЭК. Тады слухай. аднаго з тых, хто прыходзіць да мяне, каб распытаць менавіта пра цябе, ведаю яшчэ са школы, балазе гэта мой добры знаёмы, завуць яго Тонда Машку і наогул ён мужык неблагі, прынамсі, са мною.
ВАНЕК. Гэта добра.
СЛАДЭК. Не скажу, што ён мае такі ўжо вялікі ўплыў, не, але ажно двойчы мне ўжо паспрыяў, і, хто ведае, калі яшчэ можа спатрэбіцца, акрамя таго, гэта наогул, як я казаў, мужык сапраўды неблагі, так што, проста, карацей кажучы, яго так проста я не мог адкінуць, разумееш?
ВАНЕК. Разумею.

*Паўза.*

СЛАДЭК. Ну што глядзіш?
ВАНЕК. Нічога.
СЛАДЭК. Ну дык скажы, пра што падумаў? Шчыра скажы!
ВАНЕК. Я ні пра што не думаў.
СЛАДЭК. Ат, кінь ты, я добра ведаю, пра што ты падумаў! Вось толькі ты не ведаеш, што, калі б я не згадзіўся, знайшлі б іншага, а гэта было б значна горш, таму што, магу паручыцца, ніхто не быў бы такі прыстойны, як я! Я — сумленны ў адрозненне ад іншых, проста ў мяне такі ўжо характар — і ўсё тут! І гэта твой адзіны шанец, калі хочаш ведаць! Людзі гэта тыя ж свінні! Яшчэ якія! А можа ты думаеш, што тут знайшоўся б другі такі ёлупень, які б табе ўсё так начыстую распавёў? Ты наіўны, як малое дзіця. Цяміш, на якім свеце ты жывеш?
ВАНЕК. Я канешне цаню вашу шчырасць.
СЛАДЭК. Ты разумееш наогул, як я рызыкую тым, што да цябе з адкрытай душой? Што з цябе возьмеш, калі ты раптам засыплешся? Але ж я ўсё стаўлю на карту!
ВАНЕК. Я пра гэта нікому не скажу
СЛАДЭК. Ну дык калісьці напішаш! Усадзіш у нейкую п'есу, яе ў цябе канфіскуюць, і — мне хана.
ВАНЕК. Можаце на мяне спадзявацца, усё застанецца паміж намі.
СЛАДЭК. Сапраўды?
ВАНЕК. Сапраўды.

---

**пачынае актыўна парушаць ідэнтыту, спрыяе яе дваістасці, сапраўднай і несапраўднай аднначасова. Ізалюе чалавека ў яго адзіноце і немагчымасці разумець і быць зразуметым. Такая закадзіраваная мёртвая мова ў выглядзе абракадабры "пцідэпэ" навязваецца чыноўнікам-супрацоўнікам адной афіцыйнай установы ў прыпавесці "Паведамленне" (1965). "Пцідэпэ" — нейкая птушыная мова, бязглуздзіца, але пачалася кампанія па вывучэнні гэтай мовы, яе укараняюць загадамі зверху ў якасці вельмі перспектыўнай, рацыянальнай, інтэлектуальнай. Тут дарэчы асацыяцыя з "наваязам" Оруэла.**

**Усе жанры, у якіх працуе Вацлаў Гавэл, маюць элементы філасофскай прыпавесці: п'есы, прамовы, артыкулы, эсэ, нават лісты да сяброў і блізкіх... Усе яны накіраваны на тое, каб разгадаць заблытаныя коды сістэмы, якая намагаецца накінуць на чалавека сваю пакрыўку хлусні і падману. Усе яны заснаваны на энергіі дэмістыфікацыі, на антыкадавасці. Прыгадаю "Лісты да Вольгі", жонкі Гавэла, якая прайшла разам з мужам праз усе выпрабаванні, неаднойчы выратоўвала яго, хворага выцягвала з турмы, як кажуць, усімі праўдамі і няпраўдамі. У гэтых, здавалася б, інтымных лістах — глыбокі экзістэнцыялістычны роздум пра сучаснае жыццё і маральныя пакуты.**

**На пытанне журналіста Карэла Гвіждзялы пра тое, як адрасат, сама Вольга, рэагавала на такія нетыповыя лісты, Гавэл адказаў, па сваёй**

*Сладэк адкаркоўвае яшчэ адну бутэльку і налівае сабе Паўза.*

Пане півавару

СЛАДЭК. Хм.

ВАНЕК. Калі раптам у нас атрымаецца мае на ўвазе гэты склад то што станецца са старым Шустрэм?

СЛАДЭК. А што з ім можа стацца? *(Паўза.)* Нічога новага. гэта парадоксы жыцця, так?

ВАНЕК. Але.

СЛАДЭК. Вось што табе скажу

*Паўза.*

ВАНЕК. Пане півавару

СЛАДЭК. Чаго табе

ВАНЕК. Зноў наконт гэтага склада думаеце, што дазволяць? Яны ж разумеюць, што там я буду ў цяпле

СЛАДЭК. Ні халеры яны там не разумеюць. *(Паўза.)* Ты жанаты?

ВАНЕК. Так

СЛАДЭК. А дзеці ёсць?

ВАНЕК. Не.

СЛАДЭК. У мяне трое. Каб ведаў *(Паўза.)*

ВАНЕК. Пры нагодзе вы б маглі аргументаваць тым, што буду там больш ізаляваны ад людзей

СЛАДЭК. Ты, Фердынандзе

ВАНЕК. Яны ж зацікаўлены ў тым, каб я менш сутыкаўся з людзьмі, ці не?

СЛАДЭК. Ты, Фердынандзе

ВАНЕК. Можа б гэта магло паспрыяць, не?

СЛАДЭК. Ты, Фердынандзе

ВАНЕК. Што?

СЛАДЭК. Граеш у мар'яж?

ВАНЕК. Не.

СЛАДЭК. Я часам. была ў нас тут выдатная каманда, ведаеш, збіраліся кожны чацвер пра што думаеш? І гэтага я быў вымушаны пазбавіцца з-за нейкага там Лойзы Главатага.

ВАНЕК. Гм

СЛАДЭК. Каб ты проста ведаў, што ў нас тут ва ўсіх цяжкі хлеб.

*Паўза.*

Ты, Фердынандзе

ВАНЕК. Што?

СЛАДЭК. Ты маю бабу ведаеш?

ВАНЕК. Не.

*Паўза.*

СЛАДЭК. Ты, Фердынандзе

ВАНЕК. Што?

---

**звычцы, вельмі грунтоўна: "Мы вельмі розныя па характару: я дзіця буржуазнай сям'і, інтэлектуал, які ўвесь час саромеецца, яна пралетарская дзяўчына, арыгінальная, несентыментальная, практычная... я знайшоў калісьці ў Вользе ўсё, чаго мне не хапала: духоўную альтэрнатыву маёй разгубленасці, дакладнага карэктара маіх разбэрсаных ідэй, хатнюю апору маіх грамадскіх авантур". Вольга не дажыла да шасцідзесяцігадовага юбілею свайго мужа, памерла ў студзені 1996. Прыхільнікі Гавэла, чэхі, турысты з цэлага свету доўга прыносілі на Пражскі Град, да рэзідэнцыі прэзідэнта кветкі смутку і спачування.**

**Найбольш значныя канстанты лексікону Гавэла: страх, маральнасць улады, палітыка і сумленне, жыццё ў праўдзе як сродак супрацьстаяння таталітарызму, жыццё ў хлусні... Вера ў дэмакратыю і сумленне спалучаны ў лексіконе Гавэла з прынцыповай і паслядоўнай пазіцыяй талерантнасці і бескампраміснасці, з той маральнасцю ўлады, і чыстай палітыкай, якую наша дацывілізацыя войнаў і гвалту не спяшаецца прыняць. Творчасць Вацлава Гавэла і ўсё яго жыццё падпарадкаваны адзінай мэце: выкрываць хлусню і жыць у праўдзе. "Я — пісьменнік, і сваё прызначэнне я заўсёды разумеў як абавязак гаварыць праўду пра свет, у якім я жыву, яго жахі і беды, гэта значыць, папярэджваць, а не даваць рэцэпты".**

**Ірына ШАБЛОЎСКАЯ**





# АНТЫКОДЫ




Уперад

KULTURNÍ ŽIVOT

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| PONDĚLÍ | úřad | odpočinek | kino | spánek |
| ÚTERÝ | úřad | odpočinek | televize | spánek |
| STŘEDA | úřad | odpočinek | kino | spánek |
| ČTVRTEK | úřad | odpočinek | televize | spánek |
| PÁTEK | úřad | odpočinek | kino | spánek |
| SOBOTA | úřad | odpočinek | zábava | spánek |
| NEDĚLE | spánek | televize | televize | spánek |

Культурнае жыццё

1936
1937
1938
1939
1940
1941
1942
1943
1944
1945
1946
1947
1948
1949
1950
1951
1952
1953
1954
1955
1956
1957
1958
1959
1960
1961
1962
1963
1964

MŮJ ŽIVOTOPIS

Мой жыццяпіс

KULT OSOBNOSTI

Культ асобы

Č

LOVĚK

Чалавек





СЛАДЭК. Усе навокал — адна брыдота!
ВАНЕК. Ведаю.
СЛАДЭК. Анічога ты не ведаеш! Табе што! Папісваеш гэтыя свае п‘есы, катаеш бочкі — і на ўсіх табе начхаць. Чаго табе яшчэ трэба? Яны ж цябе, чалавеча, баяцца!
ВАНЕК. Наўрад ці.
СЛАДЭК. Ды не сапраўды! А што я? Я нікому не патрэбны! На мяне даносы ніхто нікуды не дасылае! На мяне можна раўці, колькі ўлезе! Я ў іх во, у жмені! Раптам што расцярушаць мяне, як казюльку! Як чарвяка! А што табе — табе на іх начхаць. *(Пауза).* Гэй, Фердынандзе .
ВАНЕК. Што?
СЛАДЭК. Ты ж гэтую Богдалку прыцягнеш, згода, чаму не? Не падманеш мяне? Глядзі не падмані
ВАНЕК. Не хвалюйцеся нават сёння ёй патэлефаную і паспрабую дамовіцца.
СЛАДЭК. А як мяркуеш, прыйдзе?
ВАНЕК. Я паспрабую зрабіць усё, што змагу.
СЛАДЭК. Яна твая сяброўка, не?
ВАНЕК. Так, але
СЛАДЭК. Пачакай, ты ж казаў, што сяброўка?
ВАНЕК. Ну так.
СЛАДЭК. Пачакай, дык сяброўка, ці не?
ВАНЕК. Ну так.
СЛАДЭК. Дык у чым справа?

*Паўза.*

Фу, ты, ярына зялёная, дык можа сустракацца з кім хоча?!
ВАНЕК. Зразумела.
СЛАДЭК. Гэта ж яе неад‘емнае права, ярына зялёная!
ВАНЕК. Канешне.
СЛАДЭК. Гэта зрэшты прынцыповая рэч, ярына зялёная!

*Паўза.*

Чаму хтосьці павінен ведаць, хто яе сюды прыцягнуў! Хай будзе сустрэча з працоўнымі! А што тут такога!
ВАНЕК. Сапраўды
СЛАДЭК. Значыцца, давай яе сюды
ВАНЕК. Я ўсё зраблю, што змагу нават сёння ёй патэлефаную — мы сябруем, што ж тут такога.

*Паўза.*

СЛАДЭК. Слухай, Фердынандзе.
ВАНЕК. Што?
СЛАДЭК. Каб ты ведаў, як мне ўсё тут абрыдла!
ВАНЕК. Разумею.
СЛАДЭК. Ні халеры ты не разумееш! Ты толькі так гаворыш, а сам думаеш. пень пнём — хай сабе языком менціць.
ВАНЕК. Нічога падобнага.
СЛАДЭК. Чаго не п‘еш?
ВАНЕК. Я п‘ю.
СЛАДЭК. Ты ўжо абедаў?
ВАНЕК. Не яшчэ.
СЛАДЭК. Ну і чорт з ім, з абедам.
ВАНЕК. Я зусім не хачу есці
СЛАДЭК. Можа я і дурань, але не благі.
ВАНЕК. Так.
СЛАДЭК. Хачу з табой пагаварыць.
ВАНЕК. Я ведаю.
СЛАДЭК. Людзі — што тыя свінні! Яшчэ якія! Чаму не п‘еш?
ВАНЕК. Я п‘ю.
СЛАДЭК. Ты ўжо хадзіў абедаць?
ВАНЕК. Не яшчэ.
СЛАДЭК. А што табе — у цябе ўсё файна.

ВАНЕК. Я вам вельмі ўдзячны.
СЛАДЭК. Глупства ўсё гэта.

*Сладэк адкаркоўвае яшчэ адну бутэльку і налівае сабе Паўза.*

Слухай
ВАНЕК. Што?
СЛАДЭК. Нічога, што табе тыкаю?
ВАНЕК. Не.
СЛАДЭК. Калі табе гэта не падабаецца, ты скажы
ВАНЕК. Не, нічога.
СЛАДЭК. Ну, калі не крыўдуеш, і то добра.
ВАНЕК. Я нават рады, што мы бліжэй пазнаёміліся
СЛАДЭК. "Я нават рады, што мы бліжэй пазнаёміліся", "удзячны за вашу шчырасць" Што ты ўвесь час неяк не так гаворыш?
ВАНЕК. Па-кніжнаму?
СЛАДЭК. Ну!
ВАНЕК. Калі гэта вас раздражняе, то..
СЛАДЭК. Нішто мяне не раздражняе, "удзячны, што мы бліжэй пазнаёміліся" Ё маё!
ВАНЕК. Прабачце
СЛАДЭК. Ё маё!

*Паўза.*

ВАНЕК. Пане півавару
СЛАДЭК. Што табе?
ВАНЕК. Мне трэба ўжо ісці
СЛАДЭК. Куды табе ісці?
ВАНЕК. Мяне ў склепе будуць шукаць.
СЛАДЭК. Нічога, абыдуцца! Там жа Шэркезі! Сядай і пі!
ВАНЕК. Сур'ёзна, яны будуць злаваць.
СЛАДЭК. Ага, я табе ўжо надакучыў, вось што? Ну ясна з Готам альбо Богдалавай, гэта зусім іншая забава!
ВАНЕК. Мне тут з вамі добра, я толькі не хачу, каб пра гэта пайшлі плёткі, не абярэшся, асабліва цяпер, калі з'явілася такая магчымасць працаваць на складзе
СЛАДЭК. Сапраўды, табе тут няблага?
ВАНЕК. Сапраўды
СЛАДЭК. Шчыра гэта гаворыш?
ВАНЕК. Так.

*Сладэк адкаркоўвае яшчэ адну бутэльку і налівае сабе Паўза.*

СЛАДЭК. Фердынандзе
ВАНЕК. Што?
СЛАДЭК. Ведаеш, што ва ўсім гэтым самае дрэннае?
ВАНЕК. Што?
СЛАДЭК. А тое, што я, хоць ты забі мяне, не ведаю, аб чым ім кожны тыдзень павінен паведамляць. Што я пра цябе наогул ведаю? Амаль не сустракаемся з табой, а тое глупства, што да мяне дойдзе ну, што ходзіш часцяком у лабараторыю, што бачылі некалькі разоў у горадзе цябе і Марушку з разлівачнага, што хлопцы з рамонтнага наладжвалі табе ацяпленне, ну што з таго? Ну скажы, пра што мне ім увесь час паведамляць? Пра што?
ВАНЕК. Не крыўдуйце на мяне, але ў гэтым мне вам цяжка дапамагчы
СЛАДЭК. Але мог бы Каб захацеў?
ВАНЕК. Я? Якім чынам?
СЛАДЭК. Ты ж у нас інтэлігент, так? Разбіраешся ў палітыцы, так? Пісаць умееш, так? Ну, дык скажы, хто лепш за цябе можа ведаць, што яны хочуць ведаць, хто калі не ты?
ВАНЕК. Прабачце, але гэта занадта
СЛАДЭК. Глядзі сам, на тым складзе меў бы досыць вольнага часу, і што з табой станецца, калі ты мне раз у тыдзень напішаш староначку? Ці я ў цябе гэтага не заслугоўваю? Буду цябе ахоўваць Будзеш там, як сыр у масле катацца! І піва можаш браць, колькі ўлезе, колькі захочаш Для цябе гэта раз плюнуць. Ты ж, ліхаманка мяне забі, усё ж такі пісьменнік А Тонда Машку сапраўды мужык прыстойны, не адмаўляць жа яму Ці можам жа мы яго пакінуць у цяжкім становішчы! Ці ж мы з табой, чорт пабяры, не дамовіліся, што будзем трымацца разам? Што будзем дапамагаць адзін аднаму? Карацей кажучы, як адна кампанія? Ці ж мы за гэта не выпілі? Ну што, пілі, альбо не?
ВАНЕК. Ну так, толькі.
СЛАДЭК. Усё цяпер, Фердынандзе, залежыць ад цябе! Калі нас выручыш, усё будзе добра! Ты дапаможаш мне, я яму, ён мне, а потым я табе, і ніхто не ў крыўдзе! Давай не будзем жыццё ператвараць у пекла!

*Паўза.*

Ну, што глядзіш?
ВАНЕК. Нічога.

*Паўза.*

СЛАДЭК. Уяўляеш, ты сам непасрэдна ўплываў бы на тое, што пра цябе будуць ведаць, нішто сабе.
ВАНЕК. Я разумею.

*Паўза.*

СЛАДЭК. А там на складзе было б так утульна, чаму не? Цёпла вольны час
ВАНЕК. Гэта было б выдатна.

*Паўза.*

СЛАДЭК. Ну дык што, парадак?

*Паўза.*

ВАНЕК. Пане півавару
СЛАДЭК. Што табе?
ВАНЕК. Сапраўды, я вельмі вам удзячны за ўсё, што вы для мяне зрабілі, я памятаю ўсё, таму што лепш за другіх ведаю, як гэта рэдка ў наш час. Вы мне, так бы мовіць, стрэмку з пяты выцягнулі, я нават не ведаю, што б без вас рабіў Гэта месца на складзе было б для мяне вялікай палёгкай, большай, чым вы нават можаце сабе ўявіць Толькі я, не крыўдуйце, я, прабачце, не магу даносіць сам на сябе.
СЛАДЭК. Якія даносы? Хто тут гаворыць пра даносы?
ВАНЕК. Справа не ва мне, мне гэта ўжо ніяк не нашкодзіць, справа прынцыповая! Менавіта з прынцыпу я не магу згадзіцца на гэта...
СЛАДЭК. На што, на гэта? Ну, ну скажы! На што ты не можаш згадзіцца?
ВАНЕК. На ўчынкі, якія я не прымаю ..

*Кароткая, напружаная паўза.*

СЛАДЭК. Вось так. Не можаш Так, значыцца, не можаш Выдатна! Вось ты сябе цяпер і паказаў! Вось ты цяпер і выявіўся!

*Сладэк устае і пачынае ўзбуджана хадзіць па пакоі.*

А як я? Мяне ты кідаеш, так? На мяне табе начхаць! Я магу быць свіннёй! Я магу ў гэтым брудзе боўтацца, што табе я, я толькі дурны піваварскі ёлупень, а ён пан, ён на гэта згадзіцца не можа! Я магу пэцкацца, абы толькі пан быў чысты! У пана, бачце, свае прынцыпы! Яму не да нас, ён пра гэта не думае Адзін ён толькі такі чысценькі! Прынцыпы яму даражэй за чалавека! Усе вы такія
ВАНЕК. Хто "мы"?
СЛАДЭК. Ну, вы! Інтэлігенты! Паны Толькі і мастакі гладкія прамовы казаць, гэта вы сабе можаце дазволіць, бо вам з гэтага нічога не будзе, вамі заўсёды цікавяцца, вы ўсё можаце арганізаваць, калі там наверсе, і нават калі тут знізу, а звычайны чалавек тут гарбаціцца і ні якога ражна з гэтага не мае, нікуды яму не прабіцца, усім на яго начхаць, кожны аб яго ногі вытра, кожны зганьбіць, што гэта за жыццё, а пад канец яму наце вам няма прынцыпаў Цёплае месцейка на складзе .. Гэта ты б ад мяне ўзяў, але ўзяць і кавалак гэтага свінства, якое я кожны дзень маю, ты ўжо не хочаш! Занадта вы ўсе разумныя, у вас добра ўсё разлічана, сябе адстаяць добра ўмееце! Прынцыпы! Прынцыпы! Чаму б вам зрэшты і не трымацца за гэтыя вашыя прынцыпы, вам яны на карысць, вы з іх будзеце мець прыбытак, вы іх здолееце зручна прадаць, вас гэтыя прынцыпы няблага кормяць, а што я? Мне за іх толькі шыю могуць намыліць! У вас заўсёды ёсць шанец, а якія шанцы ў мяне? Пра мяне ніхто не паклапоціцца, мяне ніхто не баіцца, пра мяне ніхто не піша, мне ніхто не дапаможа, мной ніхто не цікавіцца Я падыходжу толькі для таго, каб рабіць угнаенне, на якім вашыя прынцыпы вырастаюць, дый выбіваць цёпленькія месцейкі для вашых герояў, каб з мяне яшчэ і пасмяяліся! Аднойчы ты вернешся да сваіх актрысулек, будзеш перад імі красавацца, як ты тут бочкі катаў, станеш героем, а што я?..

Куды я магу вярнуцца? Хто мяне заўважыць? Хто мяне ацэніць? Што мне з гэтага жыцця?.. Што мяне чакае наперадзе?. Што?

*Сладэк без сіл валіцца на сваё месца, кладзе галаву Ванеку на грудзі і ўголас пачынае плакаць. Праз момант супакойваецца, пазірае на Ванека і ціха кліча.*

Фердынандзе...

ВАНЕК. Я

СЛАДЭК. Ты мне сябра?

ВАНЕК. Сябра.

СЛАДЭК. Прашу цябе, схадзі па яе, зараз жа, і прывядзі, вельмі цябе прашу *(Паўза.)* Скажы ты ёй "Іржынка, ёсць у мяне там адзін сябрук, такі піваварскі боўдзіла, але файны хлопец" *(Паўза.)* Выб'ю табе месца на складзе, і ніякіх рапартаў ад цябе не трэба... толькі, прашу цябе, прывядзі. *(Паўза.)* Зробіш гэта дзеля мяне? Дакладна гэта дзеля мяне зробіш? Толькі на адзін вечар, пасля мне будзе добра, пасля ўжо ўсё будзе інакш, пасля я буду ведаць, што не марна жыў, што ўсё маё паскуднае жыццё не цалкам было такое паскуднае, прывядзеш?

*Паўза. раптам піваваp хапае Ванека за каўнер і пачынае шалёна крычаць яму ў твар.*

Хай толькі ты мне яе не прывядзеш, я. я не ведаю што.. я мабыць. .я мабыць...

*Сладэк ціха расплакаўся і зноў апусціў галаву Ванеку на грудзі.*

*Паўза. Неўзабаве ўсхліпы півавара паступова пераходзяць у моцны храп. Ванек, трошку пачакаўшы, асцярожна перакладвае галаву півавара на стол, ціха ўстае і накіроўваецца да дзвярэй. Там прыпыняецца, абарочваецца, хвілінку пачакаўшы, вяртаецца да півавара.*

ВАНЕК. Не сумуйце.

*Ванек выходзіць. У хуткім часе раздаецца стук у дзверы. Сладэк адразу прачынаецца, пасля кароткага сну амаль прачухаўся і паводзіць сябе акурат так, як на пачатку п'есы: відаць, забыўшыся на ўсё, што тут адбывалася.*

СЛАДЭК. Заходзьце.

*У пакой уваходзіць Ванек, на хаду зашпільваючы шырынку.*

А, пан Ванек, праходзьце! Сядайце.

*Ванек сядае.*

Піва вып'еце?

*Ванек хітае галавой. Сладэк дастае са скрыні бутэльку, адкаркоўвае яе, налівае ў абедзве шклянкі, адну падсоўвае Ванеку. Ванек імгненна выпівае.*

Ну, што? Як маецеся?

ВАНЕК. Ат, усё навакол адна мура!

*Заслона падае.*

**Пераклала з чэшскай**
**Ірына ШАБЛОЎСКАЯ.**

# СІЛА БЯССІЛЬНЫХ

*(Урыўкі)*

Па Усходняй Еўропе блукае прывід, якога на Захадзе называюць "дысідэнцтвам".

Гэты прывід не зваліўся з неба. Ён натуральная праява і непазбежны вынік сучаснай гістарычнай фазы той сістэмы, па якой ён блукае. А іменна ён народжаны сітуацыяй, у якой гэтая сістэма ўжо даўно не мае апірышча і з тысячы прычын ужо не можа абапірацца на чыста брутальнай дзяржаўнай сваволі, якая б выключала любую неадпаведную ёй праяву. А, з другога боку, яна ўжо да такой ступені палітычна застыла, што амаль не дапускае трывалага існавання такой праявы ў асяроддзі яго афіцыйных структур.

Кім сапраўды з'яўляюцца гэтыя так званыя "дысідэнты"? З чаго вырастае іхняя пазіцыя і які мае сэнс? У чым сэнс гэтых "незалежных ініцыятыў", якія аб'ядноўваюць дысідэнтаў, і якія рэальныя шанцы маюць гэтыя ініцыятывы? Ці да месца ўжываць у сувязі з іхняй дзейнасцю паняцце "апазіцыя"? Калі так, то чым такая "апазіцыя", — у рамках данай сістэмы, — уласна кажучы, з'яўляецца, як дзейнічае, якую ролю адыгрывае ў грамадстве, на што спадзяецца і на што можа спадзявацца? Ці наогул маюць сілы і магчымасці дысідэнты, — як людзі, якія знаходзяцца па-за ўсімі ўладнымі структурамі і ў пазіцыі нейкіх "падграмадзян", — неяк уплываць на грамадства і грамадскую сістэму? Наогул ці яны могуць нешта змяніць?

***

Наша сістэма часцяком характарызуецца як *дыктатура*, гэта значыць дыктатура палітычнай бюракратыі над нівеліраваным грамадствам.

Калі для "класічнай" дыктатуры бывае характэрнай атмасфера рэвалюцыйнага ўзрушэння, гераізму, ахвярнасці і натхнення гвалту ў дачыненні да ўсіх партый, то апошнія рэшткі такой атмасферы ў савецкім блоку выпетрыліся. Гэты блок таксама ўжо не ўяўляе сабой нейкі энклаў, ізаляваны ад астатняга цывілізацыйна саспелага свету і не мае імунітэту да працэсаў, якія там развіваюцца. Ён, наадварот, яго інтэгральная складнікавая частка, якая падзяляе і суствараe ягоны глабальны лёс.

Калі я буду далей называць гэтую сістэму *посттаталітарнай*, то, аднак, з поўным разуменнем, што гэта хутчэй не найдакладнае азначэнне; а ўсё ж лепшае мне не трапляецца. Між іншым гэтым "пост" я не хачу сказаць, што гаворка ідзе пра сістэму, якая ўжо не з'яўляецца таталітарнай, наадварот, я хачу сказаць, што яна таталітарная, але грунтоўна *інакш* чымсьці "класічныя" дыктатуры, з якімі ў нашай свядомасці звычайна звязана паняцце таталітарызму.

***

Дырэктар крамы гародніны змясціў на вітрыне паміж цыбуляй і морквай лозунг "Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!"

Навошта ён гэта зрабіў? Што хацеў гэтым паведаміць свету? Можа, ён сапраўды ўсёй душой захоплены ідэяй яднання пралетарыяў усіх краін? Можа, ягоная палымянасць зайшла так далёка, што ён адчувае непераадольную патрэбу пазнаёміць публіку са сваім ідэалам? Ці сапраўды ён хаця б калі разважаў над тым, як бы мусіла адбыцца такое яднанне і што б яно значыла?

Думаю, можна якраз меркаваць, што пераважная большасць зяленіўшчыкаў пра тэкст лозунгаў у сваіх вітрынах абсалютна не задумваецца, не тое, каб імі выказваць нешта са свайго светапогляду.

Гэты лозунг нашаму зяленіўшчыку прывезлі з базы разам з цыбуляй і морквай, а ён выставіў яго ў вітрыне проста таму, што робіць так ужо гадамі, што гэта робяць усе, што так мусіць быць. Калі б ён не зрабіў гэтага, то мог бы мець праблемы. яму маглі б зрабіць вымову, што ў яго няма "ўпрыгожання", нават нехта б мог агаварыць яго, сказаць, што ён нелаяльны Ён зрабіў гэта таму, што так водзіцца, калі чалавек хоча ўладкавацца ў жыцці; таму што гэта адна з тысяч "драбніц", якія яму забяспечваюць адносна спакойнае жыццё "ў суладдзі з грамадствам".

Як бачым, да семантычнага зместу лозунга зяленіўшчык абыякавы, а, выстаўляючы лозунг у вітрыну, ставіць яго не таму, што асабіста жадае менавіта з гэтай ідэяй азнаёміць грамадства.

Гэта аднак не значыць, што ягоная дзея не мае ніякай матывацыі і сэнсу і што сваім лозунгам ён нікому нічога не паведамляе. Гэты лозунг мае функцыю знака і як такі заключае ў сабе хаця і схаванае, але цалкам дакладнае паведамленне. Вербальна яго можна было б выказаць так: я, зяленіўшчык XV, знаходжуся тут і ведаю, што мне рабіць, я паводжу сябе так, як ад мяне чакаюць, мне давяраюць і мяне нельга нічым папікнуць; я паслухмяны, і таму маю права на спакойнае жыццё Гэтае паведамленне натуральна мае свайго адрасата. яно накіравана "ўверх", да зяленіўшчыкавых начальнікаў, і з'яўляецца таксама шчытом, якім зяленіўшчык прыкрываецца перад выпадковымі стукачамі.

Такім чынам, у сваім дакладным значэнні лозунг тычыцца непасрэдна рэальнага існавання зяленіўшчыка: адлюстроўвае ягоны жыццёвы інтарэс. Які ж гэта інтарэс?

Уявім сабе калі б зяленіўшчыку загадалі выставіць у вітрыне лозунг "Баюся, а таму

безагаворачна паслухмяны", то ён зусім не ставіўся б да яго семантычнага зместу так індыферэнтна, нягледзячы на тое, што на гэты раз змест цалкам супадаў бы з схаваным значэннем лозунга. Зяленіўшчык, відаць, не рашыўся б выставіць у сваёй вітрыне такое недвухсэнсоўнае сведчанне свайго прыніжэння, гэта б яго крыўдзіла, ён бы пасаромеўся. Зразумела. ён жа чалавек, а значыць мае пачуццё чалавечай годнасці.

Каб пераадолець гэтую складанасць, яго сведчанне лаяльнасці павінна мець форму знака, які дэманструе хаця б сваёй тэкставай паверхняй нейкія вышэйшыя сферы бескарыслівага пераканання Трэба даць зяленіўшчыку магчымасць сказаць: ну а чаму б урэшце пралетарыі ўсіх краін не маглі б з'яднацца?

Знак якраз дапамагае схаваць перад чалавекам "нізкія" асновы яго паслухмянасці, а тым самым і "нізкія" асновы ўлады; хавае іх за фасадам чагосьці "высокага"

Гэтым "высокім" ёсць *ідэалогія*.

Ідэалогія — ілюзорная форма адносін да свету, якая прапануе чалавеку ілюзію, што ён з'яўляецца ідэнтычнай, вартай і маральнай асобай, і дапамагае яму не быць такой, яна — макет нечага "надасабовага" і нерэальнага, што дазваляе чалавеку падмануць сваё сумленне і замаскіраваць перад светам і перад самім сабой сваю сапраўдную пазіцыю і свой бясслаўны "modus vivendi" Гэта прадуктыўны, — а адначасова як бы шляхетны, — пропуск у накірунку "ўверх", "уніз" і "ўбакі", у накірунку да людзей і да Бога. Гэта вуаль, якой чалавек можа ахутаць свой "правал субстанцыі", сваё самараскрыццё і сваю адаптацыю да данага становішча Гэта *алібі*, карыснае для ўсіх: ад зяленіўшчыка, які можа свой страх за месца ахутаць пакрывалам свайго ўяўнага клопату аб з'яднанні пралетарыяў усіх краін, да найвышэйшага функцыянера, які свой клопат аб уладзе можа апрануць у словы пра службу рабочаму класу

Атрымліваецца гэткай функцыяй ідэалогіі чалавеку як ахвяры і як апоры посттаталітарнай сістэмы даецца ілюзія, што ён знаходзіцца ў суладдзі з сацыяльным парадкам і парадкам сусвету

***

Паміж памкненнямі посттаталітарнай сістэмы і памкненнямі жыцця зеўрае бездань: калі жыццё па сваёй сутнасці імкнецца да плюралізму, да стракатасці, да незалежнай самаканстытуцыі і самаарганізацыі, проста да напаўнення сваёй свабоды, то посттаталітарная сістэма патрабуе наадварот маналітнасці, уніформнасці, дысцыпліны; калі жыццё хоча пастаянна ствараць новыя "неверагодныя" структуры, посттаталітарная сістэма яму навязвае "найпраўдападобныя станы" Гэтыя памкненні сістэмы паказваюць, што яе найуласцівай асновай ёсць арыентацыя на саму сябе; на тое, каб быць усё больш "сама сабой", тым, чым яна ёсць; і каб таксама пастаянна пашыраць радыус свайго дзеяння Чалавеку такая сістэма служыць толькі ў той ступені, у якой неабходна, каб чалавек служыў ёй; як толькі што-небудзь "звыш таго", гэта значыць што-небудзь, чым чалавек перарастае сваё загадзя вызначанае становішча, то сістэма ўспрымае гэта як атаку на сябе саму

Посттаталітарная сістэма хапае чалавека сваімі патрабаваннямі на кожным кроку Хапае яго зразумела ў ідэалагічных пальчатках Таму жыццё ў ёй наскрозь прарослае пазнакамі крывадушнасці і хлусні, улада бюракратыі называецца ўладай народа; у імя рабочага класа прыгнятаецца рабочы клас; усебаковае прыніжэнне чалавека выдаецца за яго канчатковае вызваленне, ізаляцыя ад інфармацыі называецца забеспячэннем ёю, маніпуляцыя грамадскім кантролем і ўладная сваволя — падтрыманнем правапарадку; падаўленне культуры — яе развіццём, пашырэнне імперскага ўплыву выдаецца за падтрымку прыгнечаных; несвабода слова — за найвышэйшую форму свабоды, выбарчы фарс — за найвышэйшую форму дэмакратыі; забарона незалежнага мыслення — за звышнавуковы светапогляд; акупацыя — за братэрскую дапамогу Улада ў палоне ўласнай хлусні, а таму мусіць фальсіфікаваць. Фальсіфікуе мінуўшчыну. Фальсіфікуе сучаснасць і фальсіфікуе будучыню Фальсіфікуе статыстычныя даныя Робіць выгляд, што не мае ўсемагутнага і гатовага на ўсё паліцэйскага апарату. Робіць выгляд, што шануе правы чалавека. Робіць выгляд, што не робіць ніякага выгляду

Чалавек не абавязаны верыць ува ўсе гэтыя містыфікацыі. Аднак абавязаны так паводзіць сябе, нібыта жыве з верай у іх, альбо мусіць іх маўкліва цярпець, ці хаця б абыходзіцца лаяльна з тымі, хто аперыруе імі.





Ужо адно таму ён мусіць *жыць у хлусні.*

Ён не абавязаны прымаць хлусню. Досыць, што прыняў жыццё з ёй і ў ёй Ужо гэтым ён пацвярджае сістэму, напаўняе яе, стварае яе, *ёсць ёй*.

***

Мы ўбачылі, што сапраўдны змест лозунга зяленіўшчыка ніяк не адпавядае таму, аб чым гаворыць тэкст лозунга. Нягледзячы на гэта, сапраўдны змест цалкам ясны і агульназразумелы Гэта выклікана агульнавядомасцю зададзенага кода зяленіўшчык прадэклараваў сваю лаяльнасць, — і нічога іншага яму не заставалася, каб зрабіць сваё прызнанне відавочным, — і гэта быў адзіны спосаб, праз які яго магла пачуць грамадская ўлада і зразумець, што ён прыняў прадпісаны *рытуал*, прызнаў "эдані" за рэчаіснасць і тым прыняў дадзеныя "правілы гульні". Тым аднак, што ён прыняў іх, ён сам уступіў у гульню, стаўся іграком, зрабіў магчымым, каб гульня ішла, каб яна наогул працягвалася, каб яна проста была.

Разам з тым, гэты "дыктат рытуалу" прыводзіць да таго, што ўлада яўна *ананімізіруецца*; чалавек амаль растварaецца ў рытуале, паддаецца яго руху і часта здаецца, нібыта гэта сам рытуал выносіць людзей з прыцемкаў да святла ўлады. Ці ж не характэрна для посттаталітарнай сістэмы, што на ўсіх узроўнях уладнай іерархіі індывідуальнасці ўсё больш выціскаюцца людзьмі без твару, манекенамі, уніформнымі слугамі рытуалу і ўладнай руціны?

Заходнія "саветолагі" часта пераацэньваюць ролю адзінак у посттаталітарнай сістэме і не заўважаюць, што вядучыя асобы, — нягледзячы на неабмежаваную ўладу, якую ім дае цэнтралізаваная структура ўлады, — з'яўляюцца часта ні чым большым, чымсьці сляпой функцыяй заканамернасці сістэмы, заканамернасці, якую звычайна самі яны не адлюстроўваюць і не могуць адлюстроўваць.

Гэтая заканамернасць — адно з апірышчаў вонкавай стабільнасці сістэмы

Але гэтае апірышча стаіць на хісткім падмурку, гэта значыць, *на хлусні* Спраўджаецца яно толькі да пары, пакуль чалавек згодзен жыць у хлусні

***

Чаму наш зяленіўшчык мусіў выставіць сваё прызнанне ў лаяльнасці ажно ў вітрыне? Хіба ён не выказаў дастаткова сваю паслухмянасць рознымі агульнапрынятымі або паўпублічнымі метадамі? На прафсаюзных сходах ён жа галасаваў так, як трэба; уключыўся ў розныя спаборніцтвы, рэгулярна ўдзельнічаў у выбарах, нават і "антыхартыю" падпісаў Навошта яму трэба рабіць яшчэ публічныя заявы? Людзі ж, якія ідуць міма ягонай вітрыны, ніяк не спыняюцца перад ёю, каб прачытаць, што пралетарыі ўсіх краін павінны б, паводле зяленіўшчыкавай думкі, з'яднацца. Яны проста не чытаюць гэтага лозунга, можна нават меркаваць, што і не бачаць яго

Пажаданне, каб зяленіўшчык зрабіў публічную заяву, здаецца бессэнсоўным. Аднак яно не бессэнсоўнае. Людзі ягоны лозунг хутчэй не ўспрымаюць, аднак не ўспрымаюць яго толькі таму, што такія лозунгі ёсць і ў іншых вітрынах, у вокнах, на дахах, на электрычных слупах, проста паўсюль, таму што такім чынам ствараецца нешта падобнае на *панараму іхняй штодзённасці.* Гэтую панараму, — як цэлае, — яны ўсё ж усведамляюць вельмі добра. А чым іншым з'яўляецца зяленіўшчыкавы лозунг, як не малой складнікавай часткай гэтай вялікай панарамы?

Раённы горад, залеплены лозунгамі, якіх ніхто не чытае, на самай справе ёсць асабістай справаздачай раённага сакратара абласному сакратару, а адначасова гэта і нешта большае: прыклад прынцыпу *грамадскай "самататалітарнасці"* Гэты прынцып з'яўляецца асновай посттаталітарнай сістэмы, таму што прыцягвае да ўладнай структуры кожнага чалавека, аднак не дзеля таго, каб той рэалізаваў сваю чалавечую ідэнтычнасць, а дзеля таго, каб адрокся ад яе на карысць "ідэнтычнасці сістэмы".

***

А цяпер уявім, што ў нашым зяленіўшчыку аднойчы нешта заўпарціцца і ён кіне вывешваць лозунгі толькі дзеля таго, каб спадабацца; кіне хадзіць на выбары, пра якія ведае, што ніякія яны не выбары; на сходах пачне гаварыць тое, што сапраўды думае,

і ўрэшце знойдзе ў сабе сілы салідарызавацца з тымі, з кім ягонае сумленне яму кажа салідарызавацца

Гэтым сваім бунтам зяленіўшчык выйдзе з "жыцця ў хлусні", адрыне рытуал і парушыць "правілы гульні", зноў знойдзе сваю ідэнтычнасць і годнасць; напоўніць сваю свабоду Ягоны бунт станецца спробай *жыцця ў праўдзе*.

Рахунак яму выстаўляць хутка ён будзе пазбаўлены месца загадчыка і пераведзены ў грузчыкі; ягоны заробак панізіцца, надзеі на адпачынак у Балгарыі знікнуць, будзе пад пагрозай далейшая вучоба ягоных дзяцей Начальнікі стануць яго папіхаць, куды ім захочацца, а супрацоўнікі будуць з яго дзівіцца

Большасць з выканаўцаў гэтых санкцый не будзе аднак дзейнічаць па свайму ўласнаму жаданню, а проста пад ціскам "умоў", тых жа самых умоў, пад ціскам якіх зяленіўшчык раней выстаўляў свае лозунгі. Яны будуць праследаваць зяленіўшчыка або таму, што гэтага ад іх чакаюць, або таму, што трэба паказаць сваю лаяльнасць, або таму, што на фоне сучаснай панарамы, у якую ўключана і ізняя свядомасць, менавіта такім чынам вырашаюцца падобныя праблемы, што менавіта так трэба іх вырашаць, карацей, што так прынята — калі б чалавек гэтага не зрабіў, то сам стаў бы падазроным Выканаўцы санкцый паводзяць сябе ў прынцыпе толькі так, як у падобнай сітуацыі паводзяць сябе ўсе яны з'яўляюцца складовымі часткамі посттаталітарнай сістэмы, як носьбіты яе "самаруху", як дробныя прылады грамадскага "самататалітарызму"

***

Чаму быў выгнаны з сваёй радзімы Салжаніцын? Ясна, ні ў якім разе не таму, што камусьці ён пагражаў непасрэдна, гэта значыць не таму, што нейкі прадстаўнік рэжыму неяк пачуваў пагрозу небяспекі, бо Салжаніцын сядзе на ягонае месца, яго выгнанне было нечым іншым: адчайнай спробай пагасіць страшны прамень праўды, праўды, з якой ніхто наперад не мог адгадаць, якія змены ў свядомасці яна можа выклікаць і да якіх палітычных узрухаў могуць прывесці гэтыя змены Посттаталітарная сістэма дзейнічала ўласцівым ёй метадам, каб захаваць цэласнасць свету "зданяў", і тым захаваць сабе.

Покрыва "жыцця ў хлусні" з дзіўнай матэрыі· пакуль яно пакрывае ўсё грамадства так, што не прадыхнуць, яно здаецца каменным; аднак у імгненне, калі нехта прарве яго хаця б у адным месцы, калі хаця б адзін чалавек крыкне. "А кароль голы!", калі хаця б адзін ігрок парушыць правілы гульні і тым самым увідавочыць, што гэта гульня, усё раптам паўстае ў іншым святле, покрыва раптам паўсюдна пачынае дзіравіцца і распададацца

Пражскую вясну часам інтэрпрэтуюць як сутыкненне дзвюх групаў у плоскасці фактычнай улады тых, якія хацелі захаваць сістэму такой, як была, і тых, якія яе хацелі рэфармаваць. Але пры гэтым забываюць, што тое сутыкненне было толькі заключным актам і знешнім вынікам шматгадовай драмы, якая разыгрывалася перадусім і найперш у сферы духу і свядомасці грамадства. І што недзе на пачатку гэтай драмы былі адзінкі, якія здолелі і ў найгоршую пару жыць у праўдзе Гэтыя людзі не мелі фактычнай улады і не імкнуліся да яе, прасторай іхняга "жыцця ў праўдзе" нават не абавязкова была палітычная рэфлексія, гэта маглі быць паэты, мастакі, музыканты; а ўвогуле, гэта былі не абавязкова творчыя людзі — звычайныя грамадзяне, якія здолелі захаваць сваю чалавечую годнасць. Натуральна, цяжка сёння ўбачыць, калі і якімі звілістымі сцежкамі ўплываў той ці іншы сапраўдны чын ці пазіцыя на тое ці іншае асяроддзе і як паступова вірус праўды пашыраўся ў целе "жыцця ў хлусні" і падточваў яго Адзінае ўсё ж здаецца відавочным· спроба палітычнай рэформы была не прычынай абуджэння грамадства, а яго канчатковым вынікам.

***

Глыбокі крызіс ідэнтычнасці чалавека, які быў выкліканы "жыццём у хлусні" і які сам жа фармаваў гэтае "жыццё", безумоўна, мае сваё маральнае вымярэнне· ён праяўляецца між іншым як глыбокі *маральны крызіс грамадства*. Чалавек, падпарадкаваны шкале спажывецкіх каштоўнасцяў, "распушчаны ў амальгаме цывілізацыйнай статкавасці і не замацаваны ў ладзе быцця пачуццём вышэйшай адказнасці, а не толькі адказнасці за





ўласнае выжыванне", з'яўляецца чалавекам *дэмаралізаваным*, і сістэма абапіраецца на гэтую яго дэмаралізаванасць, паглыбляе, і становіцца яе грамадскай праекцыяй

"Жыццё ў праўдзе" як бунт чалавека супраць навязанай пазіцыі, наадварот, з'яўляецца спробай зноў ухапіцца за сваю ўласную адказнасць; і гэты акт відавочна *маральны* Не толькі таму, што за яго чалавек павінен так дорага плаціць, але перадусім таму, што гэта яму без карысці можа ягоны маральны ўчынак "аплаціцца" яму нармалізацыяй жыцця, а можа і не, у гэтым сэнсе гаворка ідзе, як я ўжо казаў, пра гульню "ў цёмную" і наўрад ці можна сабе ўявіць, каб у яе разумны чалавек уступаў з чыстага разліку, з разліку таго, што заўтра яго сённяшняя ахвяра акупіцца — хаця б у форме ўдзячнасці сёння. (У прынцыпе абсалютна заканамерна, што прадстаўнікі ўлады таму, хто "жыве ў праўдзе", звычайна не могуць даць рады інакш, чым і яму падсунуць карыслівую матывацыю, — прагу моцы або славы, або грошай, — і імкнуцца хаця б такім чынам уключыць яго ў свой свет, які цяпер называецца дэмакратычным.)

***

Найважнейшай палітычнай падзеяй ў Чэхаславакіі пасля прыходу да кіраўніцтва Гусака ў 1969 годзе было, безумоўна, выступленне "Хартыі-77". Аднак духоўную атмасферу для гэтага выступлення непасрэдна не падрыхтавала ні адна палітычная падзея· яе падрыхтаваў судовы працэс над маладымі музыкантамі з гурту "The Plastic People" Працэс, у якім сышліся ў супрацьстаянні не дзве палітычныя сілы або канцэпцыі, а два разуменні жыцця на адным баку стэрыльны пурытанізм посттаталітарнага істэблішмэнту, на другім баку невядомыя маладыя людзі, якія не хацелі нічога, як толькі жыць у праўдзе іграць музыку, якая ім падабаецца, спяваць пра тое, чым яны сапраўды жывуць, жыць свабодна, годна і па-братэрску То былі людзі без палітычнага мінулага, ніякія не свядомыя палітычныя апазіцыянеры з нейкімі палітычнымі амбіцыямі, не былыя палітыкі, выключаныя з уладных структур Гэтыя людзі мелі ўсе магчымасці, каб адаптавацца да існуючага ладу, прыняць "жыццё ў хлусні" і жыць спакойна і бяспечна. Але яны вырашылі інакш. Таму, або дакладней, менавіта таму іхні пратэст меў асабісты водгук: ён датычыў менавіта кожнага, хто яшчэ не скарыўся. Больш таго, іхні пратэст надарыўся своечасова, калі пасля гадоў чакання, апатыі і скепсісу да розных форм непакорлівасці пачала праступаць новая з'ява. нейкая "стома ад стомы", калі людзям ужо пачынала надакучаць гэтае бясплённае чаканне і пасіўнае выжыванне ў надзеі, што калі-небудзь справы ўсё ж пойдуць на лепшае У пэўным сэнсе то была апошняя кропля, якая перапоўніла чашу. І шмат розных групаў і плыняў, ізаляваных да гэтай пары між сабой, насцярожаных і неахвотна ўступаючых у справу ўзгаднення тактыкі, раптам і разам адчулі непадзельнасць свабоды· усе зразумелі, што наступ на чэшскі музычны андэрграўнд ёсць наступам на нешта грунтоўнае і вельмі істотнае; наступам супраць таго, што аб'ядноўвала ўсіх, а менавіта супраць "жыцця ў праўдзе", супраць натуральных памкненняў жыцця. Свабода музыкі рок была ўспрынята як свабода чалавека, а значыць і як свабода філасофскай і палітычнай рэфлексіі, як свабода літаратуры, як свабода выказваць і бараніць самыя розныя сацыяльныя і палітычныя інтарэсы грамадства. У людзях абудзілася сапраўднае пачуццё салідарнасці, і яны асэнсавалі, што калі не паўстаць на абарону свабоды іншых, — хаця б яны былі сваёй творчасцю і сваім адчуваннем жыцця вельмі далёкімі ад іх, — значыць, добраахвотна адрачыся і ад уласнай свабоды.

Менавіта гэта пацвердзіў 1968 год у Чэхаславакіі камуністычныя палітыкі, якія тады паспрабавалі правесці рэформу сістэмы, не мелі сваёй праграмы і не сталіся тым, чым сталіся, таму што з імі адбылося нейкае містычнае прасвятленне, і яны раптам прынялі вядомае рашэнне, так сталася таму, што іх да гэтага падвёў працяглы і ўсё мацнеючы ціск з тых сфераў, якія з палітыкай у традыцыйным сэнсе слова не маюць нічога агульнага.

Гледзячы звонку, — а перадусім з пазіцыі сістэмы і яе ўладнай структуры, — узнікненне "Хартыі-77" адбылося як неспадзеўка, падалося, што яна звалілася з неба. З неба, напэўна, яна не звалілася, але такое ўражанне было зразумелым: зрухі, якія да яе прывялі, адбываліся ў "схаванай сферы", у тых прыцемках, дзе так цяжка штонебудзь дакладна вызначыць і прааналізаваць. Тое, што гэты рух узнікне, прадугледзець было не лягчэй, чым сёння прадугледзець, да чаго ён прывядзе ўвогуле Паўторымся,

гэта быў шок, характэрны для моманту, калі нешта з "схаванай сферы" раптам прарывае змярцвелую паверхню "жыцця ў хлусні". Чым больш нехта паглыблены ў свет "зданяў", тым большая для яго неспадзеўка, калі нешта такое здараецца.

***

Калі некаторыя найбольш значныя палітычныя імпульсы апошніх гадоў у розных краінах савецкага блока зыходзілі, — прынамсі на першых этапах, перш чым прывялі да нейкіх наступстваў у плоскасці фактычнай улады, — пераважна ад матэматыкаў, філосафаў, фізікаў, пісьменнікаў, гісторыкаў, простых рабочых і г.д., а не ад палітыкаў, і калі рухавіком розных "дысідэнцкіх рухаў" былі асобы "непалітычных" прафесій, то гэта не таму, што гэтыя людзі былі хітрэйшыя за тых, якія адчуваюць сябе ў першую чаргу палітыкамі, а найперш таму, што яны ў меншай ступені былі абцяжараныя і звязаныя палітычным мысленнем і палітычнымі звычкамі — гэта значыць *традыцыйным* палітычным мысленнем і *традыцыйнымі* палітычнымі звычкамі, — але, што парадаксальна, яны былі больш адкрытымі да палітычнай рэчаіснасці, якой яна сапраўды ёсць, і мелі больш вострае адчуванне таго, што́ ў ёй можна і што́ трэба рабіць.

***

У адрозненне ад *"класічнай"* дыктатуры, пры якой дзяржаўная воля рэалізуецца ў значна большай ступені *непасрэдна* і без правіл, таму што няма прычын утойваць свае прынцыпы і хаваць рэалізацыю ўлады, і з гэтага не трэба лішне абцяжарвацца юрыдычным абгрунтаваннем, посттаталітарная сістэма, наадварот, проста апантаная патрэбай аблытаць усё распарадкам: жыццё ў ёй усюды праткана сеткай прадпісанняў, аб'яў, дырэктыў, нормаў, загадаў і правіл. (Нездарма яе называюць *бюракратычнай* сістэмай) Вялікая частка ўсіх гэтых нормаў з'яўляецца непасрэдным інструментам той комплекснай маніпуляцыі жыццём, якая ўласціва посттаталітарнай сістэме ведома, чалавек у ёй ёсць толькі нябачнай шрубкай гіганцкага механізма, яго значэнне абмежавана ягонай функцыяй у гэтым механізме, праца, дом, рух, грамадскія і культурныя праявы — усё павінна быць як мага больш пэўна зНітавана, усталявана і закантралявана. Кожнае адхіленне ад прадпісанай хады жыцця разглядаецца як хіба, свавольства і анархія. Ад кухара ў рэстаране, які не можа без праблемаў атрымаць згоду бюракратычнага апарату, каб згатаваць для гасцей ласунак, што не патрапляе ў дзяржаўныя нормы, да спевака, які не можа без згоды бюракратычнага апарату спяваць на канцэрце новую песню, — усе людзі ва ўсіх жыццёвых праявах аблытаны гэтымі бюракратычнымі путамі прадпісанняў, якія ў сваёй суме – заканамерны прадукт посттаталітарнай сістэмы, што ўсё шчыльней сцінае ўсе памкненні жыцця на манер свайго ўласнага памкнення да бесканфліктнага "самаруху".

***

У сітуацыі, калі людзі, што адважыліся на "жыццё ў праўдзе", не могуць як-небудзь непасрэдна ўплываць на існуючыя грамадскія структуры, больш таго, самарэалізоўвацца ў іх рамках, яны пачынаюць ствараць тое, што я назваў "незалежным жыццём грамадства", і яно абавязкова пачынае само з сябе пэўным спосабам структурыраваць гэтае "другое", незалежнае жыццё.

Гэтая "другая культура" абсалютна натуральна стварае свае элементарныя арганізацыйныя формы. "самвыдатаўскія" творы і часопісы, прыватныя спектаклі і канцэрты, семінары, выставы і г.д. Культура, такім чынам, з'яўляецца сферай, дзе "паралельную структуру" можна прасачыць у найбольш развітым выглядзе.

***

Зыходны пункт гэтых рухаў і іхнія патэнцыяльныя палітычныя сілы ляжаць не ў канструкцыі сістэмных змен, а ў рэальным і штодзённым змаганні за лепшае жыццё "тут і цяпер". Палітычныя і сістэмна-структурныя праявы, якія жыццё знойдзе сабе, будуць, відаць, заўжды, — альбо яшчэ вельмі доўга, — абмежаваныя, палавінчатыя, недастатковыя і забруджаныя маразмам тактыкі; інакш проста не можа быць; трэба з гэтым лічыцца і не адчайвацца У рэшце рэшт істотна, каб тое галоўнае, гэта значыць штодзённая, няўдзячная і бясконцая барацьба за годнае жыццё ў свабодзе і ў праўдзе,





не вызначала ніколі сабе ніякіх абмежаванняў, не было ніколі палавінчатым, непаслядоўным, каб яно не трапляла ў пасткі палітычнай гульні ў тактыку, спекуляцыю і фантазіраванне.

***

Выхад з маразму свету нам не вядомы, і было б праявай недаравальнай пыхі, каб мы меркавалі пра тое малое, што мы робім, як пра сапраўднае выйсце, і калі ўрэшце саміх сябе, свае грамадства і свае экзістэнцыйныя рашэнні прапанавалі камусьці як прыклад таго, што выключна мае сэнс рабіць.

Таму я думаю, што на фоне ўсіх папярэдніх заўваг пра посттаталітарныя ўмовы, пра пазіцыі асобы і ўнутраную канстытуцыю спробаў бараніць у гэтых умовах чалавека і яго ідэнтычнасць былі дарэчы пытанні якія я згадаў. Наогул паўстае пытанне· ці сапраўды існуе "светлая будучыня" і ці заўсёды гэта справа толькі нейкага аддаленага "там" А што калі наадварот: гэта ёсць нешта, што ўжо даўно тут, і толькі наша невідучасць і кволасць замінаюць нам бачыць яго і разгортваць вакол сябе і ў сабе?

*Градэчэк, кастрычнік 1978.*

**Пераклаў з чэшскай**
**Валерый БУЙВАЛ.**

# ПРАМОВЫ

## *У Акадэміі гуманітарных і палітычных навук. Парыж. 27.10.1992.*

Шаноўны пан старшыня, шаноўныя калегі, шчыра дзякую за гонар абрання мяне ў сябры славутай французскай Акадэміі гуманітарных і палітычных навук, што я ўспрымаю як вялікую падтрымку сёння і вялікі абавязак на будучае Быць да канца сваіх дзён сярод вас азначае для мяне — да канца дзён адпрацоўваць вашу ўвагу Абяцаю вам, што паспрабую гэта зрабіць.

Прыемны абавязак для мяне — адпаведна мудрай традыцыі Вашай Акадэміі — згадаць у гэтую хвіліну з павагай майго папярэдніка, італьянскага эканаміста Джузепе Уго Папі, чыя дзейнасць, якая датычыць між іншым і ўмацавання міжнародных структур гаспадарчага супрацоўніцтва, далёка пераўзышла межы сваёй бацькаўшчыны.

Спадары і спадарыні, я прыехаў да вас з краіны, якая доўгія гады чакала сваёй свабоды Дазвольце мне з гэтай нагоды кароткі роздум пра феномен чакання.

Чакаць можна па-рознаму.

На адным баку вялікага спектра ўсіх магчымых варыянтаў чакання знаходзіцца чаканне Гадо як увасабленне універсальнага сродку абароны альбо выратавання Чаканне многіх з нас — людзей, якія жылі ў камуністычнай прасторы, — было вельмі набліжана да гэтай крайняй мяжы. Акружаныя і, так бы мовіць, прашнураваныя, каланізаваныя з сярэдзіны таталітарнай сістэмай, людзі страцілі ўяўленне аб выйсці, волю да дзеяння і веру, што нешта наогул можна зрабіць. Карацей кажучы, страцілі надзею. Аднак не страцілі і не маглі страціць патрэбу ў надзеі, бо без надзеі жыццё губляе сэнс. Таму чакалі Гадо. Не маючы надзеі ў сабе, чакалі яе ў выглядзе нейкага невыразнага паратунку звонку. Але Гадо — прынамсі той, якога чакаюць, — не прыйдзе, бо яго проста няма. Гэта толькі эрзац надзеі. Гэта не надзея, а хутчэй ілюзія Гэта вынік асабістай немачы. Латка на дзіравай душы. Латка сама дзіравая. Гэта надзея людзей без надзеі

На другім баку спектра бачым чаканне зусім іншага кшталту: чаканне як цярпенне.

Гэтае чаканне трымалася на ўпэўненасці, што гаварыць праўду і тым супрацiўляцца само па сабе ўжо мае прынцыповае значэнне, таму што штурхае дзейнічаць, а не разважаць, да чаго гэта прывядзе заўтра, альбо паслязаўтра, ці яшчэ калі-небудзь. Такое чаканне вырастала з веры, што паўтараць бунтарскую праўду мае сэнс і рабіць гэта трэба без аглядкі на тое, прызнаюць яе калі-небудзь, ці не, пераможа яна ў будучым ці будзе задушана, паўтараць яе мае сэнс і прынамсі азначае, што хай сабе адзінкі, але ёсць нехта, хто не прымае ўлады хлусні. Адначасова з веры — хай сабе другаснай — вырастала думка, што пасеянае семя абавязкова ўзыдзе і дасць плён Невядома калі. Некалі. Магчыма, ужо за іншымі генерацыямі

Такая пазіцыя, якую збольшага можна назваць дысідэнцкай, патрабавала і паставала цярпенне. Вучыла чаканню. Чаканню як цярпенню. Чаканню як стану надзеі, ні ў якім разе безнадзейнасці. Можна было б думаць, што такое чаканне Гадо не мае сэнсу, што яно наогул самападман і непатрэбнае марнаванне часу, але ж гэты другі тып чакання мае сэнс, бо яно не салодкая хлусня, але горкае жыццё ў праўдзе, якое не марнуе часу, а надае яму сэнс. Чакаць верагодны плён ад сяўбы, якая па сутнасці сваёй дабро, гэта не тое, што чакаць Гадо. Чакаць Гадо азначае чакаць, ці не вырасце для нас лілея, якую мы ніколі не садзілі.

Зразумейце мяне грамадзяне камуністычнага свету не падзяляліся на тых, хто толькі чакаў Гадо, і на дысідэнтаў. Усе мы былі часам у пэўным сэнсе чакальнікамі Гадо, часам у пэўным сэнсе дысідэнтамі, хтосьці пераважна і часцей быў сярод адных, хтосьці наадварот — сярод другіх. Прынамсі, наш вопыт дазваляе прыйсці да высновы, што адно чаканне не падобнае на другое

Зразумела, што мае разважанні пра чаканне выкліканы не настальгіяй па мінулым. Разважаю я пра гэта, каб асэнсаваць, што азначае гэты вопыт у кантэксце мінулага і для будучыні

Дазвольце мне на момант засяродзіцца на асабістым: нягледзячы на тое, што ў дысідэнцтве была загартаваная мая цярплівая здольнасць чакаць, заснаваная на ўпэўненасці, што маё чаканне небессэнсоўнае, тым не менш у апошнія тры гады — пасля нашай мірнай антытаталітарнай рэвалюцыі — мяне ўсё болей ахоплівала нецярплівасць, блізкая да адчаю Пакутаваў я ад таго, што змены ідуць занадта марудна, што мая краіна ўсё яшчэ не мае новай дэмакратычнай канстытуцыі, што чэхі і славакі ніяк не могуць дамовіцца, жыць ім у адной дзяржаве альбо ў дзвюх, што недастаткова хутка набліжаемся да дэмакратычнага Захаду і яго структураў, што ўсё ніяк не наважымся разумна расквітацца са сваім мінулым і занадта памалу пазбаўляемся ад таго, што пакінуў нам стары рэжым, яго маральнай спустошанасці

З адчаем я марыў, каб хоць што-небудзь ужо здзейснілася Каб хоць нейкую з гэтых праблем мог выкрасліць як, так бы мовіць, вырашаную і тым самым неіснуючую Каб мая праца на чале нашай дзяржавы ўжо мела нейкі бачны, бясспрэчна адчувальны, істотны, гэта значыць вычарпальна завершаны, вынік. Увесь час я не мог мірыцца з тым, што палітыка — гэта працэс бясконцы, раўнуючы, як і сама гісторыя, працэс, які ніколі не дазваляе сказаць, што ўжо нешта канчаткова дапрацавана, завершана, выканана.

Я быццам бы зусім забыўся на чаканне, на той адзіны варыянт чакання, які мае сэнс.

Толькі цяпер, калі з'явіўся час і момант паразважаць пра ўсё гэта на пэўнай адлегласці, я пачынаю разумець, што ў маім нецярпенні было акурат тое, што я заўсёды аналізаваў крытычна, а менавіта — згубная нездольнасць чакаць як характэрная рыса сучаснай тэхнакратычнай цывілізацыі, якая вырастае з ганарлівага рацыяцэнтрызму і яго памылковай перакананасці, што свет — гэта проста красворд, які трэба разгадаць, што існуе толькі адзіны магчымы і правільны — так званы аб'ектыўны — шлях яго разгадкі і ён залежыць выключна толькі ад мяне, калі мне пашчасціць.

Нават не ўсведамляючы гэтага, я de facto падпарадкоўваўся скажонаму ўяўленню, што я з'яўляюся абсалютным гаспадаром над рэчаіснасцю, гаспадаром, адзіная мэта якога злепшыць гэтую рэчаіснасць паводле нейкага загадзя падрыхтаванага рэцэпта. Паколькі тэрмін залежыць толькі ад мяне, то чаму б гэта не зрабіць зараз жа.

Карацей кажучы, я думаў, што час належыць мне.

Было гэта аднак вялікай памылкай.





Свет, быццё і гісторыя маюць свой уласны час, на які мы можам творча ўздзейнічаць, але ніхто з нас не здольны цалкам уладарыць над ім Свет і быццё слепа не падпарадкоўваюцца загадам тэхнакрата альбо тэхніка ад палітыкі і існуюць не дзеля таго, каб здзяйсняць нечыя пражэкты. Свет і быццё супрацьстаяць часу гэтых апошніх, разам з тым — прароцтвам аб сваёй пагібелі. І паколькі свет і быццё маюць свае нечаканасці і свае таямніцы, якія ўжо колькі разоў ставілі сучасны — гэта значыць па сутнасці асветніцкі — розум у тупік, то яны маюць і свой уласны пакручасты рух. Жаданне пазбегнуць гэтай невытлумачальнай пакручастасці праз розныя штучныя збудаванні знамянуе вялікую рызыку — ад страты падземных водаў да трагічных змен у біясферы.

Разважаючы цяпер пра сваё палітычнае нецярпенне, па-новаму ўсведамляю ісціну, што палітычны дзеяч сучаснасці і будучыні — дазвольце мне ўжыць выраз постмадэрны палітык — мусіць навучыцца чакаць, у найлепшым і найглыбейшым значэнні гэтага слова. Гэта ані ў якім разе не азначае чакаць Гадо. Чаканне палітыка мусіць быць праявай шанавання ўнутранага руху і заканамернасцяў быцця, прыроды рэчаў, іх непаўторнасці і непаўторнага развіцця, якія паўстаюць супраць кожнай гвалтоўнай маніпуляцыі. Чаканне яго мусіць кіравацца адзіным жаданнем стварыць для кожнай з'явы магчымасць выявіць тое, што сапраўды складае яе сутнасць. Яго паводзіны не павінны абапірацца на безасабовы аналіз, але на асабістыя погляды Не ганарлівасць, а пакора павінны тут быць асновай

Свет нельга трымаць пад татальным кантролем, паколькі гэта не механізм. Нельга яго і цалкам перабудаваць на аснове нейкай тэхнічнай канцэпцыі. Утапісты, якія зыходзяць з гэтых меркаванняў, толькі яшчэ больш паглыбляюць пакуты Калі галоўным рухавіком палітычнай акцыі становіцца розум, адарваны ад унікальнай душы чалавечай, ён у рэшце рэшт можа прывесці толькі да гвалту. Быццё паўстае супраць парадку, навязанага яму розумам, які забыўся, што сам ён — толькі невялікая складаная часціна бясконца багатай разнастайнасці свету. Чым больш дакладна і нецярпліва свет укладваецца ў рацыянальныя катэгорыі, тым больш непрадказальныя выбухі ірацыяналізму

Так і я — саркастычны крытык усялякіх напышлівых вытлумачальнікаў свету — вымушаны быў нагадаць сабе самому, што свет нельга толькі тлумачыць, але яго трэба і разумець. Недастаткова даводзіць яму толькі свае словы, але трэба прыслухацца да паліфаніі яго часта супрацьлеглых сігналаў і стала адчуваць іх. Недастаткова толькі навукова апісваць механіку рэчаў і з'яў, трэба ўспрымаць і адчуваць іх асабістую душу Нельга спадзявацца толькі на тыя схемы, праз якія мы ўплываем на свет, трэба шанаваць і бясконца больш складаную гармоніяграму, якую свет складае сам і якая ёсць складнікам тысяч непаўторных гармоніяграмаў бясконцага мноства прыродных, гістарычных і побытавых з'яў

Нельга чакаць Гадо

Гадо не прыйдзе, таму што яго няма

Але ж Гадо нельга і выдумляць. Тыповы прыклад выдуманага Гадо, менавіта Гадо, які прыходзіць, а значыцца, несапраўднага Гадо, які быццам бы меўся нас выратаваць, а на самай справе толькі нішчыў нас і марнаваў, быў камунізм.

З жахам я ўсвядоміў, што ў маёй нецярплівасці пры аднаўленні дэмакрытыі было сапраўды нешта камуністычнае. Гаворачы больш абагульнена: штосьці рацыяналістычна-асветніцкае. Я хацеў падштурхнуць гісторыю наперад тым самым шляхам, якім дзіця намагаецца дасягнуць таго, каб кветка хутчэй расла. яно цягне кветку.

Мяркую, што чаканню трэба вучыцца, як творчасці. Трэба цярпліва сеяць зерне, старанна паліваць засеяную глебу і чакаць столькі часу, колькі патрабуецца самой расліне, каб вырасці.

Як нельга падмануць расліну, так нельга падмануць і гісторыю. Але і гісторыю трэба "паліваць". Цярпліва і кожны дзень. Не толькі з розумам, не толькі з пакорай, але і з любоўю.

Я ўпэўнены, калі палітыкі і простыя грамадзяне вывучацца чаканню ў найлепшым значэнні гэтага слова, чаканню як праяве шляхетнай павагі да ўнутранай сутнасці рэчаў і тых глыбінь, у якія нам ніколі не дадзена зазірнуць да канца, калі яны зразумеюць, што ўсё на свеце падлягае свайму часу, і аднолькава важна не толькі тое, што яны хочуць

ад свету і гісторыі, але і тое, што свет і гісторыя чакаюць самі, то тады з чалавецтвам не павінна стацца самае горшае, як часам нам гэта ўяўляецца сёння.

Спадары і спадарыні, я прыехаў да вас з краіны, якая перапоўнена нецярплівымі людзьмі. Іх нецярпенне можна растлумачыць тым, што яны так доўга чакалі Гадо і цяпер ім здаецца, што Гадо нарэшце прыйшоў. Гэта памылка такая ж вялікая, як і тая, на якой трымалася іх чаканне Ніякі Гадо не прыйшоў. І гэта добра, бо калі б нейкі там Гадо і прыйшоў, то хутчэй той выдуманы, той камуністычны. Даспела нарэшце тое, што мусіла даспець. Магчыма яно б саспела раней, калі б мы лепей палівалі. А зараз перад намі адзіная мэта: плён, які знялі, ператварыць у новую сяўбу і зноў цярпліва паліваць ніву

Калі мы ўпэўнены, што ніва засеяна добра і мы яе добра паліваем, у нас няма падстаў для нецярпення. Дастаткова ўсведамляць, што наша чаканне мае сэнс.

Чаканне мае сэнс, калі расце з надзеі, а не з безнадзейнасці, з веры, а ніколі з адчаю, з пакоры перад рухам быцця, а ніколі са страху перад яго велічным спакоем, — такому чаканню спадарожнічае не нуда, але напружаная праца. Такое чаканне ёсць нешта большае за простае чаканне

Гэта жыццё Жыццё як радасць супольных намаганняў на карысць цуду быцця.

Дзякую вам за ўвагу

## *Пры атрыманні ўзнагароды Афін*

Спадар старшыня,
ваша высокасць,
спадары і спадарыні,
як чалавек, чые жыццёвыя намаганні звязаны з барацьбой за дэмакратыю ў сваёй краіне, я глыбока ўзрушаны, што знаходжуся — упершыню ў сваім жыцці — у Афінах, гэтай калысцы дэмакратыі, што я тут з тае нагоды, каб атрымаць самую знакамітую тутэйшую ўзнагароду, узнагароду Афін.

Тое, што мы разумеем пад дэмакратыяй, узнікла ў гэтым горадзе і ў гэтай краіне два з паловай тысячагоддзі таму назад. І тут дарэчы пытанне, чым сённяшняе разуменне гэтага паняцця адрозніваецца ад тагачаснага і што ў гэтым адрозненні можа нас зацікавіць менавіта сёння

Скажу адразу, у чым мне асабіста бачыцца найважнейшае адрозненне: у той час як старажытнагрэчаская дэмакратыя была звязана са словам агара, з інстытуцыяй пляца як месца, дзе ў раўнапраўным дыялогу грамадзян, якія размаўляюць паміж сабою непасрэдна і шчыра, так бы мовіць, вока ў вока, нараджалася палітыка згоды, то сёння непасрэдная размова паміж грамадзянамі і палітыкамі становіцца з'явай ужо амаль цалкам немагчымай. Надзвычай вялікае значэнне набылі кантакты далёкія ад непасрэдных, адфільтраваныя цэлай сістэмай міжсродкаў, я б сказаў, прама міжсветаў.

Гэта больш чым зразумела: на змену малым гарадскім дзяржавам, чые паўнапраўныя грамадзяне выходзілі на адзін пляц і зусім верагодна, што ўсе маглі ведаць адзін аднаго, сёння з'явіліся дзяржавы з многімі дзесяткамі альбо сотнямі мільёнаў насельнікаў, вось чаму асобныя кантакты паміж імі, паміж імі ўсімі і іх палітычнымі дзеячамі патрабуюць дзесяткаў розных механізмаў і прыладаў, ад іерархізаванай сістэмы прадстаўнічай дэмакратыі і мегамашынерыі масавых палітычных партый да сістэмы сродкаў найбольш тыпічных для сучаснай эпохі, г.з сродкаў масавай інфармацыі. У гэтых абставінах многія людзі ўжо не ўспрымаюць сваіх палітыкаў як нармальную жывую істоту, а толькі як яе тэлевізійны адбітак, праз які невядома, ці гаворыць чалавек без падрыхтоўкі, ад свайго імя, ці чытае з дапамогай адпаведных тэлевізійных прыстасаванняў штосьці, што яму напісалі не знаёмыя гледачу дарадцы і эксперты Замест канкрэтнай чалавечай сутнасці свайго палітыка, якога грамадзяне ніколі не бачылі і ніколі не пабачаць, яны маюць вобраз, які стварылі каментатары — тэле, радыё і прэсы. Калі грамадзяне захочуць яго запытацца аб нечым — яны могуць гэта зрабіць хіба што праз пошту, але адказ ім ананімны супрацоўнік яго адміністрацыі Вырашаць аддаць яму свой голас на выбарах — але наўрад ці змогуць абраць менавіта яго і толькі яго, бо мусяць выбіраць нейкую палітычную партыю і разам з ёю безліч іншых палітыкаў, якія ім зусім не цікавыя, пра якіх яны нічога не ведаюць і на чый выбар не маюць аніякага ўплыву, таму што за іх гэта робяць не вядомыя ім, імі і не абраныя партыйныя сакратарыяты. Палітыка такім чынам перастае быць часткай непасрэднага жыцця, але становіцца для выбаршчыкаў нейкім своеасаблівым тэлевізійным відовішчам, камічным альбо трагічным, аднак якое даводзіцца глядзець незалежна ад жадання Таксама і палітыкі аддаленыя ад грамадзян, якія ім уяўляюцца толькі іх асабістым ценем, скалектывізаваным, змасаваным, з'ананімізаваным, што збольшага адлюстроўвае пранумараваныя прамовы, якія ім прапануюць даследчыцкія цэнтры грамадскай думкі Самі палітыкі, як гэта часцей бывае, не дыскутуюць паміж сабой, але толькі са сваімі масмедыяльнымі ценямі Неаднойчы, дарэчы, меў магчымасць на сваім уласным вопыце пераканацца, што непараўнальна большае значэнне мае не тое, што я недзе сказаў, а тое, што пра гэта напісалі, альбо не напісалі, у газетах Дэмакратычныя выбары ў такіх абставінах, зразумела, перастаюць быць выбарамі паміж вядомымі, маючымі давер і асабіста праверанымі альтэрнатывамі, а пераўтвараюцца выключна ў выбары паміж альтэрнатывамі, якія грамадзянам прапанавалі тэлевізійныя рэжысёры А тым з грамадзян, хто адчуе жаданне непасрэдна паўплываць на агульныя вынікі, і тым самым на палітыку, нічога не застаецца, як уступіць у якую-небудзь з існуючых палітычных партый, гэта значыць, перш чым заняцца адпаведна свайму разуменню агульнымі справамі, паклапаціцца пра свой уступ у даную партыю Тым, хто не лічыць такі шлях прымальным, не знойдзецца месца ў палітыцы, ён мусіць змірыцца з тым, што ў свеце, заснаваным быццам бы на прынцыпах роўнасці грамадзянскіх правоў, ён на самай справе назаўжды не роўны астатнім

Разам з тым лічу фантастычным магчымасці сучаснай цывілізацыі рабіць, каб увесь свет у кожную хвіліну бачыў усё значнае, што дзе адбываецца, каб хтосьці з кімсьці імгненна мог скантактавацца, каб хтосьці з кімсьці мог сустрэцца ўсяго за некалькі гадзін. Але яшчэ значна больш важным ёсць тое, што палітыка знаходзіцца пад кантролем свабоднага і незалежнага друку

Засмучае мяне толькі дэперсаналізацыя і дэгуманізацыя палітыкі, якім спрыяе развіццё цывілізацыі. Адбываецца, што з палітыкі ўсё больш адчувальна знікае нармальны чалавечы суб'ект, які асабіста можа некаму канкрэтнаму нешта гарантаваць, са сваім асабістым тыпам думання і сваёй асабістай нікому не пераадрасаванай адказнасцю. Палітыкі становяцца марыянеткамі, толькі знешне падобнымі на людзей, лялькамі нейкага вялізарнага, па сутнасці, нялюдскага тэатра, шрубкамі нейкага агромністага механізма, аб'ектам нейкага вялікага самаруху цывілізацыі, над якім ужо ніхто, уласна кажучы, не мае кантролю і за які ніхто не адказвае

Сучасны свет, як ведаем, знаходзіцца пад пагрозай розных небяспек. З якога боку не гляджу на гэтыя пагрозы, кожны раз прыходжу зрэшты да высновы, што яго адзіным ратаваннем з'яўляецца вялікае абуджэнне сучаснага чалавека, яго ўсведамленне сваёй асабістай і ў той жа час глабальнай адказнасці Адзінае ратаванне тут бачу ў дэмакратыі, але ў такой дэмакратыі, якая вернецца да сваіх грэчаскіх першавытокаў, прыгадае сваё грэчаскае паходжанне. гэта значыць — у дэмакратыі, заснаванай на інтэграцыі людскіх асоб, якія асабіста адказваюць за лёс грамады

Веру ў погляд вока ў вока — так, як гэта было калісьці на агары Вялікае прызначэнне нашага часу мне бачыцца ў пошуку такіх формаў дэмакратыі, якія б адпавядалі свайму часу, але адначасова аднаўлялі б тое, што стаяла ля зараджэння дэмакратыі, і што я тут называю глядзець вока ў вока.

Сучасная эпоха развіваецца, і калі мы не хочам даць загінуць нашай цывілізацыі, то мусім рэабілітаваць чалавечае вымярэнне грамадства і палітыкі У гэтым бачу галоўнае прызначэнне нашай эпохі Прызначэнне на трэцяе тысячагоддзе.

Дзякую вам за ўвагу

## *Пры адкрыцці помніка Т.Г. Масарыку*

Паважаныя сябры,

помнік Т Г Масарыку, які тут сёння — у гадавіну нараджэння Масарыка — адкрываем, гэта не першы і не апошні яго помнік, і кожны з іх меў сваю нялёгкую гісторыю. Драматычная рэчаіснасць апошніх дзесяцігоддзяў прывяла да таго, што помнікі Масарыку патаналі недзе ў патаемных сховішчах альбо наогул знікалі, потым зноў — часта толькі на кароткі час — аб'яўляліся, паўставалі, каб потым зноў і надоўга знікнуць; аб'яўляліся — зноў знікалі, і вось сёння ўжо ў каторы раз зноў узніклі і паўстаюць — цяпер ужо, спадзяёмся, назаўсёды. Лёс гэтых помнікаў адпавядае лёсу Масарыкавых ідэй: яны таксама ўзнікаюць, знікаюць і зноў аб'яўляюцца, як быццам яны — гэта нейкая своеасаблівая вегетатыўная сістэма, якой добра толькі ў адпаведных кліматычных умовах, але якая здольная перачакаць непрыязныя часіны, усялякія беды, надзіва стойкаператрываць — перажыць дзесьці пад зямлёю, каб пры першай магчымасці, калі кліматычныя ўмовы хоць троху палепшацца, распусціцца і паказаць сваю жыццяздольнасць.

Што гэта за ідэі? Ці сапраўды яны сёння жывыя?

Ідэй гэтых, вядома, многа. Але адна мне ўяўляецца галоўнай Яна праходзіць праз усю спадчыну Масарыка, яна — крыніца і стрыжань усіх яго разважанняў, яна — ключ для разумення яго жыццёвай творчасці цалкам, яго прынцыпаў, яго палітыкі. Гэта ідэя ў трывалым перакананні, што вытокі сапраўднай палітыкі ёсць і павінны быць у сферы маралі, што і праўда перадусім — катэгорыя маральная, і што праўда — гэта найлепшае апірышча для палітыкі Усялякі раз, як Масарык разважаў над чэшскай праблемай, сутнасцю нашай самавызвольнай барацьбы, нарэшце і над праблемай самой нашай нацыянальнай экзістэнцыі, заўсёды вяртаўся да гэтай сваёй ідэі, каб паступова яе закласці ў асновы новай чэхаславацкай дзяржавы як адну з яе канстытуцыйных вартасцяў

Масарык, напрыклад, піша. "Мы сёння заклікаем да вернасці не чэшскасці, не славянству, не патрыятызму, але праўдзе і праўдзе прысягаем". "Мусім любіць праўду, мусім мужна трымацца, каб быць цэльнымі людзьмі, карацей кажучы, — мусім знайсці сваю душу і верыць у гэтую душу, і ўсё астатняе вырашыцца". "Мы патрабуем ідэй, жывых і вялікіх ідэй, каб не быць малымі. Мусім мець ідэі сусветныя, ідэі не толькі для сябе, але для ўсіх. Той, хто хоча вытрымаць і захаваць сябе, мусіць мысліць, пачуваць, працаваць для ўсіх, а не толькі для сябе". Масарык неаднаразова пераконвае на прыкладах з нашай гісторыі, што мы былі моцнымі, карысталіся ўсеагульнай павагай і мелі ўласныя значныя дасягненні тады, калі клапаціліся пра канкрэтныя агульныя каштоўнасці, пра каштоўнасці сапраўды чалавечыя, каштоўнасці, якія б шанавалі і іншыя, таму што яны датычылі ўсіх. І што, наадварот, мы прайгравалі тады, калі ад гэтых каштоўнасцяў адступалі, спрабавалі думаць толькі пра саміх сябе, паддаваліся комплексу ўласнай нязначнасці, і калі мы былі, так бы мовіць, самі па сабе адзінай мэтай. "Мы прыходзілі ў заняпад, як толькі пераставалі жыць вялікім жыццём", — піша Масарык. Вось яшчэ: "Я заўсёды быў за палітыку культурную, як я казаў, за сапраўдную дэмакратыю, не задавальняла мяне палітыка .. вузка палітычная".

Палітыка, дэмакратыя, права і матэрыяльнае развіццё ва ўспрыманні Масарыка, каштоўнасці не самыя для сябе, не самамэтавыя, але прылада для таго, каб зрабіць чалавечае жыццё па-сапраўднаму годным і справядлівым, каб яно наогул мела сэнс. Таму ён так часта звяртаў увагу на этычныя асновы палітыкі.

Масарык аднак не быў толькі тэарэтыкам адказнасці і гуманнасці, які штосьці прамаўляе, але не адчувае павіннасці самому кіравацца сваімі тэорыямі Наадварот, гэта быў надзіва мужны і паслядоўны чалавек, які доўга не вагаўся і быў гатовы выступіць супраць грамадскасці, рызыкаваць сваёй кар'ерай і папулярнасцю, а зрэшты і жыццём дзеля тых з'яваў, якія лічыў справядлівымі. Маральнага вымярэння праўды ён патрабаваў не толькі ад іншых, але перадусім ад сябе самога. Думка пра тое, што за праўду патрэбна адказваць асабіста, была падмацавана ім асабіста. Ён быў у гэтым плане ўзорна цэльнай асобай.

Ці застаецца і сёння сапраўды жывым пасланне ўсёй жыццёвай спадчыны Масарыка?

Не выключаю, што яго словы могуць сёння падацца камусьці троху старамоднымі, казаннем, а зрэшты патэтыкай Але на іх актуальнасці гэта, на маю думку, аніяк не





адбіваецца. Магчыма і наадварот: менавіта сёння, калі мы зноў засяродзіліся на праблемах сутнасці і зместу чэшскай дзяржаўнасці, калі вялікія супярэчнасці нашай цывілізацыі і сучаснага свету патрабуюць ад чалавека новага падыходу да сябе самога і сваёй адказнасці перад сусветам, спадчына Масарыка ўспрымаецца надзвычай злабадзённа і запрашае нас да новага мыслення.

Прасцей кажучы, гэты запавет ёсць найперш заклікам да неабыякавасці. Заклікам — не быць абыякавымі да лёсу свайго бліжняга, які цярпіць ад прыгнёту, да лёсу тых, хто прыйдзе пасля нас, да іх духоўнай здольнасці выканаць мэты, што паўстануць перад імі, да лёсу нашай агульнай духоўнай, культурнай і прыроднай спадчыны. Гэта заклік да нас не баяцца змагацца супраць усіх несправядлівасцяў, што бачым вакол сябе, не баяцца — і нават тады, калі апынёмся ў адзіноце супраць усіх — гаварыць праўду і пастаяць за яе, не быць абыякавымі і да таго, што адбываецца за межамі нашай краіны. Калі б я паспрабаваў гэты запавет суаднесці з нашай сучаснасцю, то тлумачыў бы яго, напрыклад, як заклік да спасціжэння той ісціны, што бязмерныя пакуты нашых блізкіх у недалёкай Босніі і Герцагавіне нас істотна датычаць, што мы абавязаны выказацца аб іх адназначна і назваць галоўную віну, што мусім узяць на сябе частку агульнай адказнасці за мір і справядлівасць у Еўропе, і ў любым выпадку, падтрымліваць, наколькі гэта будзе ў нашых магчымасцях, найбольш важныя акцыі міжнароднай грамадскасці Мы, хто калісьці сталі ахвярамі ганебнай мюнхенскай змовы, павінны ўсё ж ведаць лепей, чым хто іншы, што нельга саступаць перад злом, каб яно не абрынулася на нас саміх. Наша абыякавасць у адносінах да іншых можа мець зрэшты адзіны магчымы вынік: абыякавасць да нас іншых.

Разважанні аб маральных вымярэннях палітыкі і нашай вышэйшай адказнасці бывае выклікаюць сёння недавер, папрокі, што ўсё гэта толькі нейкія фантазіі, інтэлектуалісцкае філасофстванне альбо элітарнае маралізатарства, адарваныя ад практычных запатрабаванняў сучаснасці і іх хутчэйшага здзяйснення Я не згодны з такімі меркаваннямі Ніводную са штодзённых праблем, з якімі сутыкаемся, немагчыма вырашыць на самай справе паспяхова без рознабаковага ўсведамлення яе глыбінных каранёў і разгалінаваных сувязяў А як яшчэ магчыма гэтую свядомасць развіваць, калі не заўсёднымі намаганнямі да яе вытлумачэння

Дарэчы, і тут нам можа паслужыць вялікі прыклад Масарыка. Ніхто ўсё ж такі не адважваецца пра яго сцвярджаць, што гэта быў усяго толькі летуценнік, што ён не быў рэалістам, здольным на штодзённую цяжкую і канкрэтную працу Рэалізм і творчая праца былі яго праграмай! У гэтым пераконвае ўся яго дзейнасць. універсітэцкага прафесара, дэпутата, рэвалюцыянера, нарэшце, першага чэхаславацкага прэзідэнта Дарэчы, дастаткова прачытаць яго карэспандэнцыю альбо нататкі яго паплечнікаў, каб ізноў здзівіцца. чым яму толькі не даводзілася займацца, колькі, часам зусім дробных, пытанняў ён здолеў грунтоўна разгледзець і колькі дыпламатычнага розуму патрабавалася, каб дасягнуць таго рашэння, якое ён лічыў слушным.

Магчыма, менавіта гэта ўласцівае для яго цэласнае разуменне рэчаў, увага да іх узаемасувязяў, яго імкненне да палітыкі сапраўды, як ён кажа, культурнай, яго непахісная воля ў абароне праўды, этычныя асновы ўсёй яго практычнай дзейнасці і былі галоўным рухавіком яго невычарпальнай і плённай актыўнасці Магчыма, менавіта ў гэтым вывява яго глыбокай сувязі з універсумам, які даваў яму сілу дайсці да сутнасці кожнай дробязі і вырашаць яе па-сапраўднаму паслядоўна

Мілыя прысутныя,

грамадзяне Оламаўца,

я перакананы, што менавіта вы, жыхары гэтага даўняга духоўнага і адукацыйнага асяродка, маеце сапраўднае ўяўленне пра жывы змест творчай спадчыны Масарыка і што гэты манументальны помнік будзе ўспрымацца не толькі з глыбокай пашанай як успамін пра чалавека, які мае заслугі перад дзяржавай, але і як напамін аб вялікім пасланні сучаснасці, якое выпраменьвае з яго твораў.

І перадусім — з яго разважанняў пра праўду, за якую трэба стаяць цвёрда.

**Пераклала з чэшскай**
**Ірына ШАБЛОЎСКАЯ.**

У НАС

# Алена ІГНАЦЮК



*Час без Вас.*
*Вы аддадзены Богу*
*Малявалі не раз*
*Вы да Бога дарогу*

# МАТЫЛЬКОВЫ ВАЛЬС





* * *

**Толькі вецер шалёны са мною —**
**атлантычны зняверань Дзіў...**
**Да нябёс мяне ўзняў над зямлёю,**
**потым кінуў у Манільскі заліў.**

**Нечаканай была яго ўсмешка —**
**нібы райскія хвалі плылі...**
**Уяўляў мяне полькай і чэшкай,**
**маляваў мяне ў стылі Далі.**

**Я не ведала шчасця такога,**
**якім вецер мяне надзяліў...**
**Я прасіла ж у Бога нямнога —**
**вецер кінуў у Манільскі заліў.**

**Разбягаліся хмары і сцюжы,**
**чайка белая ў небе плыла...**
**Вецер стаў маім суджаным мужам —**
**я ж яго к а л ы х а н к а й была.**

* * *

**Вы такая прыгожая, пані...**
**Вы князёўна блакітных лугоў...**
**У якога паэта чыталі**
**пра сваю незямную любоў?**

**Чарадзейку якую пыталі**
**пра свой будучы казачны лёс?**
**Вы такая багатая, пані...**
**Вецер Вам падарункі прынёс:**

**васільковую воду для твару**
**і спадніцу празрыстую з траў...**
**Вы вазьміце ў рукі гітару —**
**на ёй бацька вам хораша граў,**

**і пачніце раманс пра каханне**
**у далёкіх бязмежных лугах...**
**Вы такая далёкая, пані, —**
**з кветкай маку ў збалелых руках.**

* * *

**Ходзіць жнівень ля хаты.**
**Ён у чым вінаваты,**
**што свае разгубіла гады...**

Толькі вецер "кудлаты,
малады, нежанаты"
апрануў мяне ў пах лебяды.

Ходзіць жнівень ля хаты.
Ён у чым вінаваты,
што сваю не сустрэла любоў...
Толькі вецер "кудлаты,
малады, нежанаты"
апрануў мяне ў пах чабароў.

Ходзіць жнівень ля хаты
ў жоўтай рызе крылатай.
Я яго абмятаю сляды.
Толькі вецер "кудлаты,
малады, нежанаты"
мне напомніў былыя гады.

### *НЕ ТАЯ*

А я ўсё гавару сабе,
што я — не тая:
не тыя у мяне сябры,
не тыя дні ў календары,
не тыя зоркі-ліхтары
ў пачатку мая.

Не так я шчасцем даражу,
не так я на людзей гляджу,
не так я сплю і ем не так,
не так шукаю ў полі мак.

Быць ганарліўкай не хачу,
бы ў небе ластаўкай лячу,
як неба свечкай залачу —
і я ў сабе знаходжу тую,
што ведае свой дзень, свой верш,
сваё імя і лёс — найлепш,
сваю мелодыю — любоў зямную.

### *МАЕ ГАДЫ*

Мае гады —
глыток вады —
Сцюдзёныя ды белыя...
Да хутара майго хады
дзве раніцы збалелыя.





У хутара жывы пагляд —
ажынавы, бярозавы...
Настуркі цягнуцца ў рад
бліскучымі стракозамі.

А хутар мой, што Царкваград —
званамі ў небе высіцца...
Назваць мяне сваёю рад
паслужлівай карміліцай.

А валасы мае вянком —
як сонцам, пазалочаны...
Гады мае вады глытком
да шчасця заахвочаны.

І толькі совы уначы
драпежна гэтак вухкаюць.
Мне б уцячы ад іх магчы...
Мае сябры падумаюць —
Казуля, Гуска і Алень, —
што я на луг — каб з травамі
застацца зноў на цэлы дзень,
і дажджавымі плямамі
на след мой трапіць далячынь...
І сцежка ў жыце спелая...
Мае гады —
рачная плынь —
сцюдзёныя ды белыя.

### *ВОСЕНЬ І ВЕЦЕР*

Восень у букеце хрызантэмаў —
тэма маёй будучай слязы.
Восень у букеце белых астраў —
ясна, што яны не для красы:
у букет сабраў іх лёс заўчасна,
калі толькі зацвіталі верасы.
Верас у букеце — гэта Вецер,
фіялетава-ружовы, нібы дым.
Сёння прачытала я ў газеце:
заўтра Вецер адбывае ў Рым.

### *МАТЫЛЬКОВЫ ВАЛЬС*

Матылькі ля ракі
белы вальс танцавалі,

і плылі васількі
у траве, нібы хвалі,
як мядовым было
матыльковае шчасце —
іх злучыла цяпло
ў добры час на палянцы.
У букеце адным
матылькі, нібы дым,
музыкальны,
што ляціць над ракой,
над маёй галавой
танцам бальным.
А дзянёк-макавей,
што дзядок-чарадзей,
закружыўся
ў танцы звонкіх лугоў,
у танцы белых надзей,
бы зваліўся
з аблачыны, калі
фарбы лета цвілі
на маёй матыльковай сукенцы...
Я ж у танцы жыла,
як паненка з сяла,
з матылькамі на сэрцы.

А ўгары маладзік,
што згубіў чаравік,
ды прыўзняўся.
Праспяваць да зімы
матыльковыя сны —
ён стараўся.

## *ІМЯНІНЫ*

У нашай хаце,
багатай на вершы,
кветкі неяк парфумна шумелі...
Ты ў сукенцы парэчкавай,
лепшай,
мыла вокны з мінулай нядзелі.
А нядзеля ў хату прыйшла
з блытанінай,
загадала жанчыне спраўляць
імяніны...
Хай парфумныя кветкі
ёй лёс карагодзяць,
хай жаданыя госці
у хату заходзяць,





хай у хаце скрыпяць
скрыпкай лесу масніцы,
хай не ты і не я,
а жывая вадзіца
будзе мыць — абвіваць
рукі дзіўнай жанчыны,
і яе ТРЫЦЦАЦЬ ПЯЦЬ,
і яе ІМЯНІНЫ.

## *ПРЫМІТЫЎНЫ МАЛЮНАК*

Шэрым алоўкам я намалюю
вобраз твой.
Стань ты такі, як я пажадаю
гэтай зімой.
Я намалюю шэрай сняжынку — вусны твае,
я намалюю шэрай хацінку — ветласць тваю,
я намалюю шэрай хусцінку — жонку тваю,
я намалюю шэрай дзяўчынку — сэрца твае,
я намалюю шэрай варону — думку тваю,
я намалюю шэрай салому — мару тваю,
я намалюю шэрае дрэва — твой сілуэт,
намаляваць шэрым зайчыка трэба – хуткі твой след,
я намалюю шэрую сцюжу — вочы твае,
намаляваць шэрай вуліцу мушу — рукі твае.
У шэрай сукенцы цябе сустракаю,
Ты з лесу, з марознай зімы...
Здымай кажушок — я яго патрымаю.
Ты патрымай мае сны.

## *ТАК ТРЭБА*

Так трэба,
каб вецер гучаў, бы цымбалы
ў краіне замшэлых млыноў.
Так трэба,
каб я усім людзям цікавым
змагла расказаць гэту песню млыноў.
Так трэба,
каб хлопец такі паэтычны
ў размове са мной праслаўляў нігілізм,
ў замшэлых млынах яго позірк статычны —
ўсяго толькі позірк — скупы мадэрнізм.
Так трэба
забыцца ў млынах на хвіліну,

а потым прачнуцца ў высокай траве
і сіняга неба памацаць хусціну...
Хай пыл палыновы да шчок прыстае,
хай мох на млынах зацвітае язмінам,
хай вецер цымбальную песню пяе,
хай гляне прастора блакітным дэльфінам,
хай гліна вякоў да нагі прыстае.
Дарога ў млыны —
рэчкай ранішняй ўецца
і зайчыкам хуткім па полі бяжыць,
і цёплым дажджом на далонь маю льецца,
і голубам белым у небе дрыжыць.
Так трэба:
ў млынах палюбіць адзіноту
і ў твар яе глянуць — убачыць сяло,
што недзе цвіце каля жоўтага плота
і што мяне ўрэшце ў млыны прывяло.

* * *

Недзе ў цішыні лугоў
Споведзь дзіўная вякоў
Азірнецца на мяне
Збялелым вокам маку:
На маё чаканне белых сноў,
На маё гуканне добрых слоў,
На збалелую маю падзяку...
Веку, што на лузе не цвіце,
А цвіце рамонкамі на небе,
У вадзе нябеснай — больш нідзе
Не бывае ён такі прыгожа-белы.

Век мой, што на лузе, — то не мой:
У колеры вачэй збялелых маку,
З трапяткой зняверанай тугой,
Адпаведнай толькі Пастарнаку.

Можа, трэба перасеяць мак,
Пасяліць у звыклым агародзе?
Век мой будзе звыклы, — бо ніяк
Не цвіце ён ў макавых лугах
Пры сухой і ветранай пагодзе.

Можа, Век мой — спознены дзівак
У рэнесансна-макавым абліччы?
Чырванее ўсмешкай на губах
Леанардавай Мадонны мак
У літургічна-задуменным Вінчы.





* * *

І Ф.

Памінаю Вас бэзам,
асаблівым у маі,
Вы яго малявалі
ў фіялетавым ззянні.

Памінаю Вас тварам
пасівелай жанчыны...
Вы яе малявалі
ў фіялетавым маі —
у каханні маўклівым.

Памінаю сябрамі,
пра якіх Вы казалі,
што яны мастакі —
на прызнанне,
на дзіва...
Вы сяброў малявалі
у ажынавым ранні,
калі плакала росна
у лесе ажына.

Памінаю Вас
вашым жыццём асаблівым.
Вы былі і Вы ёсць!
У дажджы мітуслівым
белы голуб да Вас завітаў,
у акенца пастукаў,
у вадзе танцаваў —
так прасіўся да Вас ён у рукі.

Памінаю ў дзень памінальны —
суботу.
Хай пяе ў царкве хор,
абіраючы ноту —
"до мінор",
"до мінор"...

Час без Вас.
Вы аддадзены Богу.
Малявалі не раз
Вы да Бога дарогу.

# Пётра КРЭЧЭЎСКІ

*Бяз мовы —
няма нацыі,
без культуры
няма народу
і не можа быць
Незалежнасьці,
сваей уласнай дзержавы.
Народную
беларускую мову
першы зафіксаваў
Скарына
ў сваіх вечных
помінках —
друках Бібліі
на простай мове.*



## *Пра Пётру Крэчэўскага*

**Трапіўшы ў Прагу, дасведчаны беларускі падарожнік абавязкова наведае адзін з найбуйнейшых некропаляў расейскай эміграцыі — Альшанскія могілкі. Паміж шыхтоў надмагільных помнікаў "белым" генералам і казацкім палкоўнікам, паўз месца апошняга прыстанку забытых літаратараў і маці Набокава ўтравелая сцежка прывядзе да плітаў з надпісамі па-беларуску. Тут пахаваныя геніяльны оперны тэнар Міхал Забэйда-Суміцкі, прэзідэнт Рады БНР Васіль Захарка з жонкаю, а непадалёку, справа ад праваслаўнай царквы ў стылі пскоўска-наўгародскіх храмаў, пад помнікам з "Пагоняю", спачывае прах яшчэ аднаго прэзідэнта Рады Беларускай Народнай Рэспублікі — Пётры Крэчэўскага (1879—1928).**

**У 1917 годзе ён, выпускнік Віленскай духоўнай семінарыі, потым настаўнік, банкаўскі службовец etc., удзельнічае ў Першым Усебеларускім з'ездзе і абіраецца сябрам ягонага Выканаўчага Камітэта. Праз два гады, у снежні 1919-га, Крэчэўскі ўзначаліў Раду БНР, што ў тых палітычных умовах прывяло да непазбежнай эміграцыі — спачатку ў Літву, а затым у Чэхаславакію. Ён знаходзіўся ў ліку тых беларускіх палітыкаў, якія выступілі супраць рашэнняў 2-й усебеларускай канферэнцыі ў Берліне (1925 г.), дзе Менск быў прызнаны адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі.**

**Пяру Пётры Крэчэўскага належаць паэтычныя і драматургічныя творы, але найперш ягоныя творчыя схільнасці выявіліся ў эсэ і артыкулах, прысвечаных асобам і падзеям беларускай гісторыі. Прапанаваны чытачам "Крыніцы" тэкст узяты з кнігі "Замежная Беларусь" (Зборнік гісторыі, культуры і эканомікі пад рэд. П.А. Крэчэўскага. Выдавецтва імя Ф. Скарыны. Прага, 1926).**

**Уладзімір АРЛОЎ**





# СКАРЫНА І НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

Гісторыя па невядомым нам прычынам, без ніякай думкі з боку сучаснікаў, злучыла дні выхаду першай беларускай кніжкі з друкарні Скарыны ў Вільні і абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі на 25 сакавіка.

У гэты дзень 1525 г выйшла "Малая падарожная кніжыца", у якой было змешчана Псалтыр з Пражскай Бібліі, Часасловец, Акафісты, Шастаднёў і Саборнік (сьвятцы).

Таго ж самага дня 1918 г. была прагалошана незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі — роўна 400 гадоў пазьней, як Скарына пачаў сваю друкарскую працу у Празе Чэшскай

Выпадковае злучэньне гэных дат у народным жыцьці безварункова ня можа лічыцца выпадковым у гісторыі, якая мае свае законы і падставы

Вынахад друкарства, па выразу самаго пачынальніка і вынаходцы друкарства Іаганна Гутэнбэрга, — ёсьць найвялікшы вынаход у сьвеце Само сабой разумеецца, што народы, якія раней другіх прылучыліся да гэтага вялікага вынаходу, маюць правa на назову культуртрэгероў у агульначалавечай культуры

Эўропа у гэтым выпадку далёка апярэдзіла славянскую раўніну на ўсходзе, аднак і Беларусь займае тут не апошняе мейсца. На ўсходзе Эўропы ў друкарстве ей належыць першынства

Бацька друку Гутэнбэрг пачаў сваю працу ў Нямеччыне ў 1456 г У 1465 г друкарства зьявілася ў Рыме, у 1470 г. – у Францыі, у 1478 у Швэйцарыі і Чэхіі, у 1480 г – у Англіі, у 1489 — у Партугаліі, у 1491 — у Кракаве (Польшча), у 1499 г — у Гішпаніі, у 1525 — у Вільні (Беларусь), у 1564 г — у Маскве і 1574 г — у Львове (Украіна)

Многа было спрэчак аб друках Скарыны дзякуючы таму, што старадаўная славяншчына служыла падставай мовы ўсіх славянскіх народаў на ўсходзе, і таму прэтэндавалі на Скарыну ў першую чаргу Велікаросы і часткова Украінцы

Агульнарасейская культура да гэтае пары не дае спакою расейскім прафэсарам, аднак навуковыя досьледы строга аб'ектыўных у навуцы асоб змушаны былі прызнаць безпадстаўнасьць такіх досьледаў ужо па таму, што ва ўсіх яго кнігах уведзены чыста мяйсцовыя словы беларускае мовы, якія ўжываюцца на Беларусі і да гэтае пары· борзда, бараніць, вінавацiць, вір, жыта, карагод, пражыцца, пуга, скрыня, цяміць, узгорак, віхар і інш.

Адыграла пэўную ролю ў гэтых досьледах і паходжаньне Скарыны з Полацку, самага сэрца тагачаснае Беларусі. Калі ў часы панаваньня Расеі было мажліва рэнэгацтва і культурная праца на пануючай мове, то ў той час, калі працаваў Скарына, мейсца паходжаньня адбівала і яго нацыянальнасьць і залічыць Скарыну з Полацку Маскоўцам альбо Украінцам — немагчыма Гэты доказ нікога ў правідловасьці пераканаць ня мог і сягоньня аб гэтым сур'ёзна ніхто не гаворыць.

Нічога не дадае да гэтага і прадмова да надрукованых у Празе 22 кніжак: "Біблія руська, вылажана Доктарам Францыскам Скарынаю із слаўнога града Полоцька, Богу ко чці і людзям посполітым к доброму научэньню" Назова "русь", якая належала выключна Беларусі і Украіне, пакольні Літоўска-Беларускае Княжства аб'еднывала гэтыя тэрыторыі за часоў Вітаўта і Альгэрда, ніякім чынам не магла належаць Князям Маскоўскім, бо німа ніводнага старога дакумэнту, які бы абшары на ўсход ад Літоўска-Беларускага Княжства называў інакш, як Масковіяй, Маскавітамі.

Барацьба за Беларускую "вотчыну" распачалась у 1491 г., пры Іване III, з Беларуска-Літоўскім Князям Александрам Ягайлавічам. Гэта барацьба дасягае найвялікшага напружэньня ў 1500 г , калі Іван III пачынае вайну са сваім зяцям, жанатым з яго дачкой Галенай, — Аляксандрам Ягайлавічам за тое, што апошні ў аднэй з грамат не назваў Івана "Гасударам усея Русі"

Разумеецца, што Беларуска-Літоўскія Князі не хацелі аддаваць гэтае назовы Маскоўскім Князям.

Змаганьне за назову "Русь" і першынства ўзнаўляецца ў 1508, 1513, 1516, 1518, 1519, 1534, 1535 і 1536 гг. Абедзьве стараны змораныя барацьбой, заключаюць мір, які трывае 25 гадоў і парушаецца зноў у 1563 г , пры Іване IV Грозным, калі ён, варваўшыся ў Полацк, абрабаваў і вывез у Маскву золата, срэбра, гістарычныя памяткі і архівы.

На гэтай падставе і Скарына называе сваю Біблію "руськой", знача беларускай, бо ў сваіх прадмовах да друкаваных кніг гаворыць ясна "Понежа от прырожэньня зверы, ходяшчія у пустыні, знающь ямы свая; птіцы, лятаюшчыя па воздуху, ведающь гнезда свая; рыбы, плаваюшчыя па мору і ў рэках, чуюць віры свая; пчолы і тым падобная бароняць вульлеў сваіх, — такжа і людзі, ікдзе зрадзіліся і ўскормлены суць па Бозе, к таму месту вялікую ласку імающь" (Прадмова да кнігі Юдзіф).

Ня мог тут Скарына гаварыць аб Маскве, ці той Русі, якой яшчэ не было і да якой Полацк, тое мейсца, якое мела ў Скарыны такую ласку, не належала. Тым барджэй гэнай назовы "Руська" ня мог Скарына даваць і мове Маскоўскага Княжства, бо ў другой прадмове кажа, што распачаў сваю працу друку на беларускай мове "найболе з тое прычыны, іжа мя Міласьцівы Бог з таго языка на сьвет пусьціў" (Прадмова да Псалтыру).

Калі Скарына радзіўся і памёр, мы ня знаем Дапусьціўшы, што ў 1504 г. Скарыне было 14 лет, калі ён запісаўся студэнтам у Кракаўскі Універсытэт, заплаціўшы ўступных два грошы, пад назовай Franciscas Luce de Polocko — можна прыгадліва сказаць, што ён радзіўся у 1490—91 гг

Доля Скарыны, як і ўсей беларускай гісторыі, занатавала нам найважнейшыя моманты народна-палітычнага і культурнага жыцьця, пагубіўшы ў архівах нашых насільнікаў усе драбносткі, так дарагіх нам зьявішч на нашай гістарычнай дарозе. Мажліва, што гэтыя дарагія нам памяткі былі папаляны і знішчаны альбо ў часе нападаў на Полацк у 1563 г. Івана Грознага, альбо спаляны Палякамі ў Вільні ў 1581 г.

Паленьне беларускіх кніг і дакумэнтаў прадаўжалась амаль два стагодзьдзі і даканчывала гэта барбарства яшчэ ў 1860 г расейская ўлада ў Біскупствах — Віленскім, Менскім, Вітэбскім, Валынскім і Падольскім. Колькі іх было спаляна, нікому не ведама. Але ня гледзячы на жорсткую барацьбу з беларускай гісторыяй і культурай, на яе нішчэньне, яна расла і развілась, хоць пакінула па сабе менш, як у другіх народаў, пісаных памятак і давяла народнае жыцьцё пасля 300-летняга занападу да выяўленьня цьвердае волі незалежнага існаваньня — 25 сакавіка 1918 г.

Асновапаложнікам гэтага быў Скарына з Полацку і яго друк.

Скончыўшы праз два гады, у 1506 г., Кракаўскі Універсытэт Бакалаўрам,





Скарына дзесь вандруе па Заходняй Эўропе Вучыць жыцьцё Эўрапейскіх народаў і штудуе мэдыцыну, да якой ён меў вялікую прыхільнасьць. Дзе гэта адбывалась і як, гісторыя не мае данных, але ў Падую, у Італіі, Скарына зьяўляецца ў 1512 г. зусім падгатаваным да экзамену на доктара і просіць, каб яго дапусьцілі экзамінавацца бязплатна, так як ён па беднасьці ня мае грошы, каб заплаціць патрэбную суму.

Доктар Мусаті, адзін з прафэсароў Падуанскага Унівэрсытэту, надзвычайна спагадліва аднёсься да маладога вучонага Скарыны і запрапанаваў яму прыйсці 5 лістапада, на 5-ую гадзіну вечара, у касьцёл Св. Урбана, куды ён склікаў прафэсароў мэдычнага факультэту.

На сходзе прафэсар Мусаті абвесьціў, што ў Падую прышоў з далёкіх краёў, у адлегласьці 4-х тысяч кілямэтраў, надзвычайна вучоны, але бедны муж, які мае ўжо доктарскую адзнаку (Eximus artium doktor Franciscus gn Domini Lucae Skorina de Polocko Ruthenus) і прасіў дазволіць яму "de grata speciali ad amore Dei" бязплатна экзаменавацца. Пасля докладу прафэсара Мусаті быў пакліканы і сам Скарына, які горача вылажыў сваю прозьбу, каб яму пазволілі бязплатна трымаць экзамен на доктара мэдыцыны.

6 лістапада распачаліся ўступныя іспыты ў тым самым касьцёле перад 14 прафэсарамі мэдычнага факультэту, а 9 лістапада ў Біскупскім палацы пад старшынствам вікарнага біскупа П. Забарэллі, у прысутнасьці ўсей калегіі Падуанскага унівэрсытэту з 24-х асоб пачаліся іспыты на доктарскае званьне

Іспыты Скарына вытрымаў надзвычайна добра і аднагалосна быў прызнаны годным званьня доктара мэдыцыны, у чым і атрымаў з рук прафэсара Барызоні атэстат.

З гэтага часу Скарына до свайго подпісу заўжды дадае· "Навук вызваленых і лекарскіх доктар".

Пасля гэтага Скарына зноў знікае з гістарычнай памяці. Разумеецца, ня меўшы грошы на іспыты, ён ня меў іх і на падарожу і, хучэй усяго, на пяхоту накіраваўся на Бацькаўшчыну Быў у Чэхах і Нямеччыне, знаёміўся з людзьмі. Пабываў у Полацку і Вільні, прыглядаўся да абставін і рыхтаваўся да працы, якая яшчэ, мусіць, з Кракава, пад уплывам яго прафэсара Яна Глагоўчыка, які ўжо перакладаў Біблію на рускую мову, цягнула... але адпаведных варункаў для гэтае працы Скарына на Бацькаўшчыне не знайшоў і вырашыў падацца ў Чэхію, як самую свабодную старану таго часу.

Апрача агульных падстаў, якія змусілі Скарыну ўзяцца за пераклад і друк Бібліі, як яго прадмовы да выданьня: "Понежэ не только докторове, а люди вчэные в ніх разумеють, но всякий чэловек простый и посполиты чтучы іх, или слухаючи может разумети, что есть потрэбно к душному збавению его", альбо: "в сей книзе всея прирожоное мудрости зачало і конец, Бог Вседержитель познаван бываеть В сей книзе вси закони и права, ими же люди на земли справоватися имеют пописаны суть... В сей книзе вси лекарства душевные и телесные зуполня знойдете . Ту научение седми наук вызволеных достаточное. Хошчеши ли умети граматику или по руски говорячи грамоту, еже добре чести и мовити учить, знойдеши в зупольной Библии Псалтыру, чти её... Ашчели же кохание имаше ведати о военных а о богатырских делех чти книги Судей, или книги Моковеев. Более и справедливее в них знайдеши, нежели во Александрии или во Трои".

Але мы не застанаўліваемся на агульных падставах Скарынінскага друку, нас цікавіць маральная і нацыянальная старана працы Скарыны

Любоў да сваей зямлі — тэрытарыальны нацыяналізм, як я адзначыў раней з яго прадмовы да кнігі Юдзіф, выяўляюцца яскрава ў словах "Також и люди и где зродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имають"

Любоў да народу і сваей мовы — нацыянальнае усьвядомленьне — можна бачыць з прадмовы да Псалтыру: "Я, Францишек Скорынин сын з Полоцька, в лекарских науках доктор, повелел есьми Псалтырю тиснути рускими словами а словенським языком напред ко чти и к похвалѣ Богу в Тройци единому и Пречистой Его Матери Марии всем небесным чином святым Божьим, а потом к пожитку посполитаго добраго, найболей с тое прычины, иже мя милостивый Бог с того языка на сьвет пустил"

Запраўды, у чалавека Эўропэйскі асьвечанага, у эпоху барацьбы за свабоду вызнаньня, першай думкай зьяўляецца жаданьне — не пашыраць сваю навуку, не дабівацца высокага становішча паміж другімі, а прыблізіць да свайго знаньня свой народ. Скарына спяшаецца даць свайму народу кніжку на сваёй роднай мове, ці блізкай да яе, каб і яго народ мог далучыцца да агульначалавечай культуры таго часу

Агледзіўшысь, што на Бацькаўшчыне спрыяючых варункаў да друку няма, а можа і баючыся, каб і яго не спаткала доля Фіоля-першапячатніка — друкара Біблії на славянскай мове ў Кракаве ў 1491 г , разбуранага фанатычным духавенствам, Скарына едзе ў Прагу Чэшскую, дзе панавала поўная рэлігійная свабода, і ў 1517 г. распачынае працу Час ня церпіць, і Скарына з надзвычайнай быстрынёй выпушчае са сваей друкарні кніжку за кніжкай.

У 1517 г выйшлі з друку· Псалтыр, кніга Іова, Прытчы, кніга Сіраха, у 1518 г — Эклезіаст, Песьнь песьняў, Прамудрасьць Саламона, кнігі Царстваў, Ісуса Навіна, у 1519 г — Юдзіф, Суддзяў, Пяцікніжжа Маісея, Руф, Эсфір, Плач Іераміі, Кніга Прарока Данііла

Праца ідзе шпарка, бо Скарына як найхутчэй, карыстаючысь спрыяючымі абставінамі, хоча даць “вырозуменьня радi простых людзей”, Біблейскія кніжкі на беларускай мове нават з малюнкамі

Мажліва, што абставіны былі ўжо не так спрыяючыя, як раней у свабоднай Чэхіі, бо мы да гэтае пары ня ведаем, дзе і з кім у Празе друкаваў Скарына свае кніжкі Гэта наводзіць на думку, што друк Скарыны адбываўся патаемна. Сьведчыць аб гэтым і раптоўны зрыў працы, і пераезд у 1519—20 г Скарыны ў Вільню

Калі ўзяць пад увагу, што ўжо ў часы пабыту Скарыны ў Празе, распачалась барацьба паміж Ягелонамі, пасля сьмерці Людовіка, і Габсбургамі (Фэрдынанд) — за Чэшскую карону, якую і атрымалі немцы ў асобе Фэрдынанда 13 сьнежня 1526 г , то стане ясна, што свабоды Гусітаў, Табарытаў і Братоў — скарачаюцца, а павялічваюцца і пашыраюцца правы каталікоў з нямецкімі баронамі, духавенствам і Чэшскай шляхтай па загаду Рыма. Магчыма, што і Скарыне, як і Шпайпольту Фіолю ў Кракаве, пагражаў арэшт за гэрэтыцтва, чаму ён так хутка і перанёсся ў Вільню А можа, яго прымусіў да гэтага мор у Празе

Народны дух і абставіны сярод свайго народа ў найлепшую пару панаваньня беларускай культуры надавалі Скарыне яшчэ больш сілы, каб сваімі рукамі далучыць беларускую мову і культуру да ўсечалавечай культуры.

Перакінуўшысь у Вільню, Скарына закладае друкарню “в дому почцівого мужа Якуба Бабіча, найстаршага бурмістра славнаго і вялікаго места Віленскаго” і 25 сакавіка 1525 г выдае “Апостола” і “Малую падарожную кніжыцу”

Так, на ўсходзе Эўропы першым вучоным доктарам Скарыной быў заложаны моцны асяродак культуры ў Вільні, у Скарынінскай друкарні З гэтага асяродку, як іскры з вогнішча, раскідаліся ва ўсе бакі славянскага міру друкі Скарыны Кніжкі яго Бібліі разыходзіліcь на абшарах Баўгарыі, Сэрбіі, Чэхіі, Польшчы, Украіны, Маскоўшчыны, не гаворучы ўжо аб Беларуска-Літоўскам Княжстве

Трэба ведаць, што Скарынінская Біблія зьявілася трэцяй у Эўропе. Першай была надрукована Нямецкая, другой — Чэшская, і трэцяй — у 1517 г. — Беларуская

І па істоце, і па характару друку Скарынінскія выданьні былі лепшыя за Нюрэнбергскія і Вэнэцыанскія Скарынінскія друкі браліся за прыклад, а ўвесь славянскі сьвет карыстаўся імі, як больш зразумелымі, ніж старацаркоўныя рукапісы старога пісьма.

Паволі ад друкаў Скарыны пачынае друкарства распаўсюджвацца і на Усход. Думка аб друкарні зьяўляецца ў Маскве ў 1551 г. і зьдзейсніваецца толькі Іваном Грозным у 1563 г , туды былі запрошаны са Скарынінскай друкарні масковец Іван Фёдараў і беларус Пётра Мсціславец.

Лёс першых друкароў у Маскве быў кепскім, ім хутка прышлось уцякаць ад цемры Маскоўскай на Беларусь

Дзякуючы беларускаму Гэтману — Рыгору Хадкевічу яны змаглі адчыніць друкарню ў родным мейсцы Хадкевіча — Заблудаве, дзе ў 1569 г. надрукавалі “Паучыцельнае Евангеліе”. Гэта “евангеліе” Хадкевіч хацеў надрукаваць на беларускай мове і казаў· “Памыслил же был есьмы же и се, иже бы сию книгу, выразуменьня ради простых людзей, преложици на простую мову” Але зрабіць гэтага не ўдалося Пляны Хадкевіча разбіла Люблінская вунія, ярым праціўнікам якое ён быў, і друкары, ня маючы падтрымкі з боку Хадкевіча, прымушаны былі выехаць з Заблудава





Фёдараў выязджае ў Львоў, з 1572 г закладае там Украінскую друкарню і выдае ў 1574 г першую кніжку “Апостол”, як пачатак Украінскага друку, а Мсціславец пераязджае ў Вільню і ўзнаўляе перарванае пасля Скарыны беларускае друкарства з 1574 г

Такім чынам першая кніжка друкованая на Беларусі зьявілася 400 гадоў таму назад, у Маскве на 40 г , а на Украіне — на 50 гадаў пазней

400 гадаў таму назад, верны сын свайго народу Скарына, атрымаўшы Эўрапэйскую асьвету і апярэдзіўшы свой народ ня менш як на 100 гадоў, не адышоў ад народу, не стаў толькі сьведкай народнай цемры, а адразу панёс святло навукі ў свой народ і адкрыў сапраўды на Беларусі залатую эру развіцьця культуры і веды

Без Скарыны і яго друкаў ніколі беларуская мова ня стала б дзяржаўнай у Літоўска-Беларускім Княжстве

Надзвычайны напор польскай культуры са ўсім дзержаўным апаратам і прывілеямі для староннікаў Люблінскай вуніі толькі таму і не перамог, што народ ўзгадоваўся на друках Скарыны Як камяннай сьцяной, Беларуска-Літоўскае Княжства адгарадзілася ад Польшчы і пасьля падпісаньня Люблінскай вуніі, — тымі ж самымі здабыткамі культуры, якія пакінуў свайму народу на яго роднай мове Скарына Ня толькі народ, а нават і шляхта, якая разам з Ягайлам у 1380 г адарвалась ад роднага карэньня, чытаючы кнігі Скарыны, вярталась да роднай мовы і гуртавалась каля Кракаўскага манастыра Грэцкага абраду

Хадкевічы, Радзівілы, Сапегі, Астрожскія і інш. як стаўпы стаялі на варце беларускага народу і яго роднай мовы

Толькі Скарына і яго наступнікі, ўзгадованыя на яго друках, спасьлі Літоўска-Беларускае Княжства ад поўнага зліцьця з Польшчай, чаго так дабіваліcь палякі.

Творчасьць, выхова народа, звычаі, распарадак жыцьця і судовыя законы — усё апіралась на пройшласьць Скарынінскага друку і тварыла далей беларускую культуру, літаратуру і законы

Горы спаляных кніг, старых памятак мінуўшчыны, сьведчаць нам аб гэтым, але і тое, што засталося, ня можа нас выкрасьліць з радоў культурных народаў і цяпер

Мабыць, гісторыя мела свае пляны і законы, выкрэсьліўшы з нашай гісторыі ўсё дробнае і пакінуўшы толькі галоўныя фактары народнай творчасьці і культурнай спеласьці

Ніхто ня ведае напэўна ні дня, ні года, калі радзіўся і памёр наш вялікі друкар і вучоны Скарына Да гэтае пары спрачаюцца, якога вызваньня быў Скарына — праваслаўнага ці каталіцкага Ніхто ня ведае абставін жыцьця Скарыны ў часы яго вучэньня, таксама як у працы Аддаўшысь друку, як пэўнаму служэньню свайму народу, Скарына ня меў зусім, відаць, свайго асабістага жыцьця На гэта паказывае той факт, што ён, толькі скончыўшы працу ў 1529 г., калі яму было каля 40 гадоў, ажаніўся са ўдавой Юрыя Адверчанкі — Маргарытай Жыў бедна аж да самай сваей сьмерці

Аднак усе ведаюць, колькі Скарына ў такі кароткі час надрукаваў кніжак. Усе ведаюць, што на падставе Скарынінскіх друкаў беларускі народ захаваў сваю самабытнасьць і ня зліўся з польскай дзержавай, ня гледзячы на тое, што нацыянальнага ўсьведамленьня, у нашым сэнсе слова, тады яшчэ не было.

Скарынінскім друкам, разам з самабытнасьцю, захаваў беларускі народ і сваю веру, не раструсіўшысь паміж іншымі каталіцкімі народамі

Друкі Скарыны перасьцераглі нас і ад навалы Маскоўскай, ня гледзячы на еднасьць рэлігіі, народная беларуская маса не паддалася дэнацыяналізацыі і пад страшэнным уціскам і забаронай вуснага — у царквах і касьцёлах і — пісанага слова — у газэтах, журналах і кніжках, не страціла Скарынінскай беларускай мовы і жывець ёю дасюль

Ці можа быць якое-небудзь параўнаньне паміж беларускай культурай апошніх часоў і расейскай? Разумеецца, не — мы толькі пачынаем, а Маскоўцы ўсімі сіламі

свайго дабрабыту, сваей дзержавы, напрацягу некалькіх сотак гадоў толькі і працавалі над ёю, каб гэтай культурай, блескам вялікай дзержавы, задушыць культуры малых народаў І што-ж? Дасягнулі сваей мэты? Не, — народ беларускі адвярнуўся ад іх вялікай культуры і трымаўся, хоць і малой, але сваей культуры, сваей мовы, якую далі яму Скарынінскія друкі

Ні школы, ні унівэрсытэты, ні прымусовае ўвядзеньне расейскае мовы, таксама як раней і польскай, ва ўсе ўстановы дзержаўнага жыцьця, не перарабілі беларусоў на расейцаў. Ён заўжды заставаўся самабытным, са сваей простай мовай, і не прыймаў мовы панскай.

Улада Расейская думала, што ўсё скончана. Мова беларуская застаецца як пержытак, але душа селяніна ўжо перарабілась на расейскую. 65 % расейцаў у агульнай статыстыцы былі сьведчаньнем гэтага погляду Ні аб якіх беларусах, альбо ўкраінцах успаміну там не было.

Гісторыя, як я казаў раней, па сваіх законах укрывала ад людскіх вачэй усе драбязгі нашага жыцьця і на гэты раз у 1917 г. паставіла нават часовы расейскі ўрад, ужо дэмакратычны, перад фактам існаваньня беларускага народу. Ён голасна загаварыў у Менскай, Віленскай, Вітэбскай, Гродзенскай, Магілеўскай і Смаленскай губерні на мяйсцох і ва ўсіх арміях на фронце

Дух Скарыны і старых традыцый загаварыў раптоўна ізноў і выдзяліў беларусоў з агульнарасейскай лічбы

На Кангрэсе ў сьнежні 1917 г зьбіраецца каля 2000 дэлегатаў, якія і абвешчаюць, што Беларусь павінна стаць дэмакратычнай Рэспублікай. Ідзе глухая барацьба паміж астаткамі Расейскай дзержавы і беларусамі ў створанам дзержаўным органе, выбраным на Кангрэсе Расейцы накіроўваюць на фэдэрацыю, Беларусы патрабуюць незалежнасьці

Пасля прадажы Захадняй Беларусі немцам у Берэсьці, чаша беларускага цярпеньня перапаўняецца і не бачучы ніадкуль помачы, абарону сваей тэрыторыі Рада Зьезду бярэ на сябе і 25 сакавіка 1918 г. абвяшчае Незалежную Беларускую Народную Рэспубліку Абвяшчае якраз у той самы дзень, калі 392 г. таму назад Скарына у Вільні выдаў першую сваю "Малую падарожную кніжыцу", "абы брацьця моя, русь, людзи паспалитыя, чтучы, магли лепей разумеци, дзецям малым, — пачаток усякое добрае навуки, грамоты, еже добра чести и мовици вучыць; каб беларусы — падарожники мели па чым малицца на чужой старане, ведали б, кали сьвяткаваць якие дни".

Знаць, добра беларусы чыталі кніжкі свайго друкара і шанавалі яго запавядзі, калі нават на чужыне, раскідаўшысь па ўсіх фронтах і заграніцай, вучылісь чытаць і гаварыць па-свойму, каб у пэўны момант скінуць з сябе чужацкую вопратку і зьявіцца на першы покліч сваей Бацькаўшчыны.

Зьявілісь усе верные заветам Скарыны, але лёс не судзіў яшчэ нам вярнуць былую славу нашых продкаў Незалежнасьці мы не дасягнулі, дзякуючы ворагам пераможчыкам, але мы яе дасягнем. Скарына нам у гэтым зарука

Вось гэны факт інстынктыўнага, магутна-стыхійнага абуджэньня народных мас, пасля трохсотлетняга заняпаду, найяскравей сьведчыць аб нацыянальным пачуцьці беларускага народу.

Верны сваім традыцыям, народ беларускі на працягу 300 гадоў пасыўна бароніцца ад чужацкай навалы, захоўваючы толькі сваю беларускую мову як галоўную адзнаку свайго нацыянальнага жыцьця.

Бяз мовы — няма нацыі, без культуры — няма народу і не можа быць Незалежнасьці, сваей уласнай дзержавы.

Народную беларускую мову першы зафіксаваў Скарына ў сваіх вечных помінках — друках Бібліі на простай мове.

Наступнікі ўзмацавалі і развілі яе далей, зрабілі мовай дзяржаўнай, на якой ня толькі гаварылі, але і пісалі дзяржаўныя законы — граматы Літоўска-Беларускіх Князёў і Літоўскі Статут.

Беларускі народ пасьля таго, як баярэ і нават духавенства адраклісь ад роднай мовы і культуры, захаваў яе і ня страціў у самую жорсткую пару трохсотлетняга панаваньня чужынцоў і перадаў нам да ужытку сягоньняшняга дню.





Хто, любячы свой народ, ці шануючы яго правы на мову і свае звычаі, адважыцца сказаць, што сучаснікі павінны адрачысь ад гэтай мовы і культуры, бо ёсьць культура вышэйшая, лепшая, а мова прыгажэйшая.

На Парыжскім Конкурсу пекнаты сучасных моў першую прэмію атрымала мова Эстонская, ціж з гэтага можа хто зрабіць вывад, што іншыя мовы павінны адмовіцца ад сваей і гаварыць толькі на мове Эстонскай.

А між іншым такімі довадамі карыстаюцца Расейцы і Палякі адносна другіх нацый наогул і асабліва — беларусоў

Над такімі довадамі беларускі народ не задумываецца і ідзе сваей дарогай да вольнага і незалежнага жыцьця, пасьля якога знойдзе способы раўнапраўнага сужыцьця са ўсімі славянскімі народамі на абшарах Эўропы і з тымі неславянскімі народамі, якія рука аб руку ішлі на змаганьне за сваю незалежнасьць і памагалі беларускаму народу вызваліцца з няволі.

Дзень абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і дзень 400-летняга Юбілею Скарынінскага друку неразрыўнымі ланцугамі зьвязаны паміж сабой.

Памяць аб слаўнай пройшласьці мінулага, самастойнага істнаваньня Беларусі ў часы Скарыны, росквіт і залаты век беларускай культуры вабіць нас і цяпер сваей прыгожасьцю. Успамінаючы старыя часы свайго незалежнага і магутнага панаваньня на абшарах беларускай зямлі, мы набіраем усё больш і больш сілы, каб прагалошаную 25 сакавіка 1918 г. Незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі абярнуць у рэальны факт часоў Скарыны Жыцьцё мацней усялякіх выкладаў. Народ, адчуўшы ўсю пекнату незалежнага існаваньня, ніколі не згодзіцца на рабства Мы бачылі ў самастойным істнаваньні росквіт культуры і адраджэньня, таксама, як у братскім еднаньні раней з Польшчай, а потым з Расеяй — заняпад і блізка што ня сьмерць нацыі.

Цяпер нам расейскія цэнтралісты бяз розьніцы, як левые так і правые, а таксама і заграніца, якая стаіць на поглядзе, што народы для дзержавы, а не наадварот — вуснамі "непомнящих родства" прафэсароў гавораць. "Что понятіе родины, как общее правило входит в понятіе отечества, но что часто незаметно для себя в понятіе родины вкладывается понятіе отечества — это является одной из причин местных сепаратизмов" Для расейцаў гэта так, мы згодны, але — лічыць для ўсіх славян "Отечеством Расею рызыкоўна: замест аб'еднаньня выйдзе раз'еднаньне.

Вось вам уваскрэшеньне ідэі "Pax Ramana" і пазнейшай — панславізму і пангерманізму Так гаварылі прадстаўнікі Аўстра-Вэнгэрскай манархіі славянскім народам да вайны Інтэрасы "родіны" вы павінны забыць, а адчуваць толькі інтэрасы "Отечества". Дзяржаўнасьць на першым мейсцы, а потым — народ.

З мэтаў інтэраса "Отечества" панславізм імкнуўся і імкнецца пад назвай "Адзінства рускай культуры" правесьці граніцу ад Кенігсбэрга да Тріэста і закрэсліць магучай рукой назву "Родіны" для ўсіх славянскіх народаў, не гаворучы ўжо аб інародцах.

Мы, беларусы, ведаем, што для нас "Родина и отечество" — тое самае, за што мы з Масковіей білісь больш як чатыры стагодзьдзі.

Горы трупаў і рэчкі беларускай крыві навучылі нас цаніць сваю Бацькаўшчыну не як частку Расеі, а як самастойную, раўнапраўную адзінку ў сям'і славянскіх народаў і дзержаў

Цень Скарыны ў сягоньнішні дзень яшчэ больш узмацуе нашы сілы на змаганьне за сваю Незалежнасьць, а ўдзячныя сыны Беларусі, пры дапамозе нашых прыяцеляў, яшчэ больш аб'еднаюць навуковыя сілы нашай Бацькаўшчыны ў барацьбе за сваю і культурную, і палітычную незалежнасьць.

*15. III. 25 г.*
*Прага.*

Я маю твор...

# Вольга КАРАТКЕВІЧ



## Паэту Зянону

*Вячэрнія промні*
*на жоўтай траве,*
*Як і на Бацькаўшчыне.*
*Але гэта не Бацькаўшчына.*

**Зянон ("Крыніца", № 23)**

Працуе зручны Макдональдз,
Як у Амэрыцы
Але гэта не Амэрыка
Бацькаўшчына.

*18.12 1996. Менск*



# АРЦРУНІ

У НАС



*.Прамінулі дні.*
*Я піў каву і ляжаў на падлозе.*
*Я спісаў цэлы аркуш*
*і не хацеў больш нічога –*
*толькі пісаць.*

**На Беларусь яго прывяло каханне. Так, так — каханне. У родным свaім Ерэване спаткаўся неяк з дзяўчынай з Мінска. І здалася яна самай прыгожай на свеце. І паехаў да яе на радзіму. І застаўся тут. Ці назаўсёды? Бадай што так. Вось ужо больш як дзесяць гадоў жывуць Алена і Норык (як завуць яго сябры) адзінай і дружнай сям'ёй. Разам гадуюць дзяцей — хлопчыка і дзяўчынку. І ганарацца тым, што іх дзеткі змалку вучацца аж тром мовам: беларускай, армянскай ды рускай...**

**Сувязяў з роднай Арменіяй Арцруні Людвігавіч Галсцян не губляе. Друкуецца там. У газетах, у часопісах. Ды і ў нас на Беларусі ён прадстаўляе газету "Рэспубліка Арменія", уласным карэспандэнтам якой працуе. Выступаў з артыкуламі па надзённых праблемах жыцця і мастацтва ў часопісе "Крыніца", у газеце "Культура". А пачынаў некалі з вершаў. Схільнасць да паэзіі, на мой погляд, наглядаецца сёння і ў ягонай прозе, сціслай, лаканічнай, поўнай падтэкстаў. І яшчэ — у сваіх кароткіх навелках, абразках, замалёўках (не ведаю нават, як назваць іх больш дакладна) ён спрабуе пранікнуць у тую сферу чалавечага існавання, якая адразу не даецца асэнсаванню, — у дзейнасць падсвядомасці.**

**Можа, менавіта гэтым і прывабіла мяне проза Арцруні. Можа, менавіта таму мне і захацелася пазнаёміць з ягонай творчасцю беларускага чытача. Спадзяюся, што знаёмства гэтае будзе прыемным.**

**Артур ВОЛЬСКІ**

# ПАРТРЭТ

Я ўзяў аловак, аркуш паперы і пачаў маляваць.
Мне было сумна, але сумаваць не было калі.
Атрымаўся партрэт
Дзяўчынка ўсміхалася мне з аркуша паперы.
Яна была менавіта гэткая, усмешлівая.
Я паклаў аловак.
Аказваецца, я няблага малюю.

Я выйшаў на балкон і глядзеў на зоркі. Глядзеў доўга. Потым спалохана прысеў. Прысеў проста на бетонную падлогу балкона. Мяне нешта такое цягнула да зорак, і я спалохаўся. Спалохаўся, што ўзлячу. Мне здалося, быццам губляю вагу. Таму і прысеў, каб не ўзляцець цераз парэнчы балкона. Літаральна паўзком вярнуўся ў пакой

Дзяўчынка з партрэта па-ранейшаму ўсміхалася.

Спраў шмат, шмат спраў, і мне сумна. Ад суму я маляваў, і ў мяне атрымалася. Няўжо і сапраўды я вылецеў бы з балкона? Своечасова прысеў Гэта мяне ўратавала. Зоркі, як магніт, прыцягвалі мяне да сябе. Небяспечная рэч — неба.

Я сядзеў у сваім пакоі, і ўва мне зноў бушавала жаданне вярнуцца дамоў. Я пачаў сноўдаць па пакоях ды кулакамі грукаць у сцены. Я разумеў, што з уласнага дому да сябе дамоў вярнуцца немагчыма, і гэта прыводзіла мяне ў шаленства. Я тут жыву, але мне хочацца вярнуцца дамоў. І я грукаў кулакамі па голых сценах. Я хачу дамоў.

Суседзі зноў выклікалі хуткую ..

Я проста так не дамся..

Мне скруцілі рукі Партрэт валяўся на падлозе. Але яна ўсміхалася мне ўслед. Якое дурноцце ўсё гэта.

Шчаслівы чалавек мой урач Заўсёды ўсё ведае Неўзабаве ён адпусціў мяне. А мае суседзі абураліся Не ўсе. Партрэт дзяўчынкі сустрэў мяне. Я падняў яго з падлогі. Партрэт як партрэт. Дзяўчынка як дзяўчынка. Але ж яна зусім не ўсміхалася. Яна ніколі не ўсміхалася Дзіўна

Спраў шмат, шмат спраў І тое, і іншае Шмат спраў Выйду на балкон падзівіцца зорным небам. Што будзе, тое й будзе.

# НЕЗДАРМА

“Проста так нічога не бывае”, — круцілася ў ягонай галаве адзіная думка. “Проста так нічога не бывае” Стаіць на прыпынку, а транспарту няма. Гэта ж нездарма. Ну і пляваць, што позніцца. Значыцца, так трэба Хаця і зразумела, што важная справа можа прагарэць. Яго чакаюць вельмі сур’ёзныя людзі, а транспарту ўсё няма. У мінулы раз ён вось гэтаксама чакаў транспарту, а яго яшчэ штрафанулі ў аўтобусе за безбілетны праезд. “Вашы праязныя талоны?” Каб вас пасля такога сервісу. Але ж, напэўна, нездарма Менавіта ў гэты дзень і менавіта ў гэты час.

Ён краёчкам вока глядзеў на дзяўчыну, якая чамусьці плакала. Дзвюма рукамі захінула тварык і плакала. Ён злаваўся. Чаму яго абавязваюць спачуваць? Чаму яна тут на вачах ва ўсіх стаіць ды плача? “Ну і хрэн з ёю, хай плача. Ёсць прычына, значыцца. Напэўна, нехта паслаў яе як далей Туды ёй і дарога”. Яна была не па надвор’і апранутая і выгляд мела няшчасны. Ён адвярнуўся і стаў да яе паўбокам. Маўляў, не бачу я цябе. Між тым, яна заставалася ў полі ягонага зроку. На самым ускрайку. “Транспарту няма Спазнюся Ліха з імі, пачакаюць. А гэтая маленькая мымра ўсё плача. Дзень нейкі паскудны. Ні то зіма, ні то хрэн з памідорам”.

Побач з ім стаялі двое. Адзін з іх балбатаў бясконца, а другі ўсё маўчаў “Уяўляеш, – казаў з дзіцячым імпэтам балбатун да свайго маўклівага сябра, — гэты дурань ускараскаўся на самую верхатуру і адтуль пачаў крычаць. "Людзі!!!" – і махаць ім рукой. І гэта ў храме, уяўляеш? А бабкі ўнізе лаюць яго... Зараз міліцыю паклічам!.. А ён адтуль махае рукой Калі вы міліцыю паклічаце, кажа, дык чым вы адрозніваецеся ад фарысеяў? . Уяўляеш?” А той, які павінен быў уявіць, паспеў ужо двойчы пазяхнуць і з разяўленым ротам выцягваў шыю, гледзячы ў канец вуліцы. А вуліца была пустая.

“Лухта нейкая”, — падумаў ён.

Дзед з хворымі нагамі, абапіраючыся на свае мыліцы, скардзіўся на здароўе Што ён ад яго хоча? Прычапіўся на прыпынку і скардзіцца. Жыцця няма, кажа, хварэю. Вось, кажа, ледзьве клыпаю. Ці дажыву, кажа, да вясны, не ведаю. “А ці ж я ведаю, — думаў ён, згодна ківаючы галавой старому, — проста транспарт позніцца, проста надвор’е дрэнь, проста астролагі, напэўна, нешта накаркалі на сённяшні дзень”

Бабуля спрабуе падняць п’янага сына, а той ляжыць на чорна-шэрым снезе і не даецца. Бабуля цягне яго за рукавы, сама брудная, як гэты снег. А сумку з бутэлькамі не выпускае з рук. “Гэта свінства”, — кажа стары з хворымі нагамі Балбатун, заўважыўшы, што бабуля з п’яным больш цікавяць ягонага слухача, чым гаворка пра ўраджай агуркоў мінулага сезона, памяняў тэму і пачаў апавядаць пра свайго знаёмага, які паабіваў сваімі бакамі ледзь не ўсе тратуары горада. “Глядзі, сумку не кідае”, — зазначыў адзін з назіральнікаў. “І не кіне”, — адрэагаваў балбатун. Бабуля бездапаможна паглядзела ў бок мужчынаў Мужчыны падышлі да п’янага, паднялі яго на ногі і перацягнулі да лаўкі. Бабуля ўсё дзякавала ім. Смех дый годзе А транспарту няма. “Спазніўся, — падумаў ён, — і гэта нездарма. Гэта не выпадковасць”

“Ну, уяві сабе, — зноў увайшоў у імпэт балбатун, — калі слова Анёл замяніць словам іншапланецянін, а слова неба, у рэлігійным разуменні, вядома, замяніць словам, скажам, чацвёртым альбо пятым вымярэннем, дык усё стане на свае месца. Мы жывём толькі ў трох вымярэннях, правільна? Дык вось, тое, што робіцца зараз вакол нас, мы бачым толькі з дазволенасці трох вымярэнняў А калі б мы мелі магчымасць карыстацца хаця б чатырма каардынатамі, што б мы тады бачылі?! Уяўляеш?”

“Сабакам на сняданак усё гэта, — падумаў ён, адным вухам падслухоўваючы балбатуна і ў той жа час ківаючы старому, — чаму я наогул тут, што я раблю, куды я кіруюся і навошта ўсё гэта?”

“Тры месяцы пракачаўся ў бальніцы, — скардзіўся стары з хворымі нагамі, — вось так во, малады чалавек, тры месяцы”.

“Варта было б падысці да яе, — падумаў ён, краёчкам вока разглядваючы дзяўчынку, што плакала, — варта б падысці”.

А транспарту ўсё не было. Захрас пракляты, напэўна, у сваіх чацвёртых ці пятых вымярэннях.

“Нам бы ўтрох навучыцца жыць”, — загаварыў раптам маўклівы сябар балбатуну. Ці не гаварыў?. Хто ведае.

П’яны нарэшце заснуў на лаўцы. Бабуля сядзела ў яго ў нагах і раз-пораз папраўляла на ім паліто, каб было яму цяплей

Не!!!

Нездарма ўсё гэта.

# ВЯЧЭРА

Сядзеў ляснік ды моўчкі еў рыбу. Хата, дзе ён жыў, выглядала груба і няўклюдна. Усярэдзіне яна была пустая, калі не лічыць вялізнага стала, пары табурэтак, збітых з неачэсаных дошак, чорнай ад куродыму “буржуйкі” ды некалькіх парожніх палічак, прыбітых да сцяны. “Як ён тут жыве?” — падумаў малады чалавек, адзін з гасцей лесніка. А ляснік еў рыбу. Пры гэтым гучна чвякаў і дзіўна соп носам. Другі госць, мужчына гадоў пад сорак, сядзеў побач з маладым чалавекам і безуважна глядзеў у цемрадзь за акном Пакой асвятляла газоўка, што вісела на цвіку, усаджаным у сцяну. Лямпа ледзьве ліпела, і святла ў пакоі не хапала. І як ні хацелася маладому чалавеку разгледзець аблічча гаспадара гэтай дзіўнай хаціны, у яго нічога не атрымоўвалася. Твар гаспадара заставаўся ў цяні доўгіх валасоў. Затое жоўтае святло газоўкі добра асвятляла рыбіну, якую ён еў, і ягоныя тлустыя пальцы.

“Ну, калі ж ён скончыць сваю вячэру?” — падумаў малады чалавек. Яму да смерці надакучыла сядзець на табурэтцы і глядзець, як ляснік знішчае рыбіну.

А ляснік спакойна еў Ягоныя тлустыя пальцы машынальна ўторкваліся ў рыбін бок і вырваны кавалак накіроўвалі ў цемру, дзе той і знікаў бясследна. Маладому чалавеку карцела распачаць размову. Спытацца, напрыклад, дзе ляснік злавіў сваю рыбіну, як

гатаваў, ці заўсёды жыве тут, або колькі кіламетраў адсюль да бліжэйшага населенага пункта. Але нешта стрымлівала яго Ён пабойваўся першым парушыць цішыню Тым больш, ляснік так быў захоплены ядой, што, здавалася, забыўся пра сваіх гасцей

Другі госць па-ранейшаму безуважна глядзеў у акно. А на чорных шыбінах адбіваліся толькі пустыя сцены пакоя ды бліскучыя валасы лесніка.

Ляснік нарэшце пракаўтнуў апошні кавалак.

— Ці можам мы разлічваць на начлег? — крыху счакаўшы, спытаўся другі госць.

Ляснік па-ранейшаму маўчаў. "А спаць дзе будзем?" — падумаў малады чалавек. Ён вачыма яшчэ раз прайшоўся па пустым пакоі. "На падлозе, хіба?"

— Хаця б адну ноч, — працягваў другі госць.

Ляснік быццам не пачуў яго. Потым спакойна ўстаў і павольна падаўся да выхаду Маладзейшы ўсхапіўся з месца і запытальна паглядзеў на свайго спадарожніка. Пры самых дзвярах ляснік прыпыніўся і павярнуўся ў бок гасцей Але твар ягоны ўсё адно заставаўся ў цяні, і госці так і не змаглі агледзець гаспадара. Ляснік павярнуўся зноў да выхаду і выйшаў з пакоя.

— Пайшлі, — буркнуў другі госць, з нечаканай хуткасцю ўстаў і падаўся следам за леснікам Маладзейшы недаўменна перасмыкнуў плячыма і сачыў за імі. Ляснік чакаў іх за дзвярыма. Калі яны выйшлі з пакоя, маладзейшаму здалося, што лямпа ў пакоі за ім згасла

Ляснік ішоў наперадзе. Яны прайшлі калідор і збочылі налева. Перад імі аказалася лесвіца, што вяла ўгару "Ого, у гэтым закануркі ёсць яшчэ і другі паверх", — падумаў маладзейшы. Яму зноў закарцела нешта сказаць, але нейкае не зразумелае яму пачуццё прымусіла маўчаць. І ён ціха, следам за астатнімі, узнімаўся па прыступках. Яны ішлі ў поўнай цемры, і цяжка было вызначыць, ці высока яны падняліся Тым больш – лесвіца была вітая Нарэшце яны ўперліся ў дзверы Хаця і было па-ранейшаму цёмна, але маладзейшаму здалося, што ляснік усміхаецца. Другога госця нішто як быццам не цікавіла. Ён, не чакаючы запрашэння, адчыніў дзверы і ўвайшоў Маладзейшы ўвайшоў следам Ляснік застаўся за дзвярыма

Пакой, дзе апынуўся малады чалавек са сваім спадарожнікам, нагадваў двухмесны нумар у гатэлі. Прычым — вельмі прыстойны нумар

— Тут буду спаць я, — сказаў старэйшы госць і падышоў да выбранага для сябе ложка. Маладзейшы ўсмешкай ухваліў ягоны выбар і прысеў на край другога ложка.

— Ну, ляснік дае, — наважыўся нарэшце загаварыць маладзейшы, — у такой халупе ды гэткая раскоша! Цуд — не хаціна. А знадворку ніяк не скажаш

Ягоны сусед нічога не адказаў Ён моўчкі разуўся і выпрастаўся на ложку Маладзейшы з асалодай папраавіў сваю падушку і таксама прылёг.

— Як ты трапіў сюды? — спытаўся раптам старэйшы. Ягоны голас у цішы здаўся густым і змрочным

— Я? — здзівіўся маладзейшы — Так здарылася Шчыра кажучы, сам не ведаю А наогул — не шкадую.

— А што табе тут трэба?

— Нічога

"Ну і тып", — падумаў маладзейшы

— Ці не хочаш сказаць, што ты проста так трапіў сюды і табе тут анічога не трэба?

— А хіба так не бывае? — здзівіўся маладзейшы

— Не. Не бывае. Проста так — куды заўгодна, але толькі не сюды

— Ну, не зусім проста так, — як бы апраўдваўся маладзейшы, — мяне сюды завабіла прырода Ты заўважыў, што гэты ляснік крыху дзівакаваты? Мець электрычнасць і сядзець у цемры? А рыбу як аплятаў, га?

— Маўчы, — раздражнёна выгукнуў другі, — што ты разумееш!

— А што я павінен разумець? — зноў здзівіўся маладзейшы Ён пацiснуў плячыма і пачаў скідаць красоўкі

— Слухай, ты сапраўды не ведаеш, куды трапіў? — пасля невялікай паўзы спытаўся старэйшы

— Як гэта не ведаю, — у голасе маладзейшага прагучала крыўда

— Значыцца, ты зусім выпадкова трапіў сюды? Ішоў-ішоў і трапіў?

— Ну так, — маладзейшы ніяк не мог уцяміць, што ад яго хочуць.

— Пачакай. Ты сам не імкнуўся прыйсці да яго?

— Не разумею, што вам трэба?

— Я маю на ўвазе — менавіта сюды, да яго, разумееш, да яго.

— Як я мог імкнуцца да яго, калі я раней пра яго і пра гэтыя мясціны і ведаць не ведаў Я ішоў сабе ды ішоў А ты што, наўмысна накіроўваўся да яго?





На гэта старэйшы нічога не адказаў. Ён здаўся маладзейшаму крыху засмучаным Ва ўсялякім разе, пасля гэтай размовы твар ягоны больш спахмурнеў

— Слухай, а ён збіраецца нас пакарміць? — каб неяк памяняць тэму гаворкі, спытаўся маладзейшы, адначасова спрабуючы канчаткова вызваліць ногі ад красовак.

— Хто?

— Ды ляснік, хто ж яшчэ

— Ляснік, — працягнуў другі госць, — дзе ты бачыў тут лес, дзе? Навокал пустыня, разумееш, пустыня .. Дзе ты бачыў у пустыні лесніка?

Маладзейшага нібы токам ударыла. "Гэта ж так і было, — падумаў ён, — я ж, праклінаючы ўсё на свеце, блукаў па пустыні Але адкуль у пустыні леснічоўка?"

— Ну, калі ён не ляснік, дык хто ж ён?

Дзверы расчыніліся, і ў пакой увайшла нейкая старая.

— Вячэраць будзеце? — спыталася яна

Ніхто з гасцей не адказаў. У пакоі панавала цішыня.

— Як загадаеце, — счакаўшы трошкі, прамовіла старая і пакінула пакой

— Гэта ягоная жонка? — спытаўся маладзейшы

— Слухай ты, цурбан! — раптам узлаваўся другі. — Заткніся!

Ад злосці ён пачырванеў. Вочы вылупліваліся з арбітаў Маладзейшы нават спалохаўся Ён прыціснуў да грудзей коўдру і здзіўлена паглядаў на суседа

— Я ўсё жыццё ішоў сюды Усё жыццё я ішоў да яго, разумееш, усё жыццё... Каб трапіць сюды, я прайшоў усе пакуты пекла Я сам ператварыўся ў пекла Я выканаў усе ўмовы. Я адмовіўся ад усяго дзеля гэтай сустрэчы Я імкнуўся да яго, і я заслужыў гэта. Я заслужыў быць тут, знаходзіцца ў гэтым пакоі Але ты Чаму ты тут? Ты нават не думаў сюды трапіць. Чаму тады ты тут, я пытаюся, чаму?

Маладзейшы нічога не разумеў Ён моргаў вачыма і не мог знайсці ні слоўца ў адказ

— Калі можна было так проста трапіць сюды, навошта я знявечыў сваё жыццё і жыцці іншых, навошта?

Ён амаль крычаў Пальцы рук нервова драпалі паветра Але неўзабаве ён суняўся, накрыўся коўдрай і ляжаў моўчкі Зноў запанавала цішыня, і гэта яшчэ больш палохала маладзейшага.

— Я заўтра ж паеду, — нарэшце прамовіў ён, — мне нічога тут не трэба Я заўтра ж паеду

— Заўтра, — пацягнуў за маладзейшага сусед, — тут не бывае заўтрага. Тут — толькі "зараз" І нікуды ты адсюль не паедзеш Адсюль проста так не сыходзяць.

Ён прысеў на сваім ложку і нахіліўся ў бок маладзейшага.

— Ты ведаеш, што такое ўлада? — таямніча спытаўся ён — Улада, разумееш? Неабмежаваная ўлада Адкуль табе ведаць! Ты ўсяго толькі блазан Тут, менавіта тут, даецца ўлада Ва ўсе часы Толькі тут Ведай, колькі існуе Свет, з дня яго стварэння да нашага часу людзі атрымлівалі ўладу менавіта тут. Усе ўладары свету праходзілі праз гэтыя дзверы, і хто быў тут, атрымаў неабмежаваную ўладу над светам Акрамя аднаго Толькі адзін чалавек не ўкленчыў перад ім Толькі адзін чалавек адмовіўся ад неабмежаванай улады над светам. Імя ягонае навечна забароненае ў гэтых сценах.

"Дрэнь яго справы, — падумаў маладзейшы, — трызніць. Напэўна ў яго гарачка".

— Ты блазан, — працягваў сусед, — я гэта адразу зразумеў Але навошта ты тут, вось чаго я не магу зразумець. Усё гэта павінна мець нейкі сэнс. Мне неабходна яго разгадаць.

— У вас напэўна гарачка, вам патрэбны ўрач, — непакоіўся маладзейшы А сусед быццам не чуў яго. Ён увесь напяўся, вочы палалі нейкім злавесным агнём.

— Зразумей, я не павінен памыліцца. Я занадта доўга ішоў сюды Я шмат чым ахвяраваў Можа, ты — маё апошняе выпрабаванне? Можа, я павінен забіць цябе? Прынесці блазна ў ахвяру?! Інакш — навошта ты тут? Цябе ж не цікавіць улада. Ты ж нібыта выпадкова трапіў сюды А выпадковасцяў тут не бывае На нешта, значыцца, ты быў яму неабходны Дзеля чаго ж ты тут? Я павінен забіць цябе Я ўжо ведаю гэта дакладна. Я адчуваю гэта, я чую ягоны загад. .

Маладзейшы, як загнаны, прыціснуўся да сцяны, калі сусед пасунуўся да яго

— Я зраблю і гэта! Чуеш? І гэта я зраблю! — крычаў той і схапіў маладзейшага за каўнер

Дзверы зноў адчыніліся, і тая ж самая старая ўвайшла ў пакой У руках яна трымала паднос з садавінай Пасярэдзіне падноса ўзвышаўся вялізны кавун

— Ваша вячэра, спадары, — сказала яна і паставіла паднос на тумбачку Маладзейшы з жахам заўважыў доўгі і востры нож на беражку падноса. Старая паспешліва выйшла, а два мужчыны напружана глядзелі на нож. Гэта было адказам на ўсе пытанні. .

У пустым пакоі, асветленым слабым агеньчыкам газоўкі, сядзеў ляснік і моўчкі еў сваю рыбіну "Як бязглузда створаны людзі, — думаў ён, уторкваючы тлустыя пальцы ў рыбін бок, — усё шукаюць нейкі схаваны сэнс. А як знойдуць, ужо ні перад чым не спыняцца Гатовыя знішчыць адзін аднаго дзеля гэтага сэнсу, які самі і прыдумалі. Калі ёсць кавун, значыцца, павінен быць і нож, каб кроіць гэты кавун Але не Гэта занадта проста для іх. Ім патрэбен схаваны сэнс. Адзін ужо дваццаць гадоў просіцца да мяне Даведаўся неяк пра мяне і пачаў прасіцца. Другога я знайшоў у пустыні непрытомнага. Адзін прасіў начлегу, другі — сняданка. Я даў ім і тое, і другое. Што ім яшчэ трэба? Навошта?"

А рыба глядзела на свайго едака і думала зусім пра іншае

# ГІСТОРЫЯ

Я жыў у маленькай хатцы, і звалі мяне Арам Быў я сляпы, і мае павекі былі ружовыя. Я не бачыў чарвякоў. Мая слепата была ружовая, і жыў я ў маленькай хатцы, і звалі мяне Арам.

Я не быў зусім маленькі. Я плакаў, бо верыў, і мяне білі бязлітасна і горача любілі мяне

Потым я сустрэў змяю. Я не бачыў чарвякоў, я не баяўся іх. Я нават не ўбачыў змяю, бо быў сляпы, і змяя ўджаліла мяне. Уджаліла праз маю слепату, а мая слепата была ўсяго толькі ружовая. Потым я ўбачыў чарвякоў. Змяя прымусіла мяне ўбачыць іх. "Яны браты твае", — казала мне змяя. Чарвякоў было шмат, і мяне ахапіў жах, бо я не быў падобны да іх.

Дом, дзе я жыў, спрабаваў угаварыць мяне, каб я не верыў змяі. Каб заплюшчыў вочы і бачыў Праўду, але я быў глухі Я мог толькі бачыць. І я бачыў блакітнае неба. Я не мог зразумець усё, што было па-за ім. Я быў глухі, і галасы не даходзілі да мяне. Я павінен быў верыць, і я верыў. Мяне ўжо не білі і не любілі. Дом, дзе я жыў, даўно адышоў ад мяне, і я ступаў, растоптваючы нагамі чарвякоў, і звалі мяне Арам

Потым я ўбачыў слязінку. Яна была вартая жалю, хоць і зіхцела. Мне закарцела паклясціся Я пакляўся. Я сапраўды пакляўся, але з'явілася прастытутка і запатрабавала вярнуць слязінку Яна казала, што гэта ейнае, і я пачаў ненавідзець маю клятву. Я паверыў ёй і ненавідзеў клятву, каму б яна ні была дадзена Я вярнуў слязінку, і змяя пахваліла мяне.

Неўзабаве я зразумеў, што неба толькі блакітнае і нічога болей Што яно халоднае, і па-за ім нічога няма І хоць мяне ніхто не стрымліваў, я зразумеў, што лятаць мне ўжо не трэба І змяя сказала, што яна больш не змяя, а чарвяк. Потым яна сказала, што здзейснілася ейная мара і яна дасягнула дабрачыннай ступені чарвяка.

Я ішоў сваёю дарогай, і звалі мяне Арам. Па дарозе я сустрэў старога. Ён у сваіх абдымках насіў маленькую хатку. Я прасіў, каб ён аддаў мне гэтую хатку. Хатка была надта прыгожая, і я вельмі прасіў. Потым я выцяў старога, а ён смяяўся з мяне Ён быў ужо мёртвы, і вочы ягоныя былі мудрыя З хаткі выйшаў сляпы, павекі ў яго былі ружовыя. Ягоная слепата была ружовая, і я разумеў уласную нікчэмнасць. Я ненавідзеў яго, ягоныя ружовыя павекі. Я ўджаліў яго, бо я ўжо быў змяёй Я прымусіў сляпога ўбачыць свет, напоўнены чарвякамі, і мудрыя вочы старога з усмешкай глядзелі на мяне. Я толькі на імгненне зазірнуў у гэтыя вочы і адвярнуўся Я ўсё зразумеў і адвярнуўся ад старога. Я прымусіў сябе не глядзець болей у гэтыя вочы. Гэты пагляд клікаў мяне назад, а мне трэба было паўзці наперад. Я павінен быў дасягнуць дабрачыннай ступені чарвяка.

# ІНШЫМ РАЗАМ ПАШАНЦУЕ

Летучы з неверагоднай хуткасцю з бальнічнага ложка, я апынуўся ў сярэдзіне яйка. Мне было цёпла, і цеплыня ішла звонку Мне падабалася цеплыня, і я цягнуўся да яе маёй маленькай дзюбкай. Потым пачулася жудаснае храбусценне, і гэта мяне занепакоіла. Шкарлупінне навокал трэскалася, я апынуўся ў цемры, і сэрца маё





зайшлося ад страху Нешта моцна мяне сціскала. Аскабалкі яечнага шкарлупіння ўторкваліся ў маё цела, і мяне сціскала яшчэ мацней. Ад жудаснага болю ўсё навокал спынілася. Усё ..

Я павольна ўзнімаўся ўгору і вось убачыў жахлівую змяю, што праглынула яйка, з якога я так і не здолеў вылупіцца. Я дзівіўся, як разам з яйкам маё кволае цела зацягваецца ў горла пачвары, каб затым растварыцца ў ягоным доўгім шлунку.

Потым свет вакол мяне згарнуўся, і я ляцеў са страшэннай хуткасцю

У халодных вачах урача з'явіліся ледзь прыкметныя іскрынкі.

— Ну, хлопча, — сказаў ён да мяне стомленым голасам, — лічы, што ты нанова нарадзіўся.

— Табе пашанцавала, — казалі мне, — ты быў амаль што мёртвы

— Стары, я віншую цябе, — казаў мой сябар. Ён спачатку тэлефанаваў мне дамоў і, даведаўшыся, што я выпісаўся з бальніцы, прыехаў наведаць мяне Малайчына Выдатна выглядаеш. А мы тут запанікавалі. Але, дзякуй Богу, жывы-здаровы. Піць, вядома, табе нельга.

— Мне ўсё можна.

— Ну, цудоўна.

Мы з ім здорава выпілі Але ён быў мне ўжо нецікавы Гаманіў аб справах ды цяжкасцях, аб палітыцы, аб розных рэлігіях і аб экстрасенсах.. Ён быў ужо пад градусам

— Кажуць, — стары, ты быў у коме

— Мяне вярнулі з паўдарогі ў морг.

— Скажы, а тое, што пішуць — праўда?

— Што ты маеш на ўвазе?

— Ну, пра тунель...

Жонка падала на стол смажаную птушку

Мяне раптам званітавала. Страшэнна званітавала.

Усё навокал пачало трэскацца, як яечнае шкарлупінне Столь апусцілася ўніз, і я растварыўся ў нечым. Нічога канкрэтнага, проста цішыня.

Наступнага дня я адчуваў сябе выдатна. Я купіў сем пачак паперы для пісьма, лёг на падлогу і пачаў пісаць. Мая жонка нічога не разумела, але не пярэчыла мне Яна была ўсяго толькі добрай жанчынай. Таму і не пярэчыла. Спыталася ўсяго адзін раз, што я збіраюся пісаць, лежачы на падлозе

— Навуковую гісторыю, — сказаў я, бо ў гэты момант нішто іншае мне ў галаву не прыйшло.

— Пішы, — сказала яна і выйшла з пакоя

Прамінулі дні. Я піў каву і ляжаў на падлозе Я спісаў цэлы аркуш і не хацеў больш нічога — толькі пісаць.

Неўзабаве зноў прыехаў мой сябар Ён разам з маёй жонкай пачаў угаворваць мяне паказацца ўрачу. Па іх словах, гэта было проста неабходна. Перанесці кому — не жартачкі. Яны патлумачылі, што павязуць мяне ў іншую бальніцу, што яна знаходзіцца за горадам, што гэта не бальніца, а проста курорт Я ўсё разумеў, мне было балюча, страшэнна балюча. Мяне зноў ванітавала..

Дзверы ў спальню нячутна расчыніліся, а спальня была напоўнена цемрай Мяне спалохала цемра. Я ведаў, што мая жонка там, і яна яшчэ не спіць І гэта палохала мяне яшчэ больш.

— Прабач, я не буду больш пісаць, лежачы на падлозе.

— Пішы, дзе табе зручна.

— Я наогул пісаць не буду.

— Рабі, што хочаш.

— Я здаровы

На гэта яна мне нічога не адказала.

Наступнага дня я выйшаў на працу

Усё было нармалёва.
Мой сябар быў задаволены
Многія радаваліся.
Многія засмучаліся.
Жыццё віравала.
Грошы ішлі.
Жонка ўсміхалася
Недзе быў землятрус.
Недзе ішла вайна
Недзе некага згвалцілі
.. потым забілі

Я больш не пісаў, лежачы на падлозе Я збіраў маю новую мэблю ў маёй новай кватэры Я расстаўляў новую мэблю і ўвесь час глядзеў на новыя вокны, з якіх я калі-небудзь буду вылятаць, як толькі свет зноў згорнецца вакол мяне Мяркую, што гэтым разам са змеямі пашанцуе

# ДАРОГА

Дарога была залітая сонцам Яна вяла ў горы I я хадзіў Я хадзіў дарогай, залітай сонцам, і яна вяла мяне ў горы Так было, але так не было ніколі Хадзіў я па дарозе, што вядзе ў горы Напоўненай святлом I мне было лёгка Дзень выдаўся цёплы, і я не мог не ісці, бо гэта была мая дарога Я ішоў, і мне было лёгка і цёпла А было і інакш. Заўсёды было інакш I дарога была іншая, і горы былі іншыя Так ніколі не было Каб я проста хадзіў па дарозе, залітай сонцам, і каб мне было так лёгка.

Праўда, напачатку дарогі мне было сорамна Але потым я дараваў сабе і дараваў іншым Усім дараваў і хадзіў лёгка па сваёй дарозе Ведаць бы мне раней, што яна ёсць, ведаць бы

Не ведаў і злаваўся Злаваўся і злаваў іншых. Злаваў і змагаўся Змагаўся і перамог Перамог і зноў злаваў іншых Злаваў іншых і злаваўся сам Злаваўся і змагаўся Змагаўся і цярпеў паразу Цярпеў паразу і злаваўся Злаваўся і злаваў іншых. I ўсё гэта называлася жыццём Нейкі чалавек, збіваючы ногі аб вострае каменне, сцвярджаў, што жыццё — гэта барацьба

(Я абавязкова сустрэнуся са сваімі бацькамі )

Трэба змагацца, каб жыць, і жыць, каб змагацца I як можна было паверыць у такое? Дзе ён, гэты чалавек? Яму таксама, напэўна, было сорамна, калі ён хадзіў па сваёй дарозе, што вядзе ў горы Яму безумоўна было сорамна, як і мне Напачатку дарогі мне было вельмі сорамна. А потым я дараваў сабе і іншым Усім дараваў, і мне стала лёгка

"Я вырас каля акна стрункай таполяй,
Але мяне ссеклі і запалілі ў печы,
Каля якой ты грэлася
Потым ты падмяцеш чорны попел
I вёдрамі вынесеш з дому"

(Я так і не абняў цябе Я ніколі не абніму і не пацалую цябе )

Я вырас каля твайго акна таполяй, каб летам ты магла ратавацца ад спёкі А табе трэба было асцерагацца зімовых маразоў Але мы не маглі ведаць, што галоўнае, што правільнае Ніяк не маглі Трэба было жыць, і мы жылі Жылі так, як належала

Якія мы падобныя да першага дурня-чалавека Адама! Пакуль не ўкусіш плод, не даведаешся Пакуль не памрэш, не зразумееш, што такое Жыццё.

Мы ўсе намагаліся жыць правільна, а значыцца, добра I каб жыць добра, выкладвалі жыццё. Аддавалі жыццё, каб жыць I кола замкнулася. Адзінае выйсце з гэтага кола — Смерць. I сказала яна мне. "Пойдзем са мной" I я згадзіўся.

I што аказалася? Аказалася, што жыццё — гэта толькі пачуццё, стан уласнага я I добра — гэта і ёсць жыццё.

Я не ведаў гэтага і згадзіўся Я ўсім дараваў, і мне даравалі Мне хораша

Хутка ўжо горы.





# ХОЛАДНА

Што вы робіце, калі вам холадна? Калі ўжо нішто не грэе? Калі неба захінулася шчыльнай заслонай, і вы забыліся, як выглядае сонца? Калі попельніца, поўная недакуркаў, нагадвае магілкі, а ў пакоі замест паветра — горкі дым, і наперадзе няма заўтрага? Што вы тады робіце?

Мне сасніўся сон. Светлая паляна і блакітнае неба. Але гэта было даўно, вельмі даўно Бачыў я і іншыя сны Страшныя сны Хаця справа зусім не ў снах. Мяне непакоіла не гэта Я страціў мяжу паміж явай і ўявай Кожны раз я пакутаваў ад сумнення. ці было гэта трызненнем, ці сапраўды адбывалася са мною Я губляўся ў нязведанай прасторы. Дзе я, хто я, дзеля чаго я, і навошта ўсё гэта? Адзінае, што было вядома пэўна, гэта тое, што я ёсць. Я ёсць. Не мае значэння, ці ў сне, ці на яве гэта адбываецца са мной. Але гэта — я

Калісьці нашпігавалі мяне ідэямі Нашпігавалі гэткія ж, як я. Ім здавалася, што так і трэба Трэба гэткіх, як яны самі, нашпігоўваць ідэямі Я хадзіў з гэтымі ідэямі. Нешта рабіў, нечага не рабіў Але пытанне — з чаго складаецца свет і з чаго складаюся я — па-ранейшаму не пакідала мяне ў спакоі. Надышоў час, і я зразумеў· я складаюся з жаданняў

Нібыта я знайшоў тую прастору, дзе я жыву Знайшоў свой свет, і гэты свет быў светам жаданняў А жаданні ў мяне былі, і я жыў у гэтым свеце

Хацець — не грэх. Спачатку я хацеў таго, чаго жадаў Потым я хацеў таго, чаго жадалі іншыя Потым мне хацелася ўсяго.

Усяго — што маю і чаго не маю. Усяго, што маюць іншыя Альбо маглі б мець. Мне карцела мець усё

А хіба вы не хочаце? А хіба вы не жадаеце? А хіба вы не хочаце таго, чаго жадаеце? I хіба вы не дабіваецеся таго, чаго жадаеце? Дык раскажыце, што адбываецца з вамі, калі раптам зразумееце, што вы не можаце дасягнуць таго, чаго жадаеце Але з другога боку, усё, чаго вам гэтак хочацца, вельмі лёгка даецца іншым Іншым, ды не вам

Мне часта снілася адно і тое ж. Быццам бы я — злоўленая рыбіна, а ўвесь свет велізарная патэльня I я смажуся на гэтай патэльні, выпускаючы сок. Гэта быў сок зайздрасці Гэта быў сок нянавісці Мяне смажылі, і я выпускаў гэты сок, атрутны, згубны сок. Ці было гэта сном, ці не — цяжка сказаць Але тады я ведаў дакладна, што не маю таго, чаго жадаю Іншыя маюць, а я — не Іншыя жывуць, а я — не Вось тады я і апынуўся на сонечнай паляне, дзе блакітнае неба I мне было хораша. Мне было цёпла, і я грэўся Я стаўся чысты.

Кажуць, што многія лятаюць у сне Я ні разу ў сне не лятаў Не ўдавалася неяк Але тое, што я адчуў на той сонечнай паляне, дзе блакітнае неба, ні з чым не параўнаеш Гэта было недаступна Гэта было нерэальна Так хораша не бывае ніколі Так хораша проста не бывае Але я быў на той паляне, і мне было казачна добра.

Вось тады я і вызначыў межы паміж сном і рэальнасцю, паміж праўдай і падманам Тое, што хораша,— падман, тое, што жудасна,— чыстая праўда Я не верыў таму, што бачыў і адчуваў на той паляне Бо, як аказалася, свет складаўся толькі з людзей I нічога болей З людзей, ад якіх залежыць усё Менавіта ад іх залежыць здзяйсненне маіх жаданняў. Вось і перада мной яны адкрылі шлях у гэты свет Але наўзамен я павінен быў цалаваць круглы азадак чалавецтва

Мне далі квіток на спрадвечны маскарад у свеце жаданняў Я прыняў запрашэнне I пачаў жыць. Я ўсё рабіў так, як належала, і ў мяне атрымлівалася Усё было добра. Я, які яшчэ ўчора быў чалавекам, сёння далучыўся да чалавецтва, якое мае азадак Прызнаюся, мне гэта вельмі падабалася Я з прыемнасцю наглядаў, як зневажаюцца іншыя, спрабуючы ўтапіць у гэтым сваю ўласную знявагу.

Я жыў I гора не ведаў бы Але неўзабаве пасяліўся ў маім сэрцы Страх. Я пачаў баяцца У мяне з'явіліся гараскопы, свой асабісты экстрасенс. Я пачаў цікавіцца містыкай і па-ранейшаму баяўся Я ўсё рабіў правільна Я карыстаўся парадамі надзвычай разумных людзей, дасведчаных у гэткіх справах. Але страх не адпускаў мяне Я баяўся і ўдзень і ўначы. Асабліва ўначы Сны мяне не палохалі Але кожны раз я шукаў у іх патаемны сэнс — разгадку той небяспекі, што чакала мяне наперадзе. У

іх я шукаў сваё наканаванне. Цяпер я складаўся са страху, ахінутага чужой нянавісцю. І калі я раней высмоктваў у людзей грошы ды ўменне, дык пачаў высмоктваць у іх жыццё, каб самому не памерці

Вампір, скажаце вы з агідай. Але вы самі шмат далі б, каб жыць так, як я жыву, каб мець тое, што я маю. Я ж раблю свае справы, асцерагаючыся вас, бо ўсе мы разам жывём у адным і тым жа свеце жаданняў, дзе даюць і адбіраюць толькі людзі. Такія ж людзі, як мы самі. Уся розніца паміж намі ў тым, што я крыху больш удала згуляў сваю партыю. А так усе мы круцімся ў адным маскарадзе. Уся розніца ў масках. Дык не спяшайцеся асуджаць мяне. Не спяшайцеся адвярнуцца з агідай Паверце мне на слова, што многія з асалодай ідуць на здзелку з такімі вампірамі, як я. Яны з радасцю мяняюць сваё жыццё на вампірскі ікол. Пры гэтым таргуюцца заўзята. Таму іх нават ахвярай не назавеш.

Аднойчы я прачнуўся ў полі. Вакол мяне хадзілі нейкія дзіўныя людзі ў чорных капюшонах, нешта шукалі, торкаючы крывымі кіямі ў зямлю. Раптам адзін з іх падышоў да мяне. Абыякава торкнуў мяне кійком і гукнуў у бок сваіх:

— Мёртвы, забірайце.

— Хто гэта мёртвы? — здзівіўся я. — Я жывы!

— Усе вы так гаворыце, — махнуў рукою той, не пажадаўшы нават зірнуць у мой бок.

— Як гэта ўсе? Я сапраўды жывы, — абурaўся я.

Да таго падышоў яшчэ адзін

— Ну, што яшчэ — зноў? — спытаўся ён.

— Так. Сцвярджае, што жывы, — усміхнуўся першы.

— Як яны надакучылі, — захітаў галавой другі, — ды кінь ты яго ў агульную кучу. Які ён жывы!

— Я сапраўды жывы! — крычаў я ў страху. — Вы што, не бачыце?

— А што мы павінны бачыць?

— Я жывы! Я размаўляю з вамі! — крычаў я.

— Нічога гэта не значыць, — з халодным спакоем сказаў другі і звярнуўся да свайго хаўрусніка. — Давай заканчвай.

Яны ўзялі мяне за рукі, за ногі ды кінулі ў нейкую яміну Навокал ляжалі людзі, але людзьмі іх цяжка было назваць. Яны былі падобны на трупы Усе яны бубнілі, што жывыя, што іх памылкова кінулі сюды, стагналі, скардзіліся.

— Не шуміце! — закрычаў адзін з хаўруснікаў — Разбяромся.

— Як гэта, разберацеся? — абураліся мы. — Як гэта — разберацеся?

— Вось так і разбяромся.

Тут падышоў яшчэ адзін. Паглядзеў на нас, потым на таго, што з'явіўся каля нас першы, і спытаўся такім голасам, быццам гэта ён у яме, а не мы.

— Ну што, зноў абураюцца?

— Абураюцца, — адказаў той, што абяцаў разабрацца

— Што за народ пайшоў! Нават і памерці ладам не ўмеюць.

— Умеем, умеем! — крычалі мы.

— Што з імі рабіць? — спытаўся першы

— Ды сунь ты ім у зубы па тысячы даляраў, дай ім па "мерседэсу" і няхай як хутчэй вымятаюцца.

— Не хочам! Не хочам! — крычалі мы. — Усё гэта ў нас ёсць. Мы жыць хочам, жыць хочам, жыць хочам ..

Яны ў адказ паўсміхаліся ды пайшлі.

Таго дня я не расставаўся са сваім смокінгам. Нават уначы не хацеў скідаць яго. А раптам я зноў убачу маё сіняе кволае цела. Я паклікаў гасцей на шыкоўны пачастунак. Яны елі, пілі і доўга хвалілі мяне. Я ненавідзеў іх, але ведаў, без іх мне не існаваць. Без іх я ніхто. Без іх я не змагу даведацца, ці жывы я, ці даўно памёр ужо.

А сёння мне холадна і нішто ўжо, нішто не грэе

Даўно нехта стукаецца ў дзверы, але я не хачу адчыняць. Хаця ведаю — гэта па мяне.

**Пераклаў**
**Артур ВОЛЬСКІ.**



# Іна СНАРСКАЯ

## Я маю твор...



* * *

Дзе па рэчцы
Ўброд
Пераход колькі год —
Пералётная птушка
Прысніцца.
Тут такія снягі,
Тут гняздоўі тугі
І запалыя вочы
Крыніцы.
Гэта вечнасць —
Нуда,
І бяда, як вада,
Мне па самыя плечы,
А крылы
Так баляць за спіной,
Так галосяць за мной,
Так Ірвуцца
У белы наш вырай.

*г. Палтава*

# Ігар БАБКОЎ



*Дзверы шкляныя бачу:*
*свет у аблоках ..*







*З Табой:*

## З Ігарам БАБКОВЫМ гутарыць Валянцін АКУДОВІЧ

Перш чым пачаць гаворку з Ігарам Бабковым, я мушу патлумачыць праблему, якая паўстала перада мной у звязку з гэтай гаворкай Рэч у тым, што хаця маё “паўнавартаснае” знаёмства з Ігарам мае досыць кароткую гісторыю — блізу чатырох гадоў, але гэтыя гады былі настолькі насычаныя працай над агульнымі праектамі, дыскусіямі на розных канферэнцыях, семінарах, круглых сталах, кароткімі гаворкамі ў кавярнях за кубкам кавы і доўгімі (у гадзіну і болей) тэлефоннымі размовамі, сустрэчамі ў рэдакцыях, за хатнім сталом, на рагу вуліцы, у прасторы тэкстаў, — што сёння мне здаецца, быццам я ўжо даўно ведаю пра ўсё тое, пра што варта было б дазнавацца ў Ігара, каб прадставіць яго чытачу “Крыніцы” Адсюль і праблема мне нецікава, нават няшчыра пытацца аб тым, што магло б уважыць чытача, а чытачу наўрад ці было б цікава выслухваць тое, што хацеў бы пачуць я..

Праўда, наша з Ігарам сумоўе пераважна адбываецца ў “чацвёртым вымярэнні”, там, дзе месцяцца праекты, ідэі, канцэпцыі, модусы, тэндэнцыі, дыскурсы, паэтыкі адным словам — логасы Так што ў сэнсе звычаёвага ведання мы з чытачом амаль на роўных і, магчыма, гэтую сваю недасведчанасць я неяк скарыстаю, каб паспрабаваць выблытацца з той праблемы, у якую патрапіў Але каб лішне не засмечваць гаворку выпытваннем пра біяграфічна-пабытовыя падзеі, я наперад перакажу сёе-тое з таго, што ведаю сам, а далей паглядзім, ці спатрэбіцца яшчэ нешта

Ігару Бабкову трохі за трыццаць. Ён нарадзіўся і вырас (калі не памыляюся) у Гомелі. Скончыў БДУ (факультэт філасофіі) і там жа аспірантуру. Жанаты Жонка прыгожая, завуць — Вольга. Дачку завуць Ганька, прынамсі, так яе называюць бацькі Сям'я Бабковых жыве ў бацькоў Вольгі ў трох- ці чатырохпакаёвай кватэры. Любімы напой Ігара — кава. З моцных напояў аддае перавагу добраму віну (каньяком таксама не грэбуе) Гарэлку не любіць і ўжывае толькі ў скрайніх і безвыходных сітуацыях. Рэгулярна ходзіць у басейн і на пачатку кожнай вясны пачынае марыць пра вандроўку

## ПАРТРЭТ ФІЛОСАФА НА ФОНЕ ПУСТАЗЕЛЛЯ

**Класічны еўрапейскі раман XVIII—XIX стст. пакідае значнае месца партрэту чалавека, адсюль, яшчэ да таго, як персанаж рамана прамовіць першую рэпліку, мы зазвычаем сустракаемся з разгорнутымі апісаннямі яго знешнасці, што з надакучлівай паслядоўнасцю перацякаюць у апісанні пейзажу ці інтэр'ера, якія як бы працягваюць працэс партрэтавання. Чалавек досыць умоўна захоўвае цэнтральную пазіцыю ўнутры панарамнага партрэта, паколькі ён толькі частка партрэта, ландшафту ці інтэр'ера. Класічны партрэт з пануючай пазіцыяй твару становіцца партрэтам з “дэцэнтрацыяй” твару, шматвобразнага “размнажэння” твару ў элементах акаляючага свету.**

**Як гэта ні дзіўна, але менавіта такі спосаб апісання чалавека ўяўляецца найбольш адэкватным, каб у наш час усеагульнай візуалізацыі паказаць твар сучасніка ў глыбі той прасторы, у якой ён месціцца, пасрэдствам якой тоесніцца з намі і якая знікае пры ўсялякай спробе выцягнуць яе на паверхню экрана...**

**У гэтай невялікай зацемцы я свядома адсланяюся ад аналізу зместаў і тэмаў філасофскай, паэтычнай і культурніцкай працы Ігара Бабкова* і маю намер**

на байдарках (паэт!)*. Магчыма, галоўнай падзеяй сваёй творчай біяграфіі лічыць кнігу вершаў "Solus Rex", за якую Таварыства Вольных Літаратараў адразу ўзнагародзіла яго Гліняным Вялесам... Магчыма, Ігар мае рацыю і гэта сапраўды так. Хаця як на мой розум, то яго даследаванне "Беларуская традыцыя· на зломе сэнсаў" (1,2,3 выпускі літаратурна-філасофскага сшытка "ЗНО" ў газеце "Культура" за 1993 г.) у сукупнасці з культуралагічнымі эсэ і артыкуламі, надрукаванымі ў "Нашай Ніве" **важаць** ніяк не менш, а бадай і больш, чым паэтычны зборнік. Зрэшты, на якіх вагах можна зважыць творнае?

Бабкоў-празаік, з яго нешматлікімі апавяданнямі, пакуль застаецца ў засені Бабкова-культуролага (філосафа) і паэта Фармальна гэта як быццам цалкам справядліва, але я не выключаю, што менавіта ў прозе яму наканавана здзейсніцца па максімуму. Хаця футуралагічныя прагнозы ў звязку з Ігарам Бабковым заўсёды будуць досыць праблематычнымі, бо спектр яго патэнцыяльных магчымасцяў надзвычай шырокі, пра што сведчыць — акрамя ўсяго астатняга, — і апошні праект· за нейкі там год (ну хай сабе з падыходамі і прыкідкамі — два гады) ён стварыў дзеяздольны і збольшага фінансава забяспечаны Цэнтр Еўрапейскіх доследаў і культурных ініцыятываў "ЭўроФорум"...

Я не ведаю, ці марыў Томас Стэрнс Эліот аб вандроўцы па Тэмзе і як ён ставіўся да кавы і віскі, але калі аднойчы мне ўздумалася спраецыраваць Ігара Бабкова на каго-небудзь з вялікіх, то адразу, і безальтэрнатыўна, згадаўся паэт, тэарэтык, крытык Томас Стэрнс Эліот. Зрэшты, гэта так, між іншым ..

***— Ігар, цяпер, калі вы пазнаёміліся з "прадмовай" да нашай гаворкі, паспрабуйце "адрэдагаваць" яе: дапоўніць, скараціць, удакладніць і г.д.***

— Усялякае параўнанне абавязвае, Валянцін.

Вы напісалі гэтыя словы, і я ліхаманкава пачаў прыгадваць "што мяне чакае" наперадзе. Восем гадоў працы ў банку, Нобелеўская прэмія, раман з сакратаркай, якая маладзейшая за мяне на сорак гадоў. Дысертацыю я напішу, але не абараню, гэта зразумела. Застаецца высветліць, хто ў нас Джойс, хто Паўнд, а хто Сэмюэль Батлер Ейтс.

Калі казаць сур'ёзна, гэткія праекцыі непазбежныя й недастатковыя. Бо кожная асоба, кожнае жыццё мае свой pattern, як сказаў бы Эліот, і гэты pattern збольшага імперсанальны. У юнацтве мы яго прадчуваем, мы яго шукаем, — і тады паўстаюць гэтыя праекцыі Старыя грэкі звалі гэта конам, — без усялякага вонкавага наканавання. І ніхто не адчуваў яго лепей, чым старыя кітайскія паэты

Тое, што вы вырашылі пераказаць паспалітаму чытачу, — гэта біяграфічныя звесткі, факты, — па-за кантэкстам тае цэльнасці, што іх арганізоўвае, у якой гэтыя звесткі набываюць сэнс і значэнне. Таму я б не хлусіў, калі б сказаў, што ўсё гэта — няпраўда, ці дакладней, — адно шкло, праз якое можна зазірнуць у маё жыццё. Але жыццё — гэта не шкло.

**спыніцца толькі на адным, досыць лакальным, аспекце моўнага твару ў культурным пейзажы. Натуральна, што такі ракурс існуе толькі ў суб'ектыўным вопыце ўспрымання і не прэтэндуе на агульназначнасць.**

**Трымаючыся логікі класічнага рамана, згадваю першы выпадак стасункаў з Ігарам, калі ён "вылучыўся" з шэрагу старэйшакурснікаў-філосафаў на вераснёўскіх сельгаспрацах у калгасе. Я толькі што паступіў на першы курс і з пашанлівай цікаўнасцю прыглядаўся да старэйшакурснікаў, у групе якіх апынуўся на прапалцы буракоў. Нязвыкласць сітуацыі была ў тым, што нам паабяцалі не выкарыстоўваць нас на прапалцы, і калі мы ўбачылі перад сабой вялізнае поле, зараслае па пояс пустазеллем, а малады брыгадзір пачаў паказваць, як яго трэба вырываць і колькі трэба кожнаму прапалоць за дзень, то мяне ахапіла нейкае здранцвенне, з якога атрос голас Ігара, які сказаў брыгадзіру, што тое, што той прапануе рабіць (не называючы гэтага), называецца прапалкай і што асабіста ён, Ігар, гэтага рабіць не збіраецца. Гэта быў адзін з першых для мяне прыкладаў крытычнага стаўлення да некаторых відавочнасцяў жыцця, самой магчымасці крытыкі апрыёрных асноваў паўсядзённасці, і рашучай рэакцыі на прымус, так характэрнай для Ігара.**

**Пэўная анекдатычнасць, што адчуваецца ў гэтым эпізодзе, нагадвае пра анекдот, як жанр філасофскай работы, і шмат у чым маё ўспрыманне Ігара карэліруе з напаўанекдатычнымі падзеямі, удзельнікам і інспіратарам якіх ён быў і застаецца. Аднак сутнасць не ў гэтых гісторыях, а ў тым, што "нельга" абмяжоўвацца ні біяграфіяй, ні бібліяграфіяй, трэба дапамагаць**





Мой кон — метафізіка (а не інтэлектуалізм), у самым шырокім сэнсе, ажно да рэлігійнага (я чань-будыст па "веравызнанню")

Таму Томас Стэрнс са сваімі жахлівымі прароцтвамі канца свету для мяне адно парафраза постхрысціянскай секулярызаванай містыкі — рацыянальнай дарэшты і ў той жа час ненавіднай да рацыянальнага. У гэтым сэнсе параўнанне з Эліотам тыпалагічна няслушнае. тое, што ў мяне пісалася — гэта метафізічны экспрэсіянізм, угрунтаваны ў іншым светаадчуванні. Рэч яшчэ і ў тым, што я быў выхаваны на традыцыі нямецкага рамантызму — метафізіцы — экспрэсіянізму. Постаці Гёльдэрлін — Рыльке — Тракль — Цэлан для мяне надзвычай істотныя, можна сказаць сакральныя.

Зрэшты, я напэўна ў тым узросце, калі гэтыя праекцыі перастаюць пацяху што-колечы значыць, калі ты апынаешся сам-насам з сабой, з сваім жыццём.

Пакуль я не магу сказаць, што я "сустрэў свой кон", стаўся тоесным яму. Таму мая ўласная біяграфія, нават у яе беспасрэдным, пабытова-жыццёвым вымярэнні, для мяне не менш загадкавая, чым для вас. Усялякі ўспамін, усялякая спроба зафіксаваць тое, што было, ставіць мяне ў тупік: я разумею, што ўсё гэта адбывалася з іншым чалавекам, матывы ўчынкаў якога для мяне ўжо непразрыстыя. На некаторыя падзеі "майго" жыцця ў мяне ёсць чатыры-пяць версіяў і (прабачце такое прызнанне) у залежнасці ад кантэксту размовы можа паўстаць і шостая і сёмая Напрыклад, такая версія (эксклюзіў для "Крыніцы").

Я пачынаў ад філасофіі, марыў пра яе яшчэ ў школе, паступіў на аддзяленне філасофіі БДУ ў часы, калі толькі разагналі "студэнцкі бунт". Разам з асяроддзямі мастакоў і літаратараў, філасофскі асяродак лічыўся ненадзейным *Яны* не памыляліся. Здаючы іспыты й залікі па ўсялякіх дыяматах і гістматах, філосафы шукалі ўласныя інтэлектуальныя біяграфіі У адрозненне ад Масквы й Ленінграда. у Менску склаўся "празаходні" кшталт цікавасцяў. Тут не было захаплення расейскай філасофіяй, тут пераважалі дзве арыентацыі: на класіку, Канта — Гегелеўскі універсум, і на сучаснае мысленне, ад Ніцшэ, праз фенаменалогію, герменеўтыку — у кірунку Хайдэгера. Мы зачапілі й Усход — у 1984-м мы ўжо чыталі Судзукі й Уотса. У Лондане, у 1991, наведваючы семінары прафесара Катрын Адар, я зразумеў, што ў мяне класічная "кантынентальная" адукацыя (й арыентацыя)

Менавіта Хайдэгер мяне "перараканаў", што "быць філосафам – гэта значыць быць паэтам" Праўда, заставалася незразумелым, што значыць быць паэтам. Я не ўпэўнены, што мне хопіць гэтага жыцця на высвятленне Зрэшты, варта пакінуць нешта цікавае й на наступныя жыцці.

***— Складваецца ўражанне, што вам аднолькава ўтульна пачуваецца ў паэзіі, прозе, філасофіі, літаратурнай крытыцы, журналістыцы, навуковай ды выкладчыцкай дзейнасці (мяркую па навуковых канферэнцыях і публічных выступах) і дзейнасці арганізацыйнай... Вам сапраўды ўтульна ўсюды ці гэтая рознаскіраванасць абумоўлена іншымі прычынамі: атавістычнымі рэшткамі***

**знайсці тую ўтоеную кропку, дзе пабытовы анекдот і афарызм мудрасці зліваюцца ў адно цэлае — падобна сэнсу, які з аднаго боку ёсць атрыбут жыццёвай сітуацыі, а з другога — зместам памысленых сказаў"[2]. У васемнаццатай серыі "Логікі сэнсу", адкуль узятая папярэдняя цытата, Жыль Дэлёз вызначае тры вобразы філосафаў у еўрапейскай гісторыі: філосаф глыбіні (дасакратыкі), філосаф вышыні (Платон) і філосаф паверхні (кінікі, стоікі). Цяпер мне ўяўляецца, што мыслярская і культурніцкая праца Ігара Бабкова ў беларускім культурным ландшафце бліжэй за ўсё апошняму тыпу філасофскай практыкі, што робіць яе найбольш складанай і праблематычнай. Ігар увесь час рухаецца на той мяжы, якая "пралягла паміж рэччу як такой, пазначанай сказам і выяўленай у сказе, не існуючы па-за апошнім"[3]. Сэнс працы заключаны ў пэўнай падзеі і, уласна, тоесны ёй, толькі ў ёй аб'яўляецца і разам з ёй знікае. Атрыбутамі фігуры філосафа становяцца ў кінікаў і стоікаў посах і плашч — сімвалічна зменёнымі я заўсёды ўгадваю іх пры постаці Ігара: парасон і куртка (плашч, сумка). Гэтыя сімвалы сведчаць пра несупынны рух, у якім знаходзіцца Ігар, і адпаведна тую несупыннасць, з якой ён дзеіць свае праходы ў прасторах горада, краіны, Еўропы, унутранага свету: няспешнасць гэтага руху падобная да няспешнасці качэўніка, які прасоўваецца ў прасторы разам з самой прасторай у нейкай глыбіннай цішы. Менавіта цішыня падаецца цэнтрам прасторы, з якой чуецца маўленне Ігара, цішыня, створаная ў самім маўленні і надаючая форму той пустаце, якая неабходная для здзяйснення думкі. Адсюль трохі ўрачыстая засяроджа-**

***сінкрэтычнай маладосці, татальнай разрэджанасцю нацыянальнай культуралагічнай прасторы, якая ні ў адным сваім месцы не насычана напоўніцу творчым зместам, амбіцыйным жаданнем давесці сабе і іншым: "я магу што заўгодна і магу не абы-як"?.. Ці ўсё значна прасцей — такая ў вас шматстайная канстытуцыя?***

— Я думаю, такая мая доля.

У мінулым жыцці, наколькі я магу яго сабе ўявіць, я быў самураем, не надта таленавітым Я спрабаваў ухіліцца ад усяго, што замінала мне займацца толькі адным: змаганнем. Я канцэнтраваўся на гэтым, бязлітасна знішчаючы ў сабе ўсе адхіленні Гэта была надта простая цэльнасць, заснаваная на механіцы, на непрынняцці свету, урэшце, на занадта сур'ёзным стаўленні да жыцця Толькі ўжо напрыканцы жыцця адзін чалавек, яго звалі Міямота Мусашы, прадэкламаваў мне верш, які цалкам змяніў маю свядомасць Я не памятаю дакладна пачатку, але канчаўся ён чымсьці накшталт·

*...Некаторыя думаюць, што ўдар — гэта ўдарыць*
*Але ўдар не значыць ўдарыць, забойства не значыць забіваць*
*І той, хто б'е, і той, хто прымае ўдар,*
*Не больш чым сон, у якім няма ані каліўца рэальнага*

З апошнімі радкамі гэтага верша я адышоў з таго жыцця. У гэтым жа мне прыходзіцца літаральна "збіраць" сябе з кавалкаў Таму я не сказаў бы, што я "ўтульна пачуваюся". Хутчэй, наадварот: менавіта анталагічная няўтульнасць гоніць нас сёння з аднаго месца на другое, менавіта бяздомнасць прымушае бачыць прытулак у кожным дыскурсе, у кожнай практыцы Цэльнасць, цэнтр — і ўнутраны і вонкавы, не можа быць наіўным, простым і банальным Гэты цэнтр як бы заўсёды нябачны, утоены, і, магчыма, так яно і мусіць быць. Як у Рыльке· " ..цэльнасці нам на зыходзе не верне нішто/ хіба што самотны шлях, уначы, пад сляпым краявідам".

***— Фармулюючы папярэдняе пытанне, я прамінуў заўважыць, што ўсе творчыя праявы Ігара Бабкова маюць нешта, што падобніць іх між сабой, тоесніць, вылучае з агульнага кантэксту і атаясняе менавіта з Ігарам Бабковым. Відавочна, што аснову гэтага "нешта" складае інтэлектуалізм. Ігар Бабкоў — гэта інтэлектуальная паэзія, інтэлектуальная проза, інтэлектуальная культуралогія (апошняе — не таўталогія; культуралогія неабавязкова бывае інтэлектуальнай). Несумненна, што інтэлектуалізм Ігара Бабкова — натуральны, нутраны, адпрыродны — калі можна так сказаць. А між тым інтэлектуальнае пісьмо на Беларусі (ва ўсіх праявах пісьма) усё яшчэ досыць рэдкая з'ява. І той, хто далучаецца да інтэлектуальнага пісьма, набывае пэўную стылёвую адметнасць нават як бы аўтаматычна. Не так, на маю думку, у Ігара Бабкова. А як (на яго думку)? Інакш кажучы, чым ёсць для вас інтэлектуалізм?***

**насць, якой Ігар абумоўлівае падзею сумоўя і якая надае ягонай мове канстытуіраваны характар меркавання вопыту. Такі вопыт звязвае моўніка з акаляючым ландшафтам падвоеным рухам, сісталай і дыясталай: ландшафт сціскаецца да твару (фігуры моўніка, а твар "вырастае" да сімвалічных памераў ландшафту...)**

**Ва ўмовах, калі, з аднаго боку, большая частка беларускай культурніцкай энергіі скіраваная на імітацыю культуры, а з другога — калі традыцыйна моцныя архаізуючыя тэндэнцыі, у якіх многія бачаць сродак пераадолення імітацыйнай несапраўднасці і няпэўнасці, постаць Ігара Бабкова, якая ўпэўнена і размерана крочыць па сярэднееўрапейскаму ландшафту, мерай гэтага руху пазначае нейкую новую культурную перспектыву, якую нельга аднесці ні да традыцыяналісцкага тыпу культуры, ні да вестэрнізуючых культурных мадэляў. З'яўленне гэтай перспектывы магчыма, але зусім неабавязкова ва універсальнай форме нейкага культурна-дзяржаўнага будынка. Хутчэй, і зноў жаназіраючы культурніцкія практыкі Ігара, з'яўленне новага ўгадваецца ў цякучых мікраформах паўсядзённага жыцця, у бясконцых кліпаменах (адхіленнях атамаў — фізічных і душэўных) думкі, мовы, твора, ландшафту і ўсяго мноства падзей, дзякуючы якім "мова становіцца магчымай" (Дэлёз), а мы становімся магчымымі ў мове.**

**Дзмітрый КАРОЛЬ**

---

[1] Гл. эсэ "Вопыт рэ-прэзентацыі тэксту "Традыцыя і метамова" (літаратурна-філасофскі сшытак "ЗНО", "Культура" № 20, 1994 г.).

[2] Жыль Дэлёз. "Логика смысла", М. 1995.

[3] Тамсама.





— У кожнага свой "шкілет у шафе", як гавораць ангельцы. Адзін з маіх знаёмцаў, Зуі Глас (а мы кантактавалі досыць шчыльненька гадоў пяць – сем), неяк паскардзіўся, што з яго зрабілі інтэлектуальнага інваліда. Ён меў на ўвазе, што яго ў дзяцінстве перанасыцілі ўсялякімі складанасцямі метафізічна-рэлігійнага кшталту, а з такім выхаваннем выжыць у Амерыцы досыць цяжка. Зрэшты, ён нібыта знайшоў, як даць сабе рады. Спадзяюся, што й я дам сабе рады са сваім інтэлектуалізмам Ён для мяне не ёсць "чымсьці", бо я яго ў сабе не бачу Чыста прафесійна я займаюся інтэлектуальнай працай і магу адпаведна вызначыць сябе як інтэлектуала. Але вашае пытанне, безумоўна, тычыцца не прафесійнай падрыхтоўкі, а чагосьці больш сутнаснага, анталагічнага У гэтым сэнсе я не інтэлектуал, а, паўтаруся, "метафізік". Сэнс свету для мяне ні ў ім самім, і не ў абстрактных сутнасцях кшталту Платонавых ідэяў, а як бы недзе побач. Сэнс гэты лучыць, вылучае й далучае як да "фізікі", так і да сутнасцяў Гэты сэнс і ёсць грэцкім "мета" — тым, што злучае

А нейкія вонкавыя рэчы — хтосьці піша "карова", а хтосьці "Хайдэгер" — не маюць асаблівага значэння Як цвердзіць ваш улюбёны Дэрыда, усе азначальныя з прыходам дэканструкцыі "паплылі" і цяпер сітуацыя, калі "думаем карова, а гаворым Хайдэгер", альбо "думаем Дэрыда — а гаворым карова" — не выключэнне, а норма.

***— З усіх беларускіх літаратараў, якіх я ведаю, вы, бадай, адзіны, хто мог бы сёння напісаць інтэлектуальны раман. Магчыма, я тут залішне радыкальны, магчыма, я памыляюся і яшчэ нехта здольны на нешта падобнае. Бог яму ў помач. Але кожны, хто возьмецца за гэтую справу, мусіць не толькі хацець яе зрабіць, ён мусіць мысліць як дыхаць, а дыхаць як мысліць...***

***Зрэшты, я тут не маю намеру распавядаць пра сваё разуменне інтэлектуальнага рамана. Мая задача запытацца, што думае пра інтэлектуальны раман Ігар Бабкоў і калі ён яго напіша?***

— Тое, што я думаю пра інтэлектуальны раман, я ўсё роўна вам не патраплю сказаць. Бо думанне пра інтэлектуальны раман і ёсць інтэлектуальным раманам. У першых чатырох раздзелах трэба разабрацца, чым ёсць думанне як такое, потым даследаваць праблему інтэлекту й ягоных межаў, недзе напрыканцы сказаць штосьці пра раман як жанр літаратуры, а ў пасляслоўі прызнацца, што аўтара няма й ніколі не будзе.

Я пішу (скажу шчыра) проста раман, а напішу я яго, калі ён сам напішацца, не раней.

***— У беларускай літаратуры ёсць толькі дзве істотныя праблемы: вялікі недахоп добрых празаікаў і страшэнны лішак дрэнных паэтаў. Які рэдактар літаратурнага выдання гэтым "лішкам" не выгалтаваны ўрэшт? Я — не выключэнне і пэўна таму аднойчы выгукнулася: вершы пішуць тыя, хто нічога іншага рабіць не ўмее. Калі кіравацца гэтай думкай, то цяжка ўнікнуць пытання, чаму піша вершы Ігар Бабкоў, у якога добра атрымліваецца шмат чаго яшчэ?***

# Нулёвая ступень інтанацыі

**Пісаць — гэта значыць раскрывацца ў мове. А мова нараджаецца з інтанацыі, не з гуку. Гук, пакуль не стаў часткаю мовы, можа быць усялякі. Інтанацыя ж не можа быць абы-якая, бо сам чын маўлення вынікае з патрэбы аказаць сэнс. І ўсякая асабовасць моцна інтанаваная, у гэтым яе адметнасць і апрычонасць Што да Ігара Бабкова — дык яго інтанацыя досыць рэдкая, асабліва сярод беларускіх літаратараў. На пісьме яе таксама "чуваць", і нават лепш як вусна. Адметнасць яе можна абазначыць такімі словамі, як няспешнасць і шматзначнасць. Або адным найменнем: годнасць. Каб апошняе не ўдавала за камплімент, адцемлю: годнасць гэтая — не тое, што ёсць данае, а тое, што заданае. Бабкоў падпарадкуе чытача і слухача на першай фразе, яго дыскурс аўтарытарны, але не наразлівы. Кожную дробязь ён кажа, як апошнюю праўду. Я ведаю, што многіх гэта раздражняе, хоць прычыны свайго пачуцця яны наўрад ці змогуць дашукацца.**

**Маю заўвагу, што да эмоцый, Бабкоў бадай адразу адпрэчыць, бо, як ён сам раз выпадкова зазначыў, належыць да традыцыі, што мала зважае на эмацыйныя ацэнкі. Кожны ведае, а Бабкоў**

— Валянцін, вы паставілі паэзію ў такі кантэкст, у якім ёй не прадыхнуць. Ёсць праблема вершаў і здарэнне паэзіі. Паэзія для мяне не зводзіцца да верша, які ёсць хутчэй знакам, сцежкай да нейкай сітуацыі альбо нейкага стану. Паэзія — гэта практыка, гэта штосьці, што дазваляе "адчуць", "прарвацца", "вымкнуць". У пэўным сэнсе праблема паэзіі ёсць праблемай змененага стану свядомасці — яго можна адчуць, яго можна зашыфраваць у знакавыя канвенцыі, але яго нельга перадаць дакладна, вычарпаць у тэксце. Паэт — штосьці накшталт шашану ў Мірча Эліадэ — гэта "скрайні", які адважваецца быць сам-насам з уласным хаосам, з тым, ад чаго большасць хаваецца за культурнымі, сацыяльнымі, пабытовымі правіламі. Праблема "благіх вершаў" — гэта тэхналагічная праблема: калі Якуб Колас першы раз напісаў пра мужыка, за гэтым стаяў цалкам новы досвед. Калі гэта робіцца ў сто сёмы раз, за гэтым стаіць адно культурны стэрэатып.

Вершы пішуцца, таму што гэта як наркотык: пакаштаваўшы аднойчы, ты імкнешся застацца там назаўсёды. Супольнасць сапраўдных паэтаў — гэта супольнасць не прафесіяналаў, а хутчэй наркаманаў.

Сённяшняя паэзія знаходзіцца ў разрыве, у нязгодзе з уласнай традыцыяй, пра гэта напісаў яшчэ Пауль Цэлан. Усе канвенцыі разарваныя, усе вонкавыя прыкметы адсунутыя на перыферыю. Паэзія раптам пайшла напрасткі, у цемры, навобмацак. Ніхто не ведае, што з гэтага будзе. Зусім як у маім улюбёным дзэнскім выслоўі: "На спрадвечным шляху няма ходжаных сцежак. Хто ідзе па ім — самотны і ў небяспецы".

***— Калі не памыляюся, у другім нумары "Нашай Нівы" быў надрукаваны артыкул, дзе нехта Францішак Эн не без пэўнай дасціпнасці, але без каліўца гжэчнасці збэсціў Людмілу Корань за артыкул "Агрэсія формы" (назву згадаў, можа, не зусім дакладна — колькі часу прамінула). Літаратурная грамадскасць была ўзрушаная. "Авангардысты" ўхвалялі Францішка, "традыцыяналісты" рашуча не ўхвалялі. Я быў сярод апошніх. Але прычынай майго неўхвалення быў не столькі артыкул Францішка Эн (хаця і ён таксама), колькі артыкул Людмілы Корань, які я лічыў ці не лепшым літаратурна-крытычным артыкулам таго года...***

***Натуральна, усім хацелася ведаць, хто такі Францішак Эн? Якіх толькі версій не высноўвалася, чые толькі прозвішчы не згадваліся (аднойчы нават пачуў, што Францішак Эн — гэта Акудовіч)! І хаця цяпер усе ведаюць, прынамсі, у літаратурным асяродку, што Францішак Эн — гэта Ігар Бабкоў, я згадаў той даўні вэрхал, каб зрабіць адразу некалькі запытанняў: як вы сёння самі ставіцеся да таго артыкула, ці ўсё пазначанае гэтым псеўданімам напісана вамі, за якімі яшчэ псеўданімамі хаваўся Ігар Бабкоў? Да таго ж я хацеў бы пачуць колькі слоў увогуле пра "Нашу Ніву". Апошняе мне ўяўляецца тым больш дарэчным, што "Наша Ніва" цяпер рашуча трансфармуецца ў выданне іншага кшталту і былую ўжо можна асэнсоўваць як цалкам завершаны праект з усімі яго набыткамі і выдаткамі.***

— Я таксама папярэджваў Францішка, што можна зайсці надта далёка ў ягоных стылістычна-крытычных выкрунтасах. Ён мяне не паслухаў, слаўна павесяліўся і, здаецца, цяпер не шкадуе Адказваць, праўда, прыйшлося мне як аўтару тэкстаў і псеўданіма і Дубаўцу як галоўнаму рэдактару газеты. Што тычыцца сутнасці скандалу, дык і ў гэтым я з вамі згодны — ніхто гэтую сутнасць і не заўважыў. Артыкул Людмілы Корань сапраўды вылучаўся на тле запланаванага жанравага й сутнаснага маразму тагачаснай беларускай крытыкі. Яна (Л.К.) упадабала маладых (пост?) традыцыяналістаў — гэта яе выбар. Але аргументацыя была ад супрацiўнага. Вартасці традыцыйнай прозы не давядзеш ганьбаваннем прозы авангарднай, нават са спасылкамі на беларускую ментальнасць. Зрэшты, заданне крытыка паказваць не вартасці, а сваё разуменне. Людміла Корань цвердзіла вартасць традыцыйнае прозы й шчыра прадэманстравала сваё неразуменне й непрыняцце прозы авангарднай як другаснай паводле азначэння. Пазіцыя досыць знаёмая, калі не сказаць банальная (для традыцыйнага беларускага літаратуразнаўства). Але, наколькі я памятаю, Францішка захапіла ў гэтым тэксце зусім іншае. Гэта быў тэкст з моцнай энергетыкай Гэта быў тэкст (выбачай, Францішак, што я залажу на тваю тэрыторыю) сутнасна эратычны У параўнанні з манерамі белсаўкрытыкі ён сапраўды ўражваў. На яго неабходна было адказаць.

Адказ быў вытрыманы ў адпаведнай стылістыцы. Усе вырашылі, што Людміла Корань пакрыўджаная, і кінуліся на абарону Адбыўся сеанс псіхатэрапіі. Белсаўкрытыка дэманстравала сваю падсвядомасць. Сэнс дыскусіі і аргументы абодвух бакоў у разлік не прымаліся. Форма зацямніла змест. Я думаю, Людміла Корань не менш пасмяялася з усяе гэтай гісторыі.

Што тычыцца аднаўленай "Нашай Нівы", у якой друкаваліся "Лісты..." Францішка Эн, — дык гэта "Парыж" новай беларушчыны У пэўным сэнсе яна сталася інтэлектуальным, культурным, літаратурным апраўданнем васьмідзесятых. Яна перарасла ў праект яшчэ больш эпахальны, хаця і ў іншым сэнсе. Мы ўсе яшчэ будзем плакаць у старасці, перачытваючы яе запыленыя падшыўкі Аналізаваць яе не хочацца — пра тое, што любіш, можна казаць адно інтымна, без сведкаў.

***— Вышэй я казаў, што пакуль толькі ад вас чакаю беларускага інтэлектуальнага рамана. Але вы і адзін з нямногіх маладых, нацыянальна заангажыраваных інтэлектуалаў, з якімі можна звязваць спадзевы на развой сучаснай беларускай філасофіі. (Мы з вамі, здаецца, добра разумеем усю спрэчнасць гэтай фармулёўкі ўвогуле і кожнага яе панятку паасобку: "сучасная"? "беларуская"? "філасофія"? Але адно высвятленне нашага "разумення" запатрабавала б некалькі такіх гаворак.) Я ведаю, што самым апошнім часам, калі "ЭўроФорум"***

і пагатоў, што Аўтар памёр. Якая тут эмоцыя! (Зазначу, і сама інтанацыя часцей за ўсё лучыцца з нейкімі пачуццямі.) І ўсё ж, нават у тым абсязе, дзе аўтара няма, наступнае, што можа прагучаць — і прагучаць мацней як калі, — няхай жыве Аўтар! Я не спрачаюся з Бабковым, спрачацца з ім дарэмны занятак. Дзеля гэтага трэба знайсці ўмоўную згоду. Але апошняе акажацца яшчэ марнейшым. Таму ўзглядам сумоўя яго дыскурс можна абазначыць як унікальнасць.

Я нездарма пішу пра Бабкова толькі ў агульным раскладзе, не кранаючы пэўных творчых наробкаў. Хто ён найбольш: паэт? філосаф? культуролаг? крытык? Бяляцкі вымудрыў назваць нават літаратуразнаўцам. Галоўнае ж, Бабкоў як асоба, і не толькі як творчая асоба, — рэч досыць неўцэнтраваная, бадай толькі інтанацыя можа з'яднаць праявы, кірункі, адметнасці. Так пра яго пісаць ямчэй.

Каб быць канкрэтным, я прытачу сюды пару ўспамінаў. Гісторыя культуры траціла ці не галоўнае, калі не заставалася звестак, як пэўныя людзі апраналіся, як размаўлялі, як трымаліся, што елі. Пісанне пра такія дробязі, калі яно было, само з сябе станавілася знакам узвышэння. Але я не пра гэта, мне важней знайсці сродкі для характарыстыкі. З Ігарам я пазнаёміўся на творчым семінары ў Іслачы (праз Аркуша). Там па начах у камiннай зале збіраліся літаратары і ў цьмяным святле камінаў гутарылі аж да раніцы. Спявалі песні. Паэты чыталі вершы. Найбольш запомнілася манера чытання Таццяны Сапач і Ігара Бабкова. Голас яго, заўжды ціхі, станавіўся яшчэ цішэйшым і павальнейшым, здавалася, што гэты голас засынае. Пазней я зразумеў: толькі ў закрытым памяшканні ў трывожлівым мораку і ў глыбокай цішыні належным чынам можна пачуць Бабкова, там, дзе аўтара і слухачоў з'адзіночваюць не апладысменты, а містычныя паўзы. На сцэне ён таксама падпарадкуе сабе слухача, але галоўнае знікае, засцяць шалікі ды навараты. Не толькі манера гаварыць і трымацца, а нават тыя здымкі, якімі рэпрэзентуе сябе Бабкоў у друку, здаецца, выяўляюць пагардлівасць яго да ўсякай стракатасці. Менавіта ў зборні, дзе не пануюць рымасці, бабкоўская манера найбольш гіпнатызуе.

Урэшце, мову Ігара Бабкова можна абазначыць як нулёвую ступень інтанацыі. У многіх містычных уявах нябытнасць заўсёды была роўная гранічнай бытнасці. І тое, што з гледзішча аўтара падаецца неэмацыйным, збоку ўдае толькі на іншую форму эмоцыі, дзе рымасці бушуюць у падкладзе. Нездарма sens з латыні перакладаецца як пачуццё. Дзіўна, як калісь рабіў Вераціла, характарызаваць Бабкова словам "ціхі". Гэтае слова абазначае адно праяву, але ніяк не існасць. Ігар Бабкоў — асоба досыць прыкметная, а ведама: "хто ж ціхіх прымеце"? З маімі выракамі ўзглядам сябе (гаворка пра тэксты) ён часта не пагаджаецца, таму я яшчэ раз хачу нагадаць пра "смерць Аўтара" і задацца пытаннем: можа я пішу іншага якога Бабкова, не таго, што ходзіць па тутэйшай зямлі? Якая розніца!

Юрась ПАЦЮПА

***трохі "стаў на ногі", вы зноў пачалі пісаць, скажам так, філасофскія тэксты, што мяне — і, спадзяюся, не аднаго мяне, — вельмі цешыць. Толькі цяпер пасля татальнай паразы нацыянальнага руху, для мяне філасофскія тэксты міжволі параўноўваюцца з дахоўкай на доме, ад якога не тое што кроквaў і сценаў, а і падмурка амаль не засталося. Дахоўку робім, а класці няма на што... Магчыма, ды і напэўна, мой песімізм залішне гранічны... Тым не менш, вось вам апошняе пытанне: праблема філасофскага (інтэлектуальнага ўвогуле) тэксту ў сітуацыі адсутнасці нацыянальнага тэксту.***

— Я сумняваюся, што вашая метафара мае рацыю Філасофія не пачынаецца з глебы, не будуецца ад падмурка Я адразу прыгадваю славутае вызначэнне Андэрсана нацыі як "уяўленыя супольнасці" У гэтым сэнсе нацыянальны тэкст і нацыянальнае (?) мысленне паўстаюць не ад падмурка, а наадварот, ад даху. Усялякае мысленне (і беларускае тут не выключэнне) грунтуецца на універсалізацыі унікальнага. І праблема беларушчыны не ў тым, што яна неўгрунтаваная ў глебе, а ў тым, што праблемы "глебы" не ставяцца пад пытанне, не універсалізуюцца. І наадварот, універсальныя катэгорыі не зводзяцца на зямлю, не бяруцца "тут і цяпер", як катэгорыі нашай сітуацыі і нашага мыслення.

Зрэшты, праблемы філасофскага тэксту ні для беларускай, ні для якой іншай еўрапейскай культуры не існуе Усе мы думаем па-грэцку Традыцыя еўрапейскага мыслення складаецца з каласальнае колькасці тэкстаў Што толькі не прадумвалася цягам гэтае традыцыі, на што толькі не звaрачала сваю ўвагу мысленне! Якіх кшталтаў і стыляў, якіх формаў і дыскурсаў яно не прымала. Як Пратэй, яно пераўтвараецца разам з спакмянямі, застаючыся заўсёды ў іхнім цяні І сёння, здаецца, ніхто не мае ілюзіі, што мысленне, філасофія — гэта механічная сукупнасць усяго гэтага

Філасофія — гэта вечная магчымасць, альбо, як пісаў Хайдэгер — "ціхая ўлада магчымасці"

А што можа быць лепш за магчымасць?

** Пакуль матэрыял рыхтаваўся да друку, у жыцці Ігара Бабкова адбыліся пэўныя змены. Па-першае, здзейснілася мара пра вандроўку (выходзіць, я дарэмна іранізаваў). Улетку мы з ім у адной байдарцы лічы тыдзень плавалі па рэках Ашмянка і Вяльля (разам з камандай "Нашай Нівы"). Па-другое, восенню ў яго нарадзілася дачка Багдана. Па-трэцяе, ён стварыў і пачаў выдаваць часопіс "Фрагмэнты".*



*Празрыстасць*

**Калі за халодным сутоннем зімовага сну**
**З'яўляюцца хвалі і вечар хавае разрывы**
**Празрыстасць паўстане, у шэптах далёкай крыві**
**Імкненне за скрай пераможа прытулак вірлівы**

**Які так трымае. На самы апошні рубеж**
**Усё адыходзіць. Да самай адчайнае меры**
**Туды, дзе празрыстасць — ў прадонне — сягае душа**
**Ды ў стомленым сэрцы, як помста, прачнуцца Хімеры**

***

**Вера паэтаў, птушкай сляпою сядае на рукі**
**Ведае, вочы заплюшчу й буду**
**мроіць аб дрэве самотным, маўклівым**

**Ведае, буду сыходзіць пакутна**
**ў пекла, дзе лютыя зверы сэрца ўначы раздзіраюць**

**Ведае, словы складуцца й поўня**
**залямантуе, заплача: ўспаміны пра неба**

**Вучыць, самотныя зоркі мусяць гарэць безразважна**
**й падаць бясконца**

**Вера паэтаў, каханне**

# "СТАЦЬ ЭЎРАПЕЙЦАМІ, ЗАСТАЎШЫСЯ БЕЛАРУСАМІ"

**Маё знаёмства з Ігарам Бабковым адбылося на адным з першых пасяджэнняў літсуполкі "Тутэйшыя". У той час я вучыўся на апошнім курсе наргаса і штодзень ездзіў на заняткі ад бацькоў з Жодзіна. Запрашэнне на ўдзел у "Тутэйшых" я атрымаў па пошце ад Алеся Бяляцкага па рэкамендацыі Анатоля Сыса. Улічваючы бэсэсэраўскую "вандэйнасць", гэта быў рызыкоўны праект — нечуванае вальнадумства і апазіцыйнасць. Першыя арганізацыйныя захады рабіліся канспіратыўна. Сустрэчы адбываліся ў інтэрнацкім пакоі аспіранта АН БССР Алеся Бяляцкага. Палова першага актыву суполкі ніякага дачынення да літаратуры не мела, як, напрыклад, мастакі Генік Лойка і Алесь Костка — проста надзейныя беларускасведамыя хлопцы. Першы раз на пасяджэнне я патрапіў 15 лютага 1987 года. Якраз у той дзень адбывалася калектыўная чытка крамольнай п'есы Купалы "Тутэйшыя" і апошняе абмеркаванне — варта ці "не" называцца "тутэйшаўцамі". У той вечар я і пазнаёміўся з Ігарам Бабковым. Пасля таго, як шаноўны сход прыйшоў да кансенсуса — назва "Тутэйшыя" тое, што трэба, — Алесь Бяляцкі прапанаваў абмеркаваць вершы пачаткоўца, прозвішча якога мне нічога не гаварыла. Здаецца, на той час Ігар яшчэ не меў ніводнай публікацыі. Ва ўсякім разе тыя вершы, якія ён прачытаў, ніводнае афіцыйнае беларускае літ. выданне ў 1986 годзе не надрукавала б. У такіх выпадках супрацоўнікі рэдакцый аднолькава тлумачылі прычыну адмовы — хіба такія вершы ў нас хто зразумее? У 1992 годзе некаторыя з тых твораў, якія я пачуў на маёй першай "тутэйшаўскай" сходцы, былі надрукаваны ў зборніку "Solus Rex" ("Мастацкая літаратура"), за якую Ігар Бабкоў атрымаў літ. прэмію за лепшую кнігу года "Гліняны Вялес" (1993), заснаваную Таварыствам Вольных Літаратараў. Праўда, кніжка гэтая выйшла накладам 300 асобнікаў і разышлася пераважна па знаёмых (з Менска мне яе прывёз Уладзімір Арлоў). А першая "тутэйшаўская" presentation прайшла для Ігара не вельмі ўдала, бо ягоныя вершы падвергліся моцнай крытыцы Анатоля Сыса. Не памятаю, што менавіта не спадабалася паэтычнаму каралю канца 80-х, але Анатоль катэгарычна заявіў, што гэта пакуль не вершы. Бараніў пачаткоўца Алесь Бяляцкі, які некалькі разоў назваў Бабкова "файным"**

### *Вільня*

**Снег за празрыстым шклом. Японскі пейзаж.
Вечар. Зімовы сон сярод талай вады.
Снег за халодным шклом. Спаміж восеньскіх краж
Сэрца — часовы прытулак — такое бяды**

**Сэрца — халодны прытулак — восеньскі госць
Прыйдзе зімовым гасцінцам змарожаных вен
Прыме ад тога, што згублена — тое, што ёсць
Ў Вільні — далёкай халоднай красою — югэ́н.**

### *Лондан*

**Спалатнелыя вусны пустыя карункі плялі
І ў бяздомнае неба забытаю музыкай плы́лі
Словы здраджвалі, пелі — сляпыя натоўпы ішлі
І самотнае сонца згасала каля Пікадылі**

**І імя нібы птушка, блукала, злятала з рукі
Піла неба нектар, акуналася ў цёмныя воды
Памірала — ўскрасала наноў, гадавала расткі
Немагчымай любові, ды мовіў Харон, — назаўсёды**

**Эўрыдыка прачнецца і вернецца ў светлую ноч
І Арфей, звар'яцелы і шчасны — ўпадзе на калені
Ў доўгім сне, мройным садзе шалёнай пяшчоты, — наўзбоч
Ад якога, ўсё штосьці чакаюць памерлыя цені.**

паэтам, а ягоныя вершы — “файнымі” вершамі.

Больш блізкае знаёмства з Ігарам Бабковым у мяне адбылося праз год на “іслацкай” нарадзе маладых. Яна пачалася 5 снежня 1988 года. Я ўжо стала жыў у Наваполацку, меў кніжку, сям'ю і нават сына (з чым мяне павіншаваў інфармацыйны “тутэйшаўскі” бюлетэнь). На нараду прыехала шмат цікавай літ. моладзі. Сама па сабе сфармавалася групоўка, якая трымалася разам на абмеркаваннях і ўвогуле паводзіла сябе радыкальна — у выказваннях, дыскусіях, кулуарах. Гэтыя творцы мелі блізкія погляды на творчасць і, пазней, менавіта яны склалі ядро “элітарнага” крыла маладой беларускай паэзіі (тэрмін “элітарная” выкарыстаны ўмоўна і хутчэй з'яўляецца антонімам слову “масавая”). Ігар Бабкоў, Юрась Пацюпа, Галіна Дубянецкая, Таццяна Сапач. На нарадзе яны стварылі свой рукапісны орган — насценную газету “Масонская лажа”. Ніякага праследавання за гэта не было, але вывесіць газету на шырокае азнаямленне не дазволілі. Напэўна, пасля нарады і нарадзілася ў мяне ідэя неяк фармалізаваць знойдзенае паразуменне маладых паэтаў. Я напісаў маніфест паэтычнай суполкі “Вунія” і разаслаў меркаваным яе сябрам, у тым ліку і Ігару Бабкову Ён адказаў грунтоўным разглядам. Назваў яго хутчэй статутам, бо калі пісаць маніфест, дык “ён таксама мусіць быць творам мастацтва — паэзіяй або эсэ ці штосьці іншае. Тады ён мае глыбіню і шматмернасць. І галоўнае —





***

**Адсутнасць
што прырастае да твару
набрынялая цішынёю
далёкай забытай
нібы начныя прысады**

**дзе вецер
вядзе перамовы
з цемрай
бясконцай
як успамін аб дзяцінстве**

**о гэтыя сны на руінах
свету**

**ён прыйдзе:
дрымучы, цёмны**

**герой вайны за празрыстасць**

### *Вершы пра смерць*

**Поўдзень. Сляпучы змрок
Не працягнуць рукі
З жахам, не ўбачыць твар
У люстэрку ракі**

**Там дзе аер, трыснёг
Морак пустых вачніц
Ды непрытомны бёг
Самазнішчальных спіц**

у ім павінны быць не намеры і абяцанні, а думкі і ідэі, якія істотным чынам паўплываюць на існаванне мастацтва сёння”. Ігар не адмаўляў ідэю стварэння суполкі, але ўбачыў у яе назове іншыя далягляды. “Мне здаецца, сам назоў правакуе на ідэю **ЎЗ'ЯДНАННЯ З ЭЎРОПАЙ** — а што ёсць вунія?! Штосьці накшталт — “станем эўрапейцамі, застаўшыся беларусамі”.

“Вунія” так і не была створана. Я тады не мог дакладна патлумачыць неабходнасць узнікнення падобных суполак. Гэта цяпер стаў разумнейшы — патрэбна для фармавання пэўнага літаратурнага кантэксту, калі хочаце прывабнай гісторыі літаратуры; спрыяе літаратурнаму працэсу — акрэслівае вектары развіцця і эстэтычных пошукаў; дапамагае выконваць шэраг функцыянальных, арганізацыйных задач. “Вунія” з'явілася прадвесніцай Таварыства Вольных Літаратараў.

Па вялікаму рахунку Анатоль Сыс на тым даўнім пасяджэнні “Тутэйшых” слушна адчуў іншыя схільнасці Ігара Бабкова — паэзія сталася не галоўнай яго стыхіяй. Творцу клікала філасофская думка. Ім былі створаны Цэнтр еўрапейскіх даследаў і культурных ініцыятываў “ЭўроФорум”. Ігар застаўся адданым прыхільнікам няпростай мэты — “стаць эўрапейцамі, застаўшыся беларусамі”. Ён крочыць у гэтым накірунку.

Алесь АРКУШ

***

Ноч, быццам кубак здрады
Плешчацца, па-за шчасцем
Дзе вы, старыя звады
Смерць, вараное масці

Цешыцца, прамінае
Курчыцца, б‘е ў ядвабы
Мройная, апранае
Ў сон спалатнелы, слабы

Як самота ліцвіна
Што няма дзе прыкласці
Каля горкага тыну
Конь, шалёнае масці

***

Усё той жа сон:
нас зноўку прагне смерць
так матылёк імкнецца да святла

Прысутнасці адпрэчаны пагляд
Блукае сярод водараў тугі
Прысутнасці, што некалі была

Шалёнай смагай. А цяпер, здалёк
Заве ахрыплым голасам цыкад
Трызненнем, што шукае берагі

***

Калі восені рудыя косы
Развінаюць і музыка грае
Уначы абуджаецца сэрца
Смерць-катрынка тужліва спявае

Варажбітка, сляпая марока
Пакідае нязводныя плямы
Вецер лісце апалае гоніць
Да зімовай, далёкае брамы

Й незагойна, у восеньскім шале
Усё кранае нацятыя струны:
Ці то ластавак стромкія вежы
Ці халодныя, цёмныя руны

*Акно*

Надзейны прытулак
далёкай і зрэбнай начы

(а можа жыццё, што так прамінае
праходзіць
шукае напраўдзе
а гэтай гадзіне)

Адбітак празрысты
асветлены
даўна памерлы

# ЗГАДКІ ПРА ПОСТМАДЭРНІСЦКІ УНІВЕРСАЛІЗМ

З паэзіяй Ігара Бабкова я пазнаёміўся па першай кніжцы паэта з рамантычным загалоўкам “Solus Rex” (Самотны кароль), выдадзенай “Мастацкай літаратурай” тыражом у 300 асобнікаў (Мн., 1992 ). Адразу ж пасля выхаду ў свет кніжка была прапанавана на прэмію года нашага галоўнага літаратурнага выдавецтва. Тады, здаецца, ніхто з сяброў адмысловага журы не паспеў не тое каб прачытаць і прадумаць, але хоць бы прагледзець нязвыклыя ў нашым літаратурным кантэксце творы, з іх “адсунутым” сінтаксісам. Чытаў іх тады, мабыць, адзін толькі рэдактар кніжкі. Але, верагодна, і яму не хапала часу, каб да сваіх уласных літаратурных клопатаў дабавіць яшчэ герменеўтыку творчасці свайго маладзейшага ў літаратуры калегі, — разгадку сэнсаў, зашыфраваных у эзатэрычных творах. Натуральна, журы ўстрымалася ад галасавання.

І сёння я, зразумеўшы сёетое з таго, што напісана ў гэтай кніжцы, не бяру на сябе ролю аб‘ектыўнага рэцэнзента. Адмаўляюся ад з‘едлівай крытыкі і ад апалагетыкі. Хоць усё, напісанае паэтам, дае падставу альбо адкінуць яго, альбо ўзнесці на постмадэрнісцкі Парнас, калі толькі гэтая паэтычная Гара яшчэ не разбурана ранейшай літаратурнай генерацыяй — мадэрністамі. Мая задача хутчэй культуралагічная, чым літаратуразнаўчая. Мне цікава сама праблема, сфармуляваная ў трох пытаннях:

1. А ці патрэбная наогул паэзія для постмадэрністаў? 2. Калі ж яна ўсё-такі патрэбная для іх, то ці патрэбна для таго расколатага, абездухоўленага і праклятага імі свету, які па-свойму каларытна выявіўся ў іхніх пісаннях? 3. Урэшце, куды вядзе постмадэрнізм мастацтва — да смерці толькі, альбо адначасова і да ўваскрэсення?

Як на мой вопыт успрымання паэтычнага мастацтва, постмадэрністы — людзі занадта разумныя, празмерна сур‘ёзныя і заклапочаныя, каб яшчэ і пісаць вершы. Паэт заўсёды сузіральны, па-дзіцячаму наіўны, у практычным сэнсе, з пункту гледжання утылітарыстаў, бесклапотны, ненармальны. Ён — “трэці дурань”, любімы герой нашых чарадзейных казак. Альбо, як казаў Янка Купала, ён — “просты”, вясковы, “доляй убогі...”, “...ціхі, нясмелы” (“Я не паэта...”). Адным словам, паэт звычайна той, каго яшчэ ў старадаўняй Русі назвалі “блажэннымі”. Хоць, зразумела, логіка не дапускае нам мяняць месцамі суб‘ект і прэдыкат: рэдка хто з юродзівых і нават блажэнных мае паэтычныя здольнасці; таксама далёка не ўсе простыя і вясковыя — паэты. Толькі тыя, на каго ўпала іскра Боская.

Каб мець надзею, што гэтая іскра некалі спусціцца на выбранніка, яму патрэбна

# МАТЭРЫЯЛЫ ДА ЖЫЦЦЯПІСУ АДАМА КЛАКОЦКАГА

Ян Адам Марыя Клакоцкі нарадзіўся шостага верасня 1793 года ў фальварку Сапуны непадалёку ад Навагрудка ў сям'і дробнага шляхціца Год ягонага нараджэння супаў з годам другога падзелу Рэчы Паспалітай, ён сам заўсёды памятаў пра гэта, неаднаразова падкрэсліваў, а пад канец жыцця нават надаваў гэтаму сімвалічнае значэнне

Ягонае жыццё дастаткова вывучанае даследнікамі, каб спадзявацца ў гэтым сціплым нарысе прапанаваць нешта новае. Зрэшты, гэта й не ёсць нашай мэтай Усё, што можна было знайсці ў архівах, ужо знойдзена, апошнія знаходкі Язэпа Янушкевіча, якія тычацца "беларускага" перыяду жыцця гэтага вядомага літаратара й навукоўцы, толькі падкрэсліваюць агульнае правіла. З усяе багатае спадчыны Яна Адама Марыі, якой "маглі б пазайздросьціць энцыкляпэдысты"*, мы хацелі б выбраць толькі адну лінію, адну тэму: а менавіта Адам Клакоцкі як збіральнік, сістэматызатар і даследнік сноў. Перад тым як цалкам заглыбіцца ў гэтую праблему, у святле якой, мы перакана080ныя, толькі й можна пасапраўднаму зразумець і ацаніць цэльнасць ягонага жыцця, мы ўсё ж такі спынімся на некаторых момантах ягонай біяграфіі.

Як мы ўжо казалі, Ян Адам Марыя нарадзіўся ў фальварку Сапуны ў тыповай для таго часу сям'і дробнага шляхціца. Ягоная маці атрымала выдатную адукацыю: ад яе Адам навучыўся даволі добра гаварыць па-французску, а таксама займеў цікавасць да ўсяго чароўнага, таямнічага, ірацыянальнага. Гэтая цікавасць яшчэ больш узмацнілася пасля даўгіх зімовых вечароў, падчас якіх распавядаліся страшныя гісторыі пра русалак, чараўнікоў, пра розныя незвычайныя здарэнні.

Пра перыяд вучобы ў навагрудскай гімназіі мы маем крыху больш звестак. Адам меў добрыя адзнакі ў лаціне, крыху горшыя па астатніх прадметах. Ён быў досыць флегматычны, задумлівы і ўхіляўся ад звычайных падлеткавых гульняў і забаваў. Ад гэтага перыяду да нас дайшоў адзін ягоны верш па-польску, у якім Ян Адам Марыя параўноўвае радзіму з прыгожым сном, які сніцца герою. Напрыканцы, у звароце да чытача выказваецца пажаданне, каб гэты сон доўжыўся вечна, бо мы не ведаем, дзе і ў якіх краявідах нам давядзецца прачнуцца.

Пасля гімназіі Адам Клакоцкі паступае ў Віленскі універсітэт У гэты перыяд ён сустракае сваё першае каханне, рамантычны сантымент да якога ён пранясе праз усё сваё жыццё. Ва універсітэцкія гады Ян Адам Марыя заводзіць безліч знаёмстваў, удзельнічае ва ўсіх магчымых сябрынах, як легальных, так і нелегальных, — часам

* Азначэнне Сыракомлі.

часцей бываць пад чыстым небам, пазбягаць урбаністычнага смогу. Найлепшыя паэты, прарокі і багасловы стараяўрэйскай цывілізацыі — пастухі, земляробы, садоўнікі. Хто не верыць — няхай прачытае Біблію. А пасля Бібліі — сучасную гарадскую паэзію. Хоць бы тых здольных паэтаў-іраністаў, напрыклад, Іосіфа Бродскага: "Эта местность мне знакома, как окраина Китая..." Гэта — пра Вялікарасію, якая ў свой час гнала тады яшчэ малавядомага паэта. Але ж грэшна смяяцца з народа, — і ў той жа час рабіць кар'еру (у найлепшым сэнсе гэтага слова) на ягонай паэтычнай мове. Тут — супярэчнасць, надлом, якія рэдка не канчаюцца бядою.

Новаеўрапейская хрысціянская цывілізацыя — таксама не выключэнне. Паэтамі, мастакамі (дый вучонымі-першаадкрывальнікамі) былі тут пераважна сяляне (маючы на ўвазе, што памешчыкі, панашаму шляхта — тыя ж сяляне, толькі багатыя і адукаваныя). Імпрэсіяністы выязджалі за горад пісаць свае паэтычныя карціны. А сам горад бачыўся ім пераважна як пейзаж, зноў жа па-вясковаму. І зусім не выпадкова, бо колішні горад, нават у XIX ст., а ў славянскім рэгіёне і пазней — тая ж багатая вёска са сваімі абшчынамі, садамі, агародамі, канюшнямі. Сённяшнія спруты-мегаполісы, заціснуўшы вёску, выціснуўшы з яе эканамічныя і духоўныя "сокі", задушылі таксама паэзію і, шырэй, — паэтычнае ў мастацтве. Сучасныя паэты і мастакі (дарэчы, таксама найбольш дзеці вёскі) — ці не апошнія грамадзяне паэтычнай Атлантыды.

Вершы "Самотнага караля" пісаліся, здаецца, яшчэ да памятнага 1991 года альбо ў





супрацьлеглай скіраванасці. У гэтыя часы ён пачынае цікавіцца ідэяй усеагульнай энцыклапедыі — ідэяй, якой разам з глыбокай цікавасцю да сноў было наканавана адыграць такую істотную ролю ў ягоным жыцці Ён наведвае лекцыі па гісторыі, праве, літаратуры, але канчаткова спыняе свой выбар на філасофіі як навуцы, якая здольная сінтэзаваць усе магчымыя веды ў адзіны вялікі энцыклапедычны сінтэз. Пэўны час ён знаходзіцца пад следствам, за сувязі з гуртком філаматаў, але нічога канкрэтнага яму так і не змаглі прад'явіць. Разам з усімі Ян Адам Марыя захапляўся Напалеонам і нават распавядаў пра сон, у якім ён быў адным з ягоных слаўных маршалаў

Пасля сканчэння Віленскага універсітэта Адам Клакоцкі важыўся абараніць дысертацыю "Сон як аргумент у палеміцы з картэзіянствам", у якой спрабаваў далучыцца да моднай тады (хаця й запозненай) тэмы палемікі з Дэкартам. Агульны пафас дысертацыі цалкам супадаў з настроямі тагачаснай віленскай прафесуры, але дысертацыя так і не была залічаная. Хутчэй за ўсё, сама аргументацыя падалася занадта радыкальнай. Ян Адам Марыя цвердзіў, што менавіта сон ёсць тым неабходным і дастатковым аргументам, які цалкам руйнуе славутае выслоўе cogito ergo sum, а таксама апазіцыю рэчы працяглай і рэчы *уяўнай*. Калі мы спім, пісаў ён, мы відавочна ёсць, прысутныя ў гэтым свеце, але аніякага cogito, аніякага ўсведамлення не назіраецца. З іншага боку, калі браць пад увагу сны й залічыць іх пэўнай зменёнай формай такога ўсведамлення, усё роўна немагчыма высноваць з гэтага факта аніякага праўдзівага цверджання аб існаванні "Я". Таксама, паколькі рэальнае "Я" знікае разам з сном, мы мусім прыняць магчымасць існавання ў адной асобе некалькіх "Я", адно (альбо адны) з якіх мела б існаванне рэальнае, а другое — соннае. Аніякіх крытэрыяў, якое з гэтых "Я" памеркаваць праўдзівым, высноваць немагчыма.

Адразу пасля сканчэння універсітэта ўсялякія сляды аб ім губляюцца, гэта той самы "загадкавы" перыяд, які інтрыгуе шматлікіх даследчыкаў. Адзінае, што мы пэўна ведаем, гэта тое, што Ян Адам Марыя быў заангажаваны ў падрыхтоўку паўстання, але ў якой дакладна якасці — невядома. Тое, што засталося ад гэтага перыяду, гэта ліставанне з Адамам Чарноцкім і Аляксандрам Рыпінскім. Я думаю, менавіта ад іх пайшла глыбокая цікавасць, нават замілаванне народнай культурай, якое затым будзе рэалізаванае ў другім томе "Усеагульнай энцыклапедыі сноў" Па некаторых звестках, у гэты час Ян Адам Марыя вывучаў гіпноз у Берліне. Прынамсі, лісты да Адама Чарноцкага маюць відавочны "берлінскі" каларыт Падчас паўстання Адам Клакоцкі — зноў на радзіме Ёсць тры розныя версіі ягонага ўдзелу: паводле адной ён быў шараговым інсургентам у адным з аддзелаў пад Вільняй, паводле другой — кіраваў аддзелам пад Навагрудкам, а паводле трэцяй – увогуле не прымаў удзелу ў вайсковых дзеяннях, а даваў істотную інфармацыю пра перамяшчэнне расейскіх войскаў, служачы на пошце ў Менску Ягоная цікавасць да сноў, гіпнозу й мрояў набывае практычную скіраванасць: ва ўспамінах паўстанцаў апісваецца гісторыя, як ён загіпнатызаваў цэлы эскадрон казакаў (разам з коньмі), якія заснулі і прапусцілі рэшткі інсургентаў у накірунку Аўстрыйскае мяжы (праўда, паводле расейскіх рапартаў, заснулі менавіта інсургенты і ўсе да аднаго былі адпраўлены ў кірунку іншай мяжы — расейска-японскай).

самым яго пачатку. Тады было нейкае бясчассе: ні тое ні сёе. Гэтая сітуацыя нявызначанасці блізкай і далёкай перспектывы паўплывала, мабыць, на танальнасць вершаў, надаўшы ім прыкметы парадаксальнага постмадэрнісцкага рамантызму. Лірычны герой паэта, а больш дакладна, сучасны Чайльд Гарольд, — мадэрнізаваны, узнесены на паэтычнае неба "лішні чалавек" (няхай прабачыць аўтар гэтую традыцыйную банальнасць). Самотны кароль можа быць і трагічным, і камічным героем. Усё залежыць ад поля зроку. У беларускіх чарадзейных казках сустракаецца іранічна-гратэскавы вобраз: ёсць цар і ягонае прывіднае царства, "а народу нетуці", як дасціпна заўважае казачнік.

Але кароль альбо цар можа пакрыўдзіцца на свой народ, пакінуць яго беднае жытло з банальнымі штодзённымі турботамі, пайсці ў пустыню. Гэта — драма дзівака-пустэльніка. Паэзія Ігара Бабкова мне ўяўляецца элегічнай медытацыяй Самотнага караля, намаляванага ў рамантычнай танальнасці. Як у эпіграфе да яго кніжкі з паэзіі Т.С. Эліота: "Там яны былі, шляхотныя, нябачныя, рушылі безуважка, па-над мёртвай лістотай". А яшчэ ў чатырохрадкоўі, вынесеным на тытульны ліст: "На пошукі сапраўднага дому адыходзіць ён // Апрача восені згаданай і неба вачніц // Апрача пошапу азяблых рамёнаў // Апрача воглых крокваў старых камяніц..." У гэтым вершы паэт удакладняе, што пакінуў і чаго выракся ягоны герой. "... На пошукі сапраўднага свету, дзе галеча рай // Дзе восеньскаю лістотай колішні ўлюбёнец адам // Пасыпае шляхі хіжых зграй // Што правяць балаганны ашчар

Далей лёс Яна Адама Марыі складваўся даволі традыцыйна Пасля задушэння паўстання мы знаходзім яго ў парыжскай эміграцыі. Ён заняў у Парыжы відавочную антымагнацкую пазіцыю, што дазволіла некаторым абвінаваціць яго ў халопаманстве У Парыжы ён быў блізкі да кола ліцвінаў, сябраваў з Міцкевічам, адзін час нават уваходзіў у гурток Тавянскага. Шапэн прысвяціў яму адзін са сваіх паланезаў Але безумоўна менавіта Парыжская эміграцыя паспрыяла рэалізацыі самае істотнае падзеі ягонага жыцця. У Парыжы ён падрыхтаваў і выдаў тры тамы з сваёй "Універсальнай энцыклапедыі сноў".

Энцыклапедыя задумвалася па-французску, на мове тагачаснай адукаванай Еўропы, і сам гэты факт паказвае ўсю амбітнасць аўтаравай задумы. Тэхнічныя праблемы занялі каля трох гадоў і ў 1836 годзе выйшаў першы том энцыклапедыі (паводле агульнай нумарацыі — сёмы), які меў назву "Сны адроджанай Польшчы" і адбіваў усеагульную цікавасць да "польскага пытання"

Кола рэспандэнтаў было надзвычай шырокім. Тэма — надзвычай актуальнай. Таму няма нічога дзіўнага, што Адроджаная Польшча сапраўды выклікала такую колькасць сноў — іх сніла як найменей палова прагрэсіўнай Еўропы. Але тут Адама Клакоцкага сцерагла першая праблема, вырашыць якую было зусім няпроста. Праблема класіфікацыі сноў Усялякая энцыклапедыя мусіць мець пэўныя крытэрыі класіфікацыі. Прынцып альфабэтнай арганізацыі Адам Клакоцкі адкінуў амаль адразу· класіфікацыя паводле "аўтараў" была немагчымай, бо значная частка настойвала на ананімнасці, а іншага крытэру ідэя энцыклапедыі не мела. У прадмове да гэтага тома, гаворачы пра ідэю энцыклапедыі, Ян Адам Марыя прыходзіць да сумнай высновы аб "няўцямным, ірацыянальным парадку (маецца на ўвазе парадак альфабэту — **Аўт.**), на якім грунтуецца нашая цывілізацыя і які мы не можам ані рацыянальна пацвердзіць, ані абвергнуць"

Урэшце Ян Адам Марыя падзяліў першы том на дзве часткі· ананімныя сны і сны рэспандэнтаў, якія пагадзіліся пакінуць свае прозвішчы. Кожная частка, у сваю чаргу, дзялілася на сны жаўнераў, сны жанчын і дзяцей і "астатнія". Усе сны былі пададзеныя ў храналагічным парадку(?), што, паводле Яна Адама Марыі мусіць адбіць глыбокія сувязі між актуальнай гісторыяй і "гісторыяй, адлюстраванай у снах"

Гэты том шырока аналізаваўся і апісваўся даследнікамі (хаця й не перавыдаваўся), таму мы спынімся толькі на адным моманце. ананімныя сны выглядаюць значна больш разняволенымі, ірацыянальнымі (калі не сказаць праўдзівымі), чым сны, маючыя дакладнага рэспандэнта. "Аўтарызаваныя" сны інтэрпрэтуюцца наўздзіў адназначна, іхны сімвалізм занадта празрысты і мае часам відавочныя літаратурныя карані. У ананімных снах хаця й прысутнічае аўтарская інтэрпрэтацыя, але яна выглядае толькі адной з магчымых версіяў

Так, у ананімным сне нумар 441 дзікія коні хаатычна нясуцца па полі, топчучы ўсё на сваім шляху, і рэспандэнт адчувае сябе адным з гэтых коней Інтэрпрэтацыя рэспандэнта досыць штучная — ён лічыць, што сон адбівае шлях да свабоды, шлях, на якім ніхто не ў змозе спыніць Адроджаную Польшчу Насуперак гэтаму, Ян Адам Марыя ў сваіх каментарах вытлумачвае гэты сон як бег Гісторыі, няўмольнай і бязлітаснай, і прыходзіць да высновы,

**мажорным ладам // Дзе нічтожыць сляпое нішто адвечны закон..."**

**Няма сумнення: паэт Ігар Бабкоў паспрабаваў далучыць беларускі верш да еўрапейскай постмадэрнісцкай паэзіі. Калі яна сёння яшчэ жыве ў Еўропе. Ва ўсякім выпадку, дажыла і, здаецца, стала пэўнай традыцыяй. Але вось пошукі сапраўднага свету — зусім не еўрапейская, а хутчэй славянская, дакладней, расійская традыцыя. Еўрапеец па магчымасці ўдасканальвае свой свет — краіну, горад, ферму, хату. А паэтычна запраграмаваны расіец уцякае на пошукі Града Кіцежа.**

**Міфапаэтычныя мроі Т. Эліота і І. Бабкова вяртаюць нас да расійскай міфалагемы. І тут спраўдзілася прароцтва Эклезіяста: "Бывае нешта, пра што кажуць: глядзі, вось гэта новае; але гэта было ўжо спрадвеку да нас".**

**Кніжка "Самотны кароль" вызначаецца рэдкай для аўтараў першага паэтычнага зборніка канцэптуальнай цэласнасцю вобраза галоўнага героя, альбо яго экзістэнцыі, перажывання, дакладней, адмаўлення наяўнага быцця — той пошлай "сацыялізацыі", якую яшчэ да А. Камю і Ж.П. Сартра пракляў М. Бярдзяеў. У абстрактнай форме ідэя вершаў блізкая да афарызму: "Дух творыць жыццё, цела ж нямоглае" (Ян 6:63). Але паэтыка-філасофская канкрэтызацыя гэтай канцэпцыі грунтуецца на нейтральнай адносна хрысціянства філасофіі М. Хайдэгера з яе ключавымі катэгорыямі быццё, нішто, свет, самота. Услухаемся ў інтанацыю і мелодыю аднаго з лепшых, на мой погляд, хоць і не самага арыгінальнага верша (стар. 10):**

*Дзень, нібы дрэва, лістотай сваёй ападае*





што "прымаючы гісторыю як такую, мы мусім быць гатовыя развітацца з усім самым мілым і дарагім, — і нават сны нашыя пры гэтым не ёсць надзейным прытулкам"

Яшчэ адно цікавае назіранне у той час, як жанчыны й дзеці пераважна снілі жаўнераў і вайсковыя эпізоды й баталіі, самі жаўнеры (й мужчыны ўвогуле) апраналі свой патрыятызм у жаночую вопратку. .

З пасляслоўя да гэтага тома вынікае пэўная расчараванасць Адама Клакоцкага сабраным матэрыялам Ён выбачаецца перад чытачамі за некаторую павярхоўнасць і банальнасць прыснёнага і фармулюе некаторыя тэарэтычныя і метадалагічныя тэзы, што да сну як такога. Ян Адам Марыя цвердзіць, што сны, як і жыццё, маюць шматслойную структуру і толькі "глыбінныя сны" дазваляюць нам пранікаць у іхную логіку і атрымоўваць праўдзівыя пасланні. "Мы жывём на паверхні свайго жыцця і снім на паверхні сваіх сноў", — гэтым бязлітасным прысудам і канчаецца кніга.

Першы том энцыклапедыі выклікаў грандыёзны скандал. Мы не будзем апісваць усе магчымыя й немагчымыя прэтэнзіі й абвінавачванні, якія былі высунутыя. Усё гэта добра вядома і не спыніла апантанай дзейнасці нашага героя. Праз пяць гадоў выходзіць другі том (паводле агульнай нумарацыі — дзесяты), які атрымаў назву "Сны простага люду". У ім Ян Адам Марыя спрасціў класіфікацыю — матэрыял арганізаваны паводле тэрытарыяльнай лакалізацыі — і ўзяў за аснову інтэрпрэтацыі навуковы апарат тагачаснай этнаграфіі. Сама праца адбывалася падчас "беларускага" перыяду жыцця Яна Адама Марыі Том атрымаўся двухмоўны: сны запісаныя беларускай лацінкай з французскімі перакладамі, каментары збольшага па-французску, але трапляюцца й беларускія інтэрвенцыі.

Агульная ідэя тома, выказаная ў прадмове, — тое, што народная традыцыя захавала глыбокія пасланні з мінуўшчыны і гэтыя пасланні зашыфраваныя як у фальклоры (які Адам Клакоцкі разглядае як калектыўны сон), так і ў глыбінных структурах індывідуальных сноў

Нягледзячы на каласальную сетку рэспандэнтаў і прыхільнікаў, якую меў на той час Адам Клакоцкі, праект скончыўся паразай Матэрыял сабраны неверагодна багаты (беларускія мовазнаўцы даўно ўжо ацанілі ягоныя вартасці), але прарыву ў глыбінныя структуры не адбылося. Сны маюць пераважна пабытовы, прыватны (эратычны) і сацыяльны характар, а спробы Яна Адама Марыі вывесці з іх "пасланні" (мы б сёння сказалі — знайсці архетыпы) выглядаюць штучнымі й непераканаўчымі Так, вядомы выпадак, калі цэлая вёска тыдзень сніла пярэстую карову, якая прапала колькі часу таму і лёс якой быў тэмай усеагульнага зацікаўлення, — гэты выпадак выяўляе ўсю штучнасць і ірацыяналізм сітуацыі. Ян Адам Марыя спрабуе звязваць гэтыя сны з культам каровы ў стараіндыйскай цывілізацыі, але падобна сам верыць у сваё вытлумачэнне хіба што напалову

Пра трэці том мы ведаем толькі назву — "Літаратурныя сны", што трэба разумець як "сны, запісаныя й захаваныя ў літаратурных творах". Па некаторых звестках том паспеў выйсці невялікім накладам і захаваўся ў некаторых бібліятэках (у прыватнасці, Хорхэ Луіс Борхес прыгадвае, што ён гартаў "нешта такое" ў Цюрыху). З гэтага тома для нас былі б цікавыя аўтарскія заўвагі й тлумачэнні, бо якраз пасля выхаду гэтага тома Адам Клакоцкі

*У Сцінкс хуткаплынны, а полымя душ застаецца*
*Утойна забытае тойнасць сваю пакідае*
*Нібы ліхтар вечаровая мудрасць даецца*
.................................................................
*Ці не ласкавей гаіцца туга цішынёю*
*Божухна мой, няўгледжаны, злы, шэравокі*
*Ці не застаўся адтульнай парою начною*
*След невядомы, на снезе, таемны, глыбокі?!*

**Верш гэты засведчыў: паэт адмовіўся не ад усёй беларускай паэтычнай традыцыі, а толькі ад той, якую сёння назвалі савецкай. У гэтым і шэрагу іншых твораў ёсць рэмінісцэнцыі ідэй, матываў і вобразаў заходнебеларускай паэзіі, найперш Ігната Канчэўскага, аўтара элегічных медытацый "У Бернардынскай прысадзе шапочуць пажоўклыя лісьці...", "Так прыгожы старажытныя званіцы..." Ёсць тут сваё пераасэнсаванне традыцыйнай для беларускай паэзіі лебядзінай песні:**

*Узняўшыся вольнаю птушкаю ў неба над*
*краем забраным*
*У бязмежжы, бяссонны блакіт – ён складае*
*журботныя крылы...*

**Часам суровы дух паэзіі (амаль Ібсенаўскі!) змякчаецца ласкавым фрагментам з фальклору: Бога аўтар называе не Дэміургам і Архітэктарам Сусвету, а зусім па-народнаму: Божухна (С. 10, 58, 75). Гэтых, "ласкавых" вершаў больш у першай частцы зборніка. Тут ёсць рэаліі гістарычнай і сённяшняй Беларусі:**

*І глыбінёю жахлівай пужае забытая мова*
*Птушка чакае агонь і не трывае хада*
*Конікам дзікім звініць ашклянелае слова*
*І ў каганцы бледнатварая свеціць нуда*

*Выспа, людскі паратунак, шукацьмеш*
*размкнутага шляху!*
*Не цвінтары, а дубовых шатаў святло*
*Над галавою – абшары блакітнага даху*
*І ў душы – агнёў паганскіх цяпло*

("Выспа, людскі паратунак, неакрэслены тут твае межы...").

спыняе праект Энцыклапедыі, атрымлівае памілаванне ад царскіх уладаў і вяртаецца на Беларусь, дзе пачынае праект не менш цікавы і захапляльны — засноўвае Беларускі Архіў Сноў

Але гэта ўжо цалкам асобны сюжэт, і мы не будзем падрабязна разглядаць яго тут. Скажам толькі, што ўдзельнікамі й рэспандэнтамі Яна Адама Марыі сталіся практычна ўсе беларускія культурныя героі дзевятнаццатага — пачатку дваццатага стагоддзя. Хаця не ўсё захавалася, не ўсе матэрыялы апрацаваныя й уведзеныя ў навуковы ўжытак — мы чэрпаем і яшчэ шмат часу будзем чэрпаць з гэтага Архіва.

Архіў тлумачыць усё, акрамя самой апантанасці, з якой Адам Клакоцкі прысвяціў сваё жыццё снам. Сны можна вытлумачыць, але ўласна гэтая апантанасць застаецца загадкай.

Мы, грунтуючыся на адным з прыватных лістоў, хацелі б прапанаваць сваю версію. Рэч у тым, што Ян Адам Марыя ніколі не сніў уласных сноў. Мы лічым, што менавіта гэта турбавала яго ўсё ягонае жыццё й было той крыніцай апантанай дзейнасці, у якой ён відавочна здзіўляў сваю эпоху. Пад канец жыцця, ужо ў глыбокай старасці, ён нават перастаў верыць, што жыве наяве, й лічыў, што ўласна ягонае жыццё й ёсць тым глыбокім, даўгім, абсурдным сном, ад якога ён вось-вось мусіў прачнуцца. Ян Адам Марыя чакаў гэтага моманту з радаснай нецярплівасцю, як дзіцё.

# АЛЕСЬ РАЗАНАЎ: ЗАЎВАГІ НА ПАЛЯХ УТОЕНАГА СЭНСУ

Усялякае маўленне пра паэзію знаходзіць сябе недзе побач. Паэзія гаворыць сама за сябе, сабой Таму, пакінуўшы прастору яе ўлады, распачнём гаворку аб формах, у якіх яна сябе здзяйсняе, аб сутнасных повязях між лёсам і паэтыкай, пагаворым пра кантэкст

Ёсць паэты, якія могуць апрануць у важкія словы ідэі й вобразы свайго часу Яны цешацца папулярнасцю, разумеюць сваю аўдыторыю і свой голас, ідуць поруч з часам: не варта імі грэбаваць.

Алесь Разанаў так доўга знаходзіўся па-за кантэкстам сучаснай яму паэзіі, што сёння цяжка нават вызначыць, дзе ён. Колькасць выдадзеных кнігаў ужо ніхто не памятае, пытанне пра прэміі не стаіць: Разанаў мае рэпутацыю жывога (ва ўсіх сэнсах) класіка, адзіны хіба сярод сваёй генерацыі. Яго чытаюць і цытуюць маладыя нацыяналісты й салідныя інтэлектуалы.

У той жа час Разанаў — адзін з найгорш зразуметых паэтаў беларускай традыцыі. Паказальным ёсць асцярожнае маўчанне крытыкі, што спадарожнічае выхаду ягоных кнігаў Прафесійная крытыка адчувае дзіўную аналітычную немач, — і гэта не ад недахопу прафесіяналізму. Ад самага пачатку крытыка, захопленая тым новым зместам, што

---

**У рэшце рэшт паэт ведае, што святло свеціць у цемры: "Там дзе шалее ноч // Там дзе канае час // Светлы, светлы агонь" (С. 29). Зразумелы і другі экзістэнцыяльны прынцып: нам баліць — значыць мы жывём ("Забраснее ў палахлівай крыві памерлых туга...").**

**Як на мой погляд (я не хацеў бы нікому навязваць яго, тым больш паэту), аўтар "Самотнага караля" быў не зусім вольны ад звады постмадэрніцкага універсалізму. Асабліва ў такіх ключавых вершах, як "Solus Rex" ("Люстэркі адбіліся ў люстэрках; тыражаваны свет // выйшаў за межы: // мізэрная эпоха // аслеплены Арфей // кранае рукамі сцены // жалезныя гімны // час пяе пад акном..."), "Фрагменты", "Кавярня" ("Прачынаешся сярод цёмнага трывання сляпой нацыі..."). Бо ў свеце ёсць пазітыўнае і негатыўнае, дабро і зло, свет унікальны і свет тыражаваны, песня салаўя і скрогат жалеза. І кожная эпоха — шматгалоссе, сімфонія, а не аднастайнасць, як часам бачыцца яна аматарамі нігілістычнага універсалізму. А сляпых нацыяў наогул няма, ёсць сляпыя рэнегаты. Спрадвеку іх называлі вырадкамі.**

**Я ўжо не кажу пра "Калёквіумы" ("Мізэрны час", "Трэцяя еўрапеізацыя") ды іншыя філасафемы. Пра філасофію — як пра нябожчыка: альбо добрае, альбо нічога. Добрага ў мяне для яе пакуль што нічога няма. Для дабра філасофія павінна яшчэ нарадзіцца нанава. Ні былая камуністычная апалагетыка савецкага ладу жыцця, ні сучасны антыкамунізм і татальны нігілізм не ёсць філасофія. Мяняць плюсы на мінусы — нешта зусім іншае, чым адкрываць і ствараць новыя каштоўнасці.**

**Уладзімір КОНАН**





прычыніўся ў ягоных тэкстах, спрабуе абмежавацца каталогам вобразаў і тэмаў, выяўленнем размаітых уплываў і паралеляў. Знаходзячы сябе на паверхні, крытыка шукае эрудыцыю і інтэлектуалізм там, дзе праяўляе сябе жывы, новы й нечаканы досвед паэта.

Але ці можна насамрэч вытлумачваць прозай досвед паэта? І ці мае ўвогуле такое прамаўленне які-колечы сэнс? Гэты тэкст і ёсць спробай адказу. Ён, як усялякае вытлумачэнне, ёсць фрагментарным, недастатковым і, пераходзячы межы жанру, важыцца "паяднаць крытыку й літаратуру ў самой дзеі пісьма" (Ралан Барт).

## Зыход

*Але я не ведаю, што рабіць і што гаварыць.*
*Ды й навошта патрэбны паэта ў мізэрным часе?*

**Фр. Гёльдэрлін**

Прабіраючыся асцярожнымі сцежкамі з начы. Золак раптам, няўзнак, свеціць знутры, нібы праз шкло.

Паэт знаходзіць-сябе-ў-свеце.

Вольны.

Пасляваенны перыяд — "мізэрны час" беларускай паэзіі. Ягоная мізэрнасць праступае на афіцыёзна-крытычнай мапе свету, нібы тыфозная высыпка на целе хворага. У паэзію прыйшлі пакаленні, народжаныя пры таталітарызме, звыклыя бачыць неба праз турэмныя краты мовы савецкай міфалогіі. Шмат хто "валодаў словам", але няшмат мелі вольнасць.

Пасляваенная беларуская паэзія сталася, скарыстаўшы азначэнне самога Разанава, — "вязнем свету" Яна не вылучала сябе з яго, размаўляла з ім на ягонай мове. Не ведала п'янкога стану "паміж" — між зямлёю й небам, душой і светам, гісторыяй і космасам. Ці прыйшла яна разам з часам?

Але якраз адтуль, з таго часу вырастае Алесь Разанаў. У 1970 годзе выходзіць першы ягоны зборнік "Адрачэнне" (пераназваны выдавецтвам на "Адраджэнне").

Пачатак — спроба паэзіі ў мове міфа. Усё — на разрыве, усё — эксперымент. Усё спрабуе абаперціся на "новае", на суб'ектыўнае права творцы "ўсё закрэсліць і потым нанава пачаць". Вядома, усё можна перакрэсліць і стварыць нанова. Але на якім грунце?

Дзе апірышча, дзе глеба самога творцы?

І тут высвятляецца, што галоўнае апірышча — мова — падманвае Мова, якая мусіць даваць рэчам іхныя імёны, хлусіць, фальшуе, падсоўвае не праўдзівае, але правільнае. Усялякае слова ёсць двухзначным, адсылае да чагосьці іншага. Калі Разанаў хоча прамовіць "свабода", мова ўдакладняе: Ленін. Калі важыцца напісаць "традыцыя", мова дэталізуе: Скарына, Шаўчэнка, Пушкін. Калі мае на думцы "годнасць, змаганне", мова пярэчыць. Урал, Чапаеў.

---

# "Я МРОІЎ НЕЗАГОЙНА-СІНІ ГОРАД..."

*(Асноўныя тэмы паэзіі Ігара Бабкова)*

**КАРОЛЬ. "На пошукі сапраўднага дому адыходзіць ён", — самы першы паэтаў радок у кнізе "Solus Rex". На гэтай жа старонцы, пад радкамі — малюнак: мужчынская постаць (манах? ці манарх?) блукае з запаленай свечкай ці паходняй (усё гэтак нявызначана...) сярод дзіўнага інтэр'ера, як быццам з графічных лістоў знакамітага галандскага графіка М. Эсхера. Solus Rex — самотны кароль у свеце прасторавых (інфармацыйных) ілюзій.**

*У адхіленні ад свету*
*ён самотны жыве*
*быццам халодны агонь*
*у хаце пакінутай, вечар*

**Лірычны герой паэта блукае, у літаральным сэнсе, "упоцемках, з ліхтаром". А "ліхтар" — гэта "вечаровая мудрасць",**

Паэтычны сінтаксіс аўтара тут і далей рытуальна захаваны.

Выяўляецца немагчымасць паэзіі ў мове міфа.

.......... .. ................ .. .....

Другі зборнік, “Назаўжды”, — гэта пошукі апірышча ў свеце ўсеагульнае несапраўднасці. Так знаходзіцца першая каардыната — Сэрца. Менавіта яно лучыць душу са светам, усё прымае і ўсё апраўдвае. Складаны, інтэлектуальны, герметычны Разанаў засланіў сабой гэту кніжку Сёння яна ўспрымаецца з прыстаўкай *неда-*. недастаткова складаная, недастаткова філасафічная. Але якраз у ёй паэзія прабывае ў стане цуду, у стане музыкі. Менавіта тут у ціхай праўдзе сэрца загартоўваюцца ўсе складнікі ягонай пазнейшай творчасці.

*...Мысліць воблака і зіма*
*мысліць возера і дарога*
*Ды няма ў іх, няма ў іх, няма*
*неспасціглага сэрца жывога.*

*Як бянтэжыць між звыклых трапецый*
*між настылых канструкцый, між...*
*што калоціцца і трапеча*
*нетутэйшае... богам звыш...*

І што? Рылькава традыцыя “шчырага сэрца” ў мізэрны час? Ці можна ўвогуле пісаць сэрцам у мізэрным часе!?

Але ці можна пісаць чымсьці іншым, калі розум спіць, калі ratio па-здрадніцку абгрунтоўвае планетарны аптымізм аднамернага чалавека, калі ўвесь свет часам здаецца трызненнем звар‘яцелага Бога!

Другі зборнік — гэта пералом. Перад паэтам ляжаць два шляхі Адзін — гэта растрата, прачытанне сэрцам гэтае несапраўднасці і нявольніцтва, упусканне іх у душу, каб памерці ў сардэчным бунце. Другі шлях — адваротны. Ператрываць, захаваць сябе, адысці ад часу, выбудаваць моцныя бастыёны, памятаючы, што праца духу застаецца.

Але хто гаворыць, што трэба выбіраць? А можа, выбар і ёсць прыхаваным знакам гэтае аднамернасці, прэрагатывай плыткага сфальшаванага розуму, у якім паэзія памірае? Можа, у напрузе між гэтымі полюсамі й паўстае ўласна цудоўнасць паэзіі?

Услухаемся:

*...Я рашаю ўвесь час і ўвесь час не рашу...*
*Ці ўся мудрасць зямлі — разважаць без адказу*
*Іраніст і вар‘ят*
*ён хавае душу,*
*як у музыку, у мройную фразу*

Гэта беларускі Гамлет

*Наплывае, бы сон,*

гэтак любімая паэтам (“Нібы ліхтар вечаровая мудрасць даецца”)...

**Вершы Ігара Бабкова ў зборніку “Solus Rex” па сваёй вобразна-гукавой арганізацыі вельмі тонкія, ціхія, далікатныя. І ўсё ж “сціплыя гэтыя гукі... рушаць да хараства”.**

**КОЛЕР.** *Барвовыя лініі.* **Калі б уявіць усе вершы ў кнізе І. Бабкова адным жывапісным палатном, дык на ім можна было б убачыць шмат тонкіх пераплеценых ліній барвовага колеру. Гэтыя барвовыя лініі (“ніці”, “вецце”) — тэма трагедыі ў вершах паэта: “Сцежкі барвовай хада”; “праз барвовае вецце (лёсу зямнога) з нічога ў нішто”. “З нічога ў нішто” — паэтычная геаметрыя: чароўны круг, зроблены цыркулем, які запраўлены не тушшу, а крывёй. (Ёсць меркаванне, што, стварыўшы свет, Бог зламаў свае інструменты — прылады стварэння. Чаму? Быў незадаволены? Не хацеў у наступны раз паўтарацца?) І далей, у іншых вершах: “Часе мой прагны, ці бачыш / Крывёй набрынялыя, сляпыя твае сляды”; “барвовых клёнаў цяпельцы / цьмяна гараць”; “Мы не боль, што віруе ў барвовых прысадах тугі”.**

**У вершы “Рэчы” лірычны герой паэта адчувае сябе “дрэвам”, якое “у свет прарасло”, і тут жа — знішчае прызнанне, смяецца сам з сябе: “метафізік у цемры”. Але ўсё ж яму падабаецца “прачынацца дрэвам зоркай”! А аднойчы ён нават “сніў сябе садам / у якім / тайна прытулак”.**

**Тэму дрэва (і чалавека як дрэва), якая з‘яўляецца вельмі даўняй у еўрапейскім мастацтве і філасофіі, паэт плённа развівае і заканчвае ў апошніх вершах сваёй кнігі нечаканым “выхадам за круг”: “Мы не чэзлыя дрэвы пад небам збялелага места”. І**





*свет прасторы і кроз.*
*Дык навошта туга, калі ёсць летуценні,*
*дык навошта жыццё, беспрытульнае скрозь,*
*калі ноччу блукаюць нятленныя цені*

*Засцярога...*
*І боязь...*
*І ўсхліп..*
*Не спіцё. .*
*Там — удары стыхій, там — дажджу лапатанне...*
*Адыходзіць жыццё,*
*без адказу жыццё,*
*ды любоў, ды любоў яму ўся*
*за пытанне.*

І ўсё ж такі — зыход. Паступова прыходзіць разуменне, што недастаткова быць шчырым: час падсоўвае “супавы набор” шчырых пачуццяў. Трэба быць сапраўдным. Рэч не ідзе толькі пра паэзію. І нават не толькі пра яе. Рэч у стварэнні аўтаномнай прасторы духоўнага жыцця нацыі. Прасторы вольнасці.

Напрыканцы кнігі паўстае сімвал: крэпасць. Крэпасць духу, у якой можна захаваць і захавацца. Крэпасць, дзе ўсялякія выявы душы знаходзяць свае месца. Дзе ўтоенае і яўнае.

“Ноччу іншае. абрысы размытыя . На драўляным мастку — уцеляснёны сімвал мудрасці — стаіць вартавы: далей нельга. Трэба — глыбей.

Далечыня расхоплівае, абарона замыкае, каб захаваць. . Логіка аперыруе вядомымі рэаліямі, перад невядомымі яна адступае: нараканні дзённыя. Яшчэ раз — трэба глыбей”.

“Назаўжды” ёсць кнігай адыходу

Разанаў сыходзіць на дарогу via sacra ў пошуках “нябачнага боку жыцця” (Рыльке). Праз гэта — парадаксальна — ён стаецца адным з самых радыкальных крытыкаў таталітарнай эпохі. Радыкальнасць і бескампраміснасць ягонага праекта бачная з параўнання са славутымі сучаснікамі — Бродскім і Мілашам. Там — прарыў да вольнасці. Тут — пошукі сапраўднасці. Там — паэзія стаецца закладнікам вольнасці, яе аргументам. Тут — паэзія хоча стацца чымсьці большым, чым яна ёсць...

Развітваючыся — у апошні раз — чалавек да болю ўглядаецца ў тое, да чаго прызвычаіўся, што так добра ведае. Усё тое самае, але — у апошні раз. Чалавек адыходзіць. І калі гэта паэт, ён бярэ з сабою ўсю любоў і невымоўнасць гэтага свету. каб узнавіць там. . у Нябачным. .

***Такім чынам, названая першая частка трыяды:***

***АДЫХОДЗЯЧЫ АД ЧАСУ***

**потым: “Мы... не чароўныя ніці, / Што злучаюць цяпер і заўсёды”. (Кажуць, складаныя паняцці лягчэй і правільней вызначаць адмоўна: мастацтва, а ці каханне, чалавек... — гэта не тое і не гэта, а нешта іншае. Заўсёды нешта іншае, большае за чалавечае разуменне. Бо чалавек — не мерка для ўсіх рэчаў...) Але хто мы? У паэта далей няма станоўчага вызначэння. Замест яго ў вершы ідуць так званыя “вечныя пытанні”: “Кім мы ёсць? І ці ёсць мы заўсёды / Чаму свет утрапёна, загадкава доўжыць свой сон?..” Потым — прабел між радкамі і паэтычнае апісанне наступіўшай цішыні: “...Нібы кава астыла гаворка і ломкія губы / Асцярожна каштуюць за вокнамі светлую ноч”. Загадкавае месца ў кнізе! Можа і быў паэту “адказ”, але яго немагчыма выказаць у некалькіх радках ці ў маўчанні.**

**“Сутнасць чалавека палягае ў тым, каб быць пытаннем. Сутнасць пытання — у тым, што адказу яшчэ няма”, — сцвярджае ў рамане “Горад Удачы” Нобелеўскі лаўрэат Элі Візель. Магчыма...**

*Жоўтае і сіняе.*

*І ўцямім мы, сярод рабоў і тла*
*У мройнай і прычужанай краіне*
*Што вернасць неакупнаю была*
*І свет злучоных душаў не адрыне, —*

**піша паэт у вершы “Вользе”. Сапраўды, свет не павінен адрынуць “злучоных душаў” каханых, бо яны — як трапятлівы матылёк складае-раскрывае крылцы — з`яўляюцца адным цэлым, прыемным Богу і светусвятлу. У іншым месцы паэт піша: “Адвечна, адвечна каханне, назаўсёды”.**

**Цікава, што тэма каханай жанчыны і наогул “жаноцкасці” пазначана ў паэта жоўтым (ці**

## 2. Герметызм: дарогай сэрца

*Чым ёсць самасць? Гэта паўсталае з веды, у подыху жыцця, усярэдзіне сэрца светлае Я*

**Упанішады**

Калі ў 1976 і 1981 годзе выйшлі два наступныя зборнікі, "Каардынаты быцця" і "Шлях-360", галоўнай задачай беларускай крытыкі сталіся пошукі азначэння. Усе адчулі, што адбылося штосьці незвычайнае, іншае. Немагчыма было гэта не заўважыць, прамаўчаць, спісаць усё на звыклы дыскурс "філасофскай глыбіні" ці "наватарскіх пошукаў"

Азначэнне сталася сапраўднай праблемай, бо для эстэтыкі сацрэалізму рэч названая — гэта рэч абясшкоджаная. І калі крытыка знайшла нарэшце патрэбнае слова — "герметызм", — яна зусім не мела на ўвазе вучнёўства Разанава ў Гермеса Трысмегіста, а тое, што ягоная паэзія знаходзіць сябе ў замкнёнай прасторы, адпрэчваецца ад звыклага, знаёмага, агульнапрынятага, творыць свой уласны свет знакаў і сімвалаў, самадастатковы й непадступны. У гэтым сэнсе паэзія Разанава сапраўды "герметычная".

Але чым ёсць напраўдзе такі герметызм?

Ёсць спакуса праінтэрпрэтаваць яго як феномен аўтакратычных сацыяльных структур, як другі бок таго, што Чэслаў Мілаш назваў "скутым розумам" Розум, які не можа пагадзіцца з дазволенымі межамі, выгнаны з грамадскага й увогуле чалавечага абшару, — адыходзіць, эмігрыруе ў бязмежжа мікра- і макракосму Загнаны ў брудны барак, пазбаўлены неба, ён пачынае шукаць неба ўнутры сябе. Будуе замкнёную прастору духоўнасці, ірве ўсялякія канвенцыі, інстынкты думкі.

Такім чынам зразуметы герметызм ёсць даваннем Богу богавага ў святле душы, пакідаючы Цэзару цэзарава моўчкі і без сведкаў

Але ці дастатковае такое разуменне?

Бо шлях унутр ёсць, тым не менш, універсальным матывам усіх культураў і ўсіх народаў Мы можам назваць герметычнымі Гёльдэрліна і Рыльке, Тракля і Валеры, Паўнда і Эліёта — паэтаў, для якіх складанасць і цьмянасць відавочна не была заслонай

Зварот да ўнутранай рэчаіснасці, да мікракосму стаецца ўвогуле падставовым досведам паэзіі дваццатага стагоддзя. Мы ўсё лепш пачынаем разумець, што жывём адно на паверхні сваёй свядомасці, што еўрапейская цывілізацыя, скіраваная на вонкавую актыўнасць, усё больш адчужаецца і адчужае ад унутранага пачуцця. Яна ўсё больш замыкаецца на паверхню, якая ёсць глебай усялякіх ідэалогіяў і навамоваў

І паэзія — як прастора вольнасці — ідзе ўсярэдзіну Яна спрабуе зразумець, прыняць і скарыстаць не толькі тое, што ёсць правільным, праўдзівым, але і няправільнасць, "крывізну" Паэзія стаецца складанай

Але задача паэта — быць простым у гэтай складанасці.

**залатым) колерам. І ў рэшце рэшт, наогул ператвараецца ў тэму жоўтай (залатой: адухоўленай!) прыроды. А гэта, натуральна, восень — цудоўная пара года, любімая многімі еўрапейскімі паэтамі. Вось, напрыклад, жменя паэтавых промняў-радкоў: "Як у сэрца каханне, лістота кладзецца на дол"; "О, веі сусвету і восеньскі сон залаты!"; "Бурштынавы час хавае дрыготкія мроі / Там сховішча лёткія, там святая зямля"; "О Келіх Восені прытулак святой тугі / што кліча ў вырай"; "Лотаці жоўты сон / Светлы тапельцаў рай / Веяў, вуснаў Эдэм / На залатое дно"...**

**У той жа час тэма "мужчынскасці", мужнага пошуку Існага пазначаецца аўтарам сінім (ці блакітным, часам бляклым — да белага ці срэбнага) колерам. Калі гаварыць пра пару года, па колеравай зададзенасці гэта зіма. А яшчэ — Неба. Вось некалькі радкоў паэта: "За шыбамі ноч і цікуе, скавыча зіма"; "Бог журбы і самоты спявае ад мройнае сцюжы"; "Празрысты прывідны крышталь / Спявае ў снегавым бяссонні"; "Зімовы крышталь, схаладзелы розум, сон"; "Блакітны рытуал, там, у надзем'і"...**

**У кнізе ёсць вершы і нават радкі, дзе гэтыя два колеры прысутнічаюць разам, побач адно з адным: "У прадчуванні зімы ападае лістота"; "апрача восені згаданай і неба вачніц"; "Над галавою — абшары блакітнага даху / І ў душы — агнёў паганскіх цяпло"; "бязмежны, бяссонны блакіт" і "золата дня"; "яблык залаты / ... ў халодныя нябёсы адлятае"... Пачуццё раўнавагі, здзяйсненне жаданняў, бачанне абрысаў "сапраўднага" свайго дому**





Мы не мусім захінаць Разанава нейкімі знакамі культуры, трактаваць ягоную творчасць як каментар да Упанішадаў ці тэасофіі. Разанаў не ёсць абстрактным інтэлектуалам, і ягоны пафас не ёсць пафасам культуры. Разанаў — анталагічны. Яго цікавіць тое блізкае чалавеку, што ў той жа час ёсць неверагодна далёкім...

Досвед хрысціянства не ёсць нечым аддаленым, нечым, што ляжыць сярод ідэалагемаў і рытуалаў Ён тут, побач. Гэта — Тэкля. .

Чытаючы "Каардынаты быцця" і "Шлях-360", ловіш сябе на думцы, што графічны падзел на асобныя вершы досыць умоўны. Усе тэксты пераходзяць уласныя граніцы, сыходзяцца ў адзіны твор, у адзіны бясконцы маналог — экзістэнцыйны эпас.

У грунце гэтага эпасу — досвед пашырэння свядомасці, упускання ў яе свету і прагаворванне свету ў бясконцых неразумных маналогах.

*А маналогі*
*як пальцы рукі апусцелай*
*распраствающца і ўдакладняюць*
*каардынаты быцця і асобы*

Пры гэтым усё тое, што навонку, што знаходзіцца па-за чалавекам, стаецца знакам нутранога досведу· досведу трагічнага і ў чымсьці вар'яцкага. З глыбіняў гэтага досведу й паўстае цэнтральная ідэя — ідэя раўнавагі. Разанаў шукае раўнавагу свету, той нерухомы цэнтр, у якім суб'ект і аб'ект, пачуццё і думка, гісторыя і космас, — усё тое, што ў еўрапейскай традыцыі безнадзейна падзелена, — выступала б у жывым адзінстве Дзе мусім шукаць гэтае адзінства? Адказ аднačасова просты і складаны.

***Адзінства ды раўнавага свету знаходзіцца ў сэрцы паэта.***

. .. ... . . ..

Банальна?

Усё гэта сапраўды падобна да банальнасці, якая ад часоў рамантызму сталася агульным месцам еўрапейскай культуры. Агульным — значыць мёртвым, непрыдатным да жыцця. Але мы мусім уявіць сабе й пагадзіцца, што паэзія Разанава не баіцца банальнасцяў. І мае ў сваю абарону сур'ёзныя аргументы Рэч у тым, што сярод постмадэрных канструкцыяў, у якіх шмат хто з паэтаў спрабуе замаскаваць тое, што больш няма пра што гаварыць, — ён гаворыць. Разграбаючы завалы мёртвых, скасцянелых праўдаў культуры, Разанаў важыцца перайсці межы дадзенага слова, спрабуе ісці да досведу маўчання, нямоты. У гэтым Разанаў — метафізічны паэт.

Прыгадаем дзіўны, містычны верш Уладзіміра Жылкі:

*І ушчэнт закаханасці поўныя*
*І таго, што не выкажаш мовай,*

**адчуваюцца ва ўсіх гэтых вершах.**

**(Цікава, што падобныя колеравыя асацыяцыі прысутнічаюць і ў творчасці некаторых іншых нашых паэтаў — Леаніда Дранько-Майсюка, Алеся Разанава (толькі наадваротныя: паэт жыве ў "іншым свеце"), Глеба Артханава ("блакітная" і "залатая спіралі"). Напрыклад, у Л. Дранько-Майсюка ёсць такая страфа:**

*Мой сон – пусты, і я прашу: "Прысніся" –*
*І стаўлю вазу чыстую на стол...*
*Твой жоўты колер пазалоціць высі,*
*Мой сіні колер абцяжарыць дол.*

**Наогул, увесь цыкл вершаў Л. Дранько-Майсюка "Маёй цудоўнай А." — як сіметрычна "праілюстраваны" самім жа аўтарам з дапамогай уласнай сістэмы колераў. Што з'яўляецца, на маю думку, вельмі сімпатычным і сімптаматычным у сучаснай беларускай паэзіі... Але гэта — тэма асобнай гаворкі.)**

P S. **Паводле тэорыі колеравых асацыяцый, само ўласнае імя паэта — Ігар Бабкоў — ёсць спалучэннем сіняга і жоўтага колераў. Гэта, зразумела, проста прыемнае, але вельмі "дарэчнае" супадзенне.**

*"Крыху пустаты"* **У вершы "Тэрыторыя ночы" І. Бабкова знаходзім такія радкі: "Цёмныя начныя словы на паперы згараюць / Кроплямі маляванага раю сцякаюць з-пад рук". Зноў — знаёмая нам тэндэнцыя ў творчасці беларускіх літаратараў: МАЛЯВАЦЬ! МАЛЯВАЦЬ!.. (І. Бабкоў: "НЕ СПАЦЬ" і — "існаваць, існаваць"). Бо свет разлюбіў слова і закахаўся ў выяву...**

**Але ў паэта, лірычны герой якога часам "як майя празрысты", — дзіўнае для**

*Мы пяройдзем мяжу ў невымоўнае*
*За рубеж чалавечага слова...*
. .. .. .... ..... . .... .....

Як у "Каардынатах", так і ў "Шляху-360" паэзія балансуе "на мяжы немагчымага". У тэмпературы высокіх паэтычных энергіяў прастора змяняецца: далёкае стаецца блізкім, у шалёным віры свядомасці ўсё губляе сваю звыклую лакалізацыю і агульнапрынятыя сэнс: свет іншы. І ў гэтым іншым свеце сэрца ёсць дэміургам і найвышэйшым суддзёй.

***ДРУГАЯ ЧАСТКА ТРЫЯДЫ МАЕ НАЗВУ:***
***ДАРОГАЙ СЭРЦА***

## 3. Галасы маўчання

*У пустэчы нябёсаў плывуць хмары й кружляюць птахі. Дзякуючы пустэчы перайтварэнні могуць адбывацца бясконца. Гэткае ж і Тао мудрага.*

Гуань-Інь Цзы

Перад намі наступныя зборнікі: "Вастрыё стралы" (1988 г ), "У горадзе валадарыць Рагвалод" (1992 г ), "Паляванне ў райскай даліне" (1995 г ).

Што адбываецца?

Нейкі дзіўны голас распавядае нам яшчэ больш дзіўныя гісторыі пра снег і пра студню, пра дрэвы й пра маланку, пра сляды й імглу У гэтай магічнай прасторы — краіне метамарфозаў — няма ўнутранага й вонкавага, ніхто тут не ведае пра суб'ект і аб'ект . Няма, зрэшты, й самога аўтара, ёсць толькі голас.

Чый гэта голас?

Можа сам Свет вырашыў распавесці нам свае таямніцы?!

Што можна дадаць да гэтага голасу?

Традыцыя, паэтыка, тэхніка вершаскладання — умоўнасці сучаснага паэтычнага мыслення — адкінутыя... ці забытыя Ёсць толькі свет .. Ягоны голас. Ягонае маўчанне

**Такім чынам, яўляецца ўся трыяда:**

***АДЫХОДЗЯЧЫ АД ЧАСУ — ДАРОГАЙ СЭРЦА — У МАЎЧАННЕ СВЕТУ***

*Менск, 1991, 1996 гг.*

---

**еўрапейскага мастака жаданне:**

*Пакінуць крыху пустаты*
*Сярод карціны змаляванай*
*Калёрамі нетурбаванай*
*І непахіснай прастаты*

**Гэта можна вытлумачыць яго колішнім захапленнем усходняй філасофіяй з яе вучэннем аб "прасвятленні" — новым бачанні жыцця і свайго месца ў ім, бачанні, якое ўзнікае пасля нейкага моцнага душэўнага перажывання, яркага ўражання. Паводле ўсходняй мудрасці, шлях да выратавання асобы — гэта адмова ад усіх жаданняў, зліццё з вышэйшым абсалютам, узнясенне над радасцю і смуткам, жыццём і смерцю (нірвана). І таму нядзіўна, што мы знаходзім у іншым вершы І. Бабкова такія радкі:**

*Хай прасохне алей*
*У краіне мар*

*Хай ад фарбаў густых*
*Спачнуць маляры*
*Хай на пляцах пустых*
*Гараць ліхтары*

**Хочацца запытаць: "Што ты шукаеш, паэце, са сваёй улюбёнай свяцільняй ( "ліхтаром", "свечкай", "агнём")? Чалавека?.." — "Мілага (сапраўднага) дому", — адказвае ён... Заўважце: дому, а не хаты. І шырэй: горад, а не сад.**

**СЛОВА.** *Вада.* **Аўтар гэтых вершаў уяўляе мову містычным рэчывам кшталту вады (у рацэ ці студні): "І глыбінёю жахлівай пужае забытая мова". Бывае, што яму "конікам дзікім звініць ашклянелае слова" (нешта з В. Хлебнікава: "Пинь, пинь, пинь! — тарарахнул зинзивер"...) А бывае, яму здаецца, што словы — "ластаўкі, пяшчотныя стварэнні — / Ласкавыя прадвеснікі быцця". "Дзень жыццё абвяшчае", "заве туга", "танчыць... балбатлівы сняжок"... Што ж, у лірычнага героя нашай кніжкі, сапраўды, славянская паганская душа.**

**Ён, будучы ад нараджэння паганцам, выдатна ўсведамляе, якія гэта "цяжар і пяшчота — / падымаць веі памерламу слову" (а яно, бывае, з'яўляецца толькі пад раніцу, як нейкае старажытнае-старажытнае славянскае божышча, і патрабуе: "Падыміце мне веі!..") Паэт адчувае: "Хтосьці выходзіць з тао-ракі патаемнай / З цёмнай, глыбокай ракі/ Святы, дасканалы, нябачны"...**

**І яшчэ адна згадка пра словы, што імкнуцца да падабенства з вадой (памяццю, сувяззю, жыццядайнай вадкасцю, любоўю...): "Словы шукаюць сэнсу, нібы ў пустэчы/ Вады".**

*Агонь.* **І ў той жа час словы для паэта — гэта не толькі вада, але і іншая першастыхія — агонь. Помніце: "Цёмныя начныя словы на паперы згараюць"? А той шмат разоў сустраканы "ліхтар", тая свяцільня, з якой блукае самотны кароль па старонках кнігі, — ці не "прытушанае" слова гэта?.. Бо насамрэч не самотны кароль, а самотнае Слова, кволы вогнік у касмічнай цемры, шукае сабе "горкі спакой".**

**Спакой названы аўтарам горкім, бо ён — мёртвы, за ім — зваротны цыкл сціскання свету "амаль у кропку". І таму лірычнаму герою, які інтуітыўна ўсведамляе трагізм касмічнай сітуацыі, "унікнуць хочацца, ўмаліць/ Ў далоньках трапяткія гукі". Адсюль вытокі ягонага, на першы погляд, парадаксальнага жадання: не гаварыць! (не маляваць!). (Цікава, што не маляваць у каморы — мастацкі вобраз-рух і А. Разанава.) За цытаванымі ўжо радкамі пра пустату "сярод карціны змаляванай" — ідуць наступныя:**

*Пакінуць крыху цішыні*
*Сярод затлумленага свету*
*Цяплом аспрэчваючы мэту*
*Халаднатварай вышыні*

**Усведамляючы, што цяперашні свет — гэта "скокі ашалелых словаў", "люстэркі адбіліся ў люстэрках" і "тыражаваны свет/ выйшаў за межы" (верш "Solus Rex"); фізіялагічна імкнучыся да маўчання, цішыні, бо "тут/ сярод словаў" не знаходзіцца нават вобраза каханай жанчыны (верш "Паміж"); беручы пад увагу, што "абсурд — гэта калі чалавек пытаецца, а свет маўчыць" і, пэўна, калі наадварот (медытацыя "Мізэрны час"), — наш лірычны герой прызнаецца ў канцы кнігі, што верыць у ратаванне праз нейкія незвычайныя, асаблівыя словы, значэнне якіх мы згубілі. Напрыклад, "вежа" ці "полымя"... Вось што мы чытаем у імпрэсіі з вершаказавай назвай "Вежа і полымя": "Тое, што для нашых дзядоў было цяплом і прытулкам, для нас — этнаграфія, старажытнасць, музейны экспанат. Зноў і зноў гартаю слоўнікі, там ёсць значэнне, але няма патаемнасці". Герой пачынае ўзводзіць на выспе (у душы) вежу, нябачную забудову ваенна-рэлігійнага прызначэння: каб звесці рахункі з часам... "Але надыходзіць пара, і разумееш, што патаемны сэнс усіх душэўных забудоваў — крохкі агеньчык, што заўсёды жыў за мурамі (агмень? —** Л.С.**). І вось гэта ўжо не агеньчык, а нязгаслы евангельскі агонь, што палае ў нашых душах, які мы асцярожна раздзьмухвалі, у які мы паверылі, які стаў намі".**

**Радок з Ф. Гёльдэрліна ("Згадае прырода пра пяшчотную сваю ўладу") вяртае нас да пачатку, туды, "у мудрае дзяцінства чалавечага роду, да святога ведання Еднасці ўсяго" — ці скіроўвае ў няпэўную прастору жаданай шчаслівай будучыні (што, хутчэй за ўсё, у кантэксце гэтай сістэмы вобразаў адно і тое ж)...**

**"Без варты і аховы, безабаронныя ідзём у ноч. Адны сярод сцюжы і цемры, сярод бязлітаснай начной прасторы". Рэрых. Блок. Гумянюк. "Дабранач, рэвалюцыя, гудбай!"**

**СОН. Слова "сон" прысутнічае амаль у кожным вершы паэта, а ў некаторых вершах — па некалькі разоў (з варыяцыямі: "мроі", "трызненне"). Можна сказаць, што сон — асноўная тэма яго філасофскай паэзіі, сімвалічная прастора яго вершаваных вобразаў. Здаецца, колькі стагоддзяў ужо гучыць кальдэронаўскае "Жыццё — гэта сон", але нараджаюцца новыя людзі, а сярод іх — і пісьменнікі ("спі-сьмен-нікі"), і для кожнага — гэта сваё, адчутае ўласным сэрцам адкрыццё: "празрысты/ сон у паветры там дзе сыходзяцца рэчы"; "пякучая нуда/ Струменіць рэчы сон"; "ува сне, там, дзе вецер". Матывы сну — блакітным макам уплятаюцца ў сэнсавыя гірлянды слоў, паганскія вянкі Восені і Зімы, "жоўтага" і "сіняга": "Святам восеньскіх сноў/ мы праходзім як сон";**

*Празрысты, прывідны крышталь*
*Спявае ў снегавым бяссонні*
*І абтрасае на далоні*
*Зімовых сноў шалёны баль*

**Па прызнанні аўтара, гэта той "сон, што не канае". І ўсё ж лірычны герой кнігі, уявіўшы сябе ў множным ліку як "мы", "людзі" (бо "зямны лёс — множнасць"!), знаходзіць у сабе сілы выказаць пратэст супраць гэткага ладу жыцця, спрабуе вырвацца з "зачараванага кола" традыцыйных філасофска-паэтычных перажыванняў. На апошніх старонках кнігі "Solus Rex" мы знаходзім наступныя бунтоўныя радкі:**

*Мы не тое што бачыцца нам праз бяспамятны восеньскі морак*
*Мы не вязні сляпога замкнёнага сну*
*Мы <...> не боскія мроі*
*Што шукаюць спачыну ў звярынцы шклянога жытла*

**("Мы — не рабы: рабы нямыя!...") Герой вершаў задае Таму, хто вонкі, смелыя, адчайныя пытанні, прычым вельмі таленавіта: ад "Кім мы ёсць? І ці ёсць мы заўсёды?" да "Што ёсць слова (Бог. —** Л.С.**)?". А што ў адказ?.. Прабел. Шматкроп'е... Гэтую ж тэму — жыцця як сну — Ігар Бабкоў развівае і ў сваіх калёквіумах, аўтарскіх эўрыстычных творах, напісаных рытмізаванай прозай ці, хутчэй, "драматургіяй": "А:... Чым ты ёсць, няшчаснае жыццё? Кароткі шпацыр, сон? Але чаму гэты сон, гэты балаган, гэтая музычка? — Б: Я слухаю". І**

далей, у іншым месцы: "А: Якую мудрасць я магу прапанаваць гэтым людзям, калі я нават не ўпэўнены, што існую... магчыма, на самай справе я толькі чыёсьці трызненне, фантом працяглага й неспакойнага сну... Хто мяне сніць, Божухна?" І на ўсе гэтыя пытанні — адзін адказ ад Б: "Я слухаю" (або маўчанне). (Кажуць, каб навучыцца кіраваць кімсьці, трэба ўвесь час напачатку "не выяўляцца", не гаварыць самому, а слухаць гэтага чалавека, слухаць, слухаць і яшчэ раз слухаць...) Хутчэй за ўсё ў гэтым калеквіуме, а ён называецца "Мізэрны час", А — гэта аўтар, а Б — гэта Бог.

Сапраўды, "мізэрны час"! мізэрныя зносіны!..

"Неразмовы пра палітыку, нечытанне газет" — вось рэцэпт, каб звесці рахункі з часам. Можна сказаць, "рэцэпт неўміручасці" (і адразу ўзнікаюць асацыяцыі з аднайменным вершам Уладзіміра Арлова ў паэтычным зборніку "Фаўна сноў"). І ўсё-ткі ў кнізе Ігара Бабкова ёсць некалькі вершаў, блізкіх да праблемаў палітыкі. Гэтыя вершы нават стаяць у кнізе разам, шчыльна адзін каля аднаго. Адзін з гэтых вершаў, "Кавярня", пачынаецца наступнымі радкамі:

*Прачынаюся сярод цёмнага трывання сляпой нацыі*
*Нібыта выходжу з начной ракі часоў Нерона*
*Пустая кавярня*

*А на старонцы побач — такія радкі:*

*Не забудзься на тых, Божухна, хто ў пагоркаў труне*
*А таксама на ўсіх выгнанцаў у чужых краёх*
*Усіх, хто вольнасці кветку ў апошнім сне*
*Да сэрца тулііў, сарваную на воўчых палёх*

Вобраз самотнага караля (імператара) ужо не здаецца такім адназначна станоўчым. Ён больш складаны, здольны зрэдчас ператварацца, як фальклорны ваўкалак (вампір), у сваю страшную, адмоўную супрацьлегласць: "Самотны імператар не затушыў святло/ <...> Дзе ты нерон/ дзе ты нацыя дзе ты вера"; "На вочы, што бачылі, наступіць ка́та нага"; "Спелым болем пазначаны джалы сцягоў"; "злітуйся о Кароль/ Ночы"...

Тэма сну знаходзіць адно са сваіх тлумачэнняў у прызнанні, што паэту "мроіцца-мроіцца... БЕЛАРУСЬ". Згадваецца Купалаў радок: "Мне сняцца сны аб Беларусі"... Terra Harmonia. Terra Incognita.

ПТУШКА. З тэмай слова звязаная ў вершах І. Бабкова і тэма птушкі: "птушкай сляпой/ слова выпала з губ"; "самотная птушка/ падзеўбала крыху з далоняў/ забароненай цішыні". "Узняўшыся вольнаю птушкай у неба над краем забраным", — гэта вобраз паэта, прычым супрацьлеглы горкаўскаму Буравесніку.

Тэма птушкі звязаная таксама і з тэмай сну (вечнасці, славянскага "выраю"): "Зварухнутая вечнасць птушыным крылом/ азавецца"; "о Келіх Восені прытулак святой тугі/ што кліча ў вырай<...> птушкі/ збіраюцца ў чароды/ чаканне трыпутніка сон". Вядома, што птушкі ў народным фальклорна-міфалагічным мысленні азначаюць душы, нават душы памерлых (бо душы — несмяротныя!). У сувязі з гэтым, да матыву птушкі-душы можна аднесці і наступныя радкі паэта:

*Вандроўніца пяшчотная, душа*
*Блукае ў свеце, вокрыкаў не чуе*
*Таемнасць вольных сноў не занатуе*
*Шануе неруш...*

У некаторых вершах універсальнае паэтава азначэнне "птушка" набывае больш канкрэтныя рысы. Гэта — ластаўка, адна з улюбёных птушак народнай міфатворчасці: "А словы, бы цвікі светабудовы/ Бы ластаўкі, пяшчотныя стварэнні — / Ласкавыя прадвеснікі быцця". І ў іншым месцы: "але/ дробязь гаркота/ ластаўкаю над морам".

Па адным з найстаражытных павер'яў, чалавек, які з гуртам усялякай жывёлы ўратаваўся пасля сусветнага патопу, выпускаў на пошукі зямлі крумкача і ластаўку...

Гэтая ластаўка над морам нагадвае мне чайку і рычардбахаўскую тайну лёгкага пранікнення ў адлеглыя прасторавыя сферы ("Трэба толькі ўявіць, што ты ўжо прыляцеў...") Гэта нейкі амаль рэлігійны парыў, падобны да наступнага хуткага дзеяння ці рытуалу: "У некаторых будыйскіх манастырах секты дзэн ёсць непарушнае і, бадай, адзінае няўхільнае правіла паводзін: калі адзін манах крыкне другому "Гэй!", той павінен без прамаруджвання адказаць "Гэй!" (па кнізе Дж. Сэлінджэра "Вышэй кроквы, цеслі").

ГОРАД. "Вера. Надзея. Скон. Вечар. Горад". Фармулёўка-страла, выразна скіраваная сваім вастрыём у неба, туды, да Нябеснага Горада. Менавіта яна прапанаваная аўтарам кнігі з царскай назвай "Solus Rex" замест замяккай, круглай, воблакападобнай старой фармулёўкі (ці, хутчэй, у дадатак да яе). Гэта — новы запавет, выкладзены паэтам, жаданне патрапіць пасля ўсіх выпрабаванняў у ідэальны, дасканалы горад, Новы Ерусалім.

*У дзіўны непадробны свет*
*Вяла хада маўклівых вулак*
*Чыніўся новы запавет*
*І час шукаў сабе прытулак*

Паэт піша: "Лунаюць, зеляцца аддуманыя сны/ І рэчыва спадаюць краты". Яго лірычны герой — увесь у імкненні да іншага жыцця (не "сну"!), якое пачнецца пасля скону, да нейкага "сапраўднага дому" ў Іншым Горадзе. Душа героя вольнай птушкай лётае ў тую новую прастору, як у вырай: "Там сховішча лёткія там святая зямля/ Там ветлы прытулак"... Як за нітачку, пацягнем за апошні вобраз, каб убачыць "аснову" (Пенелопе: "НЕ СПАЦЬ"...)

Згодна з энцыклапедыяй "Міфы народаў свету", вырай ва ўсходнеславянскай міфалогіі — старажытная назва раю і райскага сусветнага дрэва, да вяршыні якога туліліся птушкі і душы памерлых. У народных песнях веснавога цыкла захаваўся матыў адмыкання ключом выраю (менавіта "адмыканне ключом" — як





дзвярэй "сапраўднага дому"! і — "залатым"?..). З'яўляецца цікавым навуковае тлумачэнне і вобраза самога сусветнага дрэва. Гэта — "характэрны для міфапаэтычнай свядомасці вобраз, які ўвасабляе універсальную канцэпцыю свету. З дапамогай гэтага вобраза, ва ўсім шматабліччы яго культурна-гістарычных варыянтаў, зводзяцца ў адно цэлае агульныя бінарныя сэнсавыя супрацьпастаўленні, што служаць для апісання асноўных параметраў свету". Таму сусветнае дрэва — гэта і дрэва пазнання дабра і ліха (можа, яно расце і не адно ў "касмічным садзе" Бога? ёсць жа ў людзей генетычная памяць пра згублены райскі "сад"!) А ў кнізе вершаў Ігара Бабкова вобраз дрэва з'яўляецца адным з кодавых вобразаў.

Для нашага даследавання асноўных тэмаў паэзіі І. Бабкова будзе цікавым таксама веданне таго, што вобраз гэтага універсальнага сусветнага дрэва ў сусветных рэлігіях, філасофіі і мастацтве пазначаюцца таксама вобразамі гары, храма, калоны, трона, лесвіцы, крыжа, чалавека... Усё гэта — сэнсавыя "пункціры" і кнігі "Solus Rex", яе "залатая страла", што працяла ў сваім палёце прастору хітрадумна складзенага ў кнігу "празрыстага каралеўства".

Трэба яшчэ ведаць, што ў хрысціянскай традыцыі (а лірычны герой па навучанні і адукацыі — хрысціянін) існуюць тры варыянты канца чалавечага шляху, тры вобразы раю: рай як сад, парк ("Стары запавет"); рай як горад, Нябесны Ерусалім ("Новы запавет") і рай як нябёсы (апакрыфічная літаратура, Дантэ). Бачна, што ўсе гэтыя тры вобразы пэўным чынам звязаныя, — гэтаксама і ў кнізе вершаў І. Бабкова. Герой яго то "сніў сябе садам/ у якім/ тайна прытулак"; то прызнаецца, што "мроіў незагойна-сіні горад"; то радуецца, калі "рэчыва спадаюць краты" і ён сам "лёгка, нібыта ў сон, падае ў неба лот".

І ўсё ж такі асноўнае парыванне героя, асноўнае слова яго "невыразнага філалагічнага балбатання" — ГОРАД. Слова "горад" сустракаецца ў кнізе вельмі і вельмі часта: "Калі прагная цемра сыходзіць на горад начны"; "Тут горад быў і вышыню/ дарыў збалелым, хворым душам"; "паслухаем пра гэты ціхі горад/ парыж, што распускаецца ўначы" (Парыж — адзін з тых гарадоў, якіх называюць "вечнымі", бо яны — гарады адухоўленыя). Гэты жаданы, прымроены, выснены Горад — сіні (бо знаходзіцца на нябёсах), блакітны, часам празрысты, а ці амаль белы, як закрыты аблокамі альбо снегам. Па сэнсавай групе слоў, гэта — Мужчынскі Горад, Сінь-Горад, Зіма-Горад. У гэтым "прахалодным архетыпе" ёсць нешта старажытнае, нейкае архаічнае "зно", ваяўнічы рытуал: "Мы тулімся <...> у бяссонне, — далей, мой сябар кажа,/ далей, у неба/ Блакітны рытуал, там, у надзем'і". Так і хочацца крыкнуць "Гэй!" — і, пачуўшы імгненны адказ-рэха, урачыста ўсклікнуць: "Да сустрэчы ў Сінім Горадзе!.."

Ужо згадвалася, што душа ў лірычнага героя кнігі вельмі старая. Яна шмат што пабачыла на свеце, шмат у што й каго паверыла... Яшчэ нехта "Адольф" у сваёй рэцэнзіі на кніжку з усмешкай заўважыў (у "французскім нумары" газеты "Наша Ніва" за 1994 г.): "Раптоўна робіцца прыкра ад мноства дробных і незабытых багоў, што запоўнілі *тэрыторыю ночы* мяккацелай кніжачкі. Крыўдна, спадар Бабкоў, са шматгадовым вопытам вартаўніка трэба лепш ахоўваць абсягі першай кнігі паэта. А то панапускалі..." Дык вось: рай для гэтай, як бачна, жаноцкай птушкі-душы (vagula blandula) не прастакутны горад, бо "прастакутнасць — знак/ мона-ментальных сноў", а хутчэй скрыўленая, складаная прастора між галін сусветнага дрэва, дзе зліваюцца ў адзін зялёны колер "жоўтае" і "сіняе"... (Памятаеце, у канцы кнігі радок: "Згадае прырода пра пяшчотную сваю ўладу"?.. Што? Гёльдэрлін? Якая розніца — хто!)

***

На заканчэнне — яшчэ некалькі словаў наконт прасторы кнігі Ігара Бабкова "Solus Rex".

Любая кніга наогул — гэта цуд, адно з найвялікшых вынаходніцтваў чалавецтва! У маленькім кавалачку прасторы, бывае, змяшчаецца цэлы сусвет; у прыплясканым паралелепіпедзе — цэлая планета... Кніга І. Бабкова — гэта маленькі, неглыбокі куфэрак чорнага колеру, старанна ўпрыгожаны старажытнымі выявамі, дробнымі рыскамі-сімваламі. А ў ім, як прыпадымеш вечка-вокладку, — скручаная, што тая стужка Мёбіуса, складаная прастора духоўна-інтымнага свету аўтара... Вобразы "перагукваюцца", сіметрычна паўтараюцца. На першы погляд, зусім адрозныя, несумяшчальныя, яны плаўна пераходзяць адзін у другі, а потым — у трэці; і гэтак далей, бясконца. Усё гэта дае адчуванне прасторы, аб'ёму, цэласнасці і, у рэшце рэшт, магічнай прыгажосці. (Падобнае адчуванне — прыгожых метамарфозаў, неразгаданай вабнай аптычнай загадкі — узнікае, калі глядзіш на графічныя работы М. Эсхера: "Неба і вада", "Бельведэр", "Чароўнае люстэрка" і інш.)

Узнікненню эфекту замкнёнасці нейкай дзіўнай прасторы спрыяе адмысловая кампазіцыя ўсяго тэксту кнігі: ёсць элементы, якія паўтараюцца двойчы, на пачатку і ў канцы кнігі (ці бліжэй да канца). Гэта незабыўны выраз "За небакраем Еўропы", вобраз Эдэму, вобраз лялечніка (у тэксце — "штукара", "смерці"); некаторыя іншыя, якія паяўляюцца ў кнізе толькі двойчы, скругляючы яе кампазіцыю.

Захапляльнае ўсведамленне сістэмнасці рэпрэзентаванага нам свету і ў той жа час адчуванне яго кволасці, пачуццёвасці, жывой цеплыні — вось падмурак маёй канцавой высновы: асноўная тэма паэзіі Ігара Бабкова — не смерць, а — "іншае жыццё".

Людка СІЛЬНОВА
Красавік—травень 1996 г

# ТРЫ РАКУРСЫ

*Паводле кнігі "Solus Rex" Ігара Бабкова*

**1) Першае ўражанне ад кнігі — тэксты вельмі цьмяныя сэнсава. Але і гэта не замінае пабачыць у іх вялікую колькасць выпадковых слоў, якія без шкоды для зместу можна замяніць на іншыя.**

**Можна не ўжываць вялікіх літар, апускаць знакі прыпынку (як гэта робіць аўтар), але толькі ў тым выпадку, калі твор ад гэтага робіцца больш выразным.**

**Чытач — не рэстаўратар, якому для аднаўлення першаснага выгляду іконы трэба зняць не адзін слой пазнейшага жывапісу.**

**2) Да іншага асэнсавання кнігі мелі непасрэднае дачыненне: наведванне мною кавярні ў Траецкім, дзе акрамя кавы знайшоўся вермут, а таксама выпітыя крыху пазней дзве бутэлькі піва.**

**Наступнай раніцай у сваім нататніку я прачытаў:**

**"Кліча за сабой мелодыю чужога сну. Тонкі саладкаваты пах. Здалёку даносяцца абрыўкі фраз, скажоныя адлегласцю... Свет эфемернай існасці...**

**Акварыум задымленага пакоя, дрыготкае святло лямпы. Водарасці, калыханыя вадой — няверныя рухі п'янай публікі. Клавішы фартэпіяна, непадуладныя маім пальцам. Ціхая музыка...**

**Ледзь адкрыўшыся, знікаюць зноў абрысы прадметаў. За іх не зачапіцца вачыма. Клубы дыму, няяркае святло... — гэта новая рэчаіснасць, новы свет, і музыка фарбуе яго ў пастэльныя тоны...**

**Муха цялёпкаецца ў маім келіху... Адчуваю, што болей не валодаю целам...**

**Пад рукі мяне вядуць да ложка, распранаюць. І я засынаю. Цяпер ужо — уласным сном".**

**3) Але і пасля гэтага мной не пераставаў валодаць стан няпоўнай выказанасці, покуль не зразумеў: зборнік "Solus Rex" адносіцца да так званай спецыяльнай літаратуры. Яе трэба "вывучаць", як вывучаў калісьці ва універсітэце тэорыю груп і квантавую электрадынаміку. Эстэтычнае задавальненне можна атрымаць толькі ад факта спасціжэння ідэй, якія выказвае аўтар.**

**Мне захацелася, калі можна так сказаць, папулярызаваць кнігу Бабкова. Дакладней — толькі адну тэму, кранутую ў ёй: пошукі сапраўднага.**

**"Калі не чуеш жывых, застаецца толькі адно: ціха спяваць уначы на магілках сабе і мерцвякам.**

**Ты крычыш ці паліш цыгарэту толькі для таго, каб засведчыць для сябе ж сваё існаванне — пастаянна трымаеш руку на ўласным пульсе.**

**Тваё жыццё — толькі прытулак, са ўсіх бакоў прадзіманы скразнякамі небыцця. Асабліва поўна гэта адчуваецца ў прыгожым, але чужым горадзе, дзе быць усяго некалькі дзён. І збоку здаецца, што там чыніцца лад. Бачыш краявіды чужога горада — нібы слухаеш катрынку, якая спявае пра вечнае каханне і самоту. Але ты не хочаш станавіцца адным з герояў гэтай чароўнай казкі, каб назаўжды застацца тут. Напэўна недзе існуе твой свет, сапраўдны. А тут ты — кароль на выгнанні: нічога не маеш і ў лепшым выпадку можаш адно канстатаваць сваю прысутнасць у гэтым свеце. Ты жабрак, толькі ніхто не ведае аб гэтым: услед табе бягуць літасці прагныя. Тыя, з кім гаворыш, каго цалуеш... Не ведаеш, яны таксама каралі на выгнанні, ці ўладары ў сваіх каралеўствах.**

**Ты заняты пошукамі сапраўднага дому, сапраўднага болю. Але калі толькі пачынаеш адчуваць гэты боль, як ужо збоку бачыш чалавека са сваім тварам і вопраткай у чужым горадзе, дзе чыніцца лад".**

**Усевалад ГАРАЧКА**

# ТОЙ, ХТО СТАІЦЬ НА КРЫЖЫ ВАСЬМЁРКІ

**Перад тым, як выказаць свае думкі пра пэўную асобу, варта акрэсліць некаторыя свае ўяўленні пра асяроддзе, у якім тая асоба займае паважнае становішча...**

**Лічба 8 нагадвае стужку Мёбіуса. Замкнутая на сабе прастора, самакаштоўная, самадастатковая...**

**Выкшталцонае дзяленне 8:4:2. Проста містычная дасканаласць!**

**Мусіць таму пад знакам і пачаткам васьмёркі — у васьмідзесятыя гады нашага стагоддзя — у беларускай літаратуры ўтварылася самае прэтэнцыёзна высокаштылёвае літаратурнае аб'яднанне "Тутэйшыя". Праўда, такі эпітэт да ўсіх "Тутэйшых" дадаваць было б не зусім дакладна, бо той, хто толькі імкнуўся вырвацца з дрэйфу ўсеахопнага штылю, неўзабаве адышоў ад іх, а штандар "васьмёркі" ў няўрымслівыя 90-я вынеслі адно самыя "ядроныя", то бок самае ядро "Тутэйшых", што згурталася вакол неа-"Нашай нівы".**

**Безумоўна, "Наша ніва" 90-х стала самым самастойным і самым самасційным (ад слова самасць) беларускамоўным выданнем. Аднак замест трыбуны для неверагодных, разняволеных эстэтычных праектаў яна пераўтварылася ў самотную сюр-сур'ёзную друк-прастору з асветніцка-дыдактычнай функцыяй, маўляў, глядзіце і вучыцеся, як пішуць і пра што пішуць ва ўсёй Еўропе (ва ўсім Свеце) і таксама, як пішам і пра што пішам мы (гэта значыць, яны — былыя "Тутэйшыя"). Але толькі глядзіце, бо навучыцца гэтаму, на жаль, немагчыма. І не таму, што навучыць пісаць ніхто не можа, а таму што вы — гэта не мы (яны), вобразна кажучы, не "васьмідзесятнікі-самасційнікі". Можна лічыць, што гэта была не "Наша ніва", а "іх ніва для нас". Аўтары яе стаялі тварам адзін да аднаго ў замкнутым коле (замкнутых колах васьмёркі), а значыцца патыліцай да іншых...**

**Так працягвацца доўга не магло, і неа-"Наша ніва" пераўтвараецца ў пост-неа-"Нашу ніву" (што можа быць ідэнтычным спалучэнню "пост-мадэрнісцкая "Наша ніва") інфармацыйны штотыднёвік, дзе нататка, як правільна прасаваць кашулю, займае такое ж паважнае значэнне, як і нататкі якога-небудзь тутэйшоўца, змешчаныя ў рубрыцы "Літаратура". Аднак пераход ад неа- да пост-, іншымі словамі каманду "кругом", гэта кола аўтараў выконвае своесабліва, не на 180 градусаў, а на, дапусцім, 178,88888888, перагрупоўваючыся ў адзін бок такім чынам, каб "іншародная" літаратурная творчасць заставалася пакінутай за спінай роўна на столькі долей градуса, каб было магчымым захаваць былую позу "мы тут, а вы там".**

**Тое пацвярджае рубрыка пост-неа-"Нашай нівы" пад яскравай назвай "Грамафон", дзе друкуюцца ўсе магчымыя літаратурныя спробы, творы, інтэнцыі, якія не праходзяць рэдакцыйную праўку. Аднак сама ідэя друкаванага гайд-парку зусім не новая, нават на Беларусі. Напрыклад, у 1991 годзе Алесь Туровіч і Серж Мінскевіч ва універсітэцкім літаб'яднанні "Узлёт" змакеталі першы нумар альманаха "Транскрыптум", дзе была рубрыка "Гай-парк" з падобнай функцыяй. Тая ж ідэя спарадзіла "Прыкольную газету", што прыколвалася канцылярскімі кнопкамі да універсітэцкіх дошак аб'яваў, і цэлую серыю "друкапісаў", вынайдзеных Зміцерам Вішнёвым у вірах і плынях Бум-Бам-Літа. І толькі можна вітаць, што падобная ідэя цяпер мае ўвасабленне на старонках сталага перыядычнага выдання. Але ў пост-неа-"Нашай ніве" станоўчы патэнцыял яе не спрацоўвае, бо служыць яна для дэманстрацыі таго, што тут публікуюцца творы, якія не адпавядаюць густу "самасційнікаў". І не толькі назва рубрыкі "Грамафон" сведчыць пра гэта, але і тое, як надрукаваныя тэксты: дробны шрыфт, што амаль немагчыма разабраць літары, шэры фон; усё звалена ў купу: і проза, і вершы, ніякіх размежаванняў — ці група аўтараў друкуецца, ці хтосьці асобна. Відавочна намаганне прынізіць творчасць "іншародцаў" і ў той жа час самаўзвысіцца, "узвысакародзіцца". Бо на папярэдніх старонках таго ж нумара шыкоўна развярстана рубрыка "Літаратура" з нязменнымі, быццам вылітымі з бронзы, прозвішчамі старых, сталых аўтараў. І як можна ставіцца да твораў, няхай і якаснай літаратуры, калі яны ўжо адразу маюць такія вялікія прэтэнзіі на геніяльнасць?.. А тым больш калі за выкшталцонасцю фразы часам не адчуваецца ніякай энергетыкі, толькі халаднеча і дакука. Такое ўражанне, што ўзор майстра слова для "самасційнікаў" — гэта той, хто піша толькі тады, калі пазяхае. (Праўда, такія насычаныя высокай інтэлектуальнасцю творы можна стварыць толькі пры вялікім забеспячэнні мозга кіслародам, што і адбываецца, паводле перакананняў медыкаў, падчас пазяхання.)**

**А з другога боку, калі падыходзіць да назваў рубрык "Грамафон" і "Літаратура", так бы мовіць, з каламбурных пазіцый, то як адрозніць якасць матэрыялу, змешчанага ў іх, падкажа прытоены змест лексем, у першай прысутнічаюць толькі грамы, а ў другой — ужо — ого! — літры. Усё ж, не варта абвінавачваць "Літара-турнікаў" за падобную аб'ёмную самаацэнку, бо даўно заўважана, што кожны кулік хваліць сваё балота, і, прынамсі, яны сваё творчае балонне не запазычылі, напрыклад, у Саюза пісьменнікаў, а стварылі і выкарыстоўваюць самі. І трэба аддаць належнае, шмат чаго імі было зроблена вартаснага, сапраўды ўзорнага... А кожны з іх насамрэч з'яўляецца апрычоным творцам.**

**Усе гэтыя развагі маюць толькі адзін намер, падрыхтаваць глебу дзеля сэнсавага "прасвятлення" альбо іншымі словамі невялікага экскурсу ў германеўтыку знакавай прасторы, якую пакінуў за сабой выбітны прадстаўнік былых тутэйшоўцаў, ідэолаг "самасційнакаў-васьмідзесятнікаў" Ігар Бабкоў, які, метафарычна кажучы, стаіць на самым крыжы васьмёркі. Аднак пад знакавай прасторай у даным выпадку разумеецца не тэкст ці корпус тэкстаў, напрацаваных даным творцам, а дапушчальная матывацыя яго творчасці, дзеянняў і выказванняў... Рэч не ў тым, каб, аналізуючы тую матывацыю, выйсці за пэўную мяжу "што маецца і што магло б быць", а ў тым,**

каб “адамкнуць” сэнсы, схаваныя ў сярэдзіне пакінутага ім прасторава-знакавага краявіду. Гэтыя сэнсы ўсведамляюцца як утоеная сакральнасць.

Гэтая тайніца дыхае нам у патыліцу, прымушае шукаць “істотныя словы”, якія б вялі ўглыб, усярэдзіну, кідае нас на дзёрзка-суб’ектыўныя прачытанні.

Ігар Бабкоў — тыповая постаць свайго асяроддзя, “Solus Rex” — “Самотны кароль”. Ёсць штосьці фрэйдаўскае ў тым, што яго першы зборнік вершаў мае такую назву.

Самотны кароль глядзіць у далеч, хутчэй за ўсё на захад, там, дзе ў “залатой смузе” сярод сярэднеўсходняй Еўропы паўстае яго краіна. Ён ведае пра яе ўсё: гісторыю, этнагенез, фальклор, традыцыі... Ён стварае для яе міфы і вынаходзіць самыя справядлівыя законы. Ён імкнецца да яе розумам, але не ідзе ёй насустрач, бо яна — толькі міраж. І ён ведае гэта, таму ён сумны і самотны, а набліжаных, што маглі б яго суцешыць, — не надта шмат, толькі тыя, хто бачыць гэты міраж ідэнтычным Ігара Бабкова ўяўленням.

Праўда, ёсць у караля сябра, з якім можна выпіць куфель піва. Гэта апантаны дойлід Лангбард. Што там менская опера! З ім яшчэ і не такое можна пабудаваць! Напрыклад, — вялізарную галерэю, дзе будуць партрэты аднадумцаў: Джойса, Борхеса, Дарыды, Фуко, Хайдэгера, — і дзе можна спатоліць самоту мыслярствам.

Аднак самота караля бывае пераліваецца праз край і ўскіпае, як сухі лёд, і тады ён пачынае хварэць на дзеянне: арганізоўвае інтэлектуальныя круглыя сталы, форумы, ці паддаецца няўрымслівай... клептаманіі. Так аднойчы ён літаральна з-пад носа зрухароў Бум-Бам-Літа два разы за адну Беларуска-Македонскую канферэнцыю скраў іх рэліквію — Тазік. З чаго адразу стаўся героем жартоўнай песенькі, прыдуманай (гэта вельмі істотна!) не бум-бамлітаўцамі, а навукоўцамі — шаноўнымі ўдзельнікамі канферэнцыі, што сведчыць: не кароль мацнейшы за сімвал, а сімвал за караля. Тазіку, па вялікім рахунку, усё роўна, хто да яго дакранаецца, аднак той, хто дакранаецца — трапляе ў гісторыю.

Увогуле марна спадзявацца, каб кароль кагосьці заўважыў, ён можа быць толькі заўважны сам. І ён любіць быць заўважным паміж элітных людзей. І таму магчыма з філосафа/літаратара ён паступова ператвараецца ў адміністратара, еўраадміністратара, арэаадміністратара... быццам кароль адракаецца ад прастола і вылучаецца ў прэзідэнты, мяняецца ўлада ад неба на ўладу ад зямлі... Але ён яшчэ не зусім экс-кароль, і пад ім скрыжоўваюцца ў стужцы/ васьмёрцы Мёбіуса традыцыі, прасторы, час, ідэі, містыфікацыі, міфы.

Ён — суб’ект традыцыі, якую ён сам распачынае для нас ці для будучых падданых яго краіны, але сам не з’яўляецца ані ідэяй, ані міфам, ён у большай ступені ёсць умова магчымасці як міфа, так і ідэі. Ён ёсць той пнеўмай, душой, што нябачна прысутнічае ў знакавым ландшафце гэтай традыцыі і якая дазваляе гаварыць пра гэты ландшафт як пра заселены, абжыты. Няхай і адзіным самотным сама-інаўгураваным каралём.

**Фон ГРАМОФ**

# ЯК СКАЗАЎ БІГ БЭН НА РУІНАХ ЯЎРОПЫ...

*Ігару Бабкову, цмоку-заснавальніку ТС, эсквайру*

*.. Так яна рыла, рыла, й дарылася да зямельных цмокаў* . (З Хронікі рэцыдываў ТС, гл. адв. Zartbitter, ДРА).

— Божухна, што будзе з маім ценем??. — уздыхнулі Блюзняты.

— Ад‘есьць, напэўна... — прыкінула Тыгралева самае непрыемнае. — *Ёй жа* няўцям... як цяжка цмоку ўзьяднацца з ценем.

— А ці не пачаставаць *яе* Шакаладнымі Паперкамі?.. — падала свой ірацічаскі[1] голас Кабылка Крапівоня.

— Т-С!?!? Ты што! — замахалі на яе тузінам лапаў, — Класіку забылася: не таракціце вашымі пёрлінкамі, дзе не просяць!**

** Апошняя вар‘яцыя вымкнула з маўклівых вуснаў Няскончанага Рамана, чыя тактоўная прысутнасць нікому не замінала раз-пораз яе заўважаць, падобна як і прысутнасьць бясхвостага каралеўскага сіама Тохі. Што да Тохі, дык ён адчуваў сваю незавершанасць цалкам скампенсаванаю хай сабе й нябачным, затое даўжэзным і гушчэзным хвастом адвольных рыфмаваных мадуляцыяў (аж да арамейскае *Тоху-ва-Боху*), што віхорыста валокся за катом, нібыта за каметаю, і дзень пры дні даўжэў натхнёнымі стараннямі сяброў. Тым часам Раман да сваё няскончанасці ставіўся яшчэ лягчэй, бо ён, як і Блюзняты, быў цмочага паходжання, — а што такое для цмока нейкая там часовая бясхвостасць... лухта! — хвасты губляюцца і адрастаюць у палёце, — абы крылы былі на месцы. А крылы ў яго былі о-го-го! І нават праблісквала ў сябрыне здагадка, што Раманаў таксама было двое; але другога ніяк не ўдавалася залавіць — няйначай, Сястрычка моцна трымала бедалагу пад кіпцюром. Брат, крыху менш дэспатычны, лагодна зіркнуў на свайго жэўжыка, й той згарнуўся ў блазнаватую коску,. А Кабылка не здавалася:

— Чаму адразу Т-С!.. Да Т-С яшчэ дагрэбціся... Там на ім ужо гурбы неабпісаных Паперак намяло.

— Праўда, праўда... Колькі ўсялякіх шакаладаў напуста пазгрызлі: і лісткоў, і люстраў, і гадзіннікаў... Проста дзіва... як дасюль у *шакалакаў* не перавярнуліся, — Тыгра ажно перасмыкнула ўспялёскамі.

— Думаеце, *ёй* будзе ў кайф палізаць пустыя паперкі? — спытала Ся-стрычка, усё ж не без тай-нае надзеі.

— Ну, гэта наўрад ці, — мякка загасіў надзею Брацік. — Ты *яе*, падобна, недааценьваеш. Гэтая істота будзе капаць да знямогі — а магі ў яе будзь здароў! — аж пакуль не чабахне *адтуляка* што-небудзь... ІСТОТНАЕ.

— Ну ШТО, да прыкладу? — зацікавіліся лэдзі.

— Ну, што-небудзь... ПРЫГОЖАЕ Й РАЗУМНАЕ.

— Ад-на-ча-со-ва?! — абурылася Сястрычка й прыпаліла на свечцы зронены Тохам перапялёсы вус. — *А як гэта адаб‘ецца на ейным аблічч?*

— *А лыч не трэсне?**** — сінхронна пераклала Тыгра, агортваючыся водарам паленага вуса й на вачох трацячы пачуццё рэчаіснасці. — Дык мо яна й сама прыгожая разумная ў нацыянальных строях абмазаных пасцілой многа?..

*** Гэткі скепсіс караніўся ў полі назірання кампаніі, дзе надзвычай рэдка адрасталі з’явы, годныя называцца адначасова РАЗУМНЫМІ Й ПРЫГОЖЫМІ. Памянёныя станы рэчаіснага пры сутыкненні зазвычай паводзілі сябе, як цот і лішка, — іншымі словамі, праявы надараліся альбо прыгожыя, альбо разумныя. Прычым з нефіксавана-іградыкальнага пагляду Цмокаў, большасць праяваў выглядала хутчэй прыгожымі, тады як, на э-кзі-стэцкі зірк Тыгра-Каняжай пароды, ледзь не ўсе яны яўна касілі ў разумны бок. Хаця на некаторыя рэчы пагляды ўсіх супадалі. Да прыкладу, сапсаваныя запальнічкі з агульнае згоды траплялі ў шэраг рэчаў прыгожых, між тым як дыхтоўныя гумовыя боты ці проціврагазы, неабходныя часам дзеля вылазкі ў рэчаіснасць, выклікалі ў любога з сяброў заклапочанасць, “а ці не зробяць яны мой выгляд занадта разумным?”

Гэты досвед вызваляў мову ТС ад груваcткіх апісанняў. Навошта бо, дапраўды, марнаваць эпітэты, апавядаючы, ну хаця б, пра тога жыхара, што аказаўся ўсярэдзіне ўспоратай Свіслацкай перламутраўкі, — калі кемлівы сумоўца, у адказ на сваё пытанне “...і які ж ён быў?” ...пасля паўзы... даведаўшыся, што “...пэўна, очань разумны”, і так адразу слушна скрывіцца. Прычыны непаразуменняў вызваляюцца лаканічна, кшталтам: “Нешта я тут слаба даганяю...[1]” — “Ану, пакажыся... ну так, ты сёння ў нас прыгожы”. Нават цэлую эпапею пакутаў можна такім чынам уклаці ў адну густоўную фразу, — дастаткова, скажам, прыгадаць уголас рэдкасную прыгажосць кобры, што ўразіла цябе ў сённяшняй рэдакцыі, — і сябры імгненна ўзновяць у дэталях усю карцінку, як гэтая непралазная дурніца пад канец непралазна дурных перамоваў так-такі забракавала твой шэдэўр, — і, поўныя спачування, да самага “што, краёў не бачыш?” нальюць табе гарэлкі высокай, літаратурнай, і толькі пасля ўжо — гарэлкі простай, гутарковай...

У святле ўсяго вышэй прасвятлёнага апошняе пытанне Блюзняткі ў перакладзе Тыгралевы якраз балансавала на мяжы разумнага й прыгожага. Брат выпрастаў сваю зграбную пералівістую шыю й напружана ўслухаўся:

— Чуеце?!

— Што?

— Як трашчыць... — у глыбіні ягонага шэпту варухнулася змрочная павага. І праўда, цяпер ужо ўсім як бы здалёк пачулася якоесьці страшнаватае храбусценне. — От так і трашчыць увесь час... Я даўно чую, бо даўно ўжо, зараза, ценю майму на хвост насядае, — тут ён аздобіў свой голас ноткаю шляхотнае безабароннасці й паматляў залацістымі ценямі крылаў.

— *Дзе паўзу — паўстаюць адлюстраванні...* — раптоўна расквітнеўшы, працытаваў бясхвосты цмок Раман.

— Раздурыў ты яго, — мармытнула Сястрычка, маючы на ўвазе ці то Рамана, ці то Братаў Цень. — Дзіва што высачыла пачвера[2] гэтая...

— Не бойся, мы цябе прыкрыем! — усхапілася Кабылка і alegretto капытнула скрыню Дрыгвянога Архіва, узняўшы феерверк рознакаляровых Шакаладных Абгортак. — *Санта Піва Дзіварка!* Ды іх тут з паўкубаметры! — уразілася яна, зазірнуўшы ў скрыню і ацаніўшы спажыўную сілу сумесна з’еднанага шакаладу: вынік мог па-

[1] (фалькл..) ерэтычны, гарэзны

[1] (фэн.) цямлю

[2] пачвера: так у тэксце

раўнацца хіба з паўпудам солі. А некалькі паперак, пакружляўшы ў паветры, як бы незнарок сплaнавалі ў сярэдзіну сяброўскага кола.

— Тут-то мы іх і паабпісваем, — загадзя весялілася Кабылка, — сябе не пазнаюць!

— А *ёй* спадабаецца? — дзеля прыліку ўсумнілася Тыгра, выцягваючы з-пад эннай колькасці паверхняў пачак пажылых фламайстраў.

— Спадабаецца — не спадабаецца, а пакуль будзе расчытваць, мы паспеем вылезці ў паралельную прастору й зашыць за сабой выйсце, — азарыла Сястрычку.

— А-га!.. — кожны на сваёй хуткасці памалу даганяў ейную рэактыўную супердумку. — Дык што, пачынаем?

— Пачынай!

— З чаго пачаць?.. Пачнём — з мадэры!

— Іншым разам. Цяпер сітуацыя немадэрная. Пачынай так: *У Хроніку рэцыдываў* — Злучок трэба? — Не суць. Галоўнае, от *так яна рыла, рыла, й дарылася да зямельных цмокаў* — Ёсць ужо. — *Але хітрыя пачвеpы зрабіліся нябачнымі.. і толькі мікракасмылюшкі галасоў дрыжэлі ў хвалістых макракосмах цішы, дзе спакваля набухаў Трэці Вялікі Чабох...* — Можа, варта нагадаць папярэднія? — Можна. — *Яшчэ не рассмакталася ў пра-глыбінях.* — ДРА-глыбінях! — *.. у пра-ДРА-глыбінях памяць Другога Вялікага Чабоху, калі са свайго несусветнага..* — *Нетутэйшага!* — *.і падазронага Мейсца быў аб'ехаўся ў Дрыгву Сусветны Дах.. а, тым болей, Першага Чабоху, калі векапомная Бурбалка з яйкам Тутэйшага Сюру выслізнула ад лаўцоў і абляпіла рэчаіснасць... тымсамым спрычыніўшы..* — Ці трэба ўдакладняць, што яйка было цмочае?.. — Навошта?.. Гэта й каню ясна... ой, пардон, Крапівоня... гэта й Тоху ясна! — *... тымсамым выклікаўшы нечуваныя ўзрушэнні й катаклізмы на межах Разумнага й Прыгожага... Як сказаў Біг Бэн на руінах Яўропы.* — А як ён тамака сказаў? — А што было казаць... Пралупіў гадзіннікі, палыпаў стрэлкамі ды й пастанавіў: Закусім салоным гурком. — Крыўдзіш, матухна! Ты яшчэ згадай, як гурок устаў на ўсе 4 лапы... — Дык то ж зусім калі было! — Тое й яно, што не тады. — А што ж тады?.. — А *тады* дзядзька Бэн сціпла пангельску зазначыў: Нарэшце нас панесла халера. — Га-га-га! То гэта ж Пацюпа сказаў. — Няўжо? — Адгарні Цытаты з Класікі, старонку першую, то й пабачыш. — Цытаты?.. гм... здаровая думка. Нука-ся, хто ў нас тут... Пацюпка, так, Мальдзіс, Гётэ, Купала, кітаёза невядомы, на Глебку пацягнула зноў... у Мяня... А во! што гэта, калі не ЯНО: Божа, ратуй нас ад ісціны! Няхай жыве Хітралогія й Вастрамантыя!

*Зоркі спрыяюць!*
*Наперад!*
*Уніз!*
*Па-над зялёным і белчырвона-белым!*
*О! Гэй!*
.................................

— Гэй! Хто распрацоўвае тармазалогію?!

— ТС — тармазы сусвету.

— А Законы Светабудовы... куды падзенем?

— Ды няхай сабе законяць. Хачу — падпарадкоўваюся, хачу — не.

— Бач ты яго! А як наконта Цэмры Вонкавае?

— Гэта — дзе сабакі ў ракетах замучаныя кружляюць?.. Так і быць, бяром іх на хвост... і скразуем ва Ўнутраную Эміграцыю.

— А што там добрага?

— А гледзячы куды дапнеш. Там прастораў розных — бяздань парыванная. Вячорных, дасветных, і паўдзённых, і...

— Гэта ўсё выдатна, шаноўныя... аднак мы нешта збочылі з дыскурсу. Як далей: тарахцім — не тарахцім?..

— То ўжо ж добра натарахцелі...

— Але ж мусім неяк ліха тармазнуць.

— Гэй, свістаць усіх на тормаз! TS... ціха! Зараз шандарахне...

〜 Дрын-дын дын-дын дын-дын ДЫН!!!

*БЕЛАРУШН ЭНДЖЫН-ДЖЫН ТУК-ОФ ТУК-ОФ ІТС ШУ ГРЫН*

— Хайямузараза! Адкуль гэта яно?

— Пэўна ж, ад дзядзькі Бэна.

— Во так — НАЎПРОСТ??

— Ціха... TS!.: *Яшчэ гаворыць...*

〜 Пш-ш-ш-ш...

*БЕЛАРУСКІ РУХАВІК ЗНЯЎ ЗЯЛЁНЫ ЧАРАВІК*

— Фа-а-а-а-й!!.

— А ты думала — мы адляцелі?..

З левых словаў і паўсловаў сабрала й справіла
Галіна ДУБЯНЕЦКАЯ

# ВЯЛІКІ КАНСПІРАТАР

На маю думку, Ігара Бабкова лепш за ўсё можна азначыць як правадыра эзатэрычнай беларушчыны. Ігар заўважна паўплываў на сучасную літаратурную сітуацыю менавіта ў гэтым сэнсе: элітарнасць, канспірацыя, навуковы містыцызм. Беларуская культура для яго — нешта накшталт эзатэрычнай секты, мэта якой — прыдумаць ва ўсіх падрабязнасцях дзяржаву Беларусь (як калісьці Борхес прыдумаў летуценную дзяржаву Тлен): "Гісторыя Беларусі ўзнікае тады, калі даследчык піша тэкст, да таго ж моманту гісторыі няма". Здаецца, на паперы наша дзяржава ўжо існуе. Гэтаксама, як і беларуская літаратура. Але паперы заўсёды можна спаліць ці паслаць куды-небудзь па пошце...

Апошнім часам Ігар захапіўся яшчэ адным міражом — ідэяй Сярэдня-Усходняй Еўропы, летуценнай Беларускай імперыяй. Што ж, наш Прэзідэнт не адмовіўся б стацца імператарам, але народы гэтага рэгіёна (апрача беларусаў) відавочна прагнуць з'яднацца не з ім, і нават не адно з адным, а з Заходняй Еўропай.

Пра Ігара можна напісаць што заўгодна. Па ягоных уласных словах, літаратура павінна быць прыдумкай, іншарэчаіснасцю, прасторай чыстых магчымасцяў.

У лепшых традыцыях "змрочнага германскага генію" Ігар мяркуе, што высокая культура можа існаваць толькі ў катакомбах і рэзервацыях: пры універсітэтах, рэдакцыях элітарных часопісаў і дабрачынных фондах. Улада інтэлектуалаў у сучасным грамадстве павінна быць трансцэндэнтнай, нябачнай цыклапічнаму воку натоўпу.

Любоў да канспірацыі адбіваецца і на Ігаравай паэзіі. Ягоныя вершы з занадта груваcткім сінтаксісам не маюць голасу. Іх можна чытаць вачыма, але немагчыма дэкламаваць. Ігар любіць Борхеса — дык я нагадаю ягоныя словы з эсэ "Кніга": "Літаратура павінна прыносіць радасць. Калі мы чытаем штосьці з цяжнасцю — значыцца, аўтар пацярпеў няўдачу".

Юрась БАРЫСЕВІЧ

# АДНА СТАРАЯ МЕТАФАРА З НАГОДЫ

*Постаць Ігара Бабкова тутэйшая і нетутэйшая.*

ПЕРШАЕ, бо заявілася ў "Тутэйшых" нетрах.

А ПА-ПЕРШАЕ, таму што зашмат займаецца нетутэйшым, у сэнсе неадсюльным... І ягонае тамтэйшае распасціраецца ад Кітая да Вялікабрытаніі. Але ж усе карысныя плады, якія там знаходзіць, ён, нібы вожык, цягне на тутэйшую ягоную тырэторыю.

Тэрыторыя яго, бясспрэчна, сама плод інтэлектуальных высілкаў, — значыць досыць уяўная. Яе не абыдзеш, не пакратаеш, і падобная яна то на воблака з радугай паэзіі, то на хмару з бліскавіцамі філасофскіх канцэпцый. І ўсё ж такі Ігар Бабкоў намагаецца ператварыць тое воблака ў пэўны падмурак, ці хацяб у лапік зямлі, дзе можна было б пабудаваць беларускі сярэдне-ўсходне-еўрапейскі палац. Ён нават мае маленькі макетык такога палаца, спраектаваны яго ўласнай рукою. Ігар Бабкоў вывучаў дойлідства, што сведчыць яго доследная праца па архітэктуры Мінскага опернага тэатра, якую нават пераклалі ў Чэхіі.

Але палац будзе адмысловым.

У ім вокны будуць зашклёныя яго вершамі, масніцы — выразаны з твораў Хайдэгера, шпалеры — з прозы Борхеса. У "трапезнай" зале замест кандэлябраў — тэксты ягоных улюбёных "Тутэйшых". А вакол палаца раскінецца паркавы комплекс з лужкамі, на якіх зялянее прычэсаная і падстрыжаная ніва смарагдавай травы.

Ігар Бабкоў нават ведае, хто будзе жыць і працаваць у гэтым палацы. Ён сабраў цэлы форум сваіх паплечнікаў, якія ўжо цяпер займаюцца зборам палацавай бібліятэкі і здымаюць павуціну з куткоў, якіх яшчэ няма.

І ўсё было б добра, каб не ўзнікалі дзве вялікія шкадобы.

ПЕРШАЯ, што гэты палац так і застанецца макетам.

І ПА ПЕРШАЯ, што ў ім ужо цяпер няма месца для алхімічных лабараторыяў, дзе маглі б вынаходзіць ненавуковым, нічым не абмежаваным шляхам невядомыя нярэчыўныя рэчы.

Серж МІНСКЕВІЧ

# ПРА БАБКОВА

*(постэпіка)*

*А коні ўсё скачуць і скачуць,*
*А хаты гараць і гараць.*
З Расейца

А rex усё solus і solus,
А слёзы цякуць і цякуць,
А ab усё ovo і ovo,
А сонца ўстае і ўстае.

***

Служыў Бабкоў вартаўніком,
Служыў Бабком вартаўнікоў,
Служыў Вабком батраўнікоў,
Слубыў Ваўком баўкомтаком,
Сбыркоў Вабком Таўкоў Маўкоў
Каўком-растоў бакоў Дудкоў.

Сяргей ДУБАВЕЦ

# КУБАК НЕДАПІТАЕ КАВЫ

Звяртаючыся да постаці Ігара Бабкова, мы маем магчымасць распавесці пра некалькі відаў творчай ды цывілізацыйнай актыўнасці ўжо не адзінкавага для Беларусі тыпу самадзейнага чалавека. Але заўжды ў гэткай сітуацыі мы будзем распавядаць пра няскончаны сюжэт. Ацэньваючы мадэрнасць паэзіі Ігара Бабкова, мы застаёмся каля недапітага кубка кавы — напачатку атрымліваем вельмі моцнае ўражанне ад запланаванага гарачага смаку, а ўжо потым нашае задавальненне раптам пераходзіць у рамантычны настрой. З прозаю І. Бабкова ў нас больш выбару, бо мы мусім дапісваць яе самі. Часам, калі з-за стомы ад рэалістычных ацэнак нам не хочацца звязваць паміж сабою асобныя абзацы тэкстаў гэтага менскага сузіральніка, варта забыцца на іхні сэнс і самім выбудоўваць свой тэкст, абапіраючыся на знакі, знойдзеныя ў Ігара Бабкова. Гэта рэдкая з'ява, калі выбар за Вамі — Вы не будзеце шкадаваць героя ці жадаць ягонага пакарання толькі таму, што аўтар стварыў эмацыйны настрой. У Вас ёсць магчымасць уцячы ад пачуццяў аўтара — пакінуць яго адзін на адзін са сціплаю самотаю, а пры наступнай сустрэчы сказаць: "Ну так, чытаў". Некаторыя гатовыя ў гэтым пабачыць водгукі постмадэрна. Яны будуць мець рацыю толькі ў тым, што гэта водгукі. Але водгукі люстэркавыя, бо яны спраектаваны на сам постмадэрн. Ігар Бабкоў так і застаўся жыць у эпоху мадэрна. Затое нейкім дзіўным чынам ён даведаўся пра пабудову тэатра постмадэрна, дзе нехта ў мастацтве грае ролю гледача, нехта рэалізуе ўмоўнасці жанру, нехта ціха спадзяецца на сваю творчую ролю. Ведаючы ўсё гэткае, Ігар Бабкоў вырашыў пакінуць нам адчуванне цэльнасці праекта праз знакі, якія так дарэчы напаткаць у прыемныя хвіліны свайго жыцця. З самага апошняга фрагмента рамана "Кавовая цырымонія ў "Хвілінцы" некалькі такіх апорных знакаў я выпісаў: кава, каталог, нянавісць (зусім новы знак), скразняк, лабірынт, Доўгі Менскі Праспект.

Баюся, што я не адзіны, хто пагадзіўся з прапановамі суаўтарства ў прозе Ігара Бабкова, якія ўнутрана імплікаваныя там. Гэтая проза, пры вонкавым існаванні ў ёй асобных герметычных блокаў, паддаецца перакладам — зноў жа з-за магчымасці суаўтарства. Ігар Бабкоў значную частку свайго жыцця лічыў сябе паэтам, а перакладзенаю была ягоная проза. Што важна, гэтыя пераклады вярнулі Ігара Бабкова на ягоную культурна-гістарычную Радзіму — у Сярэднюю Еўропу: створаная па-беларуску "Менская опера" перакладзена на чэшскую і перакладаецца на польскую мовы.

І вось тут мы пераходзім да тэмы праектаў. З прывіду літаратуры Ігар Бабкоў матэрыялізуецца ў сацыяльным жыцці. Характэрная рыса ягонага існавання ў гэтым жыцці — жаданне працаваць з фактураю, вынаходзіць і прапаноўваць культурныя коды, праз якія належыць прапусціць неканцэнтраванае рэчыва беларускай сітуацыі. Адсюль інтэлектуальная шчырасць літаратурнай крытыкі Ігара Бабкова й ягоныя інспірацыі, накіраваныя на стварэнне новай культуралогіі. Вельмі выразна акрэслілася сацыяльная функцыя Ігара Бабкова — ён з'яўляецца генератарам грамадска-каштоўных ідэяў і вызначэнняў. Ягоны кантэкстуальны ўнёсак у сучасную беларускую гуманістыку можна акрэсліць паводле наступных параметраў:

— І.Б. зрабіў вызначэнні культурных ды грамадскіх працэсаў у сённяшняй Беларусі;

— І.Б. прапанаваў і падарыў многім аўтарам у галіне гуманістыкі назвы іхніх артыкулаў;

— І.Б. падтрымаў новыя вызначэнні ды актыўна выкарыстоўвае іх, робячы спасылкі на аўтараў гэтых вызначэнняў.

Вось гэтае адчуванне кантэксту культуры прыводзіць да сацыяльнага канструявання. Сёння Ігару Бабкову належаць інстытуцыі, альбо ён браў удзел у стварэнні інстытуцыяў, якія пачынаюць акрэсліваць тэктанічныя зрухі ў незалежнай беларускай культуры. Але гэтыя зрухі адбываюцца праз палітыку малых крокаў — кожная канкрэтная акцыя не ёсць радыкальнаю і ёй цяжка перашкодзіць у палітычным сэнсе. Але няхай дэманы баяцца новай пазітыўнай псіхалогіі.

Падобна, што Ігар Бабкоў не стане ўласна паэтам ці празаікам, не стане толькі культуролагам. Разнастайнасць жанраў абумоўлена цывілізацыйным выбарам асобы й культуры, якія патрабуюць вялікіх вынікаў і разумеюць пэўныя абмежаванні сваёй сітуацыі. Але такі варыянт адкрывае нам новыя магчымасці — дзейнасць Ігара Бабкова стварае інтэлектуальную інфраструктуру й забяспечвае ўмовы для нашай творчасці.

Усю каву мы вып'ем самі й дапішам прозу Ігара Бабкова.

**Алег ДЗЯРНОВІЧ**



# З Ь Н І Ч

Я маю твор...



## ХРЫСТОС І АЙЧЫНА

раскрыжаванне кат завершыў..
аблашчыў кужаль Кроў Жыцця..
так: Плашчаніца — гэта Першы
мой Бел-Чырвона-Белы Сцяг .

## СВЯТЫ ПОКРЫЎ

...чую слова вешчае:
*Люблю...* —
над маёю спеўнаю званіцай.
пакрываю Неба і Зямлю
Бел-Чырвона-Белай
*Плашчаніцай...*

ЯНЫ | Луіджы ПІРАНДЭЛА

# ВЫКРАДАННЕ

Гуарнота гайдаўся на спіне асліцы ў такт яе рухам, нібы таксама крочыў па гасцінцы, зрэшты, ягоныя ногі былі не ў стрэмі і ледзьве не шоргалі па дарожным пыле

Як і кожны дзень, а гэтай гадзіне ён вяртаўся з палеткаў, што праляглі на выступе пласкагор'я, амаль ля самага мора Старая асліца, стомленая і зажураная, як і гаспадар, пнулася адолець апошнія загібы бясконцага гасцінца, што караскаўся па схіле гары, на вяршыні якой туліліся адна да другой лядашчыя хаткі мястэчка

Сяляне ўжо вярнуліся з палёў, і гасцінец пуставаў. Стары мог не глядзець на дарогу Калі б нехта сустрэўся, з Гуарнотам прывіталіся б першымі, ён гэта добра ведаў Дзякуй Богу, яго ўсе шанавалі Цяпер увесь свет здаваўся старому парожнім, як гасцінец. І папялістым, як гэты падвечаровы змрок, здавалася жыццё Калі Гуарнота глядзеў на голыя, без лістоты, галіны па-над збуцвелымі каменнымі загарадзямі, на пакінутыя сюд-туд купы друзу на ўзбочыне, якія ніхто не збіраўся рассыпаць па парытым, гузавым гасцінцы, ён думаў, што бязмежная, марная туга гняце ўсё навокал Пачуццё марнасці расло ў сэрцы, і цішыня ператваралася ў пыл, і не чуваць было нават тупату капытоў

Колькі дарожнага пылу Гуарнота штовечар прыносіў дадому! Калі ён здымаў куртку, жонка адводзіла душу, паказваючы запыленую вопратку крэслам, шафе, ложку, куфру

— Ану, зірніце, зірніце! — выцягвала яна руку — Ды на ёй пісаць можна! Ну нашто апранаць чорную суконную куртку, калі едзеш у поле?

Яна ж замовіла тры — знарок — тры мультановых.

Гуарнота стаяў перад жонкай без курткі, і яму карцела ўкусіць тры вузлаватыя пальцы, якія тая раззлавана тыкала яму пад нос. Але Гуарнота быў чалавек лагодны, таму ён абмяжоўваўся кароткім касым позіркам. кажы, кажы, маўляў.. Пятнаццаць гадоў таму, па смерці адзінага сына, ён даў зарок заўсёды апранацца ў чорнае А значыць ..

— І ў полі таксама? Я прышыю табе чорны пас на рукавы мультановых куртак. Хоць цяпер, праз пятнаццаць гадоў, досыць было б і чорнага гальштука!

Кажы, кажы! Хіба ён не праводзіў кожны божы дзень на ніўцы ля мора? Ужо колькі гадоў яго ў мястэчку ніхто не бачыў Значыць..

— Што значыць?

А тое значыць, што каб ён працаваў на полі не ў чорным, дык дзе яшчэ б бачылі яго жалобу па сыне?

— Божа мілы, ты думай, перш чым рот разяўляць ды лухту верзці

Сэрца, вось як. вялікі дзякуй! Нібыта ягонае сэрца не ў жалобе Але ён хоча, каб усім было відаць.. Каб бачылі, напрыклад, дрэвы ці птушачкі нябесныя, бо праўда, што сам ён на сябе глядзець не мог І чаму жонка так бурчыць? Ці ж яна ўласнаручна штовечар выбівала і шчаткавала ягоную куртку? Працавалі служанкі. тры служанкі на гаспадара з гаспадыняй. Ашчаджае? За год — адна чорная куртка· восемдзесят— дзевяноста ліраў Далібог, трэба б сцяміць, што не варта столькі языком мянціць, калі ты — другая жонка, а нябожчык сын — ад першага шлюбу! Раз сваякоў, нават далёкіх, у Гуарноты няма, па ягонай смерці ўся немалая маёмасць адыдзе ёй і ейным пляменнікам Значыць, хай маўчыць, прынамсі, з абачлівасці.. Але куды там! Не была б яна сабою, калі б не дапяла...

Вось чаму Гуарнота днямі заставаўся ў полі. Самотны, ля бясконцага абшару мора, пад глухое, млявае мармытанне хваляў, пад ледзь чутнае роўнае шапаценне навакольных дрэваў, ён звыкла адчуваў марнасць сусвету і пакутлівую нуду існавання

***

Да мястэчка заставалася менш за кіламетр. З цэркаўкі Маці Божае Балеснае, што знаходзілася на самай вяршыні, далятаі ціхія марудныя гукі "Авэ Марыі", калі раптам на крутым павароце дарогі ён пачуў·

— Ану, злазь тварам да зямлі!

І з ценю вынікнулі тры постаці· заматаныя твары, у руках — стрэльбы Адзін схапіў асліцу за аброць, іншыя ўмомант сцягнулі Гуарноту на зямлю, і пакуль гэты, прыціснуўшы ногі старога каленам, скручваў вяроўкаю рукі, той завязаў вочы скручанаю хусцінаю.

Гуарнота паспеў адно прамовіць.

— Сыначкі, за што вы мяне?

Яго паставілі на ногі, штурхнулі, тузнулі і пацягнулі з дарогі ўніз па камяністым схіле, да даліны.

— Сыначкі .

— Маўчы, бо заб'ём!

Больш за штуршкі ды грымакі жахала хэканне, храп тых трох, што чынілі гвалт Жудаснае задумалі яны, бо дыхалі, быццам звяры

Але выглядала на тое што забіваць яго не збіраліся, прынамсі, пакуль. Ці па загадзе, ці з-за вендэты, забілі б проста на гасцінцы, з карчоў, у якіх чакалі Значыць, выкралі дзеля выкупу.

— Сыначкі!

Яго страпянулі яшчэ мацней, пхнулі ў плечы і зноў загадалі маўчаць.

— Ну, хоць паслабце крыху павязку, занадта цісне на вочы . я не магу

— Руш!

Перш данізу, потым дагары, наперад і назад; потым зноў уніз, а потым дагары, дагары і дагары Куды ж яго цягнулі?

У віры думак і пачуццяў, у мільгаценні жахлівых вобразаў, у задусе сляпое гонкі з тузанкаю і скокамі, праз цесную павязку, ад якой рэзала вочы, ён бачыў між камянямі, між карчамі (во дзіва!) святло святло, што пачынала запальвацца ў мястэчку — палілі па-ранейшаму газай — там, на верхавіне гары, свяціліся хаты, вулічныя ліхтары, рыхтык такія, якімі ён бачыў іх да нападу, такія, якімі паўставалі перад ім столькі разоў, калі ён вяртаўся ўвечары з ніваў; яны стаялі ўваччу, быццам (во дзіва!) проста перад ім, быццам тугая хусціна не сцягвала галаву Ён спатыкаўся, яго цягнулі, пхалі, і сэрца трымцела ад жаху, і нёс ён з сабою адно спакойныя і сумныя агеньчыкі, а з імі і ўсю гару з мястэчкам наверсе, дзе ніхто не ведаў, які гвалт чыняць у гэтую хвіліну над Гуарнотам, дзе людзі спакойна і бяспечна займаліся будзённымі справамі

У нейкі момант ён пачуў таропкі тупат асліных капытоў

— Вох!

Некуды цягнулі таксама стомленую старую асліцу. Але што няшчасная жывёліна разумела? Можа, яна і адчувала нязвыклую грубасць, але йшла, куды вялі, нічога не цямячы Хоць бы спыніліся на хвіліну, далі б яму сказаць, ён паабяцаў бы, што аддасць усё, што яны схочуць. Няшмат яму засталося жыць, і не варта было за колькі тых грошай, якія не цешылі яго, перажываць такія хвіліны

— Сыначкі...

— Маўчы й руш!

— Але я больш не магу! Чаму вы так? Я гатовы .

— Маўчы! Пасля пагамонім... Руш!

Гуарнота зноў мусіў чыкільгаць, і так бясконца. У пэўны момант старога агарнула такая стома, хусціна так здушыла галаву, што ён адчуў млосць і больш нічога не памятаў.

***

Гуарнота апрытомнеў на світанні ў нейкай пячоры. Яму здалося, што ён пакрыты цвіллю, што плесняй патыхае нават ад маркотна-бляклых сонечных промняў. Аскепкі цьмянага святла траплялі ў пячору праз гліняныя адтуліны, дапамагаючы забыцца пра

жах учорашніх пакутаў. Можа, ён прысніў сляпую, жывёльную жорсткасць, здзекі; калі ён перастаў валодаць целам, яго неслі па чарзе, скідвалі з плячэй долу і цягнулі або прыўздымалі за рукі, за ногі.

Дзе ён апынуўся?

Ён прыслухаўся. Вакол — цішыня, быццам у гарах. На нейкую хвілю Гуарноту падалося, што ён вісіць у пустаце, хоць не мог варушыцца, ляжаў на зямлі, як калода, з пазвязанымі рукамі і нагамі, цяжкімі, нібы свінцовымі Галава таксама зрабілася цяжкай Можа, ён паранены? Ці яго пакінулі тут канаць?

Не, на двары гутарылі Значыць, ягоны лёс яшчэ не вырашаны Тое, што з ім здарылася, ён ужо не лічыў няшчасцем, якога трэба ўнікнуць, якога хочацца пазбыцца, не, ён ведаў, што выратавацца няма як, і не хацеў ратавацца. Няшчасце ўжо адбылося, яно закончылася даўно, у іншым жыцці, тады, можа, й трэба было ратавацца, тады ногі і рукі не былі цяжкімі, і галава яшчэ не пухла ад болю. А цяпер усё адно. Сваё бяздольнае жыццё ён пакінуў недзе далёка-далёка, дзе яго схапілі, а тут, цяпер, не было нічога, апроч цішыні, велічнае, марнае, забытае цішыні. Калі б цяпер яго і выпусцілі, яму бракавала б сілы, а, можа, нават жадання вярнуцца туды, уніз, і зноў зажыць звыклым жыццём.

Але не, вялікі жаль, спагада да самога сябе ўваскрэсла імгненна, і дрыготка жаху пранізала яго, як толькі ён убачыў у пячоры аднаго з трох ліхадзеяў Чырвоная хустка хавала твар злодзея да самых вачэй Гуарнота найперш зірнуў на рукі злачынца не, зброі няма. Новы, танны, за адзін сольд аловак, яшчэ не завостраны, а ў другой руцэ, той, што на зямлі, пакамечаны аркушык шэрае паштовае паперы і канверт Гуарнота міжволі павесялела ўсміхнуўся. Тым часам у пячору на карачках упаўзлі яшчэ двое. Адзін рушыў да Гуарноты і развязаў старому рукі, а той, першы, усклікнуў:

— Без глупстваў! Пішыце!

Гуарнота недзе чуў гэты голас. Гэта ён, ён, Сухарукі Яму далі такую мянушку, бо ў яго адна рука была карацейшая за другую Эге ж, тады.. Але ён гэта ці не ён? Дзе там тыя ягоныя рукі? Так, ён. Пэўна, ён пазнаў бы і двух астатніх, калі б не павязкі Ён усіх тутэйшых ведаў І ён адказаў:

— Мне? Без глупстваў? Гэта вам, сыначкі, трэба за розум узяцца. Каму я маю пісаць? Чым я маю пісаць? Вось гэтым хіба?

І ён паказаў аловак.

— А што? Хіба гэта не аловак?

— Але ж, аловак. Дык вы нават не ведаеце, як ім карыстацца!

— Чаму гэта?

— Але ж перш трэба навастрыць яго.

— Навастрыць?

— А то ж, вось тутака, на кончыку, вастрылкаю

— Няма вастрылкі

І Сухарукі зноў·

— Без глупстваў, без глупстваў, халера ясная!

— Але ж, без глупстваў, Сухарукі. .

— Авохці мне, вы мяне пазналі! — зароў той

— А што ты думаў? Твар схаваны, а рука навідавоку. Ану, здымі хусціну ды зірні мне ў вочы І ты са мною такое чыніш?

— Досі балбатаць, — зароў Сухарукі, гнеўна зрываючы хусціну з твару. — Я ж сказаў вам· без глупстваў. Пішыце, ці я заб'ю вас!

— Добра, я гатовы, — здаўся Гуарнота. — Калі навострыце аловак. Аднак, калі дазволіце . Вы хочаце грошай, праўду я кажу, сыначкі? Колькі?

— Тры тысячы ўнцыяў!

— Тры тысячы? Нішто сабе жаданне!

— Але ў вас ёсць столькі грошай Не трэба збядняцца.

— Тры тысячы ўнцыяў?

— Шчэ й з гакам

— Так, яшчэ і з гакам Але не ў хаце, не гатоўкаю. Я буду вымушаны прадаць хату, зямлю. Вы лічыце, што гэтак, без мяне, за колькі дзён магчыма ўсё гэта зрабіць?

— Тады няхай вам пазычаць.





— Хто?

— Жонка, пляменнікі?

Гуарнота горка ўсміхнуўся і паспрабаваў прыўзняцца.

— Пра гэта я вам якраз і хацеў сказаць. Вы памыліліся, сыначкі мае. Вы спадзеяцеся на жонку і ейных пляменнікаў? Калі вы хочаце забіць мяне, гэта адно: я тут перад вамі, забіце, і хопіць размоў Але калі вы хочаце грошай, дык ні ад кога, акрамя мяне самога, вы іх не атрымаеце, калі не адпусціце мяне дахаты

— Што вы кажаце? Дахаты? Вас? Ці вы нас за блазнаў трымаеце? Жарты?

— Ну, тады. .

Гуарнота ўздыхнуў.

Сухарукі са злосцю выхапіў у сябра паштовую паперу і паўтарыў:

— Досі балбатаць, я сказаў, пішыце! Аловак. Ах, сапраўды, трэба навастрыць яго. А як ён вострыцца?

Гуарнота растлумачыў, як абыходзіцца з алоўкам, хаўруснікі абмяняліся позіркамі і выпаўзлі з пячоры Гуарнота не мог не ўсміхнуцца, сочачы за імі: нібы звяры, на карачках, рушылі яны прэч Яны, мабыць, будуць вастрыць аловак утрох, нібы гэта дубец, і, як бачыш, састружаць яго дашчэнту Ён усміхнуўся, але яго жыццё ў гэтую хвіліну магло залежаць ад смешнае перашкоды, якую ўяўляла для трох супольнікаў новая справа — вастрэнне алоўка. Можа, шалеючы з кожным сапсаваным кавалачкам, яны вырашаць вярнуцца ў пячору, каб праверыць спраўнасць сваіх нажоў: ці патрапяць яны загубіць чалавека, калі ўжо не здолеюць навастрыць алоўка? І як ён кепска зрабіў, якая недаравальная памылка была сказаць Сухарукаму, што ён пазнаў яго. . Сапраўды, чуваць бурчанне, лаянку, сварку Пэўна, перадаюць няшчасны аловак з рук у рукі, а ён робіцца ўсё меншы і меншы Бог ведае, што за нажы сціскаюць іхнія закарэлыя, запэцканыя ў гліну ручыскі

Адзін за другім няўдахі зноў прапхнуліся ў пячору.

— Ні на што не вартая драўніна, — паведаміў Сухарукі — Проста дрэнь. А ў вас, у пісьменнага, часам няма ў кішэні якога лепшага, вострага алоўка?

— Не, сыначкі, няма, — адказаў Гуарнота. — Дый на што? Калі дасцё, чым пісаць, я напішу, слова гонару Але каму я маю пісаць? Жонцы і тым пляменнікам? Гэта ж яе сваякі, а не мае, разумееце? І ніхто з іх на ліст нават не адкажа, вось пабачыце; яны зробяць выгляд, што ніякага ліста не атрымоўвалі, пра вымаганне не ведаюць — і бывайце здаровы. Каб спагнаць з іх грошы, вам трэба было не нападаць на мяне, а пайсці да іх і дамовіцца, што за нейкую суму — тысячу ўнцыяў — мы Гуарноту заб'ём. І нават тады яны не далі б ні шэлега, бо хоць маёй смерці яны жадаюць, але я ўжо стары і яны спадзяюцца, што не цяпер, дык у чацвер ім бясплатна дапаможа Бог, і граху не трэба будзе браць на душу Вы што, сур'ёзна спадзеяцеся атрымаць ад іх хоць грош, адзін-адзіны грош за маё жыццё? Памыляецеся. Аднаму мне маё жыццё магло б здацца каштоўным. Клянуся вам, я таксама за жыццё не трымаюся, але, пэўна ж, вось гэтак, цяжкою смерцю, паміраць не хачу, і, каб не паміраць гэтак, я абяцаю вам і клянуся святою душою майго сына, што, як толькі змагу, праз два - тры тыдні, сам прыйду і прынясу вам грошы, куды захочаце

— Пасля таго, як данесяце ў паліцыю?

— Клянуся, не данясу! Клянуся, нікому ні слоўца, ні паўслоўца! Размова ідзе пра жыццё!

— Цяпер — пра жыццё А калі будзеце вольны? Перш чым дойдзеце дахаты — данесяце

— Клянуся, не данясу! Даверцеся мне. Самі памяркуйце. штодня я еду працаваць у поле, маё жыццё праходзіць сярод вас. Я заўжды быў вам за бацьку, вы заўжды шанавалі мяне, далібог, а цяпер Скажыце, нашто я маю падвяргаць сябе рызыцы вендэты? Паверце мне, дайце вярнуцца дахаты і будзьце пэўныя: грошы вы атрымаеце

Яны нічога не адказалі, зноў пераглянуліся і на карачках папаўзлі з пячоры.

***

Пасля ён не бачыўся з імі цэлы дзень. Спачатку чуваць было, як яны спрачаліся ля пячоры, пасля ўсё сціхла.

Ён чакаў, перабіраючы ў галаве здагадкі. Што з ім могуць зрабіць? У адным ён не

сумняваўся: ён трапіў у рукі трох дурняў, навікоў, якія, ну, вядома ж, здзяйсняюць сваё першае злачынства.

Яны кінуліся ў вір, як сляпыя, не падумаўшы аб дробязях, напрыклад, сямейным становішчы ахвяры. Грошы засцілалі ім вочы. Цяпер яны пераканаліся, што зрабілі памылку, і не ведаюць, ці пакуль яшчэ не дадумаліся, як ад гэтае справы адчапіцца Ніводзін з трох не дасць веры клятвам Гуарноты, і менш за ўсіх ім паверыць апазнаны Сухарукі І што ж тады?

Цяпер ён мог спадзявацца адно, што ніхто з трох не раскаецца ў бязглуздым злачынстве, бо за раскаяннем з'явіцца жаданне звесці ахвяру са свету, знішчыць сляды злачынства, каб вярнуцца да дабрадзейнага жыцця Калі ж, наадварот, усе тры хаўруснікі вырашаць жыць па-за законам і чыніць злачынства за злачынствам, ім будзе ўсё роўна. застануцца сляды першага ці не, і ўскладаць дадатковы цяжар на сумленне не схочацца Бо як гэтыя тры шалапуты вырашаць, што памыліліся і застануцца ў бандытах, тады ім няма чаго баяцца даносаў; але каб жыць па-ранейшаму дабрадзейна, яны будуць змушаны засцерагчыся ад непазбежнага, на іх думку, даносу і забіць Гуарноту

Бог, значыць, мог дапамагчы Гуарноту, нараіўшы ім, што ніякай выгоды захоўваць прыстойнасць няма. Зрабіць гэта Богу няцяжка, бо яны са сваёй волі кінуліся на злом галавы ў пекла, выкраўшы чалавека. Але палохала, што іх расчараванне першаю спробаю магло быць надта вялікім, і яны захочуць зноў зажыць сумленна, бо за расчараваннем ідзе раскаянне і жаданне змяніць жыццёвы шлях. Каб знішчыць сляды першага злачынства, калі разважаць паслядоўна, трэба было забіць, але ці не будзе гэтаксама разумна, калі, адпусціўшы яго дахаты, яны кінуцца шукаць новых прыгод на шляху парушэння закону? Дык што лепш. зрабіць адно ліха адразу, тайна і беспакарана, ці шматлікія пасля, адкрыта, на сваю рызыку. Надзея на выратаванне, калі не ад свайго сумлення, дык ад людское кары, будзе каштаваць ім аднаго забойства, калі ж ён застанецца жывы, тады ім, напэўна, гамон.

Вынікам гэтых пакутлівых разваг стала ўпэўненасць, што заўтра, а, магчыма, сёння ўначы, калі ён будзе спаць, яго заб'юць.

***

Ён чакаў, аж пакуль у пячоры не сцямнела. Зразумеўшы, што цішыня і стома мацнейшыя за боязь заснуць, ён задрыжаў усім целам, бо ў ім прачнуўся жывёльны інстынкт, які вымушаў выпаўзці прэч з пячоры, нягледзячы на тое, што ногі і рукі былі звязаныя Ён поўз па гліне на локцях, нібы чарвяк, і так цяжка было давесці гэтаму напалоханаму інстынкту, што трэба рухацца як мага цішэй Што ён спадзяваўся пабачыць, высунуўшы, як яшчарка, галаву з нары? Нічога! Нічога, апроч неба. Бо, калі трэба будзе памерці, ён хацеў сустрэць смерць пад вольным небам, бачыць яе на свае вочы, каб яна не падкралася па-здрадніцку падчас сну Нічога, апроч гэтага

Ну, вось. . Цішэй! Месячык свеціць? Так, маладзік, і зоры, зоры... Ах, які вечар!.. Дзе ж ён апынуўся? На нейкай гары .. Якое паветра і якая цішыня тут! Можа, вось там гара Кальтафаранчы ці Сан-Бэнэдэта... А што там такое, у гэткім разе? Даліна Кансаліда ці даліна Клерычы? Так, а вось тая на захад сонца, мусіць, гара Карапэцца. Што ж тады мігціць там удалечыні, нібы кроплі светлякоў у апалавай цемры маладзіковае ночы? Няўжо агні Джырджэнты? Дык, значыць Ах, Божа мой, значыць, мястэчка недалёка? Здавалася, што яго цягнулі так доўга, так доўга

Ён абвёў позіркам наваколле Надзея, што яго пакінулі тут аднаго, амаль палохала

Чорны, нерухомы, нібы вялізны сыч, над гліняным абрывам сядзеў на кукішках адзін з трох; ягоны сілуэт быў нібы высечаны ў асветленым месячным ззяннем небе Спіць?

Гуарнота паспрабаваў высунуцца яшчэ трошкі, але намаганне так і не паспела здзейсніцца, бо прагучаў голас вартаўніка, хоць той не крануўся з месца.

— Я пільную вас, дон Вічэ! Вяртайцеся, бо заб'ю!

Стары стаіў дыханне, замёр і бязгучна сачыў, быццам хацеў заставіць вартаўніка засумнявацца і палічыць, што памыліўся

Але той паўтарыў·

— Я пільную вас.





— Дай мне глынуць паветра, — сказаў ён тады. — У пячоры можна задыхнуцца, ці гэтага вам і трэба? Я хачу піць.

Вартаўнік павярнуўся і з пагрозаю папярэдзіў·

— Можаце заставацца на вольным паветры толькі пры ўмове, што вы і пальцам не варухняце Я таксама хачу піць і з раніцы яшчэ і кавалка ў роце не трымаў Ціха, інакш я прымушу вас вярнуцца ў пячору.

Ціха А месяц шчодра поіць святлом спакой далін і гор . Тут паветра добрае, дыхаецца лёгка І ўдалечыні, нібы мара, мігцяць агеньчыкі роднага мястэчка.

Але куды зніклі два іншыя ліхадзеі? Даручылі гэтаму ўходаць яго ўначы? Чаму не адразу? Чаго чакае гэты трэці? Што ноччу вернуцца хаўруснікі?

Яму карцела загаварыць зноў, але ён стрымаўся Калі ўсё вырашана, словы ўжо не. . ён зірнуў на абрыў, адкуль пільнаваў гэты трэці як сядзеў, так і сядзіць. Голасам ён нагадваў аднаго чалавека з Гротэ, вялікага селішча на радовішчах серы Няўжо Філіко? Ці магчыма гэта? Добры хлопец,ураўнаважаны, працавіты, як мурашка, негаваркі Бяда, калі гэта сапраўды ён! Калі ўжо такі ўпарты маўклюд абраў шлях злачынстваў, будзе бяда.

Гуарнота больш не валодаў сабою, і нейк не сваім, бясколерным голасам, быццам не ягоныя вусны вымаўлялі, ён не, не спытаўся, проста выдыхнуў·

— Філіко .

Той не зварухнуўся

Гуарнота хвіліну пачакаў і зноў не сваім голасам паклікаў·

— Філіко..

У яго па спіне пабеглі мурашкі, ён падумаў, што ўпартае жаданне вымаўляць гэтае імя можа каштаваць яму кулі ў лоб

Але і гэты раз вартаўнік не варухнуўся Тады Гуарнота неверагодна стомлена ўздыхнуў, уклаўшы ва ўздых усю роспач, усе пакуты, ягоная галава нежывым каменем упала на зямлю, не засталося ўжо ні жадання, ні сілы трымаць яе Вось так, тварам у пясок. Пясок лез яму ў рот. Але ён загаварыў, нібы трызніў, трызніў, забыўшыся, што размаўляць забаронена, што пагражае куля ў лоб Ён казаў пра пекнасць месяца, што зараз закоціцца за гару; ён казаў пра створаныя Богам зоркі, якія Бог змясціў так далёка, каб жывёлы не ведалі, што існуюць большыя за зямлю сусветы, ён казаў пра зямлю, што яна круціцца, нібы ваўчок, і толькі жывёлы пра гэта не ведаюць, пра тое, што ёсць людзі, якія ходзяць галавою ўніз і ўсё ж не ляцяць на неба, бо ёсць на тое прычыны, пра якія мусіць высветліць для сябе кожны хрысціянін, калі ён зроблены не з мёртвай гліны-глею, у якую пан Бог яшчэ не ўдыхнуў жыццё.

Гутарачы, Гуарнота раптам зразумеў, што ён, бы прафесар, чытае лекцыю па астраноміі вартавому, які паціху наблізіўся і сеў побач, ля самага ўвахода ў пячору, што гэта сапраўды Філіко з Гротэ, які даўно ўжо хацеў даведацца пра ўсе гэтыя складаныя рэчы, хоць і не даваў веры таму, што чуў· знакі задыяка. Шлях Продкаў. туманнасці

Вось так Але чаму, калі ў чалавека нестае ўжо сілы, калі ён ужо знямогся ад роспачы, ён здольны на ўсякія дурасці· ён можа старанна, быццам так і трэба, чысціць былінкаю пазногці, уважліва сочачы, каб былінка не зламалася і не гнулася, а на яго тым часам цэляць стрэльбаю, ці засунуць пальцы ў рот і мацаць зубы, якія ў яго яшчэ засталіся, прыгадваць, тры ці чатыры сыны было ў суседа-бондара, у якога два тыдні назад памерла жонка

— Давай пагутарым сур'ёзна. Вось, скажы мне, на прамілы Бог, кім вы мяне лічыце? Травінкаю? Травінкаю, якую можна вырваць, як раз плюнуць? Не, ты кранi мяне! Я жывы чалавек, у мяне ёсць душа. Мне, як і табе, душу даў Бог А вы хочаце забіць мяне, пакуль я буду спаць? Не . чакай . чуеш .. Чуеш што, забі мяне зараз, калі я не сплю, калі ў мяне вочы бачаць, а не па-здрадніцку.. Што ты кажаш? Не хочаш адказваць? Чаго ты чакаеш? На прамілы Бог скажы, чаго вы чакаеце? Грошай вы не атрымаеце, пакінуць мяне ў гарах вы не зможаце, адпусціць мяне вы не хочаце Хочаце забіць? Божа мой, забі мяне і хопіць размоў.

З кім ён размаўляў? Гэты трэці пайшоў ужо і, як сыч, сеў на кукішках ля схілу, дэманструючы абыякавасць і нежаданне слухаць.

Але, зрэшты, чаму ён гэтак расхвальваўся? Ці не лепш будзе, калі яго заб'юць пад

час сну, раз так наканавана? І нават, як яны ўначы на карачках уціснуцца ў пячору, а ён яшчэ не засне, ён заплюшчыць вочы, і зробіць выгляд, што спіць. Але што там вочы! Хіба ў цемры нельга расплюшчыць іх? Досыць таго, каб ён не варушыўся, калі яны будуць навобмацак шукаць яго горла, нібы ў барана.

Ён сказаў "дабранач" і папоўз назад у пячору.

***

Але яго не забілі Прызнаўшы памылку, хаўруснікі не хацелі ні вызваляць яго, ані, тым больш, забіваць. Так і заставаўся ў пячоры.

— Што, так і будзеце трымаць?

Усё ў руцэ Божай раней, пазней, залежна ад таго, якое пакаранне Госпад прызначыць ім за грэх замаху на чалавека

— Што вы хочаце гэтым сказаць? Што я памру тутака, у гарах, сваёю смерцю? Так я вас зразумеў?

— Менавіта так.

— Чаму ж вы тады праз слова Бога згадваеце, шэльмы? Ніякі не Бог мяне заб'е, а вы самі я сканаю ад голаду, смагі і холаду, сканаю звязаны, як баран, бо буду спаць на зямлі ў гэтай пячоры, дзе буду адпраўляць свае патрэбы, нібы звер

З кім размаўляў ён? Яны ўтрох дaручыліся на волю Божую, і размаўляць з імі было ўсё адно, што размаўляць з камянямі

Зрэшты, няпраўдаю было казаць, што ён паміраў з голаду ці спаў на зямлі Яму прынеслі тры снапы саломы і зрабілі нешта накшталт ляжанкі, прынеслі нечыю старую душагрэйку, каб не было холадна Ну і, вядома, хлеб і да хлеба штодня Гэтыя скарынкі яны забіралі з талерак сваіх жанок і дзяцей, каб пракарміць палоннага. То быў хлеб, шчодра паліты потам, бо аднаму з трох па чарзе прыходзілася заставацца на варце, пакуль двое ішлі працаваць У глечыку стаяла вада, а знайсці ваду ў гэтай сухенькай зямлі можна адзін Бог ведае як. Па сваіх патрэбах ён увечары выходзіў з пячоры

— Як, у цябе на вачах?

— Я на вас не гляджу

Калі Гуарнота сутыкаўся з гэткаю ўпартаю непахіснаю дурасцю, яму хацелася затупаць нагамі, нібы дзіцяці Нейкія каменныя стоды.

— Згодныя, што памыліліся, так?

Яны згодныя

— Згодныя, што трэба заплаціць за свой грэх?

Так, і таму яны не забіваюць яго, а чакаюць, пакуль Бог прыбярэ, і, чым могуць, аблягчаюць пакуты.

— Цудоўна! Усё праз вас, шэльмы, з-за ліха, зробленага вамі, але пры чым тут я? Чым я грэшны? Вы — грашылі, мне — расплачвацца. Маеце рацыю, добра прыдумалі!



Не, яны якраз не думалі наогул. Слухалі яны Гуарноту абыякава, заплюшчыўшы вочы, і дарэмна было глядзець на ўпартыя каменныя твары. Вось вам салома... вось вам душагрэйка вунь глечык з вадою. і паліты потам хлеб .. і хадзіце да ветру вонкі

Хіба не ахвяравалі яны па чарзе сваімі гаспадаркамі дзеля таго, каб вартаваць і падтрымліваць яму кампанію? Яны прасілі апавядаць пра зоры і местачковыя справы, пра палеткі, пра тое, якімі ўраджайнымі выпадалі раней гады, калі людзі Бога шанавалі лепш, і пра пэўныя хваробы раслін, пра якія ніхто не чуў, калі Бога шанавалі лепш. Яму нават прынеслі невядома дзе ўзяты стары выпуск "Барбанэры", каб бавіў час чытаннем, бо ён, шчаслівы, умее чытаць.

— Дык што, што кажа гэтая друкаванка у якой столькі малюнкаў месяцы, шалі, рыбы, скарпіён?

Калі яны слухалі Гуарнотавы расказы, у іх прачыналася прага да ведаў, чуліся выгукі захаплення і дзіцячае здзіўленне, якія патроху пачыналі падабацца старому, бо прага была жывою, народжанаю ад яго, ад таго новага, што ён распавядаў ім, ад яго душы, што праспала столькі гадоў у нудзе мінулага марнага існавання, а цяпер абудзілася.

Ён адчуваў, што цяпер існаванне ператвараецца ў жыццё, жыццё, з якім звыкся, калі знікла лютасць раздражнення, жыццё, якое ён больш не лічыў часовым, хоць яно заставалася няпэўным, дзіўным і нявызначаным.

Для ўсіх там, на яго ніўцы, што пралягла над морам, і ў мястэчку, за агнямі якога ён назіраў уначы, — ён памёр. Магчыма, пасля таямнічага знікнення ніхто яго не шукаў, а калі й шукалі, дык без жадання знайсці, не прызначыўшы ўзнагароды тым, хто знойдзе

Сэрца яго раней было сухое і цвярдзейшае за гліну пячоры, дык нашто яму вяртацца ў ранейшае жыццё? Не было прычыны шкадаваць пра тое, чаго бракуе, калі ведаеш дзеля адносных выгодаў прыйдзецца гібець і нудзіцца. Ён яшчэ не забыўся, як задыхаўся ад невыноснае тугі і скрухі. Тут, прынамсі, ён ляжыць на зямлі і вольна дыхае

Тут, у горнай цішы, дзе спыніўся час, дні беглі адзін за адным без мэты, без сэнсу Ён адчуваў сябе падвешаным у пустаце і, нават, страціў здольнасць разважаць. Ён глядзеў на сваю руку і на гліну пячоры, нібыта на ўсім свеце існавалі толькі яны, і калі яго позірк спыняўся на руцэ, яму здавалася, што яна існуе сама па сябе, у жахлівай незалежнасці ад усяго астатняга, як камень ці той вунь корч.

***

Ён прыйшоў да высновы, што такога вялікага, як здалося яму, абуранаму несправядлівасцю, ліха не адбылося, што папраўдзе цяжкое і суровае было пакаранне, на якое асудзілі сябе хаўруснікі Нялёгка было ўтрымліваць яго



# ЗАМЕСТ ПАСЛЯСЛОЎЯ

*(Ёлкае вар'яцтва аліўкавае ночы)*

**Пірандэла, здаецца, належыць да тых пісьменнікаў, якія надаюць велізарнае значэнне назвам сваіх твораў, згадаем хаця б ягоныя раманы "Нябожчык Маціа Паскаль" і "Адзін, ніводзін і сто тысяч". Італьянцы ўважаюць гэтыя творы за вяршыню нацыянальнай прозы. У складзены амерыканцамі спіс 100 бестселераў стагоддзя, перадрукаваны "Нашай Нівай", трапіла ягоная п'еса "Шэсць Персанажаў у пошуках Аўтара". Іншыя драматычныя творы: "Генрых IV", "Сёння ўвечары імправізуем" і "Знайсціся" моцна паўплывалі на такіх розных пісьменнікаў, як Жан Ануй ("Падарожнік без багажу"), Сартр ("Пры зачыненых дзвярах"), Жан Жэнэ ("Гаўбец"). Пасполітая публіка, якой бракуе часу на вялікія тэксты, чытае "Навелы на круглы год".**

**З 15 тамоў навелаў, кожная з якіх прызначалася для аднаго з дзён года, браты Таўяні выбралі ў якасці назвы для фільма, пастаўленага паводле матываў пяці навелаў Пірандэлы, назву аповеда "Хаос". Часта старанныя экранізацыі добра перадаюць колер і водар эпохі і месца, у якіх жыў творца. Таўяні перадалі менавіта колер і водар навелаў Пірандэлы: тонкі гаркавы сум і жуду аліўкавых паўднёвых восеньскіх начэй, водар месяца на небе і лімона на стале, нязменных атрыбутаў італьянскае літаратуры і сіцылійскіх страваў, падобныя да лімоннага соку простасць і насычанасць пачуццяў сіцылійцаў, ціхае вар'яцтва квадратных акенцаў ружовых дамоў у пустой памаранцавай спякоце вуліц.**

**Філосаф Паскаль паказаў абсурднасць "боязі пустаты". "Прырода не адчувае ніякага жаху перад пустатой..." Пірандэла большую частку сваёй творчасці прысвяціў скрупулёзнаму апісанню невыноснага цяжару пустаты.**

**Нябожчык у жывым чалавеку, жывы чалавек у нябожчыку. Сто тысяч у адным. Ніводзін, які можа таксама аказацца нікім. Пошукі чалавекам сваёй саматоеснасці ў вонкава немудрагелістых здарэннях.**

Для ўсіх ён памёр, і толькі трое неслі цяжар яго бескарыснага жыцця, з якім сам ён у душы даўно развітаўся. Яны маглі вельмі лёгка скінуць з плеч гэты цяжар нічога не вартага і нікому не патрэбнага жыцця, але, наадварот, яны скарыліся, згадзіліся несці крыж, каб выкупіць свой грэх, і не толькі не журыліся, але, калі разабрацца, рабілі ўсё, каб ускладніць сабе працу ўсялякімі клопатамі Бо, так, панове, так, яны ўсе тры ўпадабалі старога, ён стаў ім дарагі, як робіцца дарагою нейкая рэч, што табе, аднаму табе належыць, і табе прыемна даглядаць за ёю; яны яшчэ не разумелі, што, калі не стане за кім наглядаць, яны да скону будуць адчуваць пустату

Аднойчы Філіко прывёў да пячоры сваю жонку, што прынесла на грудзях немаўля, а за руку прывяла дзяўчынку Дзяўчо паднесла дзядусю пірог

Якімі вачыма глядзелі на старога маці і дачка! Мусіць, прабег ужо не адзін месяц са дня выкрадання, і ён халера ведае на каго стаў падобны барада касмылямі, бруд, лахманы. Але ён усміхаўся, каб падзякаваць за наведванне, за пірог. Магчыма, менавіта ўсмешка, усмешка на твары, ад выгляду якога рабілася млосна, так напалохала кабету і дзяўчынку

— Не, мілая мая, хадзі сюды.. хадзі сюды На, вазьмі кавалачак, еш Гэта мама спякла?

— Мама

— Вось малайчына! Ну, а брацікі ў цябе ёсць? Тры? Ай, нябога Філіко, ужо чацвёра дзяцей.. Прывядзі мне сваіх брацікаў, я хачу пазнаёміцца з імі Так, малайчынка, на наступным тыдні. Але, будзем спадзявацца, я не дачакаю

Дачакаў Больш таго, Бог пажадаў, каб пакаранне было даўгім. яшчэ два месяцы правёў Гуарнота ў гарах!

Памёр ён у нядзельку, ціхім падвячоркам, калі неба заставалася па-дзённаму светлым Філіко і Сухарукі прывялі малых, каб паказаць ім дзядусю Так ён і памёр сярод дзяцей, жартуючы Схаваўшы пасмы пад чырвонаю хусткаю, ён сам нібыта зноў стаў малым.

Тры чалавекі кінуліся да яго, калі ён раптам паваліўся, хаця хвілінаю раней смяяўся і забаўляў малых

Памёр?

Малыя спалохана разбегіся; іх адправілі дахаты з кабетамі Па Гуарноту плакалі, укленчыўшы вакол нябожчыка і молячы Бога за яго і за сябе Цела пахавалі ў пячоры

І да самага скону, калі ў іх прысутнасці нехта выпадкова згадваў Гуарноту і яго таямнічае знікненне, яны казалі

— Святы быў чалавек. О, Бог, пэўна, забраў яго проста ў рай .

Яны ведалі, што чысцец ён прайшоў з-за іх, у гарах.

**Пераклад з італьянскай**
**Андрэя ДЫНЬКО**

**Тэмаў для рэфлексіі можа быць шмат: дзяцінства Пірандэлы, праведзенае пад Агрыджэнта, у краіне “каруза”, работнікаў серных капальняў; юнацтва, што прыпала на эпоху, калі аджывала Сіцылія “леапардаў” (ужываючы вобраз, магчыма, самага вялікага з раманістаў Італіі, Томазі ды Лямпедузы); уцёкі сям'і пісьменніка на Мальту праз астравок Хаос ад “добраахвотнага ўз'яднання” Сіцыліі з Італіяй, калі гарыбальдзійцы гулялі адсечанымі галовамі пад барвовымі мурамі здранцвелых кляштараў; Нобелеўская прэмія, прысуджаная Пірандэлу ў 1934 годзе і флірт фашыстаў з пісьменнікам; смерць у Рыме; скрупулёзнасць вар'яцтва і скрупулёзнасць сінтаксісу...**

**...Чалавек самотна брыдзе па спаленых сонцам ружовых каляінах вечаровага гасцінца, не ведаючы, за якім паваротам ён знойдзе сябе; а недзе за брамай, ва ўнутраным дворыку, пад аркадамі, імправізуюць шэсць пэрсанажаў ягонага жыцця...**

***

**Луіджы Пірандэла нарадзіўся ў 1867, памёр у 1936 годзе. Скончыў універсітэт у Боне. Выкладаў італьянскую літаратуру ў Рыме.**

**Андрэй ДЫНЬКО**



# Соф'я ШАХ

## Я маю твор...



* * *

Шырокага лета густая смуга,
у бліках ды водарах дзён мітульга...
Цяпла шчэ наперадзе столькі чакае,
а восені ўжо — не хапае ..

Здаволена спешчана чыстым блакітам,
абсягам квітнеючым, спеўным, адкрытым
За імі замілавана сачу,
а восені позняй хачу

Там негадзь, ды шэрасць, ды блізка зіма,
там шолаху, спеву, блакіту няма, –
хіба ж я пра гэтыя страты не знаю?
А дзён тых жадаю

